


# БЕЛАРУСКІ РЭЗЫСТАНС

ЧАСОПІС НАЙНОЎШАЙ ГІСТОРЫІ

**№ 1(14)/2013**

Заснаваны ў 2004 г. у Менску.

**Галоўны рэдактар:** Сяргей Ёрш.
**Намесьнік галоўнага рэдактара:** Андрэй Барткевіч.




**ЗЬМЕСТ:**

**РЭЦЭНЗІІ**


**ЦЫТАТЫ**


**УСПАМІНЫ**


**ПУБЛІЦЫСТЫКА**


**ЛІТАРАТУРА**


**ЗАГАДКІ ГІСТОРЫІ**


**ДАЙДЖЭСТ**


**ПРА ТЫХ, КАГО ЎЖО НЯМА СЯРОД НАС**




**ФОТАФАКТ**

# ЯНЫ ЗАСТАНУЦЦА Ў НАШАЙ ПАМЯЦІ

З кожным годам адыходзіць усё больш і больш ветэранаў беларускага Супраціўленьня XX стагодзьдзя. З тых, хто дзеяў падчас Другой сусьветнай вайны і ў паваеннае дзесяцігодзьдзе, сярод жывых засталіся толькі адзінкі. Але ўжо адзін за адным паміраюць удзельнікі Супраціўленьня 1960-1980-х гадоў.

Страты балючыя. Адыйшлі знакавыя постаці, а замены ім, на жаль, не відаць... Пасьля гэтых дзеячоў застаюцца пустыя нішы, якія не запаўняюцца. Пакуль.

Ветэраны беларускага нацыянальнага Супраціўленьня так і не дачакаліся прызнаньня іх заслугаў з боку дзяржавы. Ня здолелі арганізаваць нейкага альтэрнатыўнага варыянту і грамадзкія структуры. Так часта ў нас бывае: праекты, спробы (а найчасьцей — бязьдзейнасьць), а рэальных справаў вельмі мала.

У такой сытуацыі трэба зрабіць усё магчымае, каб памяць пра нашых Герояў жыла. Захоўваць, выдаваць іх успаміны, працы, біяграфіі. Каб гэтым здабыткам, гэтым досьведам скарысталіся наступныя пакаленьні. А яны (мы ў гэта моцна верым) будуць жыць у свабоднай беларускай дзяржаве, будуць шанаваць сваіх беларускіх герояў, а не чужынцаў.

Ветэраны нацыянальнага Супраціўленьня навечана застануцца ў нашай памяці!

Рэдакцыя
**"Беларускага Рэзыстансу"**

# СЬВ. ПАМ. МІХАСЬ ЧАРНЯЎСКІ (1938 — 2013)



20 студзеня 2013-га ня стала вядомага гісторыка, археолага, грамадзкага дзеяча, ветэрана беларускага вызвольнага руху Міхася Чарняўскага. Невылечная хвароба спыніла яго зямны шлях, не дала закончыць шматлікія задумкі і пляны...

Гэта вялізная страта і для навукі, і для беларускага нацыянальнага руху.

У адным з інтэрвію 20 гадоў таму Міхась Чарняўскі гаварыў: “Калі слухаю ўспаміны ветэранаў незалежніцкага пасляваеннага падполля, перачытваю “Споведзь” Ларысы Геніюш, разумею, што толькі для беларусаненавіснікаў суверэнітэт стаўся нечаканасцю. Ён намі здабыты! Можа, без знешніх эфектаў, без “шабляў на танкі”, больш — нязломнай мужнасцю і цягавітасцю. У гэтым мы падобныя на чэхаў. Таму на наша Адраджэнне, нашу Незалежнасць гляджу з вялікай верай і аптымізмам... Гляджу з аптымізмам, бо калі, не дай Божа, на вуліцах Менска з’явяцца акупацыйныя войскі, нашы дзеці і ўнукі ўжо ніколі не забудуць, як над Домам урада лунаў бел-чырвона-белы сцяг...”.*

Працяг рубрыкі “Сьветлай памяці” гл. на б. 186

*Міхась Чарняўскі: “Кожны дзень незалежнасці гартуе наш дух...” //Літаратура і мастацтва, 1993, 31 сьнежня.

# ВЫРВАНЫЯ БАЧЫНЫ З УСПАМІНАЎ ДЗЬМІТРЫЯ КАСМОВІЧА

## ПРА МЭТАДЫ “ПРАЦЫ” МЕНСКАГА ГІСТОРЫКА “АЛЕСЯ ДАБРОВІЧА”

“БР” неаднаразова вяртаўся да лёсу архіву беларускага палітычнага і вайсковага дзеяча Дзьмітрыя Касмовіча (1909 — 1991).* Ён захоўваўся ўдавой Надзеяй Міцкевіч-Касмовіч у Штутгарце, аднак у 2000-х гадах быў падзелены, найбольш каштоўныя дакумэнты зьніклі (існуюць розныя версіі, куды яны патрапілі). Гэта прызнаюць і тыя асобы, якія вывезьлі ў Менск рэшту архіву.** Прыйдзе час, калі ўдасца дакладна аднавіць дэталі гэтай непрыгожай гісторыі і ролю ў ёй кожнай канкрэтнай асобы (ад грамадзян ЗША да грамадзян Беларусі).




На гэты раз гаворка пойдзе пра шматпакутныя ўспаміны Дзьмітрыя Касмовіча, якія былі апублікаваныя ў 2006 годзе.*** Рэдактарам пазначаны нехта Алесь Дабровіч. Высьвятляецца, што гэта псеўданім аднаго менскага гісторыка. Ён падрыхтаваў да друку ўспаміны, напісаў

*Адзінец А. Архіў генэрала Дзьмітрыя Касмовіча // Беларускі Рэзыстанс, 2006, № 1(3), б. 100-129; Ёрш С. Ва Ўкраіну вярнуўся архіў Міколы Лебедзя // Беларускі Рэзыстанс, 2007, № 1(4), б. 177-179; Ёрш С. Як дзялілі архіў Касмовіча // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 2(7), б. 93-98.

**Апублікаванае апісаньне менскай часткі архіву Касмовіча: Гардзіенка Н. Архіў Дзьмітрыя Касмовіча // ЗАПІСЫ (Нью-Ёрк — Менск), 2009, № 32, б. 482-498.

***Касмовіч Д. За вольную і сувэрэнную Беларусь. — Вільня: Gudas, 2006. — 224 б. У выходных зьвестках пазначана, што кампутарны набор выканаў... Дзьмітрый Касмовіч (б. 224) — такі вось кур’ёз. Насамрэч, ён надрукаваў свае мэмуары на пішучай машынцы, кампутарам не карыстаўся (былі гэта 1980-я гады)... “Шматпакутныя”, бо перамовы пра іх выданьне некалькі беларускіх эміграцыйных дзеячоў з ЗША доўгі час вялі з удавой у спадзяваньні, што яна прафінансуе друк (але яна казала, што такіх грошай ня мае).

камэнтары да іх і прадмову. Выданьне аднак атрымалася сьціплае, з мінімальнай колькасьцю здымкаў, з дзіўнай вокладкай, на якой можна пабачыць акрываўленыя прыступкі...

Нагадаю, Дзьмітрый Касмовіч быў адным з самых актыўных антыкамуністычных дзеячоў беларускай паваеннай эміграцыі. Ён жыў у Заходняй Нямеччыне, кіраваў "Замежным сэктарам" Беларускай Незалежніцкай Партыі, а пасьля — Беларускім Вызвольным Фронтам. Выдаваў часопіс "Барацьба", шматлікія адозвы, удзельнічаў у міжнародных антыкамуністычных канферэнцыях. Дз. Касмовіч — стрыечны брат Міхала Вітушкі (1907 — 2006), кіраўніка беларускага паваеннага антысавецкага Супраціву. Паводле сьведчаньня Надзеі Міцкевіч-Касмовіч, ён доўгі час падтрымліваў канспірацыйную сувязь зь Вітушкам. Ня дзіўна, што да архіву была такая цікаўнасьць пэўных асобаў і што ў выніку здарылася такая сумная гісторыя.

Спачатку ўспаміны Дзьмітрыя Касмовіча друкаваліся ў менскім часопісе "Спадчына", у нью-ёркскай газэце "Беларус" (з заклікам дапамагчы сродкамі на іх выданьне). Нарэшце ў 2006-м зьявілася кніга. Нават думкі не было, што ў ёй штосьці магло быць ня так. Дзівосы былі зь яе частковым перакладам на рускую мову.* Аднак сёлета ўзьнікла патрэба параўнаньня тэксту кнігі з арыгіналам — машынапісам успамінаў Дзьмітрыя Касмовіча.** Інтуіцыя не падвяла: адкрыцьцё стала сапраўдным шокам.

Думка параўнаць тэкст машынапісу са зьместам кнігі ўзьнікла, калі выпадкова выявілася ў апошняй адсутнасьць згадкі пра ролю прафэсара Андрэя Пракапчука ў вызваленьні ў 1940 годзе з НКВД Міхала Вітушкі і Дзьмітрыя Касмовіча. Ніяк ня мог адшукаць, але памятаў, што чытаў пра гэта! У машынапісе ўспамінаў згадка была, а вось у кнізе яна зьнікла! Тады вырашыў параўнаць увесь тэкст.***

Складальнік кнігі "Алесь Дабровіч" піша: **"Успаміны друкуюцца з падкарачэньнямі і стылёвымі праўкамі".****** Аднак гэтыя "пад-

---

*Ёрш С. Як перапісалі ўспаміны Дзьмітрыя Касмовіча // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 2(11), б. 153.

**З двума тамамі машынапісу ўспамінаў (больш за 300 аркушоў) аўтару гэтых радкоў у 2001 годзе дазволіў азнаёміцца адзін менскі гісторык. З паловы была зробленая копія, зь іншай часткі — выпіскі. Цяпер гэтыя матэрыялы вельмі прыдаліся.

*** На жаль, у нашым распараджэньні ёсьць копія машынапісу толькі часткі кнігі. Таму параўнаньне будзе няпоўным.

**** За вольную і сувэрэнную Беларусь б. 6.

карачэньні”, на наш погляд, незаўсёды былі слушнымі, а некаторыя “белыя плямы” цяжка патлумачыць. Высьвятляецца, напрыклад, што ў кнігу не патрапіла прадмова з машынапісу, складальнік узяў толькі ўступ “Да паважаных чытачоў”. Таму аднаўляем справядлівасьць і друкуем кароткую прадмову:

ПРАДМОВА

Кніга “ЗА ВОЛЬНУЮ І СУВЕРЭННУЮ БЕЛАРУСЬ” складаецца з трох томаў (кнігаў), якія прысьвечаныя беларускаму народу і гісторыі Бацькаўшчыны.

ПЕРШЫ ТОМ — бацькам  і сёстрам Д. К.

ДРУГІ ТОМ — Беларускім Змагарам: Беларускаму Краёваму Войску (БКВ) — ОД IV Аддзелу, Беларускай Краёвай Абароне (БКА), Генералу Канстанціну Езавітаву, Генералу Міхасю Вітушку, Маёру Усеваладу Родзьку, Маёру Віталію Мікуле, Маёру Уладзімеру Красоўскаму, Капітану Канстанціну Красоўскаму, антыкамуністычным беларускім партызанам, Юльяну Саковічу і ўсім Сябрам Беларускай Незалежніцкай Партыі (БНП).

ТРЭЦІ ТОМ* — СЯБРАМ І ПРЫХІЛЬНІКАМ БЕЛАРУСКАГА ВЫЗВОЛЬНАГА ФРОНТУ (БВФ) і вернай спадарожніцы жыцьця Д. К. — Надзе Касмовіч-Міцкевіч, якая ахвярна і самааддана, адракаючыся ад прыватнага жыцьця, ўсебакова дапамагала яму ў міжнароднай вызвольнай працы і ўсюды, дзе была патрэбная грамадская дапамога.

Д. К.

Успаміны Дзьмітрыя Касмовіча мелі таксама і наступны падзагаловак:

ПРАДМОВА

Кніга "ЗА ВОЛЬНУЮ І СУВЕРЭННУЮ БЕЛАРУСЬ" складаецца з трох томаў (кнігаў), якія прысьвечаныя беларускаму народу і гісторыі Бацькаўшчыны.

ПЕРШЫ ТОМ - бацькам і сёстрам Д.К.
ДРУГІ ТОМ - Беларускім Змагарам: Беларускаму Краёваму Войску (БКВ) -ОД IУ Аддзелу, Беларускай Краёвай Абароне (БКА) , Генералу Канстанціну Езавітаву, Генералу Міхасю Вітушку, Маёру Усеваладу Родзьку, Маёру Віталію Мікуле, Маёру Уладзімеру Красоўскаму, Капітану Канстанціну Красоўскаму, антыкамуністычным беларускім партызанам, Юльяну Саковічу і ўсім Сябрам Беларускай Незалежніцкай Партыі (БНП).
ТРЭЦІ ТОМ - СЯБРАМ І ПРЫХІЛЬНІКАМ БЕЛАРУСКАГА ВЫЗВОЛЬНАГА ФРОНТУ ( БВФ) і вернай спадарожніцы жыцьця Д.К. - Надзе Касмовіч-Міцкевіч, якая ахвярна і самааддана, адракаючыся ад прыватнага жыцьця, ўсебакова дапамагала яму ў міжнароднай вызвольнай працы і ўсюды, дзе была патрэбная грамадская дапамога.

Д.К.

*Трэці том у кнігу не ўвайшоў. “Алесь Дабровіч” напісаў пра яго наступнае: “Паваенны пэрыяд занатаваны канспэктыўна. Апрацаваць яго не хапіла часу” (За вольную і сувэрэнную Беларусь, б. 6).

# ЖЫЦЬЦЁ ДЛЯ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ
# ЗМАГАРНЫ ШЛЯХ ДЗІМІТРА КАСМОВІЧА ГАЛОЎНАГА КІРАЎНІКА БЕЛАРУСКАГА ВЫЗВОЛЬНАГА ФРОНТА*

Ён таксама не патрапіў у кнігу, як і эпіграф, узяты з верша Якуба Коласа:

“Але голас праўды, згоды
Не замрэ ў душы ніколі:
Будзе клікаць ён да волі,
Будзе ў сэрцы жыць заўсёды,
Як той вобраз лепшай долі”.**



-5-

ЖЫЦЬЦЁ ДЛЯ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ
ЗМАГАРНЫ ШЛЯХ ДЗІМІТРА КАСМОВІЧА
ГАЛОЎНАГА КІРАЎНІКА
БЕЛАРУСКАГА ВЫЗВОЛЬНАГА ФРОНТА

Але голас праўды, згоды
Не замрэ ў душы ніколі:
Будзе клікаць ён да волі,
Будзе ў сэрцы жыць заўсёды,
Як той вобраз лепшай долі.
Якуб Колас
.........

БАЦЬКАЎСКІ ДОМ І РАДНЯ

У той час,як Якуб Колас у сваім вершы "Родныя Песьні" пісаў,што: "Усё у табе, мой родны край, аказіта горам і той вецер, што дзьме з гаю, што шуміць над борам", у культурным цэнтры Случчыны, ў Нясьвіжы, ў сьвядомай беларускай сям'і жыхароў гэтага гораду, Дзяніса і Кэтины Касмовічаў, 21 верасьня 1909 года ( па старому стылю) радзіўся сын Дзьмітры. Разам з ім раслі ягоныя две сястры Ніна - старэйшая і Ольга - малодшая.

Дзед Ігнат і бацька Дзьмітра К.-Дзяніс, былі беззямельныя сяляне. Паходзілі з вёскі Затур'я, Гарадзейскай воласьці, якая знаходзілася 16 км на Пн.Усход ад Нясьвіжа.

Дзед Ігнат служыў лесьнікам у князя Радзівіла і жыў у лесьнічоўцы Вінклераўшчына у 10 км. ад Нясьвіжа. Пасьля гэтую пасаду лесьніка пераняў дзядзька Дзьмітра К. -Санька Ігнат (муж сястры Дзяніса К.). Сюды ў Вінклераўшчыну, на лета, прыязджаў Дзьмітра К. з сваімі сёстрамі Нінай і Оляй. Гэты летні пабыт у лесьнічоўцы акружанай густым лесам заставіў глыбокі сьлед у душы Дзьмітра К. Тут ён ў-першыню запазнаўся з беларускім краявідам. Дарога ў Вінклераўшчыну вяла праз палі засеянныя жытам,аўсом, ячменём і пахучай грэчкай, праз лугі пароснымі мяккай травой, праз дарожкі па якіх гуляў цёплы летні вецярок, праз гай і лес дзе раслі грыбы і ягады, якія дзеці з прыемнасьцю зьбіралі, праз тарфяныя сажалкі,і дзе з прыемнасьцю,у цудоўную пагоду,купаліся і плавалі. На палёх чуліся сьпевы сялянак зьмешаныя з сьпевам жаваранка, чулі родную беларускую Гамонку, былі далёка ад шумлівага места і ўдыхалі здаровае, роднае паветра, былі шчасьлівымі, калі толькі можна быць шчасьлівым без маткі... Лес таемны каля лесьнічоўкі, асабліва вечарамі, калі каля кастра сядзелі і пяклі бульбу, ускалыхваў, як тыя лісты на дрэвах, душы дзяцей. Зоркі на небе прызывалі да шчасьця, да волі...

У машынапісе чытаем: “Ужо з першай клясы нясьвіжскай гімназіі вучыліся з Дзімітрам Касмовічам сьвядомыя беларусы: Міхась Вітушка, Эмануіл Ясюк, Аляксандар Калоша, Анатоль Шкутка і інш.”.*** “Алесь Дабровіч” засумняваўся, што яны ўжо ў той час маглі быць “сьвядомымі”, таму ў кнізе падправіў: “будучыя сьвядомыя беларусы”.****

У камэнтары “А. Дабровіч” называе Аляксандра Вітушку “стрыечным братам” Міхася! Насамрэч, яны родныя браты. Яшчэ ён называе А. Вітушку кіраўніком нейкага “Аб’яднаньня беларускіх студэнтаў”.***** І гэта пры тым, што Дз. Касмовіч пісаў правільна: **“Вітушка Аляксандар (будучы доктар**

*Копія машынапісу ўспамінаў Дз. Касмовіча, б. 5.
**Тамсама.
***Копія машынапісу ўспамінаў Дз. Касмовіча, б. 14.
****За вольную і сувэрэнную Беларусь, б. 16.
*****Тамсама, б. 17.

**Мэдыцыны і Сябра Управы Аб’еднаньня Беларускіх Студэнцкіх Арганізацый з сядзібай у Празе Чэшскай)”**.* Але Дабровіч пакінуў толькі імя і прозьвішча, іншы тэкст выкінуў ды напісаў фальшывы камэнтар.

Таксама зьнікла крытычная ацэнка Касмовічам Аляксандра Крыта: “Крыт (будучы “мітрапаліт” т. зв. “Беларускай Аўтакефальнай Царквы”)”.** У выніку, у кнізе засталося толькі прозьвішча Крыта ды “Дабровіч” дадаў імя і біяграму ў зносцы.***

Касмовіч піша, што ў нясьвіжскай гімназіі паміж вучнямі-беларусамі, жыдамі і вучнямі “з расейскім уплывам” не было “антаганізму, неталеранцыі ці нязгоды”.**** У кнізе гэтага чамусьці няма.

Пішучы пра беларускую гімназію ў Нясьвіжы, Дзьмітрый Касмовіч адзначае: **“Памешканьне для гімназіі дала да карыстаньня маці Міхася Вітушкі (цётка Д. К.) ў сваёй хаце”**.***** У кнізе гэтае месца перапісанае і згадка пра тое, што памяшканьне было ў хаце, адсутнічае.******

Дз. Касмовіч піша пра Радашковіцкую беларускую гімназію, згадвае вучняў Саковіча і Янчуковіча. Аднак у кнігу не патрапіў гэты сказ: **“Абодва былі беларускімі патрыётамі”**.******* Няўжо ён лішні? У “Алеся Дабровіча” ўзьніклі нейкія сумненьні?

Калі Касмовіч піша пра сыход у БССР групы выпускнікоў гімназіі, якую павёў Янчуковіч, дык адзначае, што адбылося гэта **“супраць парады** [настаўнікаў] **С. Караля і Яз. Гаўрыліка, якія выказаліся супраць гэтага пляну”**.******** І гэта не ўвайшло ў кнігу. Касмовіч піша, што вучні ў СССР патрапілі ў канцлягеры ў Сібіры і на Салаўках, “Дабровіч” пакідае толькі Сібір.

“А. Дабровіч” выкідае з кнігі гэты сказ: **“Юліан Саковіч плянаваў свае сілы ахфяраваць на змаганьне з польскім прыгнётам у Заходняй Беларусі”************, а наступныя часткова падкарачае.

“На грудзёх жыхароў Радашковічаў і вучняў гімназіі красаваўся бел-чырвона-белы сьцяжок, **знак вернасьці Беларусі”**, — піша Дзьмітрый Касмовіч пра сьвяткаваньне 25 сакавіка ў 1927 годзе.********* “Знак вернасьці Беларусі” не спадабаўся “А. Дабровічу”, ён выкінуў гэтыя словы.

---

*Копія машынапісу ўспамінаў Дз. Касмовіча, б. 14.
*Тамсама.
**За вольную і сувэрэнную Беларусь, б. 18.
**** Копія машынапісу ўспамінаў Дз. Касмовіча, б. 14.
***** Тамсама.
****** За вольную і сувэрэнную Беларусь, б. 19.
******* Копія машынапісу ўспамінаў Дз. Касмовіча, б. 21.
******** Тамсама.
*********Тамсама, б. 22.
**********Тамсама, б. 23.

Цалкам зьнік наступны абзац:

“...Міхась Вітушка быў адной думкі з Дзімітрам Касмовічам. Яны вучыліся вельмі добра, сваім стараньнем і адданасьцю свайму народу здабылі пашану сярод вучняў і настаўнікаў гімназіі. Матуру здалі на выдатна і дапамаглі таксама сваім сябрам — матурыстам”.*

Часам з кнігі Дз. Касмовіча зьнікаюць дробныя дэталі, якія на першы погляд могуць падацца неістотнымі. Напрыклад, Касмовіч піша, што сябры называлі Эмануіла Ясюка “Май”.** “Дабровіч” гэта выкрасьліў, а шкада, бо можа быць так, што больш ніхто пра гэта не пісаў.



-27-

Нажаль, часамі ім гэта удавалася зрабіць. Прыкладам такога выхаваньня былі: прэм'ер-міністар камуністычнага польскага ураду у Варшаве, сын нясьвіжскага беларуса, католіка, аднагодак Дзімітра Касмовіча, Пётра Ярашэвіч. Ён скончыў Нясьвіжскую настаўніцкую сэмінарыю і апалячыўся; Татур - выхаванец ксяндза Гродзіса, таксама сын беднага беларуса-нясьвіжаніна, каталік. У першых месяцах нямецкай акупацыі Нясьвіжа, ачоліў нясьвіжскую польскую паліцыю. Амаль не растраляў Міхася Вітушку, цётачнага брата Дзімітра Касмовіча, і Івана Пароньскага, сьвядомага беларуса, [illegible] Нясьвіжа. Толькі дзякуючы дапамозе аднаго беларуса з паліцыі, Міхасю Вітушку і Івану Пароньскаму удалось у апошнім выпадку выскачыць праз акно і уцячы у Менск. Толюк, выхаванец ксяндза езуіта, нясьвіжскі апалячаны беларус, з Ярмолам у Нясьвіж заняў пасаду нясьвіжскага бургамістра і супольна з Татурам тэрарызавалі беларусаў у Нясьвіжы і ваколіцах. Пад маркай супрацоўніцтва беларусаў з чырвонымі бандамі- выдавалі іх у рукі нямецкай паліцыі на сьмерць, або самі нішчылі іх, тлумачучы гэта іх спробай уцечкі.

Вось такім "беларусам " - рэнегатам, належала права панаваць на беларускіх землях, і выкарыстоўваць усе магчымасьці для панскага жыцьця. Ім былі адчынены дзьверы да навукі, дзьверы на выдатныя пасады на Беларусі і у цэнтральнай Польшчы.

Аднак, гэты польскі гнёт не зламаў энэргіі і волі Дзімітра К. да навукі, да асьветы. Малады абітурыент пастанавіў зарабіць грошы на навуку, і аднačасова матэрыяльна дапамагчы бацьку і сёстрам у іхнім цяжкім жыцьці, затым выехаць заграніцу на студыі.

У той час час на кватэры у Касмовічаў жыў малады працаўнік пошты, паляк, Станіслаў Вархал. Ён запазнаў Дзімітра Касмовіча з кіраўніком мясцовай пошты Левандоўскім. Левандоўскі запрапанаваў Дзімітру Касмовічу, падчас летняга адпачынковага часу зайняцца і быць адказным за паштовы транспарт з Нясьвіжа да чыгункі у Гарадзеі, якая знаходзілася 14 км. ад Нясьвіжа. Праца была небясьпечная, бо з поштай вазілі грошы, ехаць трэба было у начы. Пошту канваіраваў узброены паліцэйскі. Д.Касмовіч працу гэтую прыняў.

Аднačасна па парадзе Вархала Дзімітры К. падаў у Віленскую Паштовую Дырэкцыю заяву аб прыняцьці яго у лік працаўнікоў пошты. Заробкі былі мінімальныя - 1:100.000. Але і тут [illegible] дапамаг-

Касмовіч піша: **“Даходзілі да студэнтаў весткі праз Прагу Чэшскую, што сотні беларускіх культурных і навуковых дзеячаў Масква выслала ў Сібір”**.*** У кнізе гэтага сказу таксама няма, хаця згадка важная. Як няма і сказу пра знаёмства Дзьмітрыя Касмовіча са Станіславам Станкевічам: **“Тут... Д. К. запазнаўся з Станіславам Станкевічам, які як стэпэндыят польскага ўраду, прыехаў ў Белград для падрыхтоўкі свайго дактарату”**.****

У машынапісе чытаем пра падзеі 1938-га: “У гэты-ж самы час Д. Касмовіч атрымаў з Прагі Чэшскай, **праз Доктара Аляк-**

* Копія машынапісу ўспамінаў Дз. Касмовіча, б.25

**Тамсама, б. 34.

***Тамсама, б. 35.

****Тамсама, б. 44.

**сандра Вітушку**, запрошаньне беларускага актыву прыехаць у Прагу Чэшскую".* "Алесь Дабровіч" чамусьці згадку пра Вітушку выкрасьліў.**

Яшчэ адно "падкарачэньне" проста немагчыма патлумачыць. Касмовіч піша: "Затым наведаў Чэшскі Дзяржаўны Музэй у якім знайходзіўся аддзел з беларускім архівам. Загадчыкам гэтага аддзелу быў Васіль Захарка. В. Захарка запазнаў Дзімітра Касмовіча з беларускім архіўным матэрыялам. **Д. Касмовіч змог асабіста прагледзець і чытаць гістарычныя беларускія дзяржаўныя Акты і дакументы"**.*** Апошні сказ "Дабровіч" выкінуў, яго няма ў кнізе!**** Таксама ён палічыў "лішнім" і гэты сказ: **"...выехаў на пару дзён у Пільзен да доктара Вітушкі, дзе апошні меў сваю доктарскую практыку"**.*****

Цалкам выкінуты "Агульны агляд настрояў напярэдадні Другой сусьветнай вайны". У ім Дз. Касмовіч пісаў: "Аб страшэннай сапраўднасьці фашысцкай дыктатуры ніхто ня ведаў... Не дапушчалася тагды думка, што урад, аднэй з найбольш цывілізаваных і культурных Краін Эўропы — Нямеччыны, можа бязлітасна зьнішчыць тую, ці іншую нацыю якая жыве ў заходняй Эўропе, а народы у Усходняй Эўропе будзе лічыць "навозам" для нямецкай нацыі.

"Майн Кампф", твор Гітлера, ня быў пашыраны па Эўропе і ня быў шырока ведамым насельніцтву Заходняй Эўропы, тым менш народам СССР...".******

Вельмі моцна парэзаныя ўспаміны пра падзеі 1939 году. Сярод іншага, у кнізе няма гэтага абзацу:

"Нясьвіж — верасень 1939 года. Горад у руках чырвонай арміі. Дзімітры Касмовіч і Міхась Вітушка, ведамыя беларускія актывістыя, антыбальшавікі, антыкамуністы папалі у рукі ворага беларускага народу. Яны ведалі, што гэты другі акупант хутка выкрые іхні антыкамуністычны настрой і іхнюю патрыятычную, асьведамляючую дзейнасьць у вольным сьвеце. Яны ведалі, што, калі яны не уцякуць, іх бальшавікі арыштуюць, вышлюць у Сібір і там іх фізычна зьнішчуць, як сьведамых беларускіх патрыётаў...

*Копія машынапісу ўспамінаў Дз. Касмовіча, б. 47.
**За вольную і сувэрэнную Беларусь, б. 34.
*** Копія машынапісу ўспамінаў Дз. Касмовіча, б. 48.
**** За вольную і сувэрэнную Беларусь, б. 36.
***** Копія машынапісу ўспамінаў Дз. Касмовіча, б. 48.
****** Тамсама, б. 53.

Такі канец для Дзімітра Касмовіча і Міхася Вітушкі быў пэўным. Аднак вонкавыя абставіны, адказнасьць за сваіх родных, абавязак іх пракарміць, падтрымаць і дапамагчы ім у гэты цяжкі, пераломны час — ляжаў на Дзімітру Касмовічу і Міхасю Вітушку".*

Выкінуў "Алег Дабровіч" і гэтыя сказы:

"...Дзімітры Касмовіч, на просьбу мясцовых прадстаўнікоў працоўных: Івана Скрындзіеўскага (Квасьніка), Івана Плаксы, Спірыдона і інш. згадзіўся арганізаваць Камітэт працоўных г. Нясьвіжа, каб яны маглі, да часу арганізацыі Гарадзкой Управы, даглядаць выкананьне інструкцыяў у справе распадзелу і продажы жыўнасьці жыхарам Нясьвіжа.

...Касмовіч спыніў сваю актыўнасьць і ціха сядзеў у хаце. Міхась Вітушка таксама не праяўляў ніякай актыўнасьці".**

Не патрапіў у выдадзеныя ўспаміны Касмовіча і яго аповед пра тое, як ён амаль тыдзень восеньню 1939-га **"у Стоўпцах і Гарадзеі выдаваў ваеннапалонным-беларусам пасьведкі і ратаваў іх з** [савецкіх] **цягнікоў"**.***

Праігнараваным аказаўся і аповед пра ўцёкі сваякоў Дз. Касмовіча на тэрыторыю Польшчы, акупаваную немцамі (толькі пра ўцёкі Ўладзіслава Кісялеўскага і яго сям'і было згадана на 64-й бачыне кнігі). Дзьмітрый Касмовіч пісаў у сваіх успамінах:

"...Д. К. падрыхтоўваў уцечку родных з Нясьвіжа, шукалі людзей, якія-б маглі перавесьці праз граніцу у акупаваную немцамі Польшчу, а таксама шукалі матэрыяльнай магчымасьці ўзнагародзіць пераводчыкаў за нелегальны перавод родных праз небясьпечную граніцу. Ён лічыў, што ў акупаванай немцамі Польшчы будзе для ягоных родных бясьпечней жыць, чым пад камуністычнай дыктатурай.

Першым пашоў праз граніцу, каля Ломжы, муж Олі, Станіслаў Лецэвіч... Хутка ад яго была атрымана вестка, што шчасьліва перайшоў граніцу... Пераход граніцы сястры Ольгі з малым дзіцям быў больш скамплікаваным... Але і тут грошы дапамаглі... Яна таксама апынулась у Польшчы у свайго мужа.

---

*Копія машынапісу ўспамінаў Дз. Касмовіча, б. 64.

** Тамсама, б. 68.

*** Копія машынапісу ўспамінаў Дз. Касмовіча, б. 83.

...уцечка швагра Уладыслава Кіселеўскага удалася толькі пасьля выбараў Дзімітра Касмовіча Дэпутатам у Народнае Сабраньне ў Беластоку і пабыту Д. К. ў Маскве, у лістападзе 1939 г. Сястра Ніна з сынам злучылася з мужам толькі ў канцы сьнежня 1939 г.

...Пачалі кружыцца весткі, што ён выслаў сваіх родных у акупаваную Польшчу...”.*

Не патрапіў у кнігу і гэты цікавы эпізод:

“...У гэты час [восень 1939-га] з Варшавы прыехаў у Стоўбцы да сваіх бацькоў Алесь Аўдзей. Ён разам з Міхасём Вітушка студ’явалі на Варшаўскай Палітэхніцэ і разам працавалі на пабудове у Польшчы дарог. Дзімітры Касмовіч і Міхась Вітушка адразу парадзілі яму ехаць назад у Варшаву і спасаць сябе ад Сібіры, якая чакала ўсіх патрыётаў беларусаў. Атрымаўшы адпаведную выязную пасьведку ад Дзімітра Касмовіча, ён хутка ўцёк у Варшаву. Праз Алеся Аўдзея, Дзімітры Касмовіч і Міхась Вітушка выслалі першую вусную вестку Анатолю Шкутко, іхняму сябру па гімназіі, які закончыў у Берліне Палітэхніку і ачоліваў там беларускую студэнцкую арганізацыю. Яны паведамілі А. Шкутку, што вывучаюць псыхалёгію савецкага чалавека і асабліва псыхалёгію і настрой усходніх беларусаў. Перад тым яшчэ А. Шкутко паведаміў Дзімітра Касмовіча, Міхася Вітушку і Эмануіла Ясюка, што падзеі разгортваюцца і яны (сябры) павінны быць да ўсяго прышыкаванымі. Дзімітры Касмовіч і ягоныя сябры зразумелі, што канфлікт паміж Масквою і Берлінам набліжаецца.

Хутка затым пасьветку аб выяздзе выкарыстала нарачоная Алеся Аўдзея — Люба Мартынчык і перашла нелегальна граніцу, апынулася ў Варшаве, дзе у 1940 годзе вышла замуж за Алеся Аўдзея”.**

А вось яшчэ адзін прыклад неапраўданага скарачэньня тэксту ўспамінаў. У арыгінале чытаем:

“Сержыка Крысцінскага выслалі ў Варшаву Дзімітры Касмовіч і Міхась Вітушка, каб навязаць цясьнейшую лучнасьць са сваімі сябрамі ў Варшаве і Бэрліне: Анатолям Шкуткам, Аляксандрам Калошам, Абрамчыкам і іншымі і падзяліцца бягучымі вызвольнымі

---

*Копія машынапісу ўспамінаў Дз. Касмовіча, б. 84-85.

**Тамсама, б. 89.

справамі і сітуацыяй пад бальшавіцка-маскоўскай акупацыяй, каб у выпаду патрэбы супольна, ўзгоднена дзейнічаць. Перад гэтым праз лучнасьць Сержыка Крысьцінскага, Дзімітры Касмовіч і Міхась Вітушка атрымалі ліст ад Анатоля Шкуткі наступнага зьместу: "Трымайцеся і будзьце добрай думкі, шыкуйцеся да спатканьня". Як відаць гэты ліст быў таемна сфатаграфаваны праз НКВД, арыгінал у заклеяным канвэрце атрымалі Д. К. і М. В. Адказ на гэты ліст быў даны праз С. Крысьцінскага, што сябры ў Заходняй Беларусі адпаведна шыкуюцца да гэтага спатканьня. Прыпушчалі, што можа быць канфлікт паміж Берлінам і Масквою і беларусы павінны выкарыстаць гэты канфлікт для беларускай вызвольнай справы. Яны вывучалі бальшавіцкую псыхалёгію, тактыку і так званых "савецкіх людзей", асабліва думкі, настрой і псыхалёгію ўсходніх беларусаў. Асабліва важным было ведаць іхнюю нацыянальную сьведамасьць і палітычныя імкненьні. Гэта было вельмі важнае заданьне ад якога залежаў-бы плян дзеяньня пры вызвольнай барацьбе народа. Сфатаграфаваўшы ўсе дакументы, паперы і лісты, якія меў пры сабе Сержык Крыстынскі, НКВД пусьціла яго ісьці ў Варшаву".*

А цяпер паглядзім, што з гэтага патрапіла ў кнігу:

"Памежнікі арыштавалі пры нелегальным пераходзе мяжы Сержыка Крысцінскага, колішнягна нашага калегу, які быў намі высланы ў Варшаву з мэтай наладжваньня кантакту з тамтэйшымі беларускімі дзеячамі ў Варшаве і Бэрліне. Пры Крысьцінскім быў знойдзены ліст да беларусаў Бэрліна: Шкуткі, Калошы, Абрамчыка, з мэтай наладжваньня кантакту".**

"Цудоўная" праца рэдактара, ці не праўда?

У Беластоку ў 1939-м Дз. Касмовіч сустрэўся з Якубам Коласам і Янкам Купалам. У кнігу "За вольную і сувэрэнную Беларусь" чамусьці не ўвайшлі словы Купалы: "не забывай браток гісторыю свайго народа, працуй для ягонага дабра, не забываючы ягонай слаўнай мінуўшчыны".***

---

* Копія машынапісу ўспамінаў Дз. Касмовіча, б. 148.
** За вольную і сувэрэнную Беларусь, б. 65.
*** Тамсама, б. 100.

З апісаньня знаходжаньня на 5-й нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савета СССР у лістападзе 1939 году ў Маскве чамусьці зьніклі гэтыя радкі: **“...сядзеў і глядзеў на седзячых у фатэлях перада мною партыйных правадыроў. Сэрца напаўнялася кіпучай злосьцю. Гэта-ж была “хеўра” злачынцаў на сумленьню якой былі мільёны нявінных афяраў...”**.*

Самай галоўнай неспадзяванкай стала тое, што “Алесь Дабровіч” падкарэктаваў успаміны пра сустрэчу і размову са Сталіным у Маскве ў 1939-м. Больш таго, ён “падкарэктаваў” словы Сталіна!

У машынапісе чытаем наступныя словы савецкага правадыра:

“Я люблю беларускі народ и помогу ему, он получит от меня большую поддержку и помощь. Ваш народ добрый и он будет известным всему свету. Моя власть принесёт вашему народу много радости и счастья, чем теперь пользуются все народы Советского Союза. Этим счастьем будет пользоваться ваш народ, присоединённый к СССР. Вы вернётесь домой и раскажете об этом от меня населению бывшей Западной Белоруссии”.**

А цяпер глядзім, як гэтыя словы выглядаюць у кнізе:

“Я очень люблю белорусский народ и помогу ему. Он получит от меня большую поддержку. Ваш народ добрый, он будет известен всему свету. Моя власть принесет вашему народу много радости и счастья, чем теперь пользуются все народы СССР. Вы вернетесь домой и расскажете об этом всему населению Западной Белоруссии”.***

Такім чынам, Дабровіч выкінуў ня толькі асобныя словы, а нават цэлы сказ! Больш таго, ён яшчэ і ўстаўляў словы “ад сябе”! І гэта робіць гісторык!

Далей Касмовіч пісаў: “Яшчэ раз паціскаючы маю руку, [Сталін] пажадаў мне шчасьця і посьпехаў у працы для дабра бацькаўшчыны і народу — даслоўна кажучы “желаю Вам счастья и успехов в работе для добра родины и белорусского народа”.****

---

*Тамсама, б. 112-113.

**Копія машынапісу ўспамінаў Дз. Касмовіча, б. 115.

***За вольную і сувэрэнную Беларусь, б. 59.

****Копія машынапісу ўспамінаў Дз. Касмовіча, б. 115.

У кнізе чытаем: “Яшчэ раз паціскаючы маю руку, пажадаў мне шчасьця і посьпехаў у працы для дабра бацькаўшчыны і народу”.* І ўсё! Словы Сталіна “Дабровіч” выкрасьліў!

Чамусьці ў кнігу не патрапіў эпізод пра наведваньне Маўзалею Леніна. “...Ленін ляжаў у саркафагу, пад шклом. Казьліная бародка, бела-жоўтая, ненатуральная твар. Уражаньне — ніякае, звыклая мумія і то не цікавая...”, — пісаў Касмовіч.**

Не патрапіў у кнігу эпізод з канцэртам у Нясьвіжы. Дз. Касмовіч успамінае:

“...У будынку гімназіі выступала канцэртная група ў Менску. Зала была перапоўнена... і ясна “партыйна-адміністрацыйным” персаналам, які заняў першыя рады. Гасп. Д. Касмовіч з Міхасём Вітушкам прышлі ў залю некалькі мінутаў перад пачаткам канцэрта. Мейсца свабоднага ўжо ня было. Распадзелам мейсцаў кіраваў... паляк... Паляк убачыў Д. К. і М. В., але не зварухнуўся з мейсца. Д. Касмовіч і М. Вітушка хвіліну затрымаліся пры дзьверох. Не пасьпелі яны распарадзіцца знайсьці адпаведнае мейсца на залі, да іх падашоў Сіротка, які сядзеў у першым радзе, ціха, амаль на вуха, шапнуў Д. Касмовічу — “Прымусьце сябе шанаваць” і пашоў на сваё мейсцэ. Д. Касмовіч адразу зьвярнуўся да паляка і голасна прыказаў яму прынесьці два фатэлі і паставіць іх наперадзі, перад першым радам крэслаў, на сярэдзіне, перад сцэнай. Паляк... у рабскай паслухмянасьці... пабег... і пnative прыташчыў два агромныя фатэлі, якія паставіў наперадзі, як яму было загадана. Д. К. і М. В. з павагай занялі свае мяйсцы. Гэта ўсё адбылося на вачох шматлікай публікі, жыхароў Нясьвіжа...”.***

Чамусьці “А. Дабровічам” быў праігнараваны аповед пра таемнае адзначэньне ўгодкаў Слуцкага Збройнага Чыну:

“У лістападзе 1939 г., у 19-я Угодкі Слуцкага Уздыму супраць маскоўска-бальшавіцкай акупацыі Д. Касмовіч, Міхась Вітушка, Май Ясюк, Дудка Грыгор і Васіль Пятровіч, нягледзячы на вялі-

*За вольную і сувэрэнную Беларусь, б. 59.
** Копія машынапісу ўспамінаў Дз. Касмовіча, б. 120.
*** Тамсама, б. 138.

кую небясьпеку, якая ім пагражала з боку НКВД, адзначылі гэты гераічны чын Случчакоў. Настрой сабраных сяброў быў не вясёлы... Масква паняволіла ўвесь беларускі народ, здавалася ратунку для народу няма... Аднак, у сэрцох гэтых гэтых пяці сяброў гарэла моцная вера і перакананьне, што надыдзе пара вызваленьня і беларускі народ знойдзе ў сябе сілы, каб пры першай магчымасьці вызваліцца ад бязбожнай маскоўска-бальшавіцкай акупацыі і аднавіць сваю незалежную Беларускую Народную Рэспубліку. Прыклад Случчакоў, якія не шкадавалі свайго жыцьця і дружна змагаліся супраць, у шмат разоў мацнейшага ад іх панявольніка іх бацькаўшчыны, узмацняў іхнія сілы і веру ў свой народ і ягоную перамогу над ворагам. Ня лёгка было ім, яны ня былі вольнымі, знаходзіліся ў пашчы лютага ворага, які кожную хвіліну мог іх знішчыць. Аднак, яны ня падалі духам і выкарыстоўвалі часовыя магчымасьці дапамагаць насельніцтву ў ягонай цяжкай долі, ў ягоных матэрыяльных патрэбах і там дзе маглі, у культурным, духовым жыцьці. Палітычна яны былі бязсільнымі... НКВД мела гэтую палітычную ўладу выключна ў сваіх руках.

Абгаворана была створаная палітычная і гаспадарчая сітуацыя і пастаноўлена была дзейнічаць вельмі асьцярожна і дапамагаць жыхарам горада і раёну, пазнаць добра слабыя месца акупанта”.*

У кнігу не патрапілі і ўспаміны пра таемнае сьвяткаваньне ў 1940 годзе ў Нясьвіжы ўгодкаў Акту 25 Сакавіка. У ім бралі ўдзел тыя ж Дзьмітры Касмовіч, Міхась Вітушка, Эмануіл Ясюк, Васіль Пятровіч і Рыгор Дудка.**

Нарэшце спынімся і на эпізодзе з затрыманьнем зімой 1940-га Касмовіча і Вітушкі НКВДыстамі ў Нясьвіжы, пра які мы згадвалі ў пачатку ды пра ролю Андрэя Пракапчука ў іх вызваленьні.

Касмовіч піша: “Праз пару гадзінаў прышоў да іх Сіротка з прыкметным на лобе потам, неяк дзіўна паглядзеў на іх, сказаў — “можаце ісьці да хаты, гэтым разам палагодзіў сам ўсё добра...”, затым зьвяртаючыся да Міхася Вітушкі паважным голасам сказаў: “а ты Вітушка перойдзеш з міліцыі ў Дарожны Аддзел і будзеш там

*Копія машынапісу ўспамінаў Дз. Касмовіча, б. 140.
**Тамсама, б. 160.

працаваць”.*

“Алесь Дабровіч” перапісаў словы Сіроткі: “Можаце ісьці да хаты, гэтым усё абышлося”.**

Але далей — больш. Вось што мы чытаем у кнізе “За вольную і сувэрэнную Беларусь”:

“НКВД і вырашыла нас арыштаваць. Толькі асабістае ўмяшальніцтва Сіроткі выратавала нас ад арышту”.***

Вы думаеце гэта адпавядае арыгіналу? Не! “Дабровіч” у чарговы раз уводзіць у зман чытачоў, бярэ на сябе адказнасьць вырашаць, што можна пакінуць ва ўспамінах Д. Касмовіча, а што выкінуць зь іх.

Чытаем арыгінал:

“...як сказаў Сіротка, НКВД вырашыла арыштаваць Дзімітра Касмовіча і Міхася Вітушку і выслаць на дапрос і разбор справы ў Менск, ў турму. Аднак Сіротка аб гэтым даведаўся і рашыў да гэтага не дапусьціць. **Ён тэлефанічна выклікаў з Менска ведамага навукоўца-беларускага акадэміка д[окта]ра мэд[ыцыны], прафесара Андрэя Якаўлевіча Пракапчука, швагра Міхася Вітушкі па першай жонцы, каб супольна з ім ратаваць ад НКВД Д. Касмовіча і Міхася Вітушку. А. Я. Пракапчук быў той таямнічай асобай, якую Д. К. і М. В. бачылі ў памятную ноч у будынку НКВД. Яны дваём — Сіротка і Пракапчук — пераканалі начальніка НКВД не арыштоўваць Д. К. і М. Вітушку і паручыліся за іх”**.****

Гэта важны эпізод і яго ад нас схаваў “Алесь Дабровіч”. Цяпер зразумела, чаму менскі гісторык сарамліва прыкрыўся псеўданімам. Але ж яго сапраўднае прозьвішча не зьяўляецца таямніцай.

У тэксьце пра няўдалыя ўцёкі праз мяжу ва ўспамінах Касмовіча

*Копія машынапісу ўспамінаў Дз. Касмовіча, б. 147.
** За вольную і сувэрэнную Беларусь, б. 65.
*** Тамсама, б. 65.
****Копія машынапісу ўспамінаў Дз. Касмовіча, б. 148-149.

зьнікае нямала цікавых дэталяў. Найперш гэта датычыць згадак пра Міхала Вітушку. Амаль усё перапісанае, скарочанае. Не патрапіў у кнігу абзац пра тое, што М. Вітушка спачатку адмаўляўся браць на Браншчыну Р. Астроўскага:

“М. Вітушка ведаў Р. Астроўскага яшчэ з 1927/28 гадоў з Віленскай Беларускай Гімназіі. Ён спачатку вельмі скептычна адносіўся да ягонай асобы, нават, нейкі час, быў супраць таго, каб Краац браў Р. Астроўскага ў вайсковую зону і радзіў Д. Касмовічу, каб ён адрадзіў браць Р. Астроўскага на Усход. Д. Касмовіч, які свайго часу рэкамендаваў Крацу Р. Астроўскага на пасаду Намесьніка Менскай Акругі, з думкай Д. Касмовіча Г. Краац лічыўся, мог бы зьмяніць сваю прапанову адносна працы Р. Астроўскага на Усходзе Беларусі. Аднак, пасьля ўсебаковага разгляду гэтай справы, Д. Касмовіч і М. Вітушка рашылі гэтае пытаньне перад Краацам не падымаць. Усе трох выехалі ў вайсковую зону Беларусі”.*

“Алесь Дабровіч” скраў у дасьледчыкаў, якіх цікавіць дзейнасьць “ілжэпартызанскіх” атрадаў, наступнае сьведчаньне Дзьмітрыя Касмовіча:

“Партызанскія радысты перакінутыя Масквою цераз фронт, амаль усе пападалі ў рукі ОД, якое ў Бранскіх лясох, ў паразуменьні з вайсковым Штабам, займала цэлыя ўчасткі лясоў, выдаючы сябе за партызанаў. Вернасьць і ўзаемны давер сярод байцоў ОД былі прымернымі. Перакінутыя Масквою партызанскія радыё-лучнікі верылі, што знайходзяцца сярод партызан і надавалі падаваныя ім фалшывыя весткі ў Маскву, якія атрымоўвалі ад ОД аб пасоўваньні нямецкіх войск, ўзгодненыя раней з нямецкім камандаваньнем”.**

У фінале, як і можна было б чакаць, “карэктаваньне” і перапісваньне, зьмянілася фальсіфікацыяй.

Дзьмітрый Касмовіч пісаў у машынапісе:

**“Не засакрэчваючы Р. Астроўскага ў істнаваньне на Беларусі тайнай арганізацыі Беларускай Незалежніцкай Партыі і**

---

*Копія машынапісу ўспамінаў Дз. Касмовіча, б. 324-325.
**Тамсама, б. 259.

**аб яе планах,** Д. Касмовіч і М. Вітушка запрапанавалі Р. Астроўскаму абняць гэты ганаровы абавязак, у патрэбную “Х”-хвіліну, ачоліць Беларускі Урад”.*

“Алесь Дабровіч” жа зьмясьціў у выдадзеных успамінах Касмовіча выдуманы сказ:

**“І, нарэшце,** [Касмовіч і Вітушка] **распавялі яму** [Астроўскаму] **пра існаваньне на Беларусі тайнай арганізацыі Беларускай Незалежніцкай Партыі й пра яе пляны.** Мы запрапанавалі яму ў патрэбную “Х”-хвіліну ўзначаліць Беларускі ўрад”.**



*У 2007 годзе магілу Дз. Касмовіча наведалі сябры “Беларускай Нацыянальнай Памяці”. Фота — bielarusnp.blogspot.com*

***

Можна па рознаму рэагаваць на падобныя выпадкі (жорстка ці лагодна). Можна знайсьці і апраўданьне “алесям дабровічам” (і вы не сумнявайцеся — знойдуць!). Але гаворка ідзе пра сумленьне. Ня толькі сумленьне дасьледчыка, але чалавека.

Узьнікаюць вялікія сумненьні што да прафэсійных якасьцяў гэтага “гісторыка”, які нейкі “эрзац” выдае за “ўспаміны” беларускага дзеяча. Цяжка прыгадаць, каб нешта падобнае здаралася за часы незалежнай Беларусі.

Безумоўна, у будучыні варта перавыдаць успаміны Дзьмітрыя Касмовіча паводле яго машынапісу. Трэба будзе ўключыць у кнігу і матэрыялы з трэцяга тому ўспамінаў.

**Сяргей Ёрш**

*Копія машынапісу ўспамінаў Дз. Касмовіча, б. 324.

**За вольную і сувэрэнную Беларусь, б. 188-189.

# ПРА БРАТОЎ КРАСОЎСКІХ І НЯ ТОЛЬКІ

У сваіх успамінах Касмовіч неаднаразова згадвае беларусаў, братоў Уладзімера і Канстанціна Красоўскіх, якія дзейнічалі разам зь ім на Смаленшчыне ў 1942-1943 гг. і былі сябрамі Беларускай Незалежніцкай Партыі. У артыкуле "Смаленцы змагаюцца" (Беларуская газэта, 1943, 14 сакавіка, № 20) чытаем: "Касмовіч неўзабаве разам із сваім заступнікам сябрам Вітушкам, а таксама з дапамогаю энэргічных беларусаў братоў Красоўскіх, Хадзюкова й інш. стварылі моцнае ядро ["Смаленскай самааховы"]". З успамінаў Дз. Касмовіча можна зразумець, што браты Красоўскія засталіся на Смаленшчыне і загінулі ў антысавецкай партызанскай барацьбе. Аднак больш ніякай інфармацыі на гэты конт мы ня маем.

Вядома, што нейкі Красоўскі быў начальнікам паліцыі ў г. Рудня на Смаленшчыне. І, нібыта, разам з Мікалаем Алфёрчыкам быў сябрам НТС.* Перагледзеўшы крыніцы, у якіх апісваецца дзейнасьць сябраў НТС на Смаленшчыне, высьвятляем, што да гэтай арганізацыі прылічваюцца: "белаэмігранты... браты Красоўскія Мікалай і Ўладзімер". У гэтым жа сьпісе Мікалай Альфёрчык і... Дзьмітрый Касмовіч.** Як бачым, імёны братоў Красоўскіх не такія, як ва ўспамінах Касмовіча.

Аркадзь Сталыпін у сваёй працы таксама згадвае сябра НТС "Н. Красовского", які прыехаў у Смаленск з Польшчы, але нічога ня піша пра Касмовіча.*** Сябра НТС В. Кашнікаў успамінаў, што верагодна яшчэ ў 1941 годзе ў Менску Мікола Альфёрчык "зьвязаўся з беларускімі нацыяналістамі-незалежнікамі Касмовічам і Вітушкам". Таму ў Смаленску НТС зь ім перапыніла сувязь.****

Атрымліваецца такая сытуацыя. Дз. Касмовіч піша, што ствараў на Браншчыне, а пасьля і Смаленшчыне падпольле БНП і залічвае ў яго братоў Красоўскіх. Сябры НТС лічаць Красоўскіх удзельнікамі сваёй арганізацыі. Насамрэч, магло быць і так, што

---

*Грибков И., Жуков Д., Ковтун И. Особый штаб "Россия". — Москва: "Вече", 2011, б. 215.

**Оккупационный режим в Смоленской области 1941-1943 гг. // https://sites.google.com/site/ocerkipoistoriirodnyhmest/okkupacionnyj-rezim-v-smolenskoj-oblasti-1941-1943g-g

***Столыпин А. На службе России. — Франкфурт-на-Майне, 1986; http://ntsrs.ru/content/glava-5-nts-i-voyna-ch-4

****http://wirade.ru/cgi-bin/wirade/YaBB.pl?board=krievs;action=display;num=1062657232

гэтыя людзі былі сябрамі... абедзьвюх арганізацый. Характэрна, што сябры НТС ня згадваюць пра БНП. Верагодна, яны пра яе ў той час нічога ня ведалі. Але групы Беларускай Незалежніцкай Партыі на Браншчыне і Смаленшчыне не былі мітам, створаным Касмовічам. Яны існавалі, але, відаць, былі вельмі нешматлікія, налічвалі пару дзясяткаў чалавек, пераважна афіцэраў. Бо нават афіцыйныя публіцысты, якія мелі доступ да спэцархіваў, сьведчылі: Касмовіч стварыў “Белорусскую националистическую партию” на Смоленщине и Брянщине”.*

**СЁ**

*Бадулин А., Карпов И. Господа рвутся к власти // Белорусская нива, 1998, 12 сакавіка.

# БЕЛАРУСКІ ПАРТЫЗАНСКІ КАМАНДЗІР ЛУКАШ СЯМЕНІК

Часы нямецкай акупацыі і наступнай польска-савецкай вайны ў 1918-1920 гадах нарадзілі ў розных рэгіёнах Беларусі нямала народных важакоў. Яны гуртавалі землякоў найперш у мэтах сама-абароны перад рознымі акупанцкімі ўладамі, альбо і звычайнымі бандытамі. Некаторыя не шукалі нават часовых саюзьнікаў: ваявалі супраць усіх. А там, дзе партызаншчына, там без ахвяраў і крыўдаў не абыходзілася. А калі людзі зь лесу не выходзілі доўгія гады, дык ня дзіўна, што губляліся маральныя арыентыры, заставалася толькі жаданьне выжыць любым коштам ці помсьціць да апошняй кроплі крыві...

Знайсьці сярод партызанскіх камандзіраў нейкага сьветлага героя — справа амаль немагчымая. Тым больш, што веды нашыя пра ўдзельнікаў таго ж беларускага антыбальшавіцкага руху даволі абмежаваныя, крыніцы падаюць супярэчлівую інфармацыю. Яскравы прыклад — **Лукаш Сяменік*** з Барысаўшчыны. У савецкіх ды і цяперашніх афіцыйных крыніцах ён рабаўнік і бандыт-забойца**, беларуская антыбальшавіцкая прэса малявала зь яго народнага героя.***

Можна было б сумнявацца, ці варта Сяменіка лічыць сьвядомым беларусам, беларускім партызанскім камандзірам, калі б не ягоны ўдзел у Слуцкім Збройным Чыне ў лістападзе-сьнежні 1920 году. Цяжка паверыць, што нейкі бандыт-анархіст з Барысаўшчыны пайшоў бы на далёкую Случчыну змагацца за вольную і незалежную Беларусь. А Сяменік пайшоў і павёў з сабой сваіх хлопцаў. А пазьней ён загіне ў адным з баёў з бальшавікамі. Справу ягоную працягваў бліжэйшы паплечнік — **Юрка Моніч**, які, верагодна, стаіць побач з Сяменікам на здымку, які зьмяшчаецца ніжэй.

---

*У многіх публікацыях, у тым ліку і ў “БР”, прысутнічае памылковы варыянт яго прозьвішча — Семянюк. Насамрэч, ён СямЕнік (націск на другі склад).

**У публікацыі Ўладзімера Кішчанкі прыводзяцца ўспаміны Рыгора Хацкевіча пра падзеі на Барысаўшчыне ў 1918-1919 гадах. Ён піша пра тое, што кіраўнік воласьці Сяменік у Халапенічах з сябрукамі п’янстваваў, рабаваў людзей, расстрэльваў незадаволеных. Гл.: Кищенко В. Советско-польская война на Борисовщине. Воспоминания участников и очевидцев событий // http://borlib.by/istoriya-borisovschini-sobitiya-i-fakti/sovetsko-polskaya-voyna-na-borisovschine-vospominaniya-uchastnikov-i-ochevidtsev-sobitiy

***Ст-іч. Л. Сяменік // Беларускае жыцьцё (Менск), 1920, № 3(25), 9 лютага, б. 2-4.

№ 3 (25). БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ 3.



Беларускіе партызаны. (×) Л. Сяменік.

# Л. СЯМЕНІК

“Любая” рыса пакорнасьці, любасьці супакою і нялюбасьці вайны, рыса, каторую нам стараліся ўмовіць нашые суседзі, дый мы часта самі ўмаўлялі сабе, аказуецца зусім нязгоднай з праўдаю. Сусьветная вайна паказала, што беларусы ня толькі былі адважнейшаю за іншые народы часткаю расійскага войска, але што яны могуць самахоць з аружжам у руках падымацца проці сваіх непрыяцеляў. Паказалі гэта ясна сялянскія беларускіе паўстаньні проці бальшавікоў. Паўстаньні ў Смаленшчыне, каля Воршы, у Случчыне, паўстаньні “зялёных” у Дзісеншчыне, Браслаўшчыне*, кажуць самі за сябе.

Найбалей ведамым і жывучым стаў беларускі паўстанцкі аддзел Сяменіка, слава аб каторым разышлася на вялікае прасторы трох губэрняў — Менскае, Магілёўскае і Віцебскае.

Камандзер гэнага аддзелу, Лукаш Сяменік, родам з Барысаўскага павету, Халопеніцкае воласьці, вёскі Траянаўка, дзе яго

У газэтах і гутарках Сяменіка часта па абмылцы называюць Семянюком. — Заўвага рэдакцыі “Беларускага жыцьця”.

*Браслаўскі — [і]начай Новаалександраўскі павет Ковенскае губ., дзе беларусы паднялі паўстаньне проці бальшавікоў на чале з беларускімі дзеячамі капітанам Бондар-Нарушэвічам і унтэр-афіцэрам Пётрам Гірдзюком.

бацька ёсьць сярэдняй заможнасьці гаспадар на 6-х дзесяцінах зямлі. Паўстанская дзейнасьць Сяменіка пачалася ў 1918 г. ў раёне ад Сянно, Магіл[ёўскай] г[убэрні] ў Лісічынскай, Халопеніцкай і Зачысьценскай воласьці да вёскі Пупелічы. Бальшавікі, каторые перад гэтым дайшлі да ўгоды з немцамі, былі проціў гэтага паўстаньня і памаглі яго немцам задушыць, паслаўшы ззаду на Сяменіка броневікі. Паўстанцы былі разьбіты і немцы, спаганяючы злосьць, спалілі вёскі: Спабодку, Халопенецкай вол[асьці] і Пупелічы, Зачысьц. воласьці. Некаторые з сялян былі расстрэлены. Сяменік мусіў хавацца.

Пасьля адыходу немцаў і да прыходу бальшавікоў сяляне Халопеніцкае вол[асьці] абралі Сяменіка Халопенецкім ваенным камісарам. Як прышлі ў Халопенецкую вол[асьць] бальшавікі, яны, будучы нязгодны з кірункам Сяменіка, яго арыштавалі і пасадзілі ў барысаўскую турму, адкуль потым перавялі ў Менскую турму. Ня гледзячы на пастановы аб асвабаджэньні [Сяменіка] сходаў сялян, каторые любілі Сяменіка, як свайго героя, абароньніка, Сяменік усё ж такі ня быў выпушчаны. 27 мая 1919 г. яго з Менскае турмы перасылалі ў барысаўскую. Па дарозе Сяменік уцёк. У Барысаве галоўны бальшавіцкі рэволюцыйны трыбунал завочна прысудзіў яму кару сьмерці.

Уцёкшы, Сяменік з людзей, каторые, ня хочучы ісьці ў чырвоную армію, уцякалі ў лясы, арганізаваў паўстанскі “зялёны” аддзел і стаў у задох* нападаць на бальшавікоў. У гэтым часе ён захапіў у бальшавікоў тры воласьці: Халопенецкую, Красналуцкую і Зачысьценскую, дзе забраў усю бальшавіцкую маёмасьць, паміж іншым шмат тэлеграфных апаратаў. Бальшавікі, спалохаўшыся, паслалі туды большые сілы і “зялёные” Сяменіка ізноў адышлі ў лясы.

З часам як польскае войско падышло пад Барысаў, Сяменік паслаў да польскае каманды свайго дэлегата і, ведаючы добра мясцовасьць, свой аддзел разам з 3-м польскім уланскім палком завёў пад Прыяміно ў зад** бальшавіком. Абойдзеные, бальшавікі барджэй*** пачалі ўцякаць з Барысава.

Пасьля гэтага аддзел Сяменіка ўвесь час аставаўся на фронце. Харчы сабе і вопратку аддзел прымушаны быў здабываць ад бальшавікоў сам. Пры гэтым розную ваенную здабычу, захопленую ў непрыяцеля, ён павінен быў перадаваць польскай ваеннай уладзе.

---

*Г. зн. у тылах. — БР.

**Г. зн. у тыл. — БР.

***Хутчэй (пол.). — БР.

У верасьні летась [1919 году] польская ваенная ўлада пачала выдаваць для аддзелу Сяменіка харчы, хоць, як кажуць, неакуратна, але вопратка і абуцьце не выдаваліся і героі Сяменіка ажно да апошняга часу хадзілі ў парванай вопратцы і блізу босые. Нястача ёміны, харчоў і труднасьць дастаць вопратку і абуцьце, а таксама доўгае быцьцё на пазыцыі былі прычынаю пошасьці тыфусу, на каторы пачалі хварэць у аддзеле Сяменіка летась у апошніх днёх лістапада, і аддзел быў адведзены ў зад у м. Смолевічы.

У апошні час польская вайсковая ўлада як належыць ацаніла Сяменіка і яго аддзелы. Загадана выдаваць аддзелу акуратна ёміну, пэнсію і выдаць абмундыраваньне. Разам з гэтым Сяменіку даручана на фронце дзяржаць разьведку і дазволена пашыраць далей свой аддзел, прыймаючы ў яго самахвотнікаў.

[…]

**Ст-іч**

*Беларускае жыцьцё (Менск), 1920, № 3(25), 9 лютага, б. 2-4.*

***

# АДАМ ДАСЮКЕВІЧ

## ЯК У ПАСТАВАХ У 1943-М ХАВАЛІ БЕЛАРУСКАГА ДЗЕЯЧА, РАССТРАЛЯНАГА НАЦЫСТАМІ

2 лістапада 1943 году жыхары Паставаў разьвіталіся з беларускім дзеячом 32-гадовым **Адамам Дасюкевічам**. Ён, удзельнік беларускага нацыянальнага Супраціўленьня, працаваў на пасадзе кіраўніка Пастаўскага павета. Абараняў людзей, аднойчы выратаваў ад сьмерці свайго настаўніка Барыса Кіту (Кіта). Эсэсавец страляў у яго з пісталета, а Дасюкевіч ударыў па руцэ, і куля патрапіла ў сьцяну... Пасьля вайны ў ЗША Кіт стаў вядомым навукоўцам, “піянерам сусьветнай касманаўтыкі”, ды часта згадваў Адася. Калі пазьней, 31 кастрычніка 1943 году, эсэсавец страляў у Дасюкевіча, абараніць яго ніхто ня змог. Віктар Сікора, які знайшоў у канаве цела, распавядаў, што ў Адама патрапілі дзясяткі куль...

Версіі пра прычыны расстрэлу розныя. Паводле адной зь іх,




*Апошняе прыжыцьцёвае фота Адама Дасюкевіча. 30 кастрычніка 1943 году*



*Каля труны ўдава Адама Лідзія Дасюкевіч (Сікора) з дачкой, побач стаіць Віктар Сікора*



*На чале жалобнай працэсіі ідуць СБМаўцы*













***Здымкі з пахаваньня, якое адбывалася ў Паставах 2 лістапада 1943 г.***



*Будучы дзеяч Беларускай незалежніцкай партыі і камандзір атрада беларускіх "лясных братоў" Віктар Сікора каля магілы Адама Дасюкевіча. Зіма 1944 году*

калі немцы ў чарговы раз дамагаліся ад Адама Дасюкевіча здачы падаткаў ад павету, ён ім стаў тлумачыць, што людзі аддалі ўжо ўсё, што маглі. Гэта раз'юшыла аднаго з нацыстаў, які пачаў страляць... Паводле іншай, "у вызначаны дзень не прыбылі ўсе сялянскія падводы з пастаўкай збожжа на высылку ў Нямеччыну". Да таго ж, немцы сталі сумнявацца ў лаяльнасьці Адама Дасюкевіча. Магчыма, гэтаму паспрыяла ня толькі гісторыя з Барысам Кітай, але і даносы.

Усе Паставы ведалі, што Дасюкевіча расстралялі нацысты. Тым ня менш, на пахаваньне выйшлі сотні, а можа й тысячы людзей. Віктар Сікора ўспамінаў: "Мы, моладзь СБМ [Саюза беларускай моладзі], не пабаяліся і пайшлі на пахаваньне Адама Дасюкевіча. Немцы нам не перашкаджалі". Гэта відаць на здымках. Моладзь і старэйшае грамадзянства гэтым сваім учынкам пратэставалі супраць акупанцкага тэрору. Нацысты маглі паспрабаваць разагнаць працэсію, але пабаяліся. Пабаяліся арганізаванасьці, салідарнасьці пастаўскіх беларусаў, якія хавалі аднаго з сваіх лідараў і абаронцаў.

**Сяргей Ёрш**

*Здымкі з архіву Віктара Сікоры*

ДАВЕДКА "БР": **Адам Дасюкевіч** (1911 — 1943) — дзеяч беларускага нацыянальна-вызвольнага руху 1930-1940-х гадоў. Скончыў Віленскую беларускую гімназію (1933), агранамічны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту (1939). У 1937-1939 гадах быў старшынём Беларускага студэнцкага саюза. У другой палове 1930-х уваходзіў

у кіраўнічыя органы партыі “Беларуская хрысьціянская дэмакратыя”, быў рэдактарам віленскай газэты “Беларуская крыніца”. За шэраг публікацый, зьмешчаных у выданьні, трапляў пад суд. Падчас нямецкай акупацыі працаваў настаўнікам, арыштоўваўся немцамі па польскім даносе. Удзельнік беларускага нацыянальнага антынацысцкага Супраціву. У 1943 годзе займаў пасаду старшыні Пастаўскага павету. Расстраляны нацыстамі 31 кастрычніка 1943 году.

***

# АНАСТАС АНЦЫПОВІЧ

Пра першага камандзіра 1-й Слуцкай брыгады войскаў БНР дагэтуль мы ведаем вельмі мала. У кнізе “Слуцкі збройны чын 1920 г. У дакумэнтах і ўспамінах” (Мінск, 2006, б. 321) яго біяграфічная даведка маленькая: “Анцыповіч Анастас, першы камандзір 1-е Слуцкае брыгады войскаў БНР. Вызвалены з пасады 3 сьнежня 1920 г. Пазьней выдадзены польскімі ўладамі бальшавікам і расстраляны”. Як сьведчыць гісторык Ніна Стужынская, Анцыповіч быў удзельнікам беларускай партызанскай арганізацыі “Зялёны Дуб”.*

Крыху больш пра яго на эміграцыі напісаў удзельнік Слуцкага паўстаньня Алесь Яцэвіч-Змагар. Ён сьцьвярджае, што капітан Анастас Анцыповіч быў ураджэнцам вёскі Працавічы на Случчыне. Быў фельдфебелем царскай арміі, падчас Першай сусьветнай вайны даслужыўся да рангі штабс-капітана. У лістападзе 1920-га быў абраны ў Раду Случчыны, спачатку ачоліў батальён беларускай міліцыі ў Слуцку, а пасьля стаў камандзірам Слуцкай брыгады стральцоў БНР. 3 сьнежня 1920 году быў зьняты з пасады — “быў надта добры выканаўца, але малаініцыятыўны”. Як сьведчыць Змагар, быў “неафіцыйна выдадзены палякамі Саветам, пасьля катаваньня — расстраляны”.**

Вялікай неспадзяванкай стаў тэкст праўнучкі Анцыповіча, які

*Стужынская Н. Беларусь мяцежная. З гісторыі ўзброенага антысавецкага супраціву ў 1920-я гг. — Вільня: “Наша будучыня”, 2011, б. 331.
**Змагар А. Слуцкае паўстаньне // Вызвольныя шляхі. — Кліўленд: Выдавецтва Беларускага Вызвольнага Руху, 1965; http://old.knihi.com/www/kum_mytoday_de/zmahar/artykuly/paust.html



bjernhona.livejournal.com

зьявіўся восеньню 2012 году ў Жывым Журнале.* Маладая жыхарка Львова распавяла пра сваю прабабулю Марыю Іванаўну Кунцэвіч (Анцыповіч), жонку Анастаса Анцыповіча.

Марыя Кунцэвіч нарадзілася ў заможнай сям'і, верагодна, на Случчыне (яе два браты жылі ў нейкім маёнтку Бярозаўка), яна атрымала добрую адукацыю. У 1917 годзе 20-гадовая Кунцэвіч сустрэла 31-гадовага Анастаса Навумавіча Анцыповіча. Яны ўзялі шлюб, абвянчаліся. На той час Анцыповіч быў паручнікам 8-га Сыбірскага стралковага палка, які дысьлякаваўся на Далёкім усходзе Расеі, у нейкім урочышчы Барабаш. Але з-за расейскіх рэвалюцый і развалу армій ён вярнуўся ў Беларусь. У іх нарадзіліся чацьвёра дзяцей: Глаша, Галіна (бабуля аўтаркі допісу ў ЖЖ), Ігар і Зіна.

Адзначым, што цяпер мы ведаем імя па бацьку Анастаса Анцыповіча — Навумавіч, ды год яго нараджэньня — 1886. Праўнучка слуцкага паўстанца зьмясьціла і фотакопію пасьведчаньня аб шлюбе.

Нашчадкі Анастаса Анцыповіча ведалі, што яго расстралялі бальшавікі. Нібыта, ён прыехаў у Слуцак разьвітацца з жонкай і дзецьмі. І там яго схапілі. Пасьля сьмерці мужа Марыя Анцыповіч (Кунцэвіч) засталася з малымі дзецьмі і мусіла неяк іх ратаваць.

| Званіе, имя, отчество, фамилія и вѣроисповѣданіе жениха, и которымъ бракомъ. | Лѣта жениха | Званіе, имя, отчество, фамилія и вѣроисповѣданіе невѣсты, и которымъ бракомъ. | |
|---|---|---|---|
| Поручикъ 8 Сибирскаго Стрѣлковаго полка, Анастасій Наумовичъ Анциповичъ православнаго вѣроисповѣданія первымъ бракомъ | 31 | Крестьянка деревни Березовки Марія Иванов-на Кунцевичъ православнаго вѣроисповѣданія первымъ бракомъ | 20 |

bjernhona.livejournal.com

Дзесьці праз год пасьля сьмерці мужа яна ўзяла шлюб з селянінам Іванам Корбутам з вёскі Тычыны, "разьмешчанай на беразе рэчкі Случ". Ад гэтага шлюбу яна нарадзіла яшчэ некалькі дзяцей.

"Марыі прыйшлося перакваліфікавацца з

*Какое отношение я имею к белорусской независимости // 2012, 3 лістапада; http://bjernhona.livejournal.com/132725.html

афіцэрскай жонкі ў сялянку, і да самай сваёй сьмерці яна нічога нам не распавядала пра свайго першага мужа, — піша праўнучка. — Аб светлым мінулым нагадвалі толькі яе манеры, велізарная колькасьць рамансаў, якія яна любіла сьпяваць, некалькі фотаздымкаў з выпускнога і, само сабой, дзеці, чые аквамарынавая-блакітныя вочы, дасталіся ім па бацькоўскай лініі. Ужо значна пазьней мы даведаліся, што зьбераглося пасьведчаньне аб шлюбе”.*

Падобная гісторыя здарылася з Ксеніяй Серадой, жонкай старшыні Рады БНР у 1918-м Івана Серады. Пасьля арышту мужа яна ўзяла шлюб з яго сябрам прафэсарам Ювеналіем Вейсам. Так вырашыў яшчэ да свайго арышту Янка Серада і ўзяў з Вейса слова, што той такім чынам выратуе Ксенію Сьцяпанаўну. Яна дажыла да 1963-га, памерла ва ўзросьце 73 гадоў. Сам Серада таямніча зьнік ў лістападзе 1943-га, калі яго датэрмінова вызвалілі з канцлягера.**

**СД**

*http://bjernhona.livejournal.com/132725.html

** Шулаев А. Трагедия Ивана Середы // Историческая правда, 2013, 30 траўня; http://www.istpravda.ru/bel/research/3600/

# У 1942 ГОДЗЕ НА ВІЦЕБШЧЫНЕ НКВДЫСТЫ ЗЬНІШЧЫЛІ КІРАЎНІКА АНТЫСАВЕЦКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ "НАЦЫЯНАЛ-ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ"

У "БР" неаднаразова друкаваліся дакумэнты і ўспаміны пра беларускія антынацысцкія партызанскія атрады і падпольныя арганізацыі, якія зьнішчаліся савецкімі партызанамі і разнастайнымі спэцгрупамі/атрадамі.* Фактаў гэтых становіцца вядома ўсё больш і больш. У гэтым нумары, акрамя гэтага паведамленьня, зьмешчаны яшчэ адзін матэрыял.**

Праблема атрадаў і падпольля "трэцяй сілы" (адначасова антынацысцкіх і антысавецкіх) патрабуе скурпулёзных і ўсебаковых дасьледаваньняў. Як вядома, у Беларусі дзейнічаў ня толькі беларускі нацыянальны Супраціў, на нашай тэрыторыі прысутнічалі структуры і фармацыі польскага і ўкраінскага Супраціваў (і яны значна лепш дасьледаваныя), а таксама групы рускіх кансьпіратараў з НТС ("Народно-трудового союза"). У пытаньні зь некаторымі беларускімі і рускімі групамі/атрадамі яшчэ неабходна разабрацца, ці не былі яны "лжэпартызанскімі", інсьпіраванымі нямецкімі спэцслужбамі.*** Зь іншага боку, некаторыя дасьледчыкі/публі-

---

*Турук А. Ліквідацыя беларускага партызанскага атрада на Слонімшчыне ў 1942 годзе // Беларускі Рэзыстанс, 2004, № 1, б. 86-88; Пірог В. "Зялёныя" на Полаччыне // Беларускі Рэзыстанс, 2004, № 1, б. 89; Група беларускіх нацыяналістаў на Вялейшчыне. 1943 год // Беларускі Рэзыстанс, 2005, № 1(2), б. 106-107; "Уладу народную ўзновім у родных краях…". Дакумэнты пра "Партыю Народнага вызваленьня", 1943 год // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 1(6), б. 105-108; Ліквідацыя "Арганізацыі аднаасобнікаў" на Бягомльшчыне // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 2(7), б. 58-61; Ёрш С. Беларускі нацыянальны партызанскі рух падчас нямецкай акупацыі 1941-44 гг. Агляд апублікаваных крыніц // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 2(11), б. 88-99; Беларускія нацыянальныя партызаны насілі спецыяльны сімвал на фуражках бел-чырвона-белага колеру // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 2(11), б. 104-116; Камбатант: Байцы Харэўскага нашывалі на вопратку бел-чырвона-белыя сьцяжкі // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 2(11), б. 139-142.

** Цікоцкі А. Ліквідацыя савецкімі партызанамі атрада беларускіх нацыяналістаў восеньню 1943 году // Беларускі Рэзыстанс, 2013, № 1(14), б. 36.

*** На гэтую тэму ў "БР" ужо зьмяшчаўся наступны матэрыял: Самсонаў К. Да пытаньня дзейнасьці ў Беларусі падчас нямецкай акупацыі 1941-1944 гг. "ілжэпартызанскіх" атрадаў // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 1(10), б. 33-43.

цысты не абцяжарваюць сябе пошукам праўды: усіх, хто ня быў пад савецкімі кантролем, залічваюць да правакатараў і нямецкіх агентаў, прыслужнікаў.

Раней невядомы факт на гэтую тэму нядаўна апублікаваў мінчук, палкоўнік у адстаўцы Ўладзімер Конанаў.* З траўня 1942 году ён супрацоўнічаў з апэратыўна-чэкісцкай групай УНКВД па Віцебскай вобласьці, якая дзейнічала ў нямецкім тыле. Конанаў сьцьвярджае, што ёй кіраваў палкоўнік Юрын. Але гэта не адпавядае сапраўднасьці, бо маёр Сямён Юрын (падпалкоўнікам ён стаў у 1943 годзе, а палкоўнікам ніколі ня быў) у лютым-кастрычніку 1942-га быў намесьнікам начальніка.**

”На тэрыторыі Беларусі, асабліва яе заходніх раёнаў, актыўна дзейнічала антысавецкая арганізацыя, якая называла сябе нацыянал-дэмакратычнай партыяй, адным з кіраўнікоў якой быў нехта Акаловіч, — успамінае У. Конанаў. — Маці [Конанава] да вайны адзін час працавала кухарам у бальніцы побач з туберкулёзным дыспансэрам. Там жа працавала лекарам блізкая сваячка Акаловіча. Ведаючы гэта, Юрын даручыў маёй маці зьвязацца са сваячкай Акаловіча і пад выглядам таго, што з “нацдэмаўскім” кіраўніком хочуць сустрэцца яго аднадумцы, прымусіць выйсьці яго ў пазначанае Юрыным месца. Заданьне было выканана, чэкісты зьнішчылі Акаловіча”.

Важная дэталь: Конанаў ня піша, што арганізацыя і яе кіраўнік былі зьвязаныя з нямецкімі спэцслужбамі, як звычайна робяць іншыя вэтэраны ў падобных успамінах ці публіцысты/дасьледчыкі, якія пішуць “пра гераічную дзейнасьць” спэцгруп/атрадаў НКВД, НКГБ, ГРУ ў Беларусі. Ён згадвае толькі, што арганізацыя была антысавецкая, “нацдэмаўская” і актыўна дзейнічала.

Магчыма, што гэта сьлед нейкай невядомай нам канспірацыйнай беларускай нацыянальнай групы, альбо мясцовай філіі Беларускай Незалежніцкай Партыі* ці Арганізацыі Беларускіх

---

*Кононов В. “Мстители” атакуют // Белорусская военная газета (Во славу Родины), 2013, 6 сакавіка, № 43; http://vsr.mil.by/2013/03/06/mstiteli-atakuyut/

**У ліпені-верасьні 1943 году С. Юрын ачольваў спэцгрупу НКГБ БССР “Мстители”, быў членам Віцебскага падпольнага абкаму КП(б) Беларусі. Быў адклікаты за лінію фронту і асуджаны на 10 гадоў зьняволеньня. Ён “пагарэў” на справе забойства гаўляйтэра Кубэ, якую прыпісаў свайму атраду, хаця насамрэч акцыю арганізаваў спэцатрад ГРУ.

***Белорусская военная газета, 2013, 6 сакавіка.

****У 1944 годзе на Віцебшчыну будзе закінутая спэцгрупа НКГБ БССР Пятра Максіменкі. У яе задачу, між іншым, ставілася барацьба супраць структураў Беларускай Незалежніцкай Партыі на месцах. Гл.: Максименко П. “Северные”: Воспоминания командира отряда. — Мінск: “Беларусь”, 1989, б. 16-17.

Нацыяналістаў (пазьней — Беларускага Нацыянальна-Дэмакратычнага Аб’яднаньня). Адзінае, што выклікае сумненьні — гэта прозьвішча кіраўніка. Як вядома, падчас нямецкай акупацыі на тэрыторыі Беларусі дзейнічалі падпольныя групы НТС. Кіраваў імі Георгі Акаловіч, рускі эмігрант, які ў 1941-1943 гг. працаваў на легальнай пасадзе ў Смаленску. Аднак на Віцебшчыне і ў Заходняй Беларусі груп НТС было няшмат: на лета 1942-га — толькі Ворша, Полацк, Баранавічы і Слонім.* З 1943-га Акаловіч працаваў у Менску, супрацоўнічаў з СД. Ён займаўся вярбоўкай людзей у контрвыведчы ворган “Інгвар”, мэтай якога была барацьба з савецкім партызанскім рухам і разгортваньне антысавецкага партызанскага руху.** Усім навабранцам Акаловіч і іншыя рускія-працаўнікі “Інгвара” прапаноўвалі ўступіць у “народна-рэвалюцыйную партыю” (гэта была адна з шыльдаў НТС).*** Аднак Георгій Акаловіч ня быў забіты чэкістамі, яго арыштоўвалі немцы і з верасьня 1944-га да красавіка 1945 году ён знаходзіўся ў зьняволеньні. Пасьля вайны жыў на Захадзе, быў адным з кіраўнікоў НТС. Гэта яго адмовіўся забіць у 1954 годзе кілер МГБ СССР Хахлоў, які здаўся ўладам Заходняй Нямеччыны.

Зусім магчыма, што Конанаў проста зьмяніў ці пераблытаў прозьвішча таго дзеяча.

І яшчэ. Ва ўспамінах Уладзімера Конанава ёсьць цікавая згадка. Ён піша, што байцы Юрына захапілі “ўласаўца — начальніка штабу Рускай вызвольнай арміі... Радзівонава”. Яго трэба было даставіць за лінію фронту. “Пры выхадзе з акружэньня на адным з балотаў палонны быў паранены ў нагу. Галодныя, замёрзшыя і стомленыя партызаны не захацелі яго цягнуць, і адзін з партызан, У. Карпаў****, прыстраліў палоннага. Цанава, калі даведаўся пра гэта, ашалеў. Кіраўніцтва пакарала камандзіра групы Юрына. Наш атрад ачоліў накіраваны з наркамата дзяржаўнай бясьпекі капітан Ганцоў”.

---

*Грибков И., Жуков Д., Ковтун И. Особый штаб “Россия”. — Москва: “Вече”, 2011, б. 102-103.

**У мінулым нумары “БР” мы ўжо згадвалі пра гэты праект. Гл.: Сушко В. Барыс Кавэрда падчас вайны быў у рускай выведчай арганізацыі // Беларускі Рэзыстанс, 2012, № 2(13), б. 84-85. — “БР”.

***Особый штаб “Россия”, б. 247 .

****Больш пра дзейнасьць гэтага савецкага агента і “беларускага пісьменьніка” гл. у мінулым нумары “БР”: Будрэвіч А. Савецкі рэзыдэнт Карпаў рыхтаваў ліквідацыю кіраўніцтва БНС. Гісторыя трох агентаў “Івановых” // Беларускі Рэзыстанс, 2012, № 2(13), б. 5-17. — “БР”.

Высьветліць праўду — ці сапраўды чэкісты зьнішчылі кіраўніка беларускай “нацдэмаўскай” арганізацыі, ці нейкага дзеяча НТС — і проста і цяжка адначасова. Проста, бо дакумэнт пра гэта (магчыма, і не адзін) мусіць знаходзіцца ў архівах КДБ Беларусі і ФСБ Расеі. Цяжка, бо ня кожны атрымлівае туды доступ.

**Канстанцін Самсонаў**

# ЛІКВІДАЦЫЯ САВЕЦКІМІ ПАРТЫЗАНАМІ АТРАДА БЕЛАРУСКІХ НАЦЫЯНАЛІСТАЎ ВОСЕНЬНЮ 1943 ГОДУ

*“Мала пішацца пра беларускіх нацыяналістычных партызан..., якіх было няшмат — 3–5 тысяч, але яны былі”.*

*Эмануіл Ёфэ, доктар гістарычных навук**

Падчас нямецкай акупацыі Беларусі 1941-1944 гадоў у лясах дзейнічалі і беларускія нацыянальныя партызанскія атрады. Дагэтуль пра іх вядома вельмі мала. Таму кожная знаходка, кожнае сьведчаньне — вельмі каштоўныя.

У лютым 2011 году ў нас адбылася размова з былым агентурным разьведчыкам савецкай партызанскай брыгады імя Шчорса** **Францам Францавічам Віторскім**, ураджэнцам вёскі Восава Бярэзінскага раёну, падпалкоўнікам міліцыі ў адстаўцы. Ён распавеў, што восеньню 1943 году кіраўніцтву яго брыгады стала вядома: у раёне вёсак Поцічава (Смалявіцкі раён) і Лезіна (Барысаўскі раён) дзейнічае нейкі “дзікі атрад”. Гэта адбылося падчас некалькіх

*Абакунчык Г. Пра беларускіх нацыянальных партызанаў і дзяцей нямецкіх салдат // Радыё Свабода, 2013, 8 траўня; http://www.svaboda.org/content/article/24980491.html

** Савецкая партызанская брыгада імя Шчорса была створана ў кастрычніку 1942 г. з асобных атрадаў паводле рашэньня міжраённага цэнтру камуністычнага партыйнага цэнтру Барысаўскай зоны. Дзейнічала ў Бярэзінскім, Барысаўскім і Чэрвеньскім раёнах. Восеньню 1943 году камандзірам брыгады быў Мікалай Дзярбан, а камісарам — Майсей Прусак. Гл.: Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Краткие сведения об организационной структуре партизанских соединений, бригад (полков), отрядов (батальонов) и их личном составе. — Минск: “Беларусь”, 1983, б. 493.

рэйдаў фуражыраў брыгады, якія нарыхтоўвалі па вёсках харчы. Імі было высьветлена, што невядомыя ў гэтых вёсках партызаны ўжо прыходзілі туды з такой жа мэтай.

Трэба заўважыць, што ў той час усе вёскі партызанскай зоны былі ўжо падзеленыя паміж савецкімі партызанскімі брыгадамі і атрадамі, як “зоны аператыўнага дзеяньня” і як крыніцы паставак харчаваньня. Звычайна, вызначалася колькасьць паставак і графікі, па якіх сяляне асобных вёсак павінны былі забясьпечваць партызанаў гэтых атрадаў харчамі. Аднак спрэчак і канфліктаў пры гэтым было шмат, а партызаны розных атрадаў і брыгад нярэдка рабілі наезды на “чужыя” вёскі з мэтай рабунку. У выніку, было зашмат канфліктаў паміж партызанскімі атрадамі і ўзаемных скаргаў у падпольныя камуністычныя партыйныя ворганы і ў Беларускі (савецкі) штаб партызанскага руху.

Паводле ўспамінаў Франца Віторскага, пасьля няўдалых гаспадарчых аперацый, “шчорсаўцамі” была зробленая засада, з мэтай перахапіць “гасьцей” і высьветліць, хто яны такія. У выніку адбылася сустрэча і стала вядома, што “дзікія партызаны” — гэта беларускія нацыяналісты-антысаветчыкі.

Кіраўніцтва савецкіх партызанаў загадала атакаваць лягер беларускіх нацыяналістаў. Пачаўся бой, які працягваўся амаль увесь дзень. “Дзікі атрад” быў ліквідаваны пераважаючымі сіламі брыгады імя Шчорса. Апошніх трох палонных савецкія партызаны дапыталі і расстралялі. Вядома, што беларускія нацыяналісты гаварылі, што яны — “за Беларускую Народную Рэспубліку ў яе этнаграфічных межах”.

Франц Віторскі падчас гутаркі сьцьвярджаў, што ў атрадзе беларускіх нацыяналістаў было каля 20 чалавек і былі гэта людзі не мясцовыя. Але яго сын, які прысутнічаў падчас нашай размовы, паведаміў, што раней бацька, распавядаючы пра тыя падзеі, заўсёды называў іншую лічбу **— 47 чалавек.*** Ці ўсе яны загінулі ці частка партызанаў ацалела, невядома. Патрэбныя архіўныя пошукі — кіраўніцтва брыгады імя Шчорса мусіла скласьці справаздачы пра бой і зьнішчанага праціўніка.

**Андрэй Цісецкі**

*Ф. Віторскі у гэтым баю не ўдзельнічаў, ведае пра яго ад свайго брата, які кіраваў усёй агентурнай разьведкай брыгады імя Шчорса, а таксама ад сястрыпартызанкі, якая брала непасрэдны ўдзел у ліквідацыі партызанскага атрада беларускіх нацыяналістаў.

# БЕЛАРУСКІЯ НЕЛЕГАЛЬНЫЯ НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ МОЛАДЗІ ПАДЧАС НЯМЕЦКАЙ АКУПАЦЫІ 1941-1944 ГАДОЎ

Яшчэ адна “белая пляма” антынацысцкага Супраціву ў Беларусі — маладзёжныя кансьпірацыйныя групы, арганізацыі, якія арганізаваліся для барацьбы за незалежнасьць Беларусі. Пакуль няма падставаў сьцьвярджаць, што адбывалася гэта арганізавана, што працэс кіраваўся з аднаго цэнтру. Найхутчэй, рух быў стыхійны, ён паўставаў з ініцыятывы патрыятычнай беларускай моладзі ў розных рэгіёнах краіны.

З выяўленых намі крыніц вынікае, што на маладых людзей уплывала беларуская прапаганда, беларуская адукацыя, дазволеная нямецкімі акупантамі. У моладзі зьяўляліся парасткі патрыятызму, умацоўвалася нацыянальная сьведамасьць, разуменьне той трагічнай сытуацыі, у якую патрапіла Беларусь падчас Другой сусьветнай вайны. Некаторыя праглі дзеяньня і пачыналі нешта рабіць “на сваю руку”. Ёсьць зьвесткі, што беларускі нацыянальны Супраціў спрабаваў у 1942 годзе браць пад сваю апеку маладзёжныя групы. Аднак слабасьць нацыянальнай кансьпірацыі, адсутнасьць структураў ва ўсіх раёнах не дазвалялі цалкам узяць пад кантроль (і што важна — пад абарону) гэты рух. У выніку, групы альбо гінулі, альбо самараспускаліся, альбо траплялі пад уплыў тых жа савецкіх партызанаў.

У гэтым паведамленьні мы прывядзем некалькі выяўленых намі фактаў стварэньня і дзейнасьці беларускіх маладзёжных кансьпірацыйных групаў і арганізацый.

Сын слуцкага паўстанца **Юстын Пракаповіч** у сваіх успамінах, выдадзеных у Польшчы*, распавядае пра падзеі ў вёсцы Кучкуны (Стаўбцоўшчына) ды яе навакольлі. Высьвятляецца, што ўжо восеньню 1941 году ў адной зь вясковых школ (Пракаповіч дакладна не назваў яе) дырэктар **Іван Кот** стварыў маладзёжную арганізацыю — **Саюз беларускай моладзі**. Безумоўна, гэта была паўлегальная арганізацыя — немцы на яе стварэньне дазволу не давалі.

---

*Пракаповіч Ю. Жыццёвыя сцежкі // Лёс аднаго пакалення (Успаміны). — Беласток, 1996, б. 14-49.

”На сходах моладзь заўсёды спявала гімн “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”, а нацыянальным святам стала 25 Сакавіка”, — успамінае Юстын Пракаповіч.* Такім чынам, СБМ умацоўваў у школьнай моладзі беларускі патрыятызм. Аднак частка хлопцаў на гэтым не спынілася. Успамінае Ю. Пракаповіч: “Незалежна ад легальнай дзейнасці ў школьным гуртку СБМ, сябры гэтай арганізацыі вялі таксама падпольную работу — шукалі па лясах пакінутую зброю. У выніку прыдбалі дваццаць стрэльбаў і адзін ручны кулямёт. У падпольнай групе было нас пятнаццаць сяброў. Нашым намерам было змагацца за поўнае вызваленне Беларусі ад нямецкіх і бальшавіцкіх захопнікаў”.**

У 1942 годзе Юстын Пракаповіч скончыў сёмую клясу і вымушаны быў пайсьці на працу. Ці дзейнічала падпольная група далей, ён ня піша. Аднак летам 1943-га ў яго хату прыйшлі савецкія партызаны з атрада імя Суворава і “запатрабавалі аддаць ім зброю, якую я і сябры Саюза беларускай моладзі назбіралі і прыхавалі ў лесе”. “Відаць, нехта з нашых юнакоў здрадзіў, — піша Юстын Пракаповіч. — Партызаны прытым паставілі ўмову: або аддам ім зброю, або забяруць у бацькоў апошнюю жывёлу. У мяне не было іншага выйсця, як аддаць частку назапашанага ўзбраення — ручны кулямёт і некалькі стрэльбаў”.***

Пасьля гэтага савецкія партызаны сталі шантажаваць Пракаповіча тым, што паведамяць паліцыі пра перадачу ім зброі. Яны прымушалі яго распаўсюджваць улёткі і рабіць дывэрсіі на чыгунцы.****

Падобная беларуская маладзёжная нелегальная арганізацыя стварылася ў Нясьвіжскай настаўніцкай сэмінарыі. Вось што ўспамінаў яе ўдзельнік **Уладзімер Кісель**: “Напрыканцы 1943 года ў семінарыі быў створаны **Саюз Беларускіх Патрыётаў**. Мы вырашылі змагацца супраць усіх акупантаў нашай зямлі, за незалежнасць Радзімы. Праўда, акрамя размоў мы нічога не рабілі. Адзіным і апошнім нашым учынкам было вызваленне настаўнікаў семінарыі з турмы. На пачатку лета [19]44-га года, калі ўжо была чутка артылерыйская кананада наступаючага савецкага войска, нехта раскідаў у семінарыі партызанскія ўлёткі. Немцы арыштавалі некалькі выкладчыкаў. Наш СБП стаў адным з арганізатараў

*Пракаповіч Ю. Жыццёвыя сцежкі // Лёс аднаго пакалення (Успаміны). — Беласток, 1996, б. 35.

**Тамсама.

***Тамсама, б. 38.

****Тамсама, б. 38-40.

акцыі пратэсту. Натоўп семінарыстаў рушыў пад будынак турмы. Напэўна, немцы сустрэлі б наша “несанкцыянаванае шэсце” аўтаматычнымі чэргамі, але пра здарэнне даведаліся ў грамадзянскай адміністрацыі. Яе супрацоўнікі прыбеглі да турмы са зброяй у руках. Яны сталі паміж немцамі і намі і пачалі дамаўляцца з турэмнай аховай, адразу папярэдзіўшы: “Калі хоць адзін стрэл будзе зроблены ў бок семінарыстаў, ні адзін немец у жывых не застанецца”. У 44-м акупанты былі ўжо не тыя, што ў 41-ым. Настаўнікаў адразу выпусцілі. Для нас гэты выпадак стаў добрым прыкладам таго, што абараніць беларуса можа толькі свая ўлада”.*

Адзначым, што ў паваенны час Ул. Кісель удзельнічаў у беларускім антыбальшавіцкім Супраціве.

Беларуская моладзь ірвалася да барацьбы і на Беласточчыне. Ю. Грыбоўскі ў сваёй працы піша: “У дакумэнтах польскага падзем’я можна натрапіць на згадкі пра дзейнасьць на тэрыторыі былога беластоцкага ваяводзтва **нелегальных груп беларускай моладзі**, гатовай да супрацоўніцтва з Польшчай і **якая стварае нават тайныя беларускія вайсковыя аддзелы**”.**

Ёсьць няпэўныя зьвесткі пра беларускую канспірацыйную групу **“Касіянеры”**, якую ў канцы 1941 году стварылі ў Воршы браты Антон і Алесь Семяновічы. Яны вырашылі самастойна змагацца за Беларусь “супраць немцаў і маскалёў”, распаўсюджвалі ўлёткі, шкодзілі акупантам на чыгунцы. З камуністычным падпольлем супрацоўнічаць адмаўляліся, але кантактавалі з дзеячамі беларускага нацыянальнага Супраціву з Віцебску і Менску. Браты Семяновічы ўдзельнічалі ў беларускай антыбальшавіцкай партызанскай барацьбе ў паваенны час.***

Гэта толькі некалькі фактаў, пра некалькі рэгіёнаў Беларусі. Спадзяемся, што далейшыя архіўныя пошукі прывядуць да новых цікавых знаходак.

**Аляксандар Будрэвіч**

*Кісель Ул. Сваю маладосць мы прысвяцілі незалежнасці Беларусі // Пагоня, 1998, 17 сакавіка. № 20.

**Grzybowski J. Pogoń między Orłem Białym, Swastyką i Czerwoną Gwiazdą. Białoruski ruch niepodległościowy w latach 1939–1956, Warszawa 2011, s. 248.

*** Ёрш С., Горбік С. Беларускі Супраціў. — Львоў, 2006, б. 342-343.

# ПРА СПРОБУ ВЫДАНЬНЯ ЯНКАМ ФІЛІСТОВІЧАМ ПАДПОЛЬНАЙ ГАЗЭТЫ “ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!”, 1952 ГОД

Янка Філістовіч (1926 — 1954?), сябра Рады БНР, агент ЦРУ, нелегальна дзейнічаў на тэрыторыі Беларусі і Летувы ў 1951-1952 гг. Акрамя выведкі займаўся арганізацыйна-прапагандовай працай: ачоліў партызанскую групу, плянаваў стварэньне партызанскай арганізацыі “Беларускія нацыянальна-вызвольныя збройныя сілы”, наладжваў выдавецкую дзейнасьць. Быў арыштаваны савецкімі органамі дзяржаўнай бясьпекі і асуджаны на сьмяротнае пакараньне.

Першую кнігу пра Янку Філістовіча выдаў Аляксандар Лукашук*. Напісаў ён яе на падставе гутарак з людзьмі, якія ведалі Філістовіча, яго лістоў ды архіўных матэрыялаў. Лукашуку ў 1992 годзе ўдалося “прагледзець некаторыя тамы сьледчай справы з архіву КГБ”.** Хіба выданьня ў тым, што аўтар падаў словы Філістовіча ў выглядзе адказаў на пытаньні суду. Але насамрэч яны былі ім “узятыя зь лістоў, яго ўласных публікацыяў у часопісе “Моладзь”, успамінаў сяброў, а таксама з пратаколаў допыту”.*** І хоць Аляксандар Лукашук падкрэсьлівае, што “словы Янкі Філістовіча — дакумэнтальна сапраўдныя”****, поўнага даверу да гэтага няма. Усё ж Лукашук напісаў мастацкі твор (“дакумэнтальную радыёп’есу”).***** Да таго ж дзіўна выглядае, што ён, пасьля азнаямленьня з крымінальнай справай Філістовіча, піша: “яго судзілі і прыгаварылі да расстрэлу ўвесну 1953-га”.****** А гэта няпраўда — суд праходзіў 4-5 лістапада 1953 году.******* Памылковую дату дагэтуль выкарыстоўваюць у сваіх публікацыях некаторыя дасьледчыкі.

Паводле Аляксандра Лукашука, “Філістовіч... выдаваў у лесе

---

*Лукашук А. Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста. — Менск: Наша ніва, 1997.

**Тамсама, б. 8.

***Тамсама.

****Тамсама.

*****Такія ж сумненьні ўзьніклі і ў дасьледчыка Алега Ліцкевіча, які меў магчымасьць азнаёміцца з крымінальнай справай Я. Філістовіча. Гл.: Лицкевич О. “Рух зусім незалежніцкі...”. Малоизвестные факты из жизни американского шпиона Янки Филистовича // Беларуская думка, 2009, № 8, жнівень, б. 74-75.

******Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста, б. 8.

*******Беларускі Рэзыстанс, 2004, № 1, б. 36.

газэту “Жыве Беларусь”. У кнізе некалькі згадак пра гэта. Напрыклад, Янка Філістовіч пералічвае рэчы, якія захоўваў у лясным лягеры: “Друкарскі набор адозвы “Жыве Беларусь” і частка накладу, які не пасьпелі раздаць, друкарскія прылады, папера, фарба”.*


podvig.gpk.gov.by

***Нямецкі аўтамат Янкі Філістовіча. Фота — праграма “Закон і крымінал”, тэлеканал СТВ, люты 2006 году***

У іншым месцы Філістовіч распавядае пра напад на друкарню МТС у Вязыні: “Нам патрабаваліся друкарскія прылады і шрыфты, каб выпускаць сваю газэту, друкаваць адозвы. Маючы ўласны выдавецкі досьвед, я ўзяў толькі самае неабходнае: касы з шрыфтамі, наборныя планкі, друкарскую фарбу і некалькі рулёнаў газэтнай паперы. Абсталяваньне разьмясьцілі ў нашым другім лягеры, ва ўрочышчы Руда, у двух кілямэтрах ад вёскі Кутляны. Пасьпелі набраць і аддрукаваць газэту “Жыве Беларусь”, а таксама ўлётку. Частку друкаванай прадукцыі пасьпелі распаўсюдзіць”.**

Паўстае некалькі пытаньняў. Першае: “Жыве Беларусь” была адозвай ці ўсё ж газэтай? Другое: Ці сапраўды яна была надрукаваная? Алег Ліцкевіч піша: “У лесе ён [Філістовіч] спрабаваў надрукаваць першы нумар газэты “Жыве Беларусь”, але безпасьпяхова, бо ня меў друкарскага валіка”.*** Ігар Валахановіч дадае: “Захоплены шрыфт і друкарскае абсталяваньне меркавалася выкарыстаць для выданьня падпольнай газэты “Жыве Беларусь!”. Аднак адсутнасьць неабходных навыкаў і некаторых дэталяў да друкарскага абсталяваньня не дало магчымасьці зьдзейсьніць заплянаванае”.****

---

*Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста, б. 51-52.

**Тамсама, б. 49.

***Беларуская думка, 2009, № 8, жнівень, б. 76.

****Валаханович И. Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944 — 1953 гг. — Минск: БГУ, 2002, б. 43; Щит и меч Отечества. — Минск, 2006, б. 178.

Такім чынам, Я. Філістовіч плянаваў выдаць газэту "Жыве Беларусь!". Аднак, насуперак сьцьверджаньням Філістовіча, якія прывёў А. Лукашук, яна не была надрукаваная.* Летам 1952-га былі надрукаваныя ўлёткі (адна ці дзьве). Прычым, адна з улётак магла мець назву "Жыве Беларусь!". Супрацоўнік дзяржбясьпекі Леў Смаленскі і ваенны юрыст Міхаіл Токараў яшчэ 20 гадоў таму сьведчылі: Філістовіч "склаў некалькі адозваў, улётак", якія "аддрукавалі і расклеялі ў вёсках на відных месцах".** У кніжцы "Белорусские буржуазные националисты" згадваюцца трафеі, захопленыя чэкістамі ў партызанскім лягеры, а сярод іх — "гатовыя матрыцы антысавецкай ўлёткі".***

Тэксты гэтых улётак нам невядомыя. Магчыма, іх сапраўды склаў Янка Філістовіч, а магчыма, што гэта былі тэксты, атрыманыя ад Барыса Рагулі і Міколы Абрамчыка. Янка Філістовіч сьведчыў: "Рагуля... перадаў мне лістоўкі "Жыве Беларусь", тэксты гімну, звароту да беларускага народу і газэты".**** Васіль Раманоўскі сьцьвярджае, што ад Філістовіча патрабавалася "арганізаваць падпольнае друкаванне антысавецкіх лістовак і адозваў, тэкст якіх наперад склалі Абрамчык і Рагуля".*****

Што да зьместу, дык, між іншым, там была прапаганда непазьбежнай вайны Захаду з СССР.****** Таксама былі "заклікі да моладзі адмаўляцца ад службы ў [савецкай] арміі, сыходзіць у лясы і ствараць... партызанскія атрады".*******

Аднак вернемся да газэты. Верагодна, упершыню яе "чарнавік" быў паказаны ў праграме "Закон і крымінал" на тэлеканале СТВ у лютым 2006 году. Пры гэтым гаворкі пра саму газэту не было — фота, нібы, дапаўняла ілюстрацыйны шэраг. На ім відаць назва газэты, якая двойчы паўтараецца і тэкст-цытата з Кастуся

---

*Аўтарам гэтых радкоў яшчэ ў канцы 1990-х выказваліся сумненьні, што газэта была надрукаваная. Гл.: Ёрш С. "У сьветлай радасьці змаганьня". Ці існаваў беларускі нелегальны друк у пасьляваеннай Беларусі? // Наша ніва, 1998, 9 лістапада, № 21; http://nn.by/?c=ar&i=93187

**Смоленский Л., Токарев М. Как он стал агентом ЦРУ // Во славу Родины, 1993, 7 ліпеня.

***Белорусские буржуазные националисты. Учебный материал. — Москва: Высшая школа КГБ СССР, 1957, б. 48.

****Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста, б.б. 44.

*****Раманоўскі В. Саўдзельнікі ў злачынствах. — Мінск: "Беларусь", 1964, б. 278

******Саўдзельнікі ў злачынствах, б. 278.

*******Во славу Родины, 1993, 8 ліпеня.




***Фота — праграма “Закон і крымінал”, тэлеканал СТВ, люты 2006 году***

Каліноўскага. Справа зьверху яна напісаная ад рукі, а зьлева — надрукаваная.

”Жыве Беларусь!” Янкі Філістовіча была апошняй беларускай партызанскай газэтай на тэрыторыі БССР (хоць і ненадрукаванай).

**Сяргей Ёрш**

# “ПАСЬЛЯВАЕННЫ МІНСК БЫЎ ПЕРАПОЎНЕНЫ ЛАЗУТЧЫКАМІ”

Дакумэнты пра барацьбу савецкіх ворганаў дзяржбясьпекі з арганізаваным беларускім паваенным Супрацівам, зьвязаным з заходнімі спэцслужбамі, дагэтуль засакрэчаныя. Адна з прычынаў — няўдач і паражэньняў там значна больш, чым перамог. І ўсё ж нейкая мінімальная інфармацыя прарываецца ў СМІ ва ўспамінах былых чэкістаў. Чатыры гады таму “БР” зьмяшчала ўрывак з

артыкула пра супрацоўніцу контрвыведкі МГБ СССР у паваенным Мінску **Клаўдзію Андрэеву**.* У ім, між іншым, былі такія словы:

*“У паваенным Мінску тым часам ішла сапраўдная тайная вайна з былымі нямецкімі пасобнікамі, паслугачамі. У тым жа серадовішчы спрабавалі вербаваць сваю агентуру і спэцслужбы ЗША... ніхто з варожых агентаў і дзеячоў антысавецкага падпольля, якія лічылі сябе спецамі ў канспірацыі, так і не распазнаў у сімпатычнай дзяўчыне ардэнаносную франтавічку, афіцэра вайсковай контрвыведкі”*.

Гэтая публікацыя ў афіцыйным выданьні ўражвае. Пра тую “тайную вайну” мы нічога ня ведаем. Тым часам “засьвяціўся” яшчэ адзін яе ўдзельнік — былы афіцэр МГБ БССР **Мікалай Паўзун** (1918 — 2007). Ён — ураджэнец Палтаўшчыны, перад пачаткам нямецка-савецкай вайны служыў на мяжы ва Украіне. Выйшаў з акружэньня, ваяваў на фронце, а ў 1943-м у складзе спэцгрупы НКВД “Активные” быў закінуты ў Беларусь. Тут і застаўся. У яго біяграфіі адзначаецца:

*“З 1946-га да 1953 году прымаў непасрэдны ўдзел у барацьбе з нацыяналістычнымі групамі на тэрыторыі Беларусі, выяўляў памагатых і здраднікаў Радзімы падчас чэкісцка-вайсковых апэрацый”*.**

У дакумэнтальным фільме БТ у 2005-м пра яго гаварылася:

*”Вайна сапраўды скончылася не для ўсіх і Мікалай Фёдаравіч атрымаў новае прызначэньне, новае баявое заданьне — пасаду гуляючага начальніка каманды “Дынама”* [Мінск]. *На справе гэта было прыкрыцьцё для зьнішчэньня лазутчыкаў. Пасьляваенны Мінск быў імі перапоўнены. І новую ролю прыходзілася іграць на працягу сямі гадоў”*.***

У тым жа годзе Мікалай Паўзун даў інтэрвію газэце *“СБ. Бела-*

---

*У паваенным Мінску ў канцы 1940-х ішла сапраўдная тайная вайна з былымі нямецкімі пасобнікамі // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 2(7), б. 167.

** Повзун Николай Федорович // http://podvig.gpk.gov.by/povzun_nicholas_federowicz/

*** Граница жизни, документальный фильм. БТ, 2005 // http://www.youtube.com/watch?v=-TKlSB5ui_U

*русь сегодня”*. У ім ён крыху дадаў дэталяў:


podvig.gpk.gov.by

*“Лічыўся гуляючым начальнікам футбольнай каманды “Дынама”. Гэта было прыкрыцьцё для галоўнай работы — зьнішчаць банды. Фашысты падчас адступленьня на нашай тэрыторыі пакідалі свае спэцгрупы. Вось за імі такія спартоўцы, як я, і ганяліся. Зрэшты, гэта ўжо гісторыі, для выкладаньня якіх трэба вычакаць яшчэ трошкі часу...”*.*

Незразумела толькі, чаму яшчэ трэба “трошкі” пачакаць? Можа прычына ў тым, што яшчэ жывыя некаторыя ўдзельнікі тых падзеяў з абодвух бакоў?

Тым часам высьвятляецца, што Мікалай Паўзун мог удзельнічаць у забойстве ў Беларусі мастацкага кіраўніка Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра Саламона Міхаэлса. Вядомы дасьледчык гісторыі савецкіх спэцслужбаў Леанід Млечын дапускае, што грузавіком, які пераехаў Міхаэлса кіраваў супрацоўнік МГБ БССР, маёр Мікалай Паўзун.**

Пра гэты эпізод нагадвае і аўтар камэнтара, пакінутага да артыкула на сайце “СБ”: “Неяк абыйшлі ўвагай яго ўдзел у забойстве **Саламона Міхаэлса** 12 студзеня 1948 году, за якое маёр Паўзун атрымаў ордэн Чырвонай зоркі”.*** Пра гэта ж піша і беларускі гісторык Ігар Кузьняцоў.****

Прайшлі ўжо шэсьць гадоў, як Паўзун памёр. Будзем спадзявацца, што паваенныя эпізоды яго дзейнасьці, якія згадваліся вышэй, будуць рассакрэчаныя ў бліжэйшыя гады.

**СЁ**

---

*Крапивин С., Нестерович В. Горячие дороги Николая Повзуна // СБ. Беларусь сегодня, 2005, 28 траўня, № 100.

**http://myrt.ru/persons/789-evgenijj-pitovranov.-kak-rodnogo-otca-proshu-vas.html

***http://www.sb.by/post/43864/

****Кузняцоў І. Як забілі рэжысёра Міхоэлса // Наша свабода, 2002, 11 студзеня.

# ВАРШАЎСКІ ДАКУМЭНТ

“БР” неаднаразова зьвярталася да гісторыі дзейнасьці ў 1920-1930-х беларускай баявой арганізацыі “Зялёны Дуб” і яе дзеячоў.* Дагэтуль апублікавана вельмі мала дакумэнтаў, якія б сьведчылі пра акцыі, пляны, лёсы зялёнадубцаў. Таму кожная знаходка — каштоўная. У гэтым нумары публікуем у перакладзе на беларускую мову заяву антыбальшавіцкіх лідараў ад пачатку 1921 году**, сярод якіх былі атаман Дзяргач (Вячаслаў Адамовіч-сын) і Станіслаў Булак-Балаховіч. У той час якраз пачыналася супрацоўніцтва “Зялёнага Дуба” і расейскіх эмігрантаў, якія аб’ядналіся ў “Брацтва Рускай Праўды”.

**ЗАЯВА прадстаўнікоў рускіх і іншых народаў збройных сілаў і арганізацыяў паўночнага і заходняга фронту ды абласьцей, якія актыўна змагаюцца з бальшавікамі і бальшавізмам**

Мы, якія ніжэй падпісаліся, прадстаўнікі рускіх і іншых народаў збройных сілаў ды арганізацыяў паўночнага і заходняга фронту і абласьцей, якія актыўна змагаюцца з бальшавікамі і бальшавізмам, стоячы няўхільна на кропцы гледжаньня неабходнасьці працягу збройнай барацьбы і аб’ёднаныя агульнай мэтай хутчэйшай перамогі над уладай бальшавікоў, абапіраючыся на сілы, якія прадстаўляем, а таксама на меркаваньне сялянскага і гарадзкога насельніцтва абласьцей, што мы прадстаўляем, гэтым катэгарычна заяўляем для інфармаваньня як рускіх колаў за мяжой, так і замежных урадаў, якія нам дапамагаюць.

1) Руская арганізаваная палітычная эміграцыя ў Парыжы, Лондане, Празе і іншых месцах, за ўвесь час нашай ўзброенай барацьбы з бальшавікамі, што доўжыцца ўжо тры гады, не толькі не аказвала нам ніякай істотнай дапамогі, але збольшага сваёй адарванасьцю ад Расеі, неразуменнем рэальных задачаў і магчымасьцяў моманту замінала нам у нашай барацьбе.

*У тым ліку і ў гэтым нумары. Гл. допіс Васіля Сушка “Як атаманы Дзяргач і Хмара прадавалі латышам квітанцыю за 500 долараў”.
**Яна была апублікаваная ў расейскім манархічным часопісе “Двуглавый Орелъ” (Бэрлін): 1921, 1(14) красавіка, пяты выпуск.

2) Руская арганізаваная палітычная эміграцыя за мяжой сваёй блізарукай і цалкам кабінетнай палітыкай у адносінах да нацыянальнасьцяў і дзяржаваў на ўскраінах, якія адкалоліся ад Расіі, пастаянна ставіла і працягвае ставіць і ўсіх іншых, што змагаюцца з бальшавікамі не на словах, а са зброяй у руках у цяжкае і часта бязвыхаднае становішча.

3) Калі б верхаводы арганізаванай рускай палітычнай эміграцыі за мяжой, замест нарадаў паміж сабой і партыйных спрэчак, якія доўжацца ўжо тры гады, далі сабе працу пабываць у нас на месцах і ўбачыць на свае вочы тое, што там робіцца — мажа быць не было б дапушчана столькі памылак, пагібельных для нашай агульнай справы.

4) Арганізаваная руская палітычная эміграцыя за мяжой сваімі спрэчкамі, нязгодай і поўнай адарванасцю ад сапраўднай рэальнай справы барацьбы, пры сваих выступах і хадайніцтвах перад урадамі замежных дзяржаваў, толькі перашкаджала нашай барацьбе, часта уводзячы ў зман замежнікаў, кампрамітуючы ў той жа час антыбальшавіцкую справу.

5) Прадстаўнікі саюзных дзяржаваў на месцах барацьбы, у асобных выпадках, разумеючы сапраўдныя задачы моманту, атрымліваюць з сваіх цэнтраў, часьцяком зусім супярэчлівыя інструкцыі і гэтым ня толькі не спрыяюць агульнай працы, а ўсяляк ёй перашкаджаюць. На думку змагарных сілаў і арміі, якія стаяць за намі, гэта адбываецца ад таго, што рускае прадстаўніцтва за мяжой ня ўмее адпаведным чынам інфармаваць саюзныя ўрады і такім чынам ня мае для рускай справы ніякага значэньня. Прадстаўніцтва гэтае вырадзілася ў самую звычайную палітычную эміграцыю, адарваную ад агульнай рускай справы, чужую рускаму народу і арміі, бескарысную і нават шкодную ў справе барацьбы.

6) Калі б сродкі, якія траціліся рускай палітычнай эміграцыяй за мяжой былі б выкарыстаныя на практычную справу барацьбы на месцах, а не за мяжой у Парыжы і ў іншых гарадах, на незьлічоныя ўстановы і прадстаўніцтвы іх там, наша ўзброеная барацьба, магчыма, даўно мела б іншыя вынікі і добраахвотнікі не паміралі б ад тыфу і голаду.

7) У рускіх заможных людзей таксама з часам спытаюць — дзе

яны былі, калі іх браты белыя салдаты добраахвотнікі ішлі на смерць за радзіму і яе свабоду. Няхай памятаюць таксама тыя, якія свае сілы і свае веды, патрэбныя ў справе барацьбы, марнуюць на свае справы, што ўсе, хто змагаецца з бальшавізмам са зброяй у руках, не забудуць ім іх бязьдзеяньня, карысьці і баязьлівасьці.

8) На падставе вышэйпададзенага, мы і ўзброеныя сілы, арганізацыі, зялёныя і насельніцтва, якія стаяць за намі, не можам прызнаваць арганізаваную рускую палітычную эміграцыю за мяжой выказьніцай думкі антыбальшавіцкай Расеі і антыбальшавіцкіх змагарных сілаў. Ведаючы, што зноў пачынаюцца за мяжой нарады, мы катэгарычна пратэстуем супраць усіх спробаў стварыць з асяродзьдзя гэтай эміграцыі зноў новыя нібыта аб’яднаныя палітычныя цэнтры, якія прадстаўлялі б сабой антыбальшавіцкую Расею.

9) Мы настойваем на неабходнасці арганізаванай рускай палітычнай эміграцыяй у замежжы скончыць ўсе спрэчкі і нарады, не перашкаджаць нам у справе барацьбы, а ўзяць у ёй пасільны ўдзел на месцах, бо барацьба ў нас працягваецца.

10) Адначасова мы заяўляем: у цяперашні момант усе антыбальшавіцкія сілы і арганізацыі, якія актыўна змагаюцца, аб’яднаныя з поўначы да поўдня, аб’ядноўваюцца з антыбальшавіцкімі арганізацыямі, якія знаходзяцца ў савецкай Расеі.

11) Таму мы прапануем: Рускай арганізаванай эміграцыі за мяжой злучыцца з намі, для сумеснай барацьбы па адным агульным і абавязковым для ўсіх пляне.

Камандуючы і кіраўнік антыбальшавіцкімі сіламі і арганізацыямі на поўначы і ў прылеглых да Фінляндыі і Эстоніі абласьцях палкоўнік **Эльвенгрэн**.

Камандуючы ўзброенымі атрадамі на мяжы Пскоўскай і Віцебскай губ[эрняў] ген.-лейт. гр[аф] **Пален**.

Ад сялянскіх паўстанцкіх атрадаў у Беларусі атаман партызанскіх дружынаў сялянскай партыі Зялёнага Дуба **Дзяргач**.

Камандуючы Народнай Ахвотніцкай арміяй ген.-м[аёр] **Булак-Балаховіч**.

Камандуючы партызанскімі атрадамі Народнай Ахвотніцкай Арміі ген.-м[аёр] **Яраслаўцаў**.

Камандуючы 3-яй рускай Арміяй і зьвязаных зь ёй паўстанцаў ген.-м[аёр] **Пермікін**.

Далучаюся да выкладзенага вышэй меркаваньня. Прадстаўнік паўстанцкіх атрадаў усёй Украіны кап[ітан] **Некрашэвіч**.

Паводле паўнамоцтва казакоў: Данскіх, Уральскіх, Церскіх і Арэнбургскіх, есаул **Сальнікаў**, Камандзір Асобай казачай брыгады.

*Апублікавана ў манархічным расейскім часопісе “Двуглавый Орелъ” (Бэрлін), 1921, 1(14) красавіка, пяты выпуск. Перадрукоўваецца ў перакладзе на беларускую мову паводле наступнай крыніцы: http://archive.apologetika.eu/modules.php?op=modload&name=News&file=article&sid=1087*

# БЕЛАРУСКІ ЧАСОПІС “ВАЙСКОВЫ”, 1921 ГОД. ПЕРАДРУК

Стваральнікі праекту “Беларуская Народная Рэспубліка” не змаглі ў 1918-м арганізаваць беларускае войска. Не маючы ўласнай збройнай сілы (калі не лічыць партызанскіх адзінак і арганізацый), дзеячы БНР мусілі шукаць паразуменьня з суседзямі ў справе стварэньня вайсковых адзінак. Разрэкламаваны ў 1919-1920 гг. праект стварэньня “беларускага войска” пры падтрымцы польскіх узброеных сілаў фактычна застаўся толькі інструментам прапаганды. Пазьней, восеньню 1920-га, беларускія вайсковыя адзінкі зьявяцца ў складзе арміі генэрал-маёра Ст. Булак-Балаховіча.* Але першымі, яшчэ ў канцы 1918-га, рэальныя беларускія вайсковыя адзінкі паўсталі ў складзе летувіскага войска. Гэтаму паспрыялі

**Гл. у гэтым нумары “БР” успаміны Ядвігіна Ш. “На абарону Бацькаўшчыны” пра “палескі паход” Балаховіча.*

дамоўленасьці летувіскіх уладаў і Ураду БНР.

Спачатку беларускія аддзелы арганізаваліся ў Горадні ды кантралявалі горад і навакольле. Калі вясной 1919-га туды ўвайшлі польскія войскі ды раззброілі беларусаў, частка аддзелаў вырвалася з Горадні ў Летуву. Там фармаваліся ўжо новыя беларускія фармацыі ў летувіскім войску. Паводле падлікаў **Аляксандра Ружанцова** (псеўданім "Алесь Смаленец", 1893 — 1966), праз беларускія часткі летувіскага войска ў 1918-1923 гг. прайшлі каля 2-2,5 тыс. чалавек — афіцэраў, падафіцэраў і жаўнераў. Гэта былі пераважна ўраджэнцы Ковеншчыны, Віленшчыны і Гарадзеншчыны.*

Нягледзячы на тое, што ў беларускіх аддзелах былі пераважна жаўнеры-беларусы, камандзірамі іх часта былі расейскія афіцэры.** З аднаго боку, не хапала беларускіх афіцэраў у вышэйшых рангах, зь іншага — летувісы страхаваліся ад узрастаньня беларускай нацыянальнай сьведамасьці сярод вайскоўцаў ды магчымых нечаканых наступстваў. Камандзір беларускага асобнага батальёну, які ваяваў супраць бальшавікоў на ўсходні фронце, Аляксандр Ружанцоў у лістападзе 1920-га быў арыштаваны летувіскімі ўладамі. За кратамі ён правёў амаль 2 месяцы, яго абвінавачвалі ў "здрадзе Летуве". Нібыта, у выдаваных пры аддзеле беларускіх пэрыёдыках ён вёў прапаганду супраць летувіскага войска і Летувіскай рэспублікі, за адарваньне ад яе земляў і ўключэньне іх у склад незалежнай Беларусі. Аднак у выніку абвінавачаньні зьнялі і Ружанцова вызвалілі.***

Сытуацыя не зьмянілася і ў наступныя гады. Адзін з беларускіх вайскоўцаў пісаў у віленскую беларускую газэту "Крыніца":

*"На паперы наш батальён лічыцца беларускім, але на жаль усё беларускае, што было ў ім раней пры старым камандзеру маёру Ружанцу, цяперака скасавана маскалямі ахвіцэрамі з рожных белых арміяў зьляцеўшыхся да часткі... І пануець моцна "единая и неделимая"*... Зусім замала беларусаў ахвіцэраў: Разумовіч,

---

*Smaleniec A. Achvotniki biełaruskich častak Litoŭskaha Vojska // Krynica, 1939, № 12, 29 сьнежня.

**Гл. наступную публікацыю па тэме: Каранец В. Пра рускага афіцэра палкоўніка Ўсьпенскага // Беларускі Рэзыстанс, 2012, №2 (13), б. 18-21.

***Антонаў А. Аляксандр Ружанцоў: Накіды да біяграфіі // Беларускі гістарычны агляд, 2009, Т. 16, Сш. 2; http://www.belhistory.eu/andrej-antona%D1%9E-alyaksandr-ruzhanco%D1%9E-nakidy-da-biyagrafii/

Валасовіч, Маёраў, Якаўлеў, капэлян Корчынскі.

Але што можа зрабіць жменька напроціў моцнай грамады маскалёў з самым камандзерам, "старым кадравым палкоўнікам" Успенскім на чале?".*

Нават у неспрыяльных умовах Аляксандар Ружанцоў намагаўся пашыраць нацыянальную сьведамасьць сярод беларускіх вайскоўцаў. Ён прыкладаў намаганьні па распрацоўцы беларускай вайсковай тэрміналёгіі, перадрукоўваў выдадзеныя ў Польшчы кніжкі Беларускай Вайсковай Камісіі. Гэта дзякуючы яму зьявіўся беларускі вайсковы друк.

Пры Беларускім асобным батальёне са сьнежня 1919-га на шапірографе** выдавалася газэтка "Варта Бацькаўшчыны". Афіцыйныя летувіскія выданьні крытыкавалі яе выдаўцоў найперш за тое, што яны лічылі Вільню беларускім горадам ды марылі пра незалежную Беларусь.*** На сакавік 1920 г. выйшлі 9 нумароў.****

Пасьля вызваленьня з-пад арышту А. Ружанцоў ужо працаваў у Коўне ў Генэральным штабе Летувіскага войска. Толькі некалькі месяцаў ён счакаў ды зноў узяўся за выдавецкую дзейнасьць. На гэты раз Ружанцоў засноўвае "двутыднёвік для беларусаў-вайсковых Літоўскага Войска" пад назвай "**Wajskowy**" ("Вайсковы"). Выданьне рэдкае, таму ня дзіўна, што А. Антонаў памылкова піша пра выданьне Ружанцовым з 1 ліпеня да 25 лістапада 1921-га "Беларуса вайсковага".***** Насамрэч, "Вайсковы" (менавіта так гучала назва) выходзіў ад 1 траўня 1921 году. Апошні вядомы нам

---

*Žaŭnier-katalik. Biełaruski asobny baon // Krynica, 1921, № 28, 18 верасьня. Гл. таксама: Аб пераходзе партызанаў Беларускага Стралецкага Саюза ў БССР у 1923 г. // 2012, 1 лютага; http://jurkesha.livejournal.com/6507.html

** Па цяперашніх часах шапірограф — вельмі прымітыўнае прыстасаваньне для памнажэньня рукапісных/друкаваных матэрыялаў, малюнкаў. На два валікі наматваўся тоўсты аркуш прапускной паперы, прасякнуты вадкім растворам з клею, вады, аміяку, цукру і гліцэрыну, абавязкова высушаны. Праз 2-3 дні паперу змочвалі вадой і накладалі на яе аркуш з тэкстам ці ілюстрацыямі, прыціскалі. Пасьля гэтага можна накладваць чыстыя аркушы паперы — шапірограф працуе як "ксэракс". На шапірографе ў другой палове 1940-х выдаваліся некаторыя выданьні і ўлёткі беларускіх антыбальшавіцкіх партызанаў.

***http://www.belhistory.eu/andrej-antona%D1%9E-alyaksandr-ruzhanco%D1%9E-nakidy-da-biyagrafii/

****А. С. Гістарычны Календар Беларускіх аддзелаў Літ. Войска // Krynica, 1940, № 27(736), 5 сакавіка.

***** http://www.belhistory.eu/andrej-antona%D1%9E-alyaksandr-ruzhanco%D1%9E-nakidy-da-biyagrafii/

нумар (дзясяты) пазначаны 25 лістапада 1921-га. Выданьне таксама было рукапіснае і памнажалася на шапірографе.* Спачатку яно друкавалася выключна беларускай лацінкай, пасьля пачалі зьяўляцца артыкулы і на "гражданцы", а пасьля выданьне цалкам на яе перайшло. Нібыта, лацінку забаранілі летувіскія ўлады. Спачатку "Вайсковы" быў газэткай, але пасьля яго аб'ём павялічыўся, сталі больш разнастайнымі матэрыялы, і ён пераўтварыўся ў часопіс. Пры гэтым тэхнічныя сродкі яго выданьня не зьмяніліся.**

А. Ружанцоў працягваў трымаць цесныя сувязі з беларусамі Вільні, з газэтай "Крыніца", дзе зьмяшчаліся яго допісы. Часам яны падпісваліся ад імя рэдакцыі "Вайсковага".*** Вядома, што ў 1921-1922 гг. пры Беларускім асобным батальёне выдаваўся пэрыёдык "**Сьветазар**".**** На жаль, нам не ўдалося выявіць ніводнага нумару гэтага выданьня. Верагодна, апошнім беларускім выданьнем А. Ружанцова стала "вялікодная часопісь" пад назвай "Беларус-вайсковы".***** Яна пазначана 16 красавіка 1922 году. У ім зьмяшчалася рэкляма "Сьветазара", а значыць на той час (вясна 1922-га) ён яшчэ выходзіў.

У гэтым нумары "БР" мы перадрукоўваем першыя тры нумары "Вайсковага", якія захоўваюцца ў зборах Літоўскай нацыянальнай бібліятэкі ў Вільні.

---

*Žaŭnier-katalik. Biełaruski asobny baon // Krynica, 1921, 18 верасьня, № 28, б. 7. Адзін з чытачоў скардзіўся: "Газэтка нішто сабе, толькі другі раз цяжка разьбіраць шапірографаваныя літаркі, асабліва як атрамэнт расплываецца".

**Тамсама.

***15-yja ŭhodki biełaruskaha adradzenskaha druku // Krynica, 1921, 25 верасьня, № 29.

****А. См. Гістарычны Календар Беларускіх аддзелаў Літоўскага Войска // Krynica, 1940, № 7(716), 26 студзеня.

*****Беларус-вайсковы // 2011, 8 студзеня; http://burk001.livejournal.com/39359.html?thread=87743



WAJSKOWY.

74 (KARYS.)

Dwutydniowik dla bielarusaŭ - wajskowych Litoŭskaha Wojska.

| | | |
|---|---|---|
| № 1. | Wydańnie Literaturnaha Addzielu Heneralnaha Štabu. | 1921. 1. V. |

1921 h. Traŭnia 1 d.
Koŭna.

Wajskowyja - bielarusy Litwy nia miejuć mahčymaści čytać bielaruskija časopisi, bo ŭsie jany, wychadziŭšyja ŭ Litwie (Baćkaŭščyna, Časopiś Ministerstwa Bielaruskich Spraŭ, Warta Baćkaŭščyny, Pahonia i inšyja) spynilisia praz roznyja pryčyny ŭ 1919-20 h. h.

Atrymliwać časopisi na rodnaj mowie z Wilni, Horodni ci Miensku — nadta ciažka. Dyk woś, Literaturny Addziel Heneralnaha Štabu praz usio heta ličyć patrebnym pačać wydańnie dwutydniowiku dla bielarusaŭ - wajskowych.

Niema hutarki, jak wialika patreba ŭ wydańni časopisi na rodnaj mowie. U toj čas, kali ŭsie mienščaści Litwy, jak žydy, palaki, niemcy i maskali majuć dość swaich wydańniaŭ, tylko bielarusy prymušany čytać časopisi ŭ čužych dzieła ich polskaj ci maskalskaj mowach.

# ВАЙСКОВЫ

## (KARYS)

Двутыднёвік для беларусаў-вайсковых Літоўскага Войска.

**№ 1.**

**1921. 1. V.**

Выданьне Літэратурнага Аддзелу Гэнэральнага Штабу.

***

1921 г. Траўня 1 д[зень].
Коўна.

Вайсковыя-беларусы Літвы ня меюць магчымасьці чытаць беларускія часопісі, бо ўсе яны, выхадзіўшыя ў Літве (Бацькаўшчына, Часопісь Міністэрства Беларускіх Спраў, Варта Бацькаўшчыны, Пагоня і іншыя) спыніліся праз розныя прычыны ў 1919-20 г.г.

Атрымліваць часопісі на роднай мове з Вільні, Городні ці Менску — надта цяжка. Дык вось, Літэратурны Аддзел Гэнэральнага Штабу праз усё гэта лічыць патрэбным пачаць выданьне двутыднёвіку для беларусаў-вайсковых.

Нема гутаркі, як вяліка патрэба ў выданьні часопісі на роднай мове. У той час, калі ўсе меншчасьці Літвы, як жыды, палякі, немцы і маскалі[,] маюць досьць сваіх выданьняў, тылько беларусы прымушаны чытаць часопісі ў чужых дзеля іх польскай ці маскальскай мовах.

Мусім спадзявацца, што беларусы, як вайсковыя, так і грамадзяне падтрымаюць сваю часопісь прысылкай матэрыялаў, усё роўна на якой, абы толькі зразумелай, мове (беларускай, літоўскай, польскай, украінскай ці маскоўскай), усё роўна лацінкай ці гражданкай.

“Вайсковы” друкуецца лацінкай праз тое, што яна больш зразумела дзеля жаўнераў-беларусаў-каталікоў, але іх у радох Літоўскіх войск вялікая перавага. Апрача гэтага лацінка зразумела і для літоўцаў, і для палякаў, і для чэхаў, і для немцаў і для ўсіх другіх

народаў Захаду, гражданку ж зразумеюць толькі маскалі, украінцы і балканскія народы.

З цьвердай верай ў дапамогу з боку ўсіх сьвядомых беларусаў, з надзеяй на спагаднасьць выпускаем гэты першы нумэр.

***



***Бойка з чырвонымі маскалямі ў летку 1919 г.***
***Малюнак М. Сьцяпэнко***

***

“Ты той мой брат, каго звац беларусам,
Роднай мовы сваей не цурайся;
Як не зрокся яе пад прымусам,
Так і вольны цяпер не зракайся…”.
**Алесь Гарун**

***

# ЖАЎНЕРСКІЯ ГУТАРКІ
## І. ЖАЎНЕРКА.

“Хто хоча раскошна жыць,
Хай ў жаўнерку ідзе служыць...”.
З жаўнерскай песьні.

Ты — **жаўнер**.

Гэта твая **Карысьць** і **Гонар**. Карысьць затым, што звальняюцца ад жаўнеркі толькі тыя нешчастныя, што па хілкасьці, хваробе ці абязвечаньню не здатны да яе.

Гонар — затым, што быць ў жаўнерцы гэта ёсьць службай ЛІТВЕ, служыць жа ёй — гонар для кожнага БЕЛАРУСА — ЖЫХАРА ЛІТВЫ,

Злачынныя людзі, якім адыбраны іхнія грамадзкія правы[,] да жаўнеркі не прыймаюцца, як не вартыя гэтага гонару.

Будзь пышным (так у тэксьце — **БР**) за свой стан жаўнера, весела, з шчырым сэрцам споўні свой абавязак.

Калі табе скажуць, што твая мэта — забіваць, адкажы такому прамоўцэ, што твая служба ў тым, каб абараняць БАЦЬКАЎШЧЫНУ, і што жаўнер, забіўшы ворага, рызыкуючы сваім жыцьцём, не забіўца, але ГЕРОЙ. Забіўца забівае бязьвінных з мэтай нізкай нажывы, жаўнер жа забівае тых, хто сам пасягае на жыцьцё другіх.

Калі табе скажуць, што вайна беззаконьне, каторому ты памагаеш, служачы ў войске, адкажы, што толькі тады страна будзе жыць у міры і шчасьлівасьці, калі яе войска будзе моцнае, добра вышкаленае і пакорнае; інакш ворагі скарыстаюць яе бязсільле і пачнуць вайну.

ЖАЎНЕРКА — ГЭТА НАІСЬВЯЦЕЙШЫ АБАВЯЗАК!

Што жа дасьць табе сьмеласьць і моц пры спаўненьні тваёй службы?

Раней за ўсё думка, што ты служыш Бацькаўшчыне, а потым сьвядомасьць. Служба твая для Айчыны вельмі патрэбна.

Калі табе будзе цяжка пры вучэньні ці пры ціжарнэй працы, табе заўсёды прыдасьць духу думка, што ты робіш усё гэта дзеля БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!

*(Працяг будзе)*

**Алесь Смаленец**

***

## МЫ БЕЛАРУСЫ…

Пэўне будзіце дзівіцца, што я Вас беларусамі называю, але чакайце — вы дык і сапраўды Беларусы. Што ж гэта Беларус? — пытаюць мяне суседзі. Адзін стары дзядзька Міхал казаў: “я ўжо шэсьцьдзесят гадоў жыву, а з роду ня чуў, што мы Беларусы”. Вось і гавары з людзьмі: здзівіўся Гнедка, што яго канём называюць. — Вось, браты беларусы, мы як і шмат другіх народаў, таксама есьмо асобны народ. Вы бачылі немцаў — яны, яны, ці жаўнеры, ці ахвіцэры, ці ксяндзы — усе немцы; бабы іхнія — немкі; дзеці іх немчанеты. Таксама французы — і малыя, і старыя ў іх усе французы. Маюць свой край, маюць сваю гутарку, асобныя прывычкі. Цяпер жа назаві ў вочы немца французам, або француза немцам, дык дасьць табе перцу, ледзь уцячэш. — А як жа ў нас?

Мы таксама, як і другія народы, маім сваю гутарку; простая наша гаворка, але родная і для нас дарагая. Маім свой Край, зямлі многа, прастору, бароў, рэкаў, вазёраў. Маглі б мы быць шчасьлівы, толькі ўся бяда, што не ведаім, як называемся. Кажым, што мы “тутэйшыя”. Яно то праўда, але гэтага мала, бо кожны ў сваім краі “тутэйшы”. Другія паблуталі народ і веру; кажуць: “мы польскія”, або “рускія”.

Не, браткі, мы ані польскія, ані рускія, мы саўсім інакшыя: МЫ БЕЛАРУСЫ!

Апавядаў мне адзін бывалы чалавек. “Перш, — казаў ён, — я так сама не разумеў хто я такі. Я думаў і называў сябе “палякам”. Здарылася мне быць прад вайной у Польшчы. Сэрца маё цешылася: я каталік. Быў у касьцелах пекных, ламаў язык[,] каб пекна па польску гаварыць. Аднак палякі крыва на мяне паглядалі. Як прышлося работы шукаць, то яшчэ горэй выйшла.

Так і вярнуўся да хаты. Не далей, як у два гады, пасля таго, уцекалі мы ад вайны да Расеі. Там ізноў бяда, маскалі лаюць нас “паляцкай мордай”. Хто ж мы[,] калі гэтак? Нігдзе нас не прымаюць. У Расеі і ў Польшчы мы чужыя. Па літоўску ня ўмеем — то ж мы ні літвіны.

Мы Беларусы — вось хто мы!

**Язэп Гаротны**
[з кал. “Крыніца”]

***

**Апошнія навіны**

**Плебісцыт ў Віленшчыне** ня мог адбыцца, бо Літва і Польшча ня прышлі да згоды па пытаньню: на якой тэрыторыі павінен бы адбыцца плебісцыт і некаторым іншым. Сойм у Вільні? Без беларусаў, ліцьвінаў, жыдоў і іншых жыхароў Віленшчыны? Разумеецца, для польскіх партый такі сойм проста рай. Але Ліга Народаў склікала на 18-е красавіка конфэрэнцыю ў Бруксэлі з прэдстаўнікоў Літвы і Польшчы.

"Наша Думка"

**Беларусы ў Лацьвіі.** Рыжскім Беларускім Культ.-Прасв. Таварыствам "Бацькаўшчына" арганізаваны лекцыі па беларускаму пытаньню ў Дзвінску, Люціну, Рэжыцы, Краслаўцы і Глаксту. Беларусаў у Лацьвіі зарэгістравана 58,705 , ці тое 3,30% латвійскіх грамадзянаў. З боку ўсіх урадоўцаў адносіны да беларускай нацыянальнай меншасці самыя найлепшыя. Найбольш цёпла адносіцца да беларусаў сам Прэзідэнт Рэспублікі — грамадзянін Чакстэ.

"Наша Думка"

**"Хатнія" справы.** Між Савецкай Расеяй і Савецкай Беларусіяй заключана тайная вайсковая і экономічная ўмова.

**Прэдстаўнікамі Літвы** ў Бруксэль паехалі п. Гальваноўскі, віцэ-міністэр замежных спраў Клімас і сябра Сойму Розэнбаўмас. З імі выехаў і Шэф Гэнэральнага Штабу Палкоўнік Клешцінскі.

**3-і зьезд культурна-асьветных камісіяў** Літоўскага Войска адбыўся ў Коўні з 12 красавіка і цягнуўся амаль што ня тыдзень. Прэдстаўнікамі часьцей зроблены даклады, прачытана некалькі лекцыяў. Пратаколы зьезду будуць па надрукаваньні разасланы культ.-асьв. камісіям.

**Вышэйшыя ахвіцэрскія курсы** адчыніліся 15 красавіка ў м. Коўні.

Вялікі пажар зноў зьнішчыў амаль што ня цэлы квартал у Коўні напроціў Гэнэральнага Штабу. Была нябязпека за Гэн. Штаб, Армейскі Суд, але іх здолелі адстаяць. Пачаўся пажар аб 14 гадз. 27 красавіка.

***

**Беларуская хроніка**

Літэратурны аддзел Гэнэральнага Штабу прыступіў да выданьня “Беларускай Вайсковай Кніжкі”, у якую вайдуць прыблізна такія кнігі: 1) “Каманды і назовы ў беларускіх аддзелах”, 2) “Ваярскі Лірнік” /зборнік вершаў беларускіх песьняроў/ і іншыя.

***

**Хто ты гэткі?**

Хто ты гэткі?
— Свой, тутэйшы.
Чаго хочаш?
— Долі лепшай.
Якой долі?
— Хлеба, солі.
А што болей?
— Зямлі, волі.
Дзе радзіўся?
— У сваей вёсцэ.
Дзе хрысьціўся?
— Пры дарожцэ.
Чым асьвенчан?
— Кроўю, потам.
Чым быць хочэш?
— Ня быць скотам...
**Янка Купала**



***

**ЗАГАДЫ ВОЙСКУ**

№ 81. 10 красавіка 1921 г.

Уходзячы з пасады Дзяржаўнага Гэтмана, зварачываюся да Вас, слаўныя абаронцы Бацькаўшчыны з словам разьвітаньня. Літоўскаму войску даводзіцца перажываць цяжкія, але разам з

гэтым і шчасьлівыя часы. Цяжкія затым, што ўвесь час будаваньня нашай Дзяржавы, на нас навалівалісь ворагі і орды іх яшчэ не адрынуты, іх хвалі яшчэ не адхлынулі: ўсход Літвы з Вільняй яшчэ пад варожай уладай. Шчасьлівыя затым — што даводзіцца ў гэты дні будаваць незалежную Літву і яе, разлучоную, зьбіраць у адно. Літ. Войска, перанёсшы вялікія лішэньня, слаўна споўніла і споўніць свой абавязак прад Байцькаўшчынай. Няхай жа баявое шчасьце праваджаець яго да канца, калі завее вялікі сьцяг адзінай Літвы на Віленскім Замку! Нехай жыве слаўнае Літоўскае Войска! Нехай жывець гоноровыя абаронцы Літвы! Нех жые на векі Літоўская Незалежная Рэспубліка!

Міністэр абароны Краю

Палкоўнік-лейтэнант **К. Жукас**


WYDAWIECTWA:
Lit.addziel Henštabu.

Časopisi Literaturnaha
Addziełu Hener. Štabu:
1. „KARYS"
(raz ŭ tydzień)
2. „ATSPINDŽIAI"
(raz ŭ miesiac)
3. „MŪSŲ ŽINYNAS"
(raz ŭ try miesiacy)
4. „WAJSKOWY" – pa biełarusku – (raz ŭ 2 tydni).

ADRES: KAUNAS, GENERALIO ŠTABO, LITERAT. SKYRIUS.

№ 82. Параграф 1. Абвешчаецца указ Прэзідэнта Рэспублікі ад 7 красавіка г. г.

“На моцы час[овай] літоўск[ай] Канстытуцыі параграф 8 a. d. і e. міністра абароны краю, час[ова] спаўн[яючага] абавязкі Дзяржаўнага Гэтмана — палк[оўніка]-лейт[энанта] Жукас, паводле яго прозьбы, звальняю з займаемай пасады. Падпісалі: Прэзідэнт Рэспублікі А. Стульгінскі*, Першы Міністэр К. Грынюс**”.

Параграф 2. Абвяшчаецца ўказ Прэзідэнта Рэспублікі ад 7 красавіка гэтага году: “На моцы час[овай] літоўск[ай] канстытуцыі параграф 8 a. a. па прэдстаўленьню першага міністра ад 7 красавіка назначаю прафэсара Яна Шымкуса Міністрам Абароны Краю. Падпісалі: Прэзідэнт Рэспублікі А. Стульгінскі; Першы Міністэр К. Грынюс.

---

*Аляксандрас Стульгінскіс (1885 — 1969) — прэзідэнт Летувіскай Рэспублікі ў 1920-1926 гг. — БР.

**Казіс Грынюс (1866 — 1950), прэм’ер-міністар Летувіскай Рэспублікі ў 1920-1922 гг., прэзідэнт Летувіскай Рэспублікі ў чэрвені-сьнежні 1926 году. — БР.

Выдавецтва:
Літаддзел Гэнштабу.

Часопісі Літэратурнага Аддзелу Гэнэр. Штабу:
1.”KARYS” (раз у тыдзень)
2. “ATSPINDŽIA!” (раз у месяц)
3. “MUSU ŽINYNAS” (раз у тры месяцы)
4. “WAJSKOWY” — па беларуску (раз у 2 тыдні).

АДРЭС: KAUNAS, GENERALIO ŠTABO, LITERAT. SKYRIUS.

*H. Š.L.A. ŠAPIROHRAPNIA.*

***

KARYS. KOŠT 3 AUKSIN.

# WAJSKOWY

Dwutydniowik dla biełarusaŭ-wajskowych na Litwie.
Wydańnie Literaturnaha Addziełu Heneralnaha Štabu.
№ 2. Koŭna. 16 traunia 1921 h.

## ŠTO HETA ZNAČYĆ.

Cikawyja, kali nie skazać bolej, rečy možna zaŭwažyć z biełaruskaj pracy ŭ Litwie.

Woś užo blizka dwa z pałowaj hadoŭ pracujuć biełarusy u Litwie. Mnoha za hety čas pierajšło „praz Litwu" ludziej, pryšli jany nowyja, praudziwyja biełarusy, adradzilisia i pajšli dalej na Biełaruś u asiarodki narodnych hramad.

Ale mnoha ludziej i asieła tut pad widam biełarusaŭ. Što ž rabić, prychodzicca-ž choć na rešci nazwać rečy swaim imiem....

Poličecie, bolej za dwa hady!...

Bolej za dwa hady jany pracujuć u biełaruskaj sprawi na Litwie, jedziać chleb, chawajucca pad biełaruskaje imia i nie dajuć sabie pracy choć pawažać biełaruskuju mowu, nie mohuć, nie chočuć wyučycca biełaruskaj hutarce i pišmu!...

Jašče bolej, nawet nie robiać da hetaha nijakich zachodaŭ....

Kali b sprawa jšła ab miesiacach, nawet ab adnym hodzie, ale tut taki wahromnisty srok!

KARYS.

# ВАЙСКОВЫ

Двутыднёвік для беларусаў-вайсковых на Літве.

Выданьне Літэратурнага Аддзелу Гэнэральнага Штабу.

Коўна. № 2. 16 траўня 1921 г.

Кошт 3 аўксін.*

**Што гэта значыць**

Цікавыя, калі не сказаць болей, рэчы можна заўважыць з беларускай працы ў Літве.

Вось ужо блізка два з паловай гадоў працуюць беларусы ў Літве. Многа за гэты час перайшло “праз Літву” людзей, прышлі яны новыя, праўдзівыя беларусы, адрадзіліся і пайшлі далей на Беларусь у асяродкі народных грамад.

Але многа людзей і асела тут пад відам беларусаў. Што ж рабіць, прыходзіцца хоць на рэшці назваць рэчы сваім імем...

Полічэце, болей за два гады!..

Болей за два гады яны працуюць у беларускай справі на Літве, едзяць хлеб, хаваюцца пад беларускае імя і не даюць сабе працы хоць паважаць беларускую мову, не могуць, не хочуць выучыцца беларускай гутарцэ і пісьму!..

Яшчэ болей, навэт не робяць да гэтага ніякіх заходаў...

Калі б справа йшла аб месяцах, навэт аб адным годзе, але тут такі вагромністы срок!

Што гэта значыць?

Калі гэта — разумовая слабасьць, дык аб чым тады клапоціцца Дэпартамэнт Абароны Здароўя?

Калі гэта сумысны сабатаж, дык аб чым дбаюць Беларускія Нацыянальныя Установы?

Калі-ж гэта зьдзек над беларускай мовай, над беларускім народам, не вера ў яго, дык зачым кормяцца гэтыя людзі хлебам, калі

*У 1921 годзе плацёжным сродкам у Летуве былі остмаркі альбо аўксінасы. Літы былі ўведзеныя восеньню 1922 году. — “БР”.

праўдзівыя беларускія дзеці гнаяцца па кутох, шукаючы працы на карысьць Бацькаўшчыны?..

Паблажкі, заплюшчываньня вачэй, адклады — маглі-б быць патрэбны раней, спачатку, але не цяпер, на трэцьцім гаду працы ў Літве!?..

Беларуская справа, гэта не справа добрачыннасьці для падкідышаў-чужынцаў, і тым барджэй для людзцаў такога гатунку!

Можна сабе зразумець, што будуць рабіць з беларускай ідэяй ўсе гэтыя людзі, калі, не дай Бог, іх старыя мэты атрымаюць хоць нейкі грунт: як яны будуць зьдзекувацца над беларускай справай, паскудзіць беларускае імя, памагаць тапіць беларускіх незалежнікаў...

Людцы, якія болей двох гадоў абходзяць беларускую мову, і тым самым высьмейваюць яе, усё могуць...

Усё могуць!

Тады што-ж гэта значыць?!

**Я. КАЦУБА**

***

ВУЧЫЦЬ ЖАЎНЕРА Ў МІРНЫ ЧАС ТРЭБА ТОЛЬКІ ТАМУ, ШТО ЯМУ ДАВЯДЗЕЦЦА РАБІЦЬ НА ВАЙНЕ.

Гэнэрал ДРАГАМІРАЎ.

***

ЖВАВАСЬЦЬ НА ВАЙНЕ БЫВАЕ ПАТРЭБНЕЙ ЗА ХРАБРАСЬЦЬ А ЗНАЦЬЦЁ.

Юліюш Цэзар.

***

## Жаўнерскія гутаркі

II. Літва

*“Ты літвін — я беларус, нехай жыве наш хаўрус!”*
*Дэвіз “Варты Бацькаўшчыны”.*

Каму патрэбна твая служба? — Літве.

І Літва мае права вымагаць гэту службу затым, што яна твая Бацькаўшчына — зямелька тваіх прадзядаў і дзядоў.

У іх часы была яна вялікая і слаўная. Калісьці мелі літвіны і беларусы супольную дзяржаву “ад мора да мора” і былі страшны

ўсім ворагам сваім: маскалям, татарам, немцам-крыжакам...

Пры нас Бацькаўшчына, пасьля доўгага гаротнага жыцьця пад бізуном азіятскай Маскоўшчыны, паўстала да жыцьця вольнага і незалежнага.

Дык тэстамэнт наш дзяцям нашым мусі быць гэтакі:

"Адбудуйце Бацькаўшчыну яшчэ больш вялікой і слаўной, чымсь яна была ў даўнейшыя часы.

Літва — твая маць, старонка, дзе ты вырас. Яна гадавала і бараніла цябе. Бацькаўшчына дала цябе ўсё і ты мусіш усё аддаць для яе.

Зразумі як ты павінен кахаць сваю Айчыну!..

Адзнакай Літвы ёсьць яе гэрб даўнейшага Літоўска-Беларускага Княства — Пагоня.

Пагоня ёсьць выразам таго, што дзеля пэўнага жаўнера выжэй за ўсё на сьвеце — Бацькаўшчына.

Пагоня ў цябе на шапцэ, ты ўсюды з ёй — за Бацькаўшчыну, за яе гонар, славу, вольнасьць, роўнасьць і незалежнасьць!

*[працяг будзе]*

**АЛЕСЬ СМАЛЕНЕЦ**

"Вайсковы" 1921 г. № 2.

***

**Агляд беларускага друку**

*Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі.*

*М. Бурачок*

Цяпер у Вільні выходзіць пяць беларускіх часопісаў: "Наша Думка", "Крыніца", "Беларускі Звон", "Маладое Жыцьцё" і "Еднасьць", у Горадні маніцца выйсьці "Голас Беларускі", а ў Бэрліне "Беларускі Сьцяг".

Аб зробленым зусім нядаўна польска-маскоўскім міры ў Рызе "Беларускі Звон" пішэ: "Рыжскі мір вядзе да вайны. Ня хочыцца верыць, каб усходняя граніца Польшчы была пад[р]ыхтавана ахвотай польскіх палітыкаў да новай вайны. Гэта было-б ашуканствам народу, які хоча і патрабуе спакою пасьля 7-летняе калатні. Не, гэта скарэй бальшавіцкая хітрасьць, бо для савецкай Масковіі нейкая вайна, ды яшчэ паміж яе суседзямі — адзіны ратунак"...

З часопісяў бачым, што ў Вільні працуюць рожныя беларускія нацыянальныя ўстановы: нацыянальны камітэт, выдавецкае

таварыства, кнігарня, школьная рада, школьны аддзел пры дэпартамэнці асьветы, вучыцельскі саюз, саюз сельскай гаспадаркі, коопэратыў "Райніца", бібліатэка навуковага таварыства, гімназія (у складзе 8 аснаўных і 2 прыгатаваўчых клясаў), сем пачатковых школаў, тэатр пад кіраўніцтвам вядомага белар[ускага] артыста — Пранцышка Аляхновіча і іншыя.

"Крыніца" апісывае, як да Городзенскай зямлі прыйшлі ўжо палякі-жаўнеры, што будуць атрымліваць тутака зямлю. Кожнаму будуць даваць па 20 маргоў* [зямлі]. Жаўнеры надта рады, бо мейсца вясёлае, багатае, а да таго урад ім прышлець каней, кароў і насеньня дзеля пасеву. Жаўнеры гэтыя часта кажуць, дзівячыся — Народ ваш так быў змучаны, што і гаварыць па-польску не ўмее, — бо палякі не ведаюць, што мы тут (м-ка Свіслач, Ваўкавыскага павету) як каталікі, так і праваслаўныя [—] ўсе беларусы, а не палякі. Ведама, і жуку дзіва, калі ён да пчол у вулей трапіць і чуець, што пчолы па ягонаму гудзець ня ўмеюць"...

Выйшаўшай 6 траўня новай часопісі "Еднасьць" надта не да спадобы беларусы Літвы і яна з першага нумера абазвала Міністэрства Беларускіх Спраў і яго агульны кірунак — "чорнасотеннымі", а аб беларускіх часьцях з усьмехам і вельмі лаканічна заяўляе: "ваенныя едынкі кіруюцца немал выключна ахвіцэрамі-маскалямі".

**С.**

***

Стаю сягоньня ў польнай варце,
Навокала мяне цямно,
І ўспомніў аб радзімай хаце,
Як там жывецца ўсім нудно...
Калісьці й я гуляў на ральлі
З сваёй дзядоўскаю сахой,
Пеяў аб пад'ярэмнай долі,
Еў хлеб з мякіною сухой.
Цяпер там то-ж, што раней была,
Здаецца толькі шмат хутчэй:
Забралі хлеб, каней і быдла;
Далі ўраднікаў-чарцей!..
У палацах зноў паны мяркуюць,
Як бы ім лепей нас прыгнесьць,

*Адзін морг складаў каля 0,71 гектара зямлі. — "БР".

Раяцца, пішуць і талкуюць
Як беларусаў перавесьць...
Але, чакай чужацкі гнёт,
Дайдзе і да цябе чарод...

8.V.1921. Чынная армія Літвы. **П. Д.**

***

**Гістарычная хроніка за травень**

I. Агульна-беларуская:

20.V.1918 [памёр] песьняр К. Каганец.
25.V.1917 [памёр] песьняр М. Багдановіч.

II. Беларускіх аддзелаў літоўскага войска:

1919 год:

Канец траўня прынёс усім беларусам Літвы досьць смутную вестку аб тым, што палякі абязброілі 1-шы Беларускі Горадзенскі пешы поўк і Беларускую вайсковую камэндатуру ў Городні, 1-шы Беларускі швадрон уцёк і прыбыў да Коўны.

Пятая кампанія Городзенскага поўку (штаб-кватэра — Коўна, вуліца Городзенская) выдзялена са складу паўку і названа “Беларуская Асобная Кампанія”.

1920 год:

Беларуская Асобная Кампанія займала дзелянку па дэмаркрысы з палякамі ад Кшчавы да Кіркаліе (каля м. Ежэрэны).

15-га патруль бялорускі каля Пошэліне быў абстрэляны рэдкім агнём польскіх вартаўнікаў, 17-га яны-жа зноў абстрэлялі беларускую польную варту ў Пошэліне.

24-га аб 16-ай гадзіне забіты снарадам каля в. Падліпы жаўнеры: шэрэнговы Мануэль Аус і абозовы Ўладзімер Беляеў (пахаваны ў Яжэрэнах).

Жаўнерамі сабрана і сдана да 9 п. Л. К. В.* поўку шмат кіркаў, лапатаў, тарчаў сталёвых, дроту, мінаў і інш. вайсковых матэрыялаў, што раскіданы былі на былай нямецка-маскоўскай пазіцыі 1915-1918 гг.** Зроблена помач кампанійнымі каньмі жыхаром (пры

*Літоўскага Краёвага Войска — “БР”.
**На былой лініі фронту. —“БР”.

польнай працы) ў абшары, дзе стаялі беларусы (сярод жыхараў Курцумскай і Калькунскай валасьцёў Лацьвіі шмат беларусаў).

31-га ўцяклі да беларусаў 9 жаўнераў 29 польскага пешага поўка, што пайшоў да маскоўскага фронту, замест яго стаў слуцкі пешы полк 2-й дів[ізіі] Літэв[ска]-Бялорускoй.

**РУЖАНЦАЎ**
Маёр В. Л.*

***

**Беларуская хроніка**

*Беларускае прэс-бюро паведамляе, што ў Амэрыцы зьвяртае на сябе увагу Беларускі Рух. Ствараюцца рожныя арганізацыі і нацыянальныя грамады. Паўстала пытаньне аб выданьні ў Амэрыце першае беларускае часопісі.

*Вільня. Залажылася ініцыятыўная група дзеячаў і моладзі, якая энэргічна вядзець прыгатаваўчую працу па вытварэньню арганізацыі беларускіх скаўтаў. У найбліжэйшыя дні маюць быць зроблены заходы прад уладаю аб зацьвярджэньні статуту.

*Лодзь. Беларуская Вайсковая Камісія, якая блізка год сядзела у Лодзі, мае быць да 15 траўня зьліквідавана. Яна выдала шмат беларускіх вайсковых статутаў.

*Коўна. Першы агульны сход Беларускай Грамады ў Коўні адбыўся 24 красавіка г.г. У Раду Грамады абраны: грамадзяне Ян Корчынскі (прэзэс**), Эўг[эн] Кургановіч і Рыг[ор] Казячы (сябры) і Н. Заріна (скарбнік).

*Коўна. У час друкаваньня н[умар]у з Вільні атрымана сумная весьць аб арышце польскаю ўладаю беларускіх дзеячаў гр. гр.: Аўсяніка (што был да апошняга часу прэдстаўнікам Белар[ускай] Народнай Рэспублікі пры літоўскім урадзе ў Коўні), Пігулеўскага і Кушла.

***

**Кнігопісь**

**Народны прыгавар. 1921.** 14 бачынкаў. Мейсца выданьня і аўтора нема.

---

*Войска Літоўскага. — “БР”.

**Старшыня. — “БР”.

**“Расейска-польскі баль і беларускае пахмельле”** (Куды ідзець беларускі шлях) — А. Бяроза. Пінск. Друкарня “Гасло”. 1921. 14 бачынкаў.

Кароткі гістарычны нарыс маёра Ружанцова **“Беларускія войскі ў Літве. 1918 — 1920”**. Перакладзена на літоўскую мову і будзе надрукавана ў 2-м №-і “Musų Žinynas” (“Наш Вестнік”), што выйдзе у чэрвені.

***

**Паштовая скрынка**

**Рэдакцыям беларускіх часопісаў.** Надта цяжка у Коўні дастаць хоць адну белар[ускую] часопісь. Ці не будзе Вашэй ласкі, час ад часу прысылаць у Коўну з “аказіей” хоць некалькі №№-оў. Усё прысланнае па выкарыстаньні будзе паслана беларусам-вайсковым да фронту.

**Капітану Дзехцярову, 9 п. Л. К. В. п.** Дзякуй за ліст і пажаданьня. Прысланнае дзякуем. Дужа прыемна, што Вы ўжо год як не ў радох беларусаў, але не пакінулі нашу справу, не чураецесь бацькаўскай, хоць бы і “хамской” мовы. Чэкаем яшчэ, а прысланае дзякуем.

***

**Абвесткі**

“Tevynes gunejas”
9-to pest. L.K.V. pulko
Laikraštelis.
Kaina atsk. № 6 auk.
Redak. Vitkauskas
viršiła.

***

Karys
“Вайсковы”
Двутыднёвік для беларусаў-вайсковых на Літве.
Рэдакцыя: Каўнас, Гэнэральны Штаб, Літэр[атурны] аддзел.

Выдавецтва: Літаддзел Гэнштабу.

Друкаваў Лавіцкі.

„KARYS"-„ВАЙСКОВЫ". Košt 3 auksiny.

# WAJSKOWY

Dwutydniowik dla biełarusaŭ-wajskowych na Litwie.

№ 3 Wydańnie Literaturnaha Addziełu Henieral. Štabu.
.....Koŭna. 1 červienia 1921 hodu.....

## MALITWA.

...Panie, Ty wiedaješ što značyć mučycca, bo Sam mučyŭsia za winnaści ludzkija na kryžu...

...Zatym ja prynašu Tabie akrywaŭlenaje serca maje i kala prabitych noh Twaich błahaju paškadawać mianie...

...Ja nie hukaju da Ciabie: adyjmi bol moj, ale prašu, aby Ty daŭ mnie siły wytrywać jaho...

...Bo ja žaŭnier i służebnik Twoj, o Panie, i žadaju wiečna służyć Tabie i Matcy majoj Baćkaŭščynie...

...Ale jak ža ja mahu zrabić heta, kali złujecca serca majo i kwolicca ruka maja...

...Dyk zrabi-ž tak, kab ja zabyŭsia ab samym sabie i tolki ab sławie Twajoj i ab ratunku Matcy majoj pomniŭ, bo heta daloka wažniej, čymś mučieńnia takoha žałosnaha robaka, jak ja...

...I ŭzmacni mianie, Panie, ŭ siedle maim, kab, zmahajučysia z worahami, ja daścihnuŭ słaŭnaj śmierci i znajšoŭ wiečnaje žyccio...

...Dziela Twajho ciarnowaha wianku, wysłuchaj mianie Panie...

"Karys" — "Вайсковы".

Кошт 3 ауксіны.

# ВАЙСКОВЫ

Двутыднёвік для беларусаў-вайсковых на Літве.

Коўна. Выданьне Літэратурнага Аддзелу Гэнерал[ьнага] Штабу.

№ 3. 1 чэрвеня 1921 году.

***

**Малітва***

...Пане, Ты ведаеш што значыць мучыцца, бо Сам мучыўся за віннасьці людзкія на крыжу...

...Затым я прынашу Табе акрываўленае сэрца мае і каля прабітых ног Тваіх благаю** пашкадаваць мяне...

...Я не гукаю да Цябе: адыймі боль мой, але прашу, абы Ты даў мне сілы вытрываць яго...

...Бо я жаўнер і служэбнік Твой, о Пане, і жадаю вечна служыць Табе і Матцы маёй Бацькаўшчыне...

...Але як жа я магу зрабіць гэта, калі злуецца сэрца маё і кволіцца рука мая...

...Дык зрабі-ж так, каб я забыўся аб самым сабе і толькі аб славе Тваёй і аб ратунку Матцы маёй помніў, бо гэта далёка важней, чымсь мучэньня такога жалоснага робака, як я...

...І ўзмацні мяне, Пане, у седле маім, каб, змагаючыся з ворагамі, я дасьцігнуў слаўнай сьмерці і знайшоў вечнае жыцьцё...

...Дзеля Твайго цярновага вянку, выслухай мяне, Пане...

...Дзеля раны ў баку Тваім, выслухай мяне, Пане...

...Дзеля прабітых цьвекамі рук і ног Тваіх выслухай мяне, Пане...

З Г. Сенкевіча пэралажыў **А. С.**

7 студня 1921 г.

---

*Яна таксама вядомая, як "Малітва жаўнера". Малітва была выдадзеная асобнай улёткай. Гл.: Спадчына, 1993, № 4, б. 25, 33. — "БР".

**Прашу. — "БР".

***

## Наполеон і Беларусь

На 100-летнія ўгодкі сьмерці
1821 — 5/V — 1921.

Вялікі францускі пісьменік Віктор Гюго напісаў пекныя вершы “Retraite de Russie”, у якіх вельмі абразна малюе поўны асабліwага трагізму час адвароту вялікай францускай арміі з пад сьцен Масквы.

Слаўны мастак францускага слова Гюго напэўна саўсім ня ведаў, што трагэдія Наполеона разыгралася супраўды на нашай роднай зямельцы на Беларусі. Вялікая армія Наполеона, пакідаючы Маскву, была яшчэ паважнай сілай і не пад Масквой “першы раз арол спусьціў сваю галаву”, як піша Гюго. Не Масква здалела найвялікшага ваяку ў сьвеце — зваявала яго лютая зіма, мароз ды сьнег, і гэта на нашай забытай Богам і людзьмі зямельцы. Што зачала расейская “в’юга”, дакончыла наша родная **мяцеліца**.

Для французаў прышлі супраўды цяжкія дні і іх адход адбываючыйся папярок усей Беларусі, ад Смаленска да Аўгустова, азначэны быў усюды мноствам францускіх трупаў, якія пакрываў белай пялёнкай сьняжок. Ціха-ціха клаліся сьняжынкі на цяжка ўздыхаючыя перад сьмерцяй грудзі, на бледныя твары, на гарачыя апошнім жыцьцёвым агнём вочы наполеонскіх волатаў, якім ужо сіл не хапала ўсё ісьці наперад, сьпяшаючыся да далёкай сваей бацькаўшчыны, Францыі. Так гінулі сыны яе, верныя таварышы Наполеона ў шчасьці і нешчасьці. І на беларускай зямельцы сьніць яны будуць салодкі сон аб мілай Францыі аж да апошняга дня сьвету, да нябеснага клічу на суд Божы.

А Бярэзіна? Гэту назову знае ў цэлым сьвеце кожны вучэнь сярэдняй школы, але нат’ ня кожны прафэсар унівэрсітэту на Захадзе ведае, што рака, на дне каторай найшла тады сабе магілу не адна сотня французаў, адна з важнейшых рэк Беларусі. Нязлічаныя беларускія вёскі, з пачарнеўшымі, і з маленькімі ваконцамі хаткамі, з прыдарожнымі крыжамі, з сумнымі адзінокімі на ўзгорках магілкамі, бачылі, як у 1812 г. у сьнежні шыбка прамігнула міма іх карэта, у якой ехаў з негасьціннай Масквы Наполеон. У гэтых хатах сядзелі тут людцы, для каторых сьвет канчаўся на краю іх роднай вёскі, — а ў карэце сядзеў “арол”, для каторага цэлы сьвет был лішне цесны і каторы, калі б даўжэй пабыў на волі, працягнуў бы

напэўна сваю крэпкую руку за акіян — па далёкую Амэрыку і за скалісты Урал — па айчыну людзкога роду, Азію. Якая вялізарная супярэчнасьць!

Аднак мы былі б надта аднастароннымі, каб затрымаліся толькі на тым, што канчатак трагічнага паходу Наполеона адбыўся ў Беларусі. Больш праўдзіва сказаць, што мо’ якія тры чацьвёртыя часткі ўсей вайны 1812 г. адбыліся ў Беларусі. Не забываймо, што ўжо на левым беразе Нёмана у пав. Аўгустоўскім вялікая армія ўжо летам 1812 г. сустрэлася з народам беларускім. Ці Наполеон цікавіўся жыцьцём-быцьцём нашага народа? Ці яго арліныя вочы адчыталі хоць адну странічку ў душы нашага брата-селяніна? Трудна адказаць на гэтыя пытаньні. Аднак можэм думаць, што вялікі корсіканец, абдараны такім багатым розумам, цікавіўся усім, што ў Беларусі бачыў і чуў.

Пасьля праходу наполеонскай арміі праз Нёман, разлілася яна вясеньнім руччом па ўсей Беларусі. Мы гаварым вясеньнім, бо шмат чаго мог чакаць народ беларускі ад Наполеона, аб якім хадзілі чуткі, быццам ён каралей скідае і малыя народы падтрымлівае ў іх дамаганьнях вольнага быту (пр[ыклад —] Польшчу). Наполеона вяжа з беларусамі такжа тое, што ў 1812 г. у пачатку вайны пачалі хутка тварыцца па усей Беларусі, асабліва ў Заходняй, лег’ёны з тутэйшых жыхараў, сярод каторых, рэч натуральная, найбольш было беларусаў. Зямляўласьнікі ішлі ў ахвіцэры, зямляробы, разумееццa, у жаўнеры. Дык бачым, што беларусы таксама бралі чыннае ўчасьце ў вялікай эпопэі 1812 г., пры чым не адбылося без ахвяры з драгацэннай людзкай крыві нашых жаўнераў. Так у Гродзенскім павеце такія са сваіх падданых тварыў у 1812 г. выдатны зямляўласьнік Біспінг, а пасьля ўсе ўчасьнікі іх былі запісаны ў актовыя кнігі, як вольныя людзі. Так вольнасьць атрымаў і мой тамашні прадзед. А гэта — добры пасьледак учасьця беларусаў у паходзе Наполеона.

Шмат беларусаў, асабліва з Усходняй часьці нашай Бацькаўшчыны, было сваім чарадом у расейскай арміі і яны у 1813 г. разам з царам Александрам I, пабывалі заграніцай і адтуль пэўна прывязьлі пад сваю саломенную страху не адну важную думку. I гэта многа ўжо значыць у жыцьці так цёмнага краю, якім была таму 100 гадоў з лішкай Беларусь.

Сказаўшы ўсё гэта, мы ішчэ абмінулі-б адну важную галіну, калі-б тут ня ўспомнілі аб уплыве вайны 1812 г. на нашую народную творчасьць. А уплыў гэты бяз сумніву быў. Найлепшы у нас знаўца беларускай літэратуры М. Гарэцкі слушна кажэць, што ідэя

адраджэньня народу (у літэратуры яна уходзе ў склад паняцьця рамантызму) да заходніх беларусаў дакацілася "простай дарогай на грэбнях францускай рэвалюцыі і наполеонскіх войнаў" (Гісторыя Літэратуры, стр. 58). Дакацілася і адбудзілася у нашай народнай песьні.

Вось як на сьведамасьці і долі беларускага народу адбілася вялікая вайна 1812 г., начатая з вялікімі надзеямі, а скончаная трагічным адыходам з пад Масквы арміі Наполеона. Без канца расьцягнуты беларускія раўніны, глыбока засланы сьнегам, былі мейсцам занепаду вялікай арміі. Зрабіла гэта сама прырода, без ніякога ўчасьця жывучага тутака беларускага народу. Ён сам разам са сваей зямелькай спаў тады ішчэ моцным зімовым сном, і нічагусенькі не вінен, што цар-арол тут першы раз сумна спусьціў сваю галаву, а цэлае стада яго арленят, пакідаючы граніцы Беларусі, шмат каго не [нечытэльна — "БР"] далічыцца.

Няхай 100-лецьце сьмерці Наполеона рэхам дакоціцца да нашых сялянскіх хат, няхай там абудзіць да вялікага Наполеонаўскага духа, шчырую пашану і добры ўспамін.

"Крыніца"

**Ад. Саладух**

***

"Доўгае заняцьце адным прадметам змагае мысьлі і цела. Раецца заняцьця рабіць больш разнароднымі. Час і спосаб заняцьцяў трэба дапасоўваць да ступеннага разьвіцьця сілаў жаўнера, бо лішняя змора вызывае брак увагі, дрэнна адбіваючыся на пакорнасьці".

З статуту Б. В. К.* "Пяхота".

***

"На вайне грошы дарагія, жыцьцё чалавека яшчэ даражэй, але час даражэйшы за ўсё".

Сувораў.

***

"Адважна ў бой рыхтуйся, брат, — баяцца нечага крыві, — твой прэдак выліў яе шмат, ты памяць прэдкаў аджыві[!]".

"Склік" — Я. Купалы.

---

*Беларускай Вайсковай Камісіі. — "БР".




*Коўна з боку Аляксоты. Малюнак П. Дзехцярова*

***

## Жаўнерскія гутаркі*

**III. Служба і пакорнасьць.**

У службе і пакорнасьці німа нічога страшнага. Трэба толькі рабіць усё, што загадываюць.

Табе здаецца цяжкім рана ўставаць. Уставай заўсёды зараз, пры першай-жа пабудцы і ты хутка абыкнеш да гэтага.

Муштра! Хіба-ж так цяжка маршыраваць ці вучыцца абыхадзіцца са стрэльбай, шабляй ці гарматай?

Праца, прыбраньне памешканьня, чыстка амуніцыі — ўсё гэта не цяжка, калі робіцца борзда і вясёла, поспаль з колегамі.

Вайсковая прагулка, страляньне! — Ва ўсім гэтым вы знойдзеце прыемнасьць, трэба толькі з ахвотай займацца гэтым.

А паходы! Колькі новага і няспадзяванага давядзецца зьведаць за той час і як прыемна пасьля ўспамінаць аб гэтым.

Цяжка насіць стрэльбу і рынштунак? Але бяз іх ня можна быць жаўнеру.

Аб карах ня трэба і казаць, бо **спраўнаму жаўнеру ніколі не давядзецца ім падпасьці.**

Кары дзеля басалаеў** і — па справам!

Варты! У дзень яшчэ нічога, а вось ў начы, дык пэўне, цяжка. Але

---

*Глядзі нумары 1 і 2.

**Верагодна, маюцца на ўвазе грубіяны, нахабнікі. — “БР”.

падумай, што выбухнула зноў жорсткая вайна. Бойкі йдуць адна за аднэю. Вартаўнікі жвава пільнуюць змучаннае войска, каторае супакойна спіць, пакладаючыся на дбаньне вартаўнікоў. Колькі веры вартаўніку! Які сьвяты яго абавязак! Які пачэсны пасад!*

Можа і цябе прыпадзе вялікі гонар пільнаваць войска. Будзь гатоў споўніць гэты абавязак, а праз гэта — гатоўся да яго ў мірны час і спраўна нясі вартавую службу.

Ты мусіш знаць, што ў жаўнерцы ўсё мае сэнс: што здаецца як быццам лішнім цяпер будзе згожа ў будучыне.

**Улажы у справу ўсю сваю душу!**

Ня згубі пакою духу і ня будзь распустным.

Галоўнае — ніколі не скаржыся на загады. Зараз, з поўнай гатоўнасьцю споўні іх, якія-б яны ня былі і ад каго-б з начальнікаў яны-б ня йшлі.

**Гэта і ёсьць пакорнасьць!**

Служба мае і прыемныя стораны: ёсьць гадзіны дзеля адпачынку, адбываюцца гуляньні, звальняюць з жаўнерні** да места*** і адпускаюць на ўрляб**** да родных. Як прыемна пабыць у роднай вёсцы! З якой пыхай ты будзеш насіць тамака свой мундзер, асабліва калі у награду за пэўную службу ты ужо з шэрэнгоўцаў***** дабіўся ланцужковага****** ці падахвіцэра, ды на грудзях ў цябі **“Крыж Віцязя”**! З якім паважаннем будуць у вёсцы аднасіцца да цябе, ведаючы[,] што ты сьвята і гонарова нясеш свае абавязкі прад Бацькаўшчынай!

**Алесь Смаленец**

(працяг у 4 н[умар]ы)

***

## ВОСЕМТЫДНЁВАЯ ПРАГРАМА ВЫШКАЛЕНЬНЯ РЭКРУТА ПЯХОТЫ.

(Выданьне Белар[ускай] Вайсковай Камісіі. Лодзь. 1921 г.)

---

*Vietas — пост.

**Karzivine — казарма.

***У горад. — “БР”.

****У адпачынак (ад ням. Urlaub). — “БР”.

*****Eilinis — радовой.

******Grandinis — ефрэйтор.

**Агульныя прынцыпы.**

Умешчаныя паказы характэрызуюць ідэю кожнага з аддзелаў вышкаленьня, адносна прадметаў тэорэтычнай навукі і паказваюць, як паступова дасягаецца поўнае вышкаленьне.

Поўнае вышкаленьне рэкрута трывае восем тыдняў.

Заданьне яго — гэта падгатаваць рэкрута на здатнага жаўн[е]ра для ўжытку ў полі.

Ідзе яно да выробленьня ў жаўнера моральнае сілы, фізічнае вытрымаласьці і тэхнічнае спраўнасьці, а так сама прышчапляецца ў яго душу даверчывасьць да сваіх камандзераў. Наагул — да выробленьня сільнага спэцыяльным вышкаленьнем, самастойнага і пры гэтым пакорнага падкаманднага.*

Дзеля гэтага, трэба вымагаць ад рэкрута бязумоўнай паслухмянасьці і ўвагі, а так сама, калі трэба, поўнае натугі сіл. Паступова павялічваючы вымаганьні, ужо ад першых дзён сістэматычна прызвычайваць яго да будучых ваенных трудоў.

Трэба зьвяртаць увагу на спакой, парадак і так сама на акуратнае спаўненьне загадаў і даручэньняў. Строга захоўваючы правілы, рэгуляміны, спаўняць, аднак, мэханічна, але мэтазгоднага прытарноўваць да варункаў і акалічнасьцяў.

Парадак дня павінен быць так зроблены, каб, з аднаго боку, жаўнер ня нудзіўся, а з другога боку, каб яго ня змушаць да фізычнага змораньня. Дзеля гэтага трэба асьцярагацца монотоннага спосабу вучэньня, што морыць розум і цела. Трэба весьці вучэньне ў тэмпе жывым, паступова, часта зьмяняючы прадмет і месца вучэньняў, а, дзе будзе патрэба, у зразумелай жывой форме апавяданьні з рознымі прыкладамі з штодзеннага жыцьця жаўнера і г. д.

Вучыць кожнага рэкрута паасобку, каб гэтым спосабам выробіць магчыма найбольшую самадзейнасьць ў рамах пакорнасьці і вайсковай дысцыпліны.

Вучэньне пачынаць ад паўтараньня папярэдніх вучэньняў і прымяняць мэтоду толькі наглядную, прыводзячы шмат прыкладаў, ілюструючы кожную драбязу.

Паасобныя інструктары павінны весьці свае вучэньні аднастойна, каб рэкруты маглі ўявіць аднальковую ваенную сыстэму мысьленьня і дзеяньня.

Трэба добра наглядаць, каб цераз цэлы час трываньня навукі

*Pavaldinys — подчиненный.

утрымаць павольны настрой рэкрута, поўны веры і пашаны да сваіх кіраўнікоў. Дасягнуць гэтага можна праз адпаведную практыку пры добрай волі і захоўваньні рупнасьці, праз сыстэматычнае разьвіцьцё сілы духа і цела з поўным выкарыстаньнем часу, пры ахвотнай дапамозе ахвіцэраў і шэрэнговых інструктароў.

Каб мэтазгодна выкарыстаць кароткі час вышкаленьня, трэба штодня перарабляць з інструктарамі ўвесь матар'ял, які стоновіць праграму заняцьцяў чарговага дня.

Гэтая праграма адрозьнівае дзьве фазы вышкаленьня.

Першая фаза вышкаленьня 1 — 4 тыдні ўва ўсім сваім працягу мае на мэце шкаленьне паасобнага жаўнера (шэрэнговага) ў фармальнай муштры, страляньні, фэхтаваньні, а шкаленьне роты* ў практычнай муштры. У гэтым разе галоўнай справа ёсьць у вучэньнях перадпалуднёвых на пляцы вучэньняў, аддаленным ад казармаў, каб адначасна павялічваць маршавую здольнасьць.

Пасьля паўдня робяцца лягчэйшыя вучэньні каля казармаў.

Пасьля 4-х тыдняў робіць перагляд камандзер батальёну, пры чым ня можна вымагаць ад жаўнераў агульнага спаўненьня якіх небудзь вучэньняў, навэт на пробу, бо гэтакім чынам трацяцца ўсялякія карысьці паасобнага шкаленьня.

Другая фаза шкаленьня — 5-8 тыдні — гэта вучэньне палявое і баявое.

Раніцою да паўдня — назначаецца вучэньне фармальнае муштры і лягчэйшыя вучэньні каля казармаў, а пасьля паўдня зьбіраецца рэкрут на баявыя вучэньні, пераплеценыя гімнастыкай і крыху фармальнай муштраю.

Праз мэтазгоднае пераплятаньне вучэньняў дасягаецца рознахарактарнасьць заняцьцяў, што служыць добрым варункам настрою і ахвотаю падчас вучэньняў.

Пасьля 8-х тыдняў пераглядае кампанію камандзер палку.

Пад канец кожнага тыдня камандзер кампаніі павінен кантраляваць прынцыповыя вучэньні, вылічаныя ў інструкцыі да фармальнае муштры.

На марш і страляньні назначаюцца суботы, а так сама і серады.

Дзеля таго, што ня ўся кампанія адначасна бярэ удзел у страляньні, астаўшыйся свабодны час назначаецца ў распараджэньне камандзера кампаніі на ўнутраную службу і папаўненьне нястачаў

*Рота — greta — riad.

вышкаленьня.

Першыя два тыдні нельга жаўнераў выпушчаць з казармаў, дзеля таго, што яны, ня знаючы правілаў, могуць зганьбіць гонар арміі.

Да вартовое службы нельга жаўнераў ужываць раней, як пасьля толькі пяцьтыднёвага вышкаленьня.

На аснове заўсёднага парадку дня і матэр'ялу, вызначанага програмамі і раскладам прадметаў, укладае камандзер кампаніі падробную праграму, у якой ёсьць тэмы на кожны з асобных дзён і колькасьць у часе іх у мінутах.

(Працяг будзе)

***

Пры варунках поўнага ладу войска ёсьць здатным да ўсяго, бяз ладу, яно ні да чаго не здольна.

*Вільгэльм І.*

Пераважна з людзьмі бывае так, што тыя[,] якія шмат говорацьь, надта мала робяць. Беларусы любяць часамі зашмат малоць языком, дык трэба старацца менш гаварыць, а больш працаваць.

*З "Крыніцы".*

***

## Справа Вільні

Справа нашай старой сталіцы Вільні што дзень становіцца ўсё больш паважнай.

Як ведама[,] Савецкая Расея адмовілася ад Вільні на карысьць Літвы, але Польшча рукамі Жэлігоўскага хоча сілаю прыдбаць горад Гэдыміна сабе.

Нам беларусам трэба добра памятаць, што можа даць нашай справі і краю гэтае ганебнае панскае заўладаньне Вільняй.

Для нас Вільня — гэта нашыя Атэны*, калыска нашае старой культуры, крыніца нашага адраджэньня, пэрл нашага нацыянальнага будаўніцтва і ў мастацкім [,] і ў палітычным сэнсі.

У Вільні — праславіўся вялікі доктар Францішк Скарына, у Вільні зьявіўся зна[ка]міты збор беларускіх законаў Статут Казі-

*Афіны — "БР".

мера Ягеллона, у Вільні ў дні першай расейскай рэвалюцыі пачалі друкавацца першыя беларускія газэты (Наша Доля); кожны мур, кожная абдзёртая сьцяна старых будынкаў хавае ў сабе сьляды нашай былой славы за часоў Вялікага Гаспадарства Літоўска-Беларускага; кожная вежа калі-б загаварыла, змагла-б расказаць сьвету аб векавечнай барацьбе беларуска-літоўскага баярства з наезндіцтвам польскай шляхты — пастэўнай да нашых супольных земляк...

Гістарычна — Вільня — горад літоўска-беларускі.

Культурна — Вільня — вогнішча беларусаў і літвіноў.

Да гэтага часу ніякая сіла, апроч сілы пазнанскага ландштур-міста, не давела яшчэ, што гэта места польскае.

Гэта нічога, што Варшава засыпае замежныя ўрады сотнямі кніжок, дзе здаецца і вельмі паважныя людзі адзін перад другім лыгуць мацуючыся давесьці, што жаданьне народу, нібы-то, усё на старане Польшчы.

Адным словам, справа Вільні, найпаважнейшая з усіх спраў сучаснай палітычнай працы, справа лучачая беларусаў і літвінаў у адзін хаўрус (а не раз'еднаючая іх), справа нашага дзяржаўнага жыцьця!

Гэта павінны мы, беларусы, добра памятаць, — добра адчуваць і сачыць за кожным крокам у гэтай справі нашых замежных **вялікіх** прыяцеляў.

Калі яны такі у нас ёсьць!?

Калі мы для іх не перэсталі быць недойдзенымі жыхарамі афрыканскіх пусткаў!?

**Ю. В.**

***

## БЕЛАРУСКІ КЛЮБ У КОЎНІ

У першых днях чэрвеня ў Коўні адчыняецца першы беларускі клюб пад назвай **Беларускае Сабраньне ў Коўні**. Мэтай Б[еларускага] Сабраньня зьяўляецца шырокая культурна-прасьветная праца сярод беларускага грамадзянства, ладаваньне мастацка-пісьменьніцкіх вечарынак, выстаў, прапаганда сьвядомасьці аб беларускім нацыянальным пытаньні і інш. Фундатарамі Беларускага сабраньня ў Коўні зьяўляюцца: Я. Варонко, Г. Канапацкі, А. Будзька, Я. Гладкі, А. Галавінскі і А. Валькoвіч. Клюб прыдбаў у цэнтру места вельмі пекнае памешканьне.

***

Таварышы брацьця! Калі наша родзіна-маць
У змаганьні з нядоляй патраціць апошнія сілы, —
Ці хваце нам духу ў час гэты жыцьцё ёй аддаць,
Без скаргі лягчы ў магілы?!..

**Максім Багдановіч**

***

## ЯК ПАВІННЫ ІНСТРУКТАРЫ ТРЫМАЦЦА ПЕРАД ФРОНТАМ

Жаўнер — праўдзівае адбіцьцё сваіх начальнікаў, а асабліва свайго інструктара, якога заўсёды мае на сваіх вачох; значыцца, ад спосабу трыманьня сябе, службовасьці і вышкаленьня апошняга залежыць, глаўным чынам, вартасьць і вышкаленьне ўсяго аддзелу. Датычна спосабу трыманьня сябе перад фронтам, трэба асабліва зьвярнуць увагу на гэткія пункты:

а) ВОПРАТКА; — вымагаць ад жаўнера, які выходзіць на пляц муштры, парадку ў вопратцы, напрыклад: абцягнутай блузы, добра заложанага пояса і набойніц, зашпіленых гузікаў, добра вычышчаных ботаў і г. д., тым больш трэба вымагаць усяго гэтага ад інструктароў, бо нішто так не дэмаралізуе жаўнераў і не нарушае дысцыпліны і павагі навук, як нядбаласьць начальства ў службе і ў вопратцы.

в) ПОСТАЦЬ. Постаць інструктара ясна адбіваецца на спраўнасьці падуладнага яму аддзелу. Калі інструктар будзе стаяць нядбала, рукі трымаць у кішані, варухацца бяз жыцьця — ўсё гэта перадаецца падуладным яму жаўнерам, аслабляе іх энэргію і спрытнасьць ў спаўненьні загадаў. Інструктар павінен, ці падаючы каманду, ці аглядаючы аддзел, мець заўсёды постаць дзёрзкую, энэргічныя рухі, корпус і галаву выпрастаныя.

с) АДНОСІНЫ ДА ЖАЎНЕРАЎ. Інструктар павінен добра ведаць, што заданьнем яго ёсьць ня толькі вясьці вучэньне з жаўнерамі, але навучыць іх. Толькі ў гэтым выпадку будзе ўмець рацыянальна паступаць з жаўнерамі і патрапіць утрымацца ў межах людзкіх сіл. Зморанасьць жаўнера ня толькі не дае жадных* рэзультатаў, але наадварот, адбірае ахвоту да працы і схіляе да нядбальства. Інструктару забараняецца Д А К Р А Н А Ц Ц А да жаўнераў, бо ад

*Патрэбных. — “БР”.

гэтага толькі адзін крок да чыннае зьнявагі. Папраўляць памылкі павінен вусна, або паказваючы правільнае спаўненьне. Так сама трэба наглядаць за тым, каб падахвіцэры не падвышалі голасу на жаўнераў і ня ўжывалі абразьлівых слоў. Бо гэта паніжае павагу службы, абражае жаўнерскі гонар, а, дэнэрвуючы жаўнера, дрэнна адбіваецца на яго спраўнасьці. Інструктар ніколі не павінен траціць над сабою ўладу, а, зьвяртаючыся да жаўнераў, гаварыць цьвёрда, але спакойна.

d) ПАДАЧА КАМАНДАЎ. “Якая каманда, такое і спаўненьне”, — стары вайсковы прынцып. Дзеля правільнае каманды патрэбны гэткія варункі:

1) Павышэньне голасу залежна ад велічыні аддзелу. Ніколі не павінна галасьней камандаваць, чымсь гэтага вымагае патрэба.

2) Тон каманды востры, энэргічны, адрыўны. Каманда, паданая няпэўным голасам, робіць благое ўражаньне на спраўнасьць яе спаўненьня.

3) Словы каманды павінны быць выразныя і зусім зразумелыя для ўсіх жаўнераў.

4) Трэба выразна аддзяляць ня толькі паўзай, але і інтонацыяй голасу, **пачатак** каманды ад **канца**.

Пачатак каманды паказвае жаўнерам, што яны павінны споўніць, і дзеля гэтага павінен быць паданы голасна, працяжна і выразна. Канец каманды паказвае, што трэба зараз-жа споўніць загад, і дзеля гэтага падаецца як мага карацей і энэргічней.

**Балеслаў Завадзкі,**
паручнік

З ч[асткі] І “Інструктара пяхоты”.

***

КУРСЫ БЕЛАРУСАЗНАЎСТВА

Беларускае Сабраньне ў Коўні абвешчае чатырох тыднёвыя **Курсы Беларусазнаўства** з такіх выкладаў: І. Гісторыя б[еларускага] руху; ІІ. Гісторыя б[еларускай] літэратуры; ІІІ. Гісторыя Бел[арускага] Войска; IV. Коопэрацыя на Беларусі; V. Правопіс беларускі; VI. Беларусь і яе суседзі; VII. Рэлігійная барацьба ў Літоўска-Беларускім Гаспадарстві; VIII. Беларуская Народная Рэспубліка.

***

## Беларуская хроніка

**Беларускія газэты ў Менску**

Часопісь бел[арускіх] эсэраў “Змаганьне”, якая выхадзіла тры разы на тыдню, цяпер зачынена, а вялікая штодзенная газэта “Савецкая Беларусь”, часопісь бел[арускіх] бальшавікоў, выходзіць далей і друкуецца ў такім ліку экзэмпляраў, у якім дагэтуль не друкавалася ніводная беларуская газэта.

**“Нашая думка”**

**Загранічнае выдавецтва**

У хуткім часе маецца выехаць з Менску заграніцу камісія па выданьні бел[арускіх] кніг заграніцаю. Камісія будзе складацца з трох чалавек і ў першую чаргу павязе для выданьня каля 15 рукапісаў ( “Правапіс” — Я. Лёсіка, “Крыніца” — Яго-ж, “Гісторыя Беларусі” — Ігнатоўскага і інш. Поўныя зборы твораў пісьменьнікаў і песьняроў: З. Бядулі, Ц. Гартнага, Я. Лёсіка і некалькі томаў Я. Купалы.

**“Н. Д.”**

**Пісаньне падручнікаў**

Па даручэньню Бел[арускай] Навуковай Камісіі пішуць беларус[кія] падручнікі: Я. КУПАЛА — “Тэорыя славеснасьці”, Азбукін — “Гэографію Беларусі”, Більдзюкевіч — “Задачнік” і інш.

**“Н. Д.”**

**Беларускі рух у Смаленску**

4 красавіка 1921 г. у Смаленску адбыўся сход чырвонаармейцаў 10-га асобнага чыгуначнага стралковага баталёну. Чырвонаармейцы пастанавілі: зьмяніць назву чырвонаармеец на “жаўнер”, усю канцэлярыю вясьці на белар[ускай] мові, у час для агітацыі чытаць кніжкі ў роднай мове. Сход зачыныўся з пяяньнем белар[ускай] марсяльезы і гымна. Упрокаў з боку камісараў ня было. У баталёне усе чырвонаармейцы з Менскай і Магілёўскай губэрніяў.

**“Н. Д.”**

**Беларускі друк у Вільні**

Дэпартамэнт унутраных справаў адмовіў у дазваленьні выпушчаць “Нашу Думку” 2 разы на тыдзень.

Беларуская часопісь “Беларускі звон” на 7 н[умар]ы зачынілася. Палітычныя артыкулы яе былі заўсёды прыязныя да Варшавы.

“Н. Д.”

***

**БЕЛАРУСКІ ЧЫРВОНЫ КРЫЖ (Б. Ч. К.)**

У мэтах арганізацыі ўсебаковай помачы б[еларускім] грамадзянам палонным, уцекачам, эмігрантам, хворым і няздатным да працы групай б[еларускіх] дзеячаў паложаны пачатак Беларускаму Чырвонаму Крыжу. Часова цэнтральныя ўстановы яго: Рада, Амбулаторыі, Склады будуць у Коўні, працаваць будуць пры удзеле Літоўскага Чырвонага Крыжа. Аддзелы Б. Ч. К. будуць арганізаваны ва ўсіх суседніх гаспадарствах Прыбалтыкі і Зах. Эўропы і у Зл. Шт. Амэрыкі. Установчы сход у Раду Б. Ч. К.: Прэзэс* — Я. Я. Варонко; яго таварышы — Н. С. Ліпоўскі і Я. Я. Цьвікевіч; скарбнік — П. Мядзёлко-Грыб і сэкрэтар — А. Я. Галавінскі. Канцэлярыя Б. Ч. К. — Коўна, Гатэль “Мэтраполь”.

**Бел[арускае] Пр[эсавае] Бюро**

**Гэнэрал Жэлігоўскі аб Сьлезіі****

Прыймаючы дэлегацыю студэнтаў, што зрабілі маніфэстацыю на гонар Горнай Сьлезіі, гэнэрал сказаў: “ВІЛЕНСКАЕ ПЫТАНЬНЕ ЯШЧЭ НЕ РАЗВЯЗАНА І НАМ ТРЭБА БЫЦЬ НА ВАРЦЕ”.

**Бел. Пр.-Бюро ў Коўні**

**Беларусы ў Брюксэлі**

18 травеня да Брюксэлю прыехала беларуская дэлегацыя і энэргічна узялася за працу.

**Бел. Пр.-Б. ў Коўні**

---

*Старшыня — “БР”.

**Сілезіі — “БР”.

**Беларусы ў Амэрыце**

У Н[ью]-Ёрке адбылась першая лекцыя на беларускай мове. Чытаў гр[амадзянін] Бубешко на тэму: “Сучаснае становішча Беларусі”.

**Б. П. Б. у Коўні**

**Паўстаньне ў Горнай Сьлезіі***

Дзеля таго, што плебісцыт у справе Горнай Сьлезіі адбыўся для палякаў не памысна, дык цяпер там пачалося паўстаньне дужа падобнае да справы Жэлігоўскага.** Там на чале паўстанцаў стаў Корфанты. Паўстанцы не глядзячы ані на саюзныя дзяржавы, ані на самую Польшчу хочуць адваяваць ад немцоў свае землі. Польшча памагае ім.

**“Крыніца”**

***

Стварайце Беларускае Войска — для гэтай ідэі варта жыць!

***

**Гістарычная літоўска-беларуская хроніка за чэрвень**

1918 г. VI. 2. + Малады беларускі паэта-земляроб А. Петрашкевіч. Запраўднае імя яго Ф. Калінка. На працягу колькіх гадоў, спачатку ў “Нашай Ніве”, у “Маладой Беларусі” і ў “Беларусе”, а потым у “Вольнай Беларусі” і ў “Беларускім шляху” зьмяшчаліся яго сялянскія (лірычныя і гуморыстычныя) вершы. Паэзія яго простая, шчырая, пісаная мазольнаю рукою ратая. Радзіўся ён у 1894 годзе.

Паэта Ясакар так піша аб ім у сваім вершу “Задушкі”, каторы ён прысвячае дарагім для беларускага народу нябошчыкам-паэтам:

“Яшчэ адзін дзяцюк вясковы...
Любіў ён хвойкі, сад вішнёвы,
Любіў зялёныя галінкі, —
Наш малады песьняр Калінка.

---

*Сілезіі — “БР”.

**Маецца на ўвазе паход на Вільню Беларуска-Літоўскай дывізіі польскага войска, якой камандаваў генэрал Л. Жалігоўскі. — “БР”.

Паэту быў бярэзьнік міл,
Быў Божым домам небасхіл...
Вясной пралескі ў лесе рваў,
З жаўронкам песьні ён сьпяваў.
О, дзе ты, верны, шчыры дружа?
Я па табе сумую дужа...
Ці толькі ў лесе прытаюся?
Чаму са мною разлучыўся?
Ты часта вершы мне чытаў,
Майго прысуду знаць жадаў.
Ты сьпіш... Навекі сьпіш у зямлі...
Маць сьлёзы лье у тры руччы”.

1863 г. VI. 4. Маскоўскім урадам пакараны сьмерцьцю ў Вільні ксёндз Станіслаў Ішара за ўддзел у паўстаньні.

1514 г. VI. 8. Войскі Літоўска-Рускага Вялікага Княжства (літвіны, беларусы і украінцы) разьбілі на галаву маскалей каля Оршы.*

1863. VI. 27. Сьмяротнае катаваньне **Зыгмунта Серакоўскага**, галавы паўстаньня, маскалямі ў Вільні.

1865. VI. 28. Маскоўскім урадам зачынены гімназыі ў Панявежы і Кейданох.

***

**Беларускія аддзелы Літоўскага войска за чэрвень**

**1919 г.**

1. У Коўні знайходзіліся Беларускія Вайсковы Стол, каманда пры ім, асобная кампанія і швадрон. Працягалося вышкаленьне жаўнераў.

20. Беларуская Асобная Кампанія у складзе 2 пяхотных і кулямётнага ўзводаў пад камандай ахвіцэра Сатыгі, пасьля абгляду Дзяржаўным Гэтманам, аб 12,15 гадзіне выехала па чыгунцы да паўночнага фронту. Цягнік адыйшоў пад гукі беларускага рэвалюцыйнага гімну. У Коўні засталіся штаб кампаніі, III і запасны ўзводы.

*Насамрэч, 8 верасьня 1514-га. — “БР”.

21. Кампанія высадзілася на станцыі Абэлі і перайшла ў двор Заозер'е.

22. Аб 15 гадз. па загаду к-ра асобнай брыгады падпалкоўніка Настопко кампанія выйшла на падтрыманьне да 2 пешага В. Л. К. А. палку, які вёў бойкі з маскалямі у 7-12 кіляметрох ад м-ка Александраўкі. Кампанія была астаноўлена у гэтым мясцечцы. І узвод быў адасланы да палку дзеля прыкрыцьця адыходзячых часьцяў, другі і кулямётны ўзводы вярнуліся да Абэлі.

23. Каля 4 гадз. ўсе ўзводы былі ўжо ў Абэлях.

24. Прыбыў і прылучыўся да кампаніі III узвод яе.

25. Каманда пры Беларускім Стале Рэгістрацыі ў Коўні разьвёрнута у "2-ую Беларускую Асобную Кампанію".

27. Аглядзелі 1-ую Б. А. Кампанію ў дв[ары] Абэлі: Дзяржаўны Гэтман зранку і камандзер Марыямпольскага Асобнага баталёну (цяпер 6 п. П. К. М. п.) капітан Буткус у вечары. Кампанія ў апэрацыйных адносінах пад'уладна яму.

28. К 1 Б. А. К. выйшла на сьмену 2-й кампаніі Марыяпольцаў.

29. Сьмена закончылася аб 3 гад. 30 мін. Кампанія заняла дзелянку па азёрнай пазіцыі: Дарожка — Буракішкі, меючы: штаб у дв. Юнкуны, узводы — Паўзоўка і Буракішкі, заслона* ў Агурчышкі, ад яе выстаўлена тры польныя варты. Ворагі займалі ўзмацнёныя пазіцыі па рысы Савяны — Еданцэ (12 стралковы поўк, 1 брыгады, 2 стр. дывізыі Маскоўскай Працоўна-Сялянскай Чырвонай Арміі). Разьведчыкі кампаніі разам з Марыямпольцамі сачылі прад усім фронтам, але нікога ня спаткалі.

У дзень заступленьня на першую баявую дзелянку компанія мела 2 ахвіцэра (ст.-капіт. Ружанцаў — к[амандзі]р кулям[ётнага] ўзв[оду] і час[овы] кам[андую]чы камп[аніі]** і падпаручнік Бумажнікаў), 165 жаўнераў, 3 кулямёты, 15,445 стрэльбовых і 6000 кулямётных набояў (1 кулямёт і 9 жаўнераў пры ім аб М.А.В.***). Узвыш гэтага ў Коўні засталіся з запасным узводам і былі ў шпіталях і пасланых 4 ахвіцэра (к[амандзі]р камп[аніі] кпт. Яніцкі, афіцэр Сатуга, ст. п.-ах[віцэр] Міхалоўскі і вайсковы ўрадовец Кадэнюк) і 84 жаўнера.

30. Падаліся да палону чырвоны ахвіцэр і 4 конных разьведчыка 12 с. п. (маскалей) і самакатчык 12 паветраплавацельнага аддзелу. Беларускія разьведчыкі мелі першую стрэляніну з чырвонымі маскалямі.

**1920.**

Б[еларуская] А[собная] К[ампанія] ад 18 красавіка займала дзе-

---

*Ужтвара — застава.

**Вайсковага падраздзялення. — "БР".

***Верагодна, маюцца на ўвазе пісталеты, альбо пісталеты-кулямёты. — "БР".

лянку па дэмаркрысы з палякамі ад Кшчава да Кіркал’е* (каля м. Ежарэны). Дзялянка была завяліка дзеля малага складу кампаніі, праз гэта служба была досьць цяжкая.

14-га травеня разрывам старой гранаты, паднятай на ральлі, забіты шэрэнговы **Сазон Лінёў** і пахаваны на Ежарэнскіх вайсковых могілках.

**А. РУЖАНЦАЎ**
Маёр В[ойска] Л[ітоўскага]

***

## Беларускі Вайсковы Слоўнік

| LITOŬSK. | MASKOŬSK. | BIEŁARUSK. |
|---|---|---|
| ALGA | ŽAŁOWANIJE | PENSYJA |
| ANTROS RŪŠIES SARGYBA | UNTIER-OFICIERSKIJ KARAUŁ | PADSTARŠYŃSKAJA WARTA |
| ANTSPAUDAS | PIEČAT’ | KLAJNO |
| APINASRIS | NIEDOUZDOK | ADROĆ |
| APKLOTAS | ODIEJAŁO | KOŬDRA |
| APSAUGA | OCHRANA | ABARONA |
| APSAUGOS UŽTWARA | STOROŽIEWAJA ZASTAWA | ABARONNAJA ZASŁONA |
| ARMIJA | ARMIJA | WOJSKA |
| ATSARGA | RIEZIERW | ZAPAS |
| ATSARGINIS ATLAUŽIM | PRIEDOCHR. WZWOD | BIAŹPIEČNIK |
| ATSILIEPIMAS | OTZYW | ADHUK |
| ATSTOWAS | PRIEDSTAWITEL | PREDSTAŬNIK. |

Ня трэба казаць, як ён дзеля нас ёсьць патрэбным, каб зрабіць адзіны фронт у нашай рожнаколернай дагэтуль тэрміналёгіі. Карыстаючыся вайсковымі статутамі, выданьнямі Б[еларускай] В[айсковай] К[амісіі] (глядзі страніцу 20-ю) і трымаючыся “Kariškio liet.-rusiš. ir rusiš.- liet. žodynelio”** падаемо пробку такога слоўніка і просімо нашых паважаных чытачоў адгукнуцца і прыслаць свае зданьні*** наконт рожных тэрмінаў.

---

*Гл. № 2 “Вайсковага”.

**Жаўнерскі лет[увіска]-рус[кі] і рус[ка]-лет[увіскі] слоўнік”. — “БР”.

***Верагодна, маюцца на ўвазе прапановы, меркаваньні. — “БР”.

**Рэдакцыя**.

***

Чытайце і пашырайце, беларусы-вайсковыя, сваю (ў вашай роднай бацькаўскай мове) часопісь — двутыдёвік
“ВАЙСКОВЫ”
(Karys)

Адрас: КАЎНАС, Гэнэральный Штаб Літэратурны Аддзел.

(Працяг будзе)

— 20 —  F135-

# Kniнapiś.

М. Гарэцкі. – Гісторыя беларускае літэратуры. 208 str. Košt 125 pols. mk.

Браты М. і Г. Гарэцкія. – Маскоўска-беларускі слоўнік. Wydańnie 2-oje. 144 str. Košt 75 pols. mk.

Антон Навіна. – Пуцяводныя ідэі беларускае літэратуры. Košt 20 p. mk.

А. Канчар. – Клясавае, нацыянальнае і рэлігійнае змаганьне на Беларусі. Košt 20 pols. mar.

Я. Лёсік. – Нашая крыніца. Trećciaje čytańnie dla biełaruskich pačatkowych škoł. 107 str. Košt 50 pols. mk.

Тэрміналёгія арытмэтыкі, укладзеная Камісіяй Менскага Беларускага Пэдагогічнага Інстытуту. Košt 10 polsk. mk.

А. Смоліч. Лемантар „Зорка", ч. I. Košt 20 pols. mk.

Taraškiewič. Biełaruskaja hramatyka. Košt 22 pols. mk.

Задачнік Юрэвіча, год I.

Try apošnija pieradrukawany. Pradajucca ŭ „Biełaruskaj Kniharni" – Wilnia, Zawalnaja 7.

Wydańni Biełaruskaj Wajskowaj Kamisii:

Падарунак беларускаму жаўнеру. Менск. 1920. Fol. 8 str.

Зніч, ппар. канц. Вайсковая стылістыка. Менск. 1920. 32°. 37 str. Košt 1 mk. 50 f. polsk.

Пяхота. Часьць I. Фармальная муштра. Часьць II. Школа бою. Менск. 1920. 32°. 111 str. Košt 10 mk. polsk.

Стрэльба французскае пяхоты. Мод. 1907-1915 М 16. 2-ое выданьне. Лодзь. 1920, 32°. 30 str. Košt 15 mk. polsk.

Дысцыплінарная правілы караў для арміі. Лодзь. 1920. 32°. 40 str. Košt 15 mk. polsk.

Завадзкі, Б. паручнік. Інструктар пяхоты. Часьць I. Фармальная муштра. Лодзь 1920. 32°. 102+3 nienumierow. str.

Восемтыдн. зая праграма вышкаленьня рэкрута пяхоты. Лодзь. 1921. 31 str.

То-že. Asobny list. z paradkam zaniaćciaŭ na kožny dzień. Nabyć ~~mażna~~ ŭ Łodzi i Warszawie.

Wydańnie Literackaha Addziełu Heneral. Štabu.

# ВЫДАНЬНІ ЎКРАІНСКАГА АНТЫСАВЕЦКАГА ПАДПОЛЬЛЯ ДЛЯ БЕЛАРУСІ І ПРА БЕЛАРУСЬ

Вясной 2013 году запрацаваў сайт "Электронны архіў Украінскага Вызвольнага Руху".* Гэта сапраўдны скарб для дасьледчыкаў! Прычым, ня толькі тых, хто вывучае гісторыю ўкраінскага вызвольнага руху. У "Калекцыі друкаваных выданьняў КГБ УССР", якая налічвае больш за 7 тысяч пазыцый, згадваюцца друкі, якія датычаць Беларусі. Гэта і адмысловыя выданьні, падрыхтаваныя ўкраінскім падпольлем, і рапарты-сьведчаньні розных асобаў. Найбольш каштоўныя зь іх мы зьмяшчаем у гэтым нумары "БР" у перакладзе на беларускую мову.

Адзначым, што ўсе гэтыя дакумэнты падрыхтаваныя і выдадзеныя Арганізацыяй украінскіх нацыяналістаў (бандэраўцамі) і створанай ёй Украінскай паўстанцкай арміяй. У Беларускага Супраціву адносіны з гэтай галіной украінскага вызвольнага руху ня склаліся, найперш з-за тэрытарыяльных прэтэнзій бандэраўцаў на беларускае Палесьсе. Таму ня дзіўна, што АУН (б) ня мела выхадаў на структуры беларускай канспірацыі. Больш плённым было супрацоўніцтва Беларускага Супраціву з АУН (мельнікаўцамі) і УНРА (бульбаўцамі).**

---

*http://avr.org.ua

**Гл. на гэтую тэму наступныя публікацыі ў "БР": Казак П. Беларускія дэлегаты // Беларускі Рэзыстанс, 2004, № 1, б. 101; Ёрш С., Горбік С. На два фронты [разьдзел з кнігі "Беларускі Супраціў" (Львоў, 2006)] // Беларускі Рэзыстанс, 2006, № 1(3), б. 3-22; Васіль Кук: Я вёў перамовы з прадстаўнікамі беларускай нелегальнай арганізацыі // Беларускі Рэзыстанс, 2006, № 1(3), б. 72-76; Архіў генэрала Дзьмітрыя Касмовіча // Беларускі Рэзыстанс, 2006, № 1(3), б. 117; "Белавежа". Канфэрэнцыя камандзіраў беларускага партызанскага руху ў верасьні 1945 г. // Беларускі Рэзыстанс, 2007, № 1(4), б. 36; Клявец Р. Да пытаньня дзейнасьці беларусаў у складзе бандэраўскай УПА. 1942-1944 гг. // Беларускі Рэзыстанс, 2007, № 1(4), б. 79-91; Швец Б. Беларускія абаронцы Карпацкай Украіны // Беларускі Рэзыстанс, 2007, № 1(4), б. 129-133; С. Ё. Замах на Рамана Шухевіча. Лета 1942 году // Беларускі Рэзыстанс, 2007, № 1(4), б. 142; Горбік С. Знаходжаньне ўкраінскага батальёну Пабягушчага і Шухевіча ў Беларусі і іх кантакты зь беларускім вызвольным рухам // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 2(7), б. 21-52; Арганізацыя беларускага антысавецкага падпольля ў 1943-1944 гг. у дакумэнтах нямецкіх архіваў // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 2(7), б. 61-70; Клявец Р. Украінскія кур'еры для сувязі з беларускай канспірацыяй у Баранавічах, 1947 год // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 2(7), б. 117-121; Бяда І. Разам з беларусамі // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 2(7), б. 136-139; Ёрш С.

**Дакумэнт № 1.** Машынапіс **“Кароткія інфармацыі пра дачыненьні на Беларусі”**, на ўкраінскай мове, ад 2 жніўня 1943 г. З дакумэнтаў АУН (б), машынапіс, запісана за слоў удзельніка ўкраінскага паліцыйнага батальёну, які прыехаў зь Беларусі на адпачынак ва Ўкраіну. Распавядае пра сытуацыю на тэрыторыі паміж Баранавічамі і Менскам.



110

КОРОТКІ ІНФОРМАЦІЇ ПРО ВІДНОСИНИ

НА БІЛОРУСІ.

Подаю короткі інформації про віносини на Білорусі, які я одержав від одного урльоповця, що хотів перейти до нас з баталіону. Згаданий урльоповець не орентується в ситуації цілости терену білорусі, а подає лиш дані про терен де стаціонував його баталіон, тобто про околиці, на південний захід від Мінська.

Німці в терені. Німці старається вдержати терор. З насе-ленням поводяться, як з худобою. Проводять арешти майже кожного дня, арештовуючи кого тільки вдастся зловити. Господарства конфіскують. Села палять але рідко. На роботи дл німеччини не вивозять майже нікого, бо все населення втікає в ліси й трудно їх зловити. Ходять, отже по селах і забирають худобу. Німецького війська в терені не богато. Їхня боєздатність не велилика. Озброєні досить добре. На чоту мають 1 "Максима" і по 3 ручні кулемети.

Шуцманшафти та Баталіони. Білоруських шуцманшафтів в терені не бага то. За те богато більше баталіонів, головно українських. Загально їх число бгає около 40.000 людей. На цілій Білорусі може буде около 70-80 баталіонів, по 300-800 чоловік. Майже всі ці баталіони, розуміється що по відповідному підході, за вийнятком 5-7, пішли б в ліс. Баталіони на загал мають не злу славу серед населення, бо відмовились нищити села і тероризувати населення. Коли ж йде про білоруську поліцію /Шуцманшафти/ то рівнож буде можливо, що поважна частина шуцманів відійшла б в ліс, разом з баталіонами, бо хоч вони служили німцям, ці останні відносились до них вороже і дуже згори.

Населення. Відносно німців – скрайно вороже. До большевиків є ставиться рівнож негативно, бо большевицька партизанка сильно грабує, хоча є ще 15 – 20% таких, що хотіли б їхнього повороту. Але їх бажання випливає з цієї причини, що вони тільки з двох нещасть вибирають це менше зло Про українську партизанку білоруське населення чуло дуже мало. Про УПА не чуло зовсім. До українських баталіонів білоруське населення ставиться в більшості прихильно, бо українські баталіони не нищать їх і не палили. Білоруські маси національно мало свідомі й проявляють мало активності. Все таки, коли б до них звернутися з поміччю і намовою, іти в ліс – вони пішли б. Урожай цього року вийшов дуже гарний, мимо болотяних теренів. Існує, однак думка, що населення не потрапить зібрати цьогорічних жнив бо перебуває тепер в лісі.

2 серпня 1943 р.

-"-"-"-"-"-"-"-"-

Рэйд праз Карпаты. Пра беларускія атрады, якія з Чэхіі ішлі партызаніць на Радзіму // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 2 (9), б. 70-78; Пірог В. Пра беларуса, які ваяваў у “Палескай Сечы” Бульбы-Бараўца // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 2 (9), б. 105; Клявец Р. Новае пра Палескі батальён БКА // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 2 (9), б. 106-109.

## КАРОТКІЯ ІНФАРМАЦЫІ ПРА ДАЧЫНЕНЬНІ НА БЕЛАРУСІ

Падаю кароткія інфармацыі пра дачыненьні на Беларусі, якія я атрымаў ад аднаго адпускніка, які хацеў перайсьці да нас з батальёну.* Згаданы адпускнік не арыентуецца ў сытуацыі ўсёй тэрыторыі Беларусі, а падае толькі дадзеныя пра тэрыторыю, дзе дысьлякаваўся яго батальён, а менавіта пра ваколіцы на паўднёвы-захад ад Менску.

**Немцы на тэрыторыі.** Немцы стараюцца ўтрымаць тэрор. З насельніцтвам сябе паводзяць, як з жывёлай. Праводзяць арышты амаль штодня, арыштоўваючы каго толькі здолеюць злавіць. Гаспадаркі канфіскуюць. Вёскі паляць, але рэдка. На працы ў Нямеччыну не вывозяць амаль нікога, бо ўсё насельніцтва ўцякае ў лясы і цяжка іх злавіць. Ходзяць ды забіраюць па вёсках жывёлу. Нямецкага войска на тэрыторыі ня шмат. Іх боездольнасьць невялікая. Узброеныя даволі добра. На зьвяз маюць 1 “Максіма” і па 3 ручныя кулямёты.

Шуцманшафты і Батальёны. Беларускіх шуцманшафтаў** на тэрыторыі няшмат. Затое значна больш батальёнаў, пераважна ўкраінскіх. Агульная лічба іх [удзельнікаў] дасягае каля 40.000 чалавек.*** Амаль усе гэтыя батальёны, зразумела пры адпаведным падыходзе, за выняткам 5-7, пайшлі б у лес. Батальёны ўвогуле маюць ня кепскую славу сярод насельніцтва, бо адмовіліся зьнішчаць вёскі і тэрыразаваць насельніцтва. Калі ж ідзе пра беларускую паліцыю /Шуцманшафты/, то таксама будзе магчыма, што значная частка шуцманаў адыйшла б у лес, разам з батальёнамі, бо, хаця яны служылі немцам, гэтыя апошнія адносіліся да іх варожа і вельмі пагардліва.

Насельніцтва. Адносна немцаў — вельмі варожа. Да бальшавікоў адносіцца таксама нэгатыўна, бо бальшавіцка партызанка моцна рабуе, хаця ёсьць яшчэ 15-20% такіх, што хацелі б іх вяртаньня. Але іх жаданьне грунтуецца на той прычыне, што яны толькі з двух няшчасьцяў выбіраюць гэтае меншае ліха. Пра ўкраінскую партызанку беларускае насельніцтва чула вельмі мала. Пра УПА ня чула зусім. Да ўкраінскіх батальёнаў беларускае насельніцтва ставіцца ў большасьці прыхільна, бо ўкраінскія батальёны ня нішчаць іх і не палілі [вёскі].**** Беларускія масы нацыянальна маласьведамыя і праяўляюць мала актыўнасьці. Усё ж такі, калі б да іх зьвярнуцца з дапамогаю і ўгаварыць ісьці ў лес — яны пайшлі б. Ураджай гэтага году выйшаў вельмі добры, акрамя забалочаных тэрыторый. Існуе, аднак, думка, што насельніцтва ня зможа сабраць сёлетні ўраджай, бо знаходзіцца цяпер у лесе.

2 жніўня 1943 г.

*Захоўваецца ў ГДА СБУ Ўкраіны, ф. 13, спр. 376, т. 84; удаступнена: avr.org.ua/index.php/viewDoc/5469/*

*Аднаго з украінскіх паліцыйных батальёнаў, што дзейнічаў на тэрыторыі Беларусі.
**Schutzmannschaft (ням.) — рухомых паліцыйных аддзелаў. Акрамя іх існавалі стацыянарныя паліцыйныя пастарункі — ordnungdinst (служба парадку).
***Лічба відавочна перабольшаная. Вядома, што на 1 ліпеня 1942 году на тэрыторыі Беларусі знаходзіліся 15 шуцман-батальёнаў, у якіх налічвалася 7500 чалавек. У канцы зімы — пачатку вясны 1944-га гэтых батальёнаў было больш за 20, яны налічвалі больш за 26 тысяч чалавек. Па 1943 г. зьвестак няма. Гл.: Литвин А. Местная вспомогательная полиция на территории Беларуси (июль 1941 — июль 1944 гг.) // Беларусь у XX стагоддзі. Выпуск 2. Мінск, 2003; http://www.homoliber.org/ru/xx/xx020127.html
****Як мы ведаем, гэтае сьцьверджаньне не адпавядае сапраўднасьці. Прыгадаем хаця б удзел 118-га ўкраінскага батальёну ў зьнішчэньні беларускай вёскі Хатынь.

**Дакумэнт № 2.** Адозва "Беларускі народ!" Галоўнага камандаваньня УПА, на ўкраінскай мове, сьнежань 1943 г. Друкаванае выданьне.

За Самастойныя Нацыянальныя Дзяржавы Народаў Эўропы і Азіі!

Свабода Народам!
Свабода Чалавеку!

**Беларускі народ!**

Цэлымі стагодзьдзямі прыгнятаў Цябе маскоўскі імпэрыялізм. Яшчэ ў царскай Расеі маскоўскія заваёўнікі, авалодаўшы Тваім народам, пазбавілі Цябе волі. Яны запраглі Цябе ў ярмо паноў і капіталістаў, яны забралі лепшых Тваіх сыноў у царскую армію, каб тыя сваімі грудзьмі баранілі інтарэсы дваран і капіталістычнага ладу ды складалі свае галовы за зьдзяйсьненьне антынародных плянаў панскай верхавіны. Яны пазбавілі Цябе роднай школы і кніжкі, яны кінулі Цябе ў бяду і хваробы.

Прагнучы падначаліць сабе новыя народы, царская Расея ўблыталася ў 1914 годзе ў першую сусьветную імпэрыялістычную вайну і звалілася пад ударамі нацыянальнай рэвалюцыі, якую



За Самостійні Національні Держави народів Європи і Азії! | Воля Народам! Воля Людині!

Білоруський народе!

Де ж ратунок?

Гетъ німецький та московський імперіалізм!

ХАЙ ЖИВЕ САМОСТІЙНА БІЛОРУСЬКА ДЕРЖАВА!
ХАЙ ЖИВЕ САМОСТІЙНА УКРАЇНСЬКА ДЕРЖАВА!
ХАЙ ЖИВУТЬ САМОСТІЙНІ НАЦІОНАЛЬНІ ДЕРЖАВИ ПОНЕВОЛЕНИХ НАРОДІВ!

Головне Командування Української Повстанчої Армії

ДРУКАРНЯ УКРАЇНСЬКОЇ ПОВСТАНЧОЇ АРМІЇ „ВОЛЯ НАРОДАМ!"

распачалі валыняне-ўкраінцы ў Петраградзе.

Тады надыйшоў і для Цябе, беларускі народ, доўгачаканы час свабоды. Ты стаў гаспадаром на сваёй зямлі і рукамі найлепшых сваіх сыноў стварыў Беларускую Нацыянальную Дзяржаву. Ды ня доўга давялося Табе цешыцца свабодай. Маскоўскія імпэрыялісты, якія на гэты раз перафарбаваліся ў так званых інтэрнацыяналістаў-бальшавікоў, пачалі зноў будаваць Расейскую Імпэрыю (РСФСР). Яны збройнай сілай сьцягвалі да яе ўсе землі, якія калісьці апанаваў царскі рэжым. Пад ударамі найноўшых маскоўскіх імпэрыялістаў-бальшавікоў зваліліся Незалежныя Нацыянальныя Дзяржавы беларусаў, украінцаў, грузінаў, азэрбайджанцаў. Пасьля бальшавіцка-польскай вайны, бальшавікі, не пытаючыся ў Цябе, гаспадара, падзяліліся Тваімі землямі на Рыжскім міры ў 1921 годзе з шляхецкай Польшчай.

**Што ж прынесьлі Табе, беларускі народ, маскоўскія бальшавікі за дваццаць гадоў панаваньня на тваёй зямлі?**

Прынесьлі Табе старую маскоўскую палітычную няволю, прыкрытую чырвонай накідкай, каб дурыць народ. Прынесьлі эканамічны рабунак Тваёй краіны. Усё Тваё дабро пайшло на патрэбы маскоўскай імпэрыі, што пераназвалася на СССР. Бальшавікі прынесьлі Табе жахлівае зьнясіленьне народу, бальшавікі сказілі беларускую культуру.

Новыя маскоўскія імпэрыялісты — бальшавікі, захапіўшы ўладу ў Беларусі, пад living рознымі падставамі зьнішчылі нешматлікую беларускую інтэлігенцыю, а на яе месца прыслалі чужую — прыслужніцкую.

Чырвоная Масква адабрала ў беларускага народу частку здаровага сялянскага пласту і выслала яго як “кулакоў” на катаржныя работы ў Сібір. Рэшту сялянства бальшавікі запрэглі ў калгаснае ярмо. Бальшавікі зьнішчылі арыштамі і расстрэламі большасьць сьведамых беларускіх працоўных.

Усе беларускія гарады напоўніліся чужым і варожым для Беларусі элемэнтам. У адміністрацыйным, судовым апаратах сьпешна

праводзілася русіфікацыя.

Прагнучы свабоды, ты не бараніў ні Польшчы ў 1939 годзе, ні Савецкага Саюзу, з якім у 1941 годзе пачала ваяваць гітлераўская Нямеччына.

І вось беларускія землі заняла нямецкая армія. Нямецкая гітлераўская ўлада пачала наводзіць парадкі ў Беларусі.

**Беларускі народ! Ці палепшылася Тваё жыцьцё, калі прыйшоў на Тваю зямлю нямецкі захопнік? Не, і яшчэ раз не!**

Нямецкія імпэрыялісты прынесьлі з сабой тую самую палітычную няволю, тую самую эканамічную эксплуатацыю-рабунак, які быў да іх прыходу.

Страшнымі пажарамі ахопленая сёньня ўся беларуская зямля, беларускі народ сьцякае крывёю.

Бо нямецкі акупант, прагнучы здабыць і замацаваць за сабой вялікія прасторы Ўсходу Эўропы, плянава зьнішчае і Беларусь: паліць вёскі, рабуе маёмасьць, а людзей ловіць і забірае на катаржныя работы ў Нямеччыну, на халодную і галодную сьмерць.

А нядаўні прыгнятальнік беларускага народу — маскоўскі імпэрыяліст — зноўку хоча аднавіць Расейскую Імпэрыю.

Таму ён пасылае ў Беларусь часткі сваёй арміі, якія прыкрываюцца назвай т. зв. чырвоных партызанаў. Гэтыя бандыты паляць рэшткі беларускіх вёсак, рабуюць у насельніцтва апошнюю вопратку, забіраюць апошні кавалак хлеба і апошнюю жывёлу. Чырвоныя бандыты сілай мабілізуюць усіх мужчын і ўсё гэта прадастаўляюць у распараджэньне крамлёўскага ката народаў Сталіна, які зноў хоча паняволіць народы былога Савецкага Саюзу.

**Чырвоныя каты хочуць аднавіць жахлівую бальшавіцкую дзейнасьць з крывавым НКВД, арыштамі, высылкамі ў Сібір, масавымі расстрэламі нявінных грамадзян.**

**Дзе ж ратунак?**

**Беларускі народ!** Ратунак твой у Табе самім!

Уставай на барацьбу за вызваленьне з ярма драпежніцкіх імпэрыялістаў: нямецкіх гітлераўцаў і маскоўскіх бальшавікоў. Толькі ў агульным фронце ўсіх паняволеных народаў Эўропы і Азіі супраць імпэрыялістаў здабудзеш сабе лепшае заўтра! Гэтую сьвяшчэнную барацьбу супраць панявольнікаў распачаў ужо ўкраінскі народ, пасылаючы ў бой Украінскую Паўстанцкую Армію, якая б’ецца пад клічамі: “Свабода народам, свабода чалавеку. За самастойныя нацыянальныя дзяржавы паняволеных народаў Эўропы і Азіі”.

Аддзелы Ўкраінскай Паўстанцкай Арміі бязьлітасна б’юць ворагаў — імпэрыялістаў: гітлераўскіх і сталінскіх вераадступнікаў і іх прыслужнікаў на Ўкраіне.

Беларусь! Стварай свае збройныя сілы і выганяй прэч банды імпэрыялістычных захопнікаў, што зьнішчаюць Твой народ, рабуюць і паляць Твае вёскі. Заводзь свой лад і парадак на сваёй зямлі.

Уваходзь у паразуменьне ды арганізуй супольную дзейнасьць з аддзеламі Ўкраінскай Паўстанцкай Арміі супраць агульных ворагаў. За намі праўда, перамога будзе наша!

Прэч нямецкі і маскоўскі імпэрыялізм!

НЯХАЙ ЖЫВЕ САМАСТОЙНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАВА!

НЯХАЙ ЖЫВЕ САМАСТОЙНАЯ ЎКРАІНСКАЯ ДЗЯРЖАВА!

НЯХАЙ ЖЫВУЦЬ САМАСТОЙНЫЯ НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ ДЗЯРЖАВЫ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ!

**Галоўнае Камандаваньне**
**Украінскай Паўстанцкай Арміі**

Пастой, сьнежань 1943 г.

**************************************************************

ДРУКАРНЯ ЎКРАІНСКАЙ ПАЎСТАНЦКАЙ АРМІІ
“ВОЛЯ НАРОДАМ”. Зам[ова] н[умар] 51 — 43.

*Захоўваецца ў ГДА СБУ Ўкраіны, ф. 13, спр. 376, т. 41; удаступнена: http://avr.org.ua/index.php/viewDoc/5221/*

**Дакумэнт № 3**. Улётка “**Беларусы**!”, на рускай мове, бяз даты. Верагодна, выданьне УПА, выраблена цыклястылем.



СВОБОДА НАРОДАМ И ЧЕЛОВЕКУ!

БЕЛОРУССЫ!

ПОДЫМАЙТЕСЬ К БОРЬБЕ ПРОТИВ РУССКО-БОЛЬШЕВИСТСКИХ ИМПЕРИАЛИСТОВ ЗА СВОЕ НАЦИОНАЛЬНОЕ И СОЦИАЛЬНОЕ ОСВОБОЖДЕНИЕ, ЗА ПОСТРОЕНИЕ САМОСТОЯТЕЛЬНОЙ БЕЛОРУССКОЙ ДЕРЖАВЫ, РУКОВОДИТЕЛЕМ И ХОЗЯИНОМ КОТОРОЙ БУДЕТ БЕЛОРУССКИЙ НАРОД!

СМЕРТЬ РУССКО-БОЛЬШЕВИСТСКИМ ИМПЕРИАЛИСТАМ—УГНЕТАТЕЛЯМ БЕЛОРУССКОГО И ДРУГИХ НАРОДОВ!

УКРАИНСКИЕ ПОВСТАНЦЫ

СВАБОДА НАРОДАМ І ЧАЛАВЕКУ!

**БЕЛАРУСЫ**!

ПАДЫМАЙЦЕСЯ ДА БАРАЦЬБЫ СУПРАЦЬ РУСКА-БАЛЬШАВІЦКІХ ІМПЭРЫЯЛІСТАЎ ЗА СВАЁ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ І САЦЫЯЛЬНАЕ ВЫЗВАЛЕНЬНЕ, ЗА ПАБУДОВУ САМАСТОЙНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ, КІРАЎНІКОМ І ГАСПАДАРОМ ЯКОЙ БУДЗЕ БЕЛАРУСКІ НАРОД!

СЬМЕРЦЬ РУСКА-БАЛЬШАВІЦКІМ ІМПЭРЫЯЛІСТАМ-ПРЫГНЯТАЛЬНІКАМ БЕЛАРУСКАГА І ІНШЫХ НАРОДАЎ!

УКРАІНСКІЯ ПАЎСТАНЦЫ

*Захоўваецца ў ГДА СБУ Украіны, ф. 13, спр. 376, т. 42; удаступнена: http://avr.org.ua/index.php/viewDoc/5471/*

**Дакумэнт № 4.** Адозва ўкраінскіх паўстанцаў **да беларускіх сялян**, работнікаў і інтэлігенцыі. Машынапіс, на ўкраінскай мове, бяз даты.



96

Прочитай і непомітно підкинь свойому другові ! 185

Воля народам і людині !

БІЛОРУСИ – СЕЛЯНИ, РОБІТНИКИ, ІНТЕЛІГЕНТИ !

Російські большевики поневолили Вашу батьківщину, грабують Ваш дорібок, арештовують і знищують білоруських патріотів, в Білорусію навозять російських чиновників, які призначені на те, щоб Вас гнобити і русифікувати. Російські большевики загнали селян в колгоспне ярмо, робітників заставили впроголодь і за низьку платню працювати на заводах, інтелігенцію заставили служити большевицькій Москві. Ставайте, отже, усі до боротьби проти сталінських гнобителів і експлуататорів !

Українські Повстанці

**Прачытай і незаўважна падкінь свайму сябру!**

Свабода народам і чалавеку!

**БЕЛАРУСЫ — СЯЛЯНЕ, РАБОТНІКІ, ІНТЭЛІГЕНТЫ!**

Расейскія бальшавікі паняволілі Вашу бацькаўшчыну, рабуюць вынікі Вашай працы, арыштоўваюць і зьнішчаюць беларускіх патрыётаў, у Беларусь навозяць расейскіх чыноўнікаў, якія

прызначаныя на тое, каб Вас прыгнятаць і русіфікаваць. Расейскія бальшавікі загналі сялян у калгаснае ярмо, працаўнікоў прымусілі галадаючы і за нізкую плату працаваць на заводах, інтэлігенцыю прымусілі служыць бальшавіцкай Маскве. Уставайце ўжо, усе на барацьбу супраць сталінскіх рабаўнікоў і эксплуатататараў!

**Украінскія Паўстанцы**

*Захоўваецца ў ГДА СБУ Ўкраіны, ф. 13, спр. 376, т. 42; удаступнена: http://avr.org.ua/index.php/viewDoc/5468/*

**Дакумэнт № 5.** Зварот украінскіх паўстанцаў **да беларускай моладзі**. На рускай мове, цыклястыль. На даным аркушы зьмешчаны ня толькі зварот да моладзі — ніжэй знаходзіцца зварот да беларускіх сялян, работнікаў і інтэлігенцыі (гл. папярэдні дакумэнт), яшчэ ніжэй — зварот да байцоў і афіцэраў Чырвонай Арміі.



Свобода народам и человеку!

БЕЛОРУССКАЯ МОЛОДЕЖЬ!

Будущее Твоего народа - в Твоих руках. Посмотри, как все народы, порабощенные Москвой, борятся за свое освобождение, как в первых рядах етой борьбы идет молодежь каждого народа. Поднимайся и Ты к борьбе за свободу Белоруссии! Расширяй свою подпольную освободительную организацию! Укрепляй связи с украинскими революционерами - бандеровцами!

Да здравствует дружба и сотрудничество белорусских и украинских революционеров!

Смерть Сталину и его соратникам!

УКРАИНСКИЕ ПОВСТАНЦЫ.

Свобода народам и человеку!

БЕЛОРУССЫ - КРЕСТЬЯНЕ, РАБОЧИЕ, ИНТЕЛЛИГЕНТЫ

Русские большевики порабощают Вашу отчизну, грабят Ваши багатства, арестовывают и уничтожают белорусских патриотов, в Белоруссию навозят русских чиновников, которые предназначены для того, чтобы Вас угнетать и руссифицировать. Русские большевики загнали крестьян в колхозное ярмо, рабочих заставили впроголодь и за низкую зарплату работать на заводах, интеллигенцию заставили служить большевистской Москве. Подымайтесь все к борьбе против сталинских угнетателей и експлуататоров!

УКРАИНСКИЕ ПОВСТАНЦЫ.

Свабода народам і чалавеку!

**БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ!**

Будучае Твайго народу — у Тваіх руках. Паглядзі, як усе народы, паняволеныя Масквой, змагаюцца за сваё вызваленьне, як у першых шэрагах гэтай барацьбы ідзе моладзь кожнага народу. Падымайся і Ты да барацьбы за свабоду Беларусі! Пашырай сваю падпольную вызвольную арганізацыю! Умацоўвай сувязі з украінскімі рэвалюцыянерамі-бандэраўцамі!

Няхай жыве дружба і супрацоўніцтва беларускіх і ўкраінскіх рэвалюцыянераў!

Сьмерць Сталіну і яго паплечнікам!

**УКРАІНСКІЯ ПАЎСТАНЦЫ**

*Захоўваецца ў ГДА СБУ Ўкраіны, ф. 13, спр. 376, т. 42; удаступнена:http://avr.org.ua/index.php/viewDoc/5384/*

**Дакумэнт № 6.** Адозва да беларускага народу **“Беларускай сэкцыі Рэвалюцыйнага камітэту паняволеных народаў”**, ліпень 1944 г. Выданьне на рускай мове (падрыхтавана непісьменна — вельмі шмат памылак, абдруковак), друкаванае. Найхутчэй выдаўцом зьяўляецца АУН (б).

За Самастойную Беларускую Дзяржаву!

Свабода Народам! Свабода Чалавеку!

## БЕЛАРУСЫ!

Цэлыя стагодзьдзі прыгнятаў нас маскоўска-царскі імпэрыялізм. Зьдзекаваліся над намі царскія памешчыкі і капіталісты. Яны адбіралі ў нас родную мову, зьнішчалі нашую культуру, нашыя нацыянальныя школы, яны прынесьлі нам галечу і хваробы.

Намагаючыся заваяваць сабе новыя народы, царская Расея ўлезла [ў] 1914 г. у першую сусьветную імпэрыялістычную вайну і ўпала пад ударамі нацыянальна-вызвольных рэвалюцый. **Тады прыйшла для беларусаў доўгачаканая свабода. Беларусы сталі**

**гаспадарамі сваёй роднай зямлі і рукамі лепшых сваіх сыноў стварылі Беларускую Нацыянальную Дзяржаву.**

Але нядоўга ўсьміхалася беларусам свабода. Прыйшлі новыя імпэрыялісты, якія назвалі сябе бальшавікамі. Бальшавікі на касьцях працоўных пачалі будуваць бальшавіцкую імпэрыю — СССР. Яны сілай зброі “аб’ядналі” ў новай імпэрыі ўсе землі, раней захопленыя царскімі заваёўнікамі. **Пад ударамі бальшавіцкіх імпэрыялістаў не ўтрымаліся Незалежныя Нацыянальныя Дзяржавы беларусаў, украінцаў, грузінаў, азэрбайджанцаў і іншых народаў.**

Пасьля бальшавіцка-польскай вайны бальшавікі ў Рызе 20 кастрычніка 1920 году зрабілі падзел беларускай зямлі разам з панскай Польшчай.

**Што ж прынесьлі бальшавікі беларусам за 20 гадоў свайго панаваньня?** Бальшавікі прынесьлі нам палітычнае паняволеньне, жорсткую эксплёатацыю і эканамічны рабунак. Усё нашае багацьце пайшло на патрэбы бальшавіцкай імпэрыі, якая называецца СССР. Бальшавікі зьнявечылі беларускую культуру.

Бальшавікі зьнішчылі малакольную беларускую інтэлігенцыю, а на яе месца прыслалі чужую, якая выслужвалася. Сталінскія імпэрыялісты выгналі на катаржныя працы ў Сібір шмат беларускага сялянства, назваўшы яго “кулацтвам”. Астатніх ацалелых сялян бальшавікі загналі ў калгасы адпрацоўваць сацыялістычную паншчыну. Бальшавікі зьнішчылі арыштамі і расстрэламі лепшую частку беларускіх рабочых. Усе беларускія гарады напоўніліся чужым і варожым для Беларусі элемэнтам. Усіх беларускіх камуністаў, якія не пагаджаліся з палітыкай маскоўскіх акупантаў — сталінскія каты зьнішчылі. Яны расстралялі Галадзеда, Чарвякова, Шаранговіча і шмат іншых.

Жадаючы свабоды і незалежнасьці, мы не абаранялі ні Польшчы ў 1939 г., ні Савецкага Саюзу, зь якім у 1941 г. пачала вайну гітляроўская Нямеччына.

Гітляроўскія імпэрыялісты прынесьлі Беларусі той жа палітычны і культурны прыгнёт, эканамічны рабунак, які шалеў да іх прыходу. Гітляроўскія заваёўнікі плянава зьнішчалі Беларусь: палілі вёскі, рабавалі народнае багацьце, а людзей сілай звозілі на катаржныя працы ў Нямеччыну.

Сталінскія ж імпэрыялісты, намагаючыся адрадзіць бальшавіцкую імпэрыю, старанна дапамагалі гітляроўцам зьнішчаць беларускі народ. Банды т. зв. чырвоных партызанаў-парашутыстаў ня біліся з гітляроўцамі, а ўвесь час [тэрарызавалі?] рэшту беларускіх вёсак, рабавалі ў насельніцтва апошнюю вопратку, забіралі апошні кавалак хлеба і апошнюю карову. Банды чырвоных парашутыстаў сілай мабілізоўвалі ўсіх беларускіх мужчын і адпраўлялі іх у распараджэньне крамлёўскага ката народаў Сталіна.

Цяпер сталінскія каты зноў аднаўляюць у Беларусі “сацыялістычнае шчасьце” з крывавым НКВД, арыштамі, высылкамі ў Сыбір, масавымі расстрэламі мірных жыхароў. Зноў аднаўляецца жорсткая эксплёатацыя працоўных, эканамічны рабунак краіны і нечуваны ў сьвеце палітычны прыгнёт.

**Беларусы! Наш ратунак у нашых уласных руках!** Падымайцеся на барацьбу з гітляроўска-сталінскімі імпэрыялістамі! У агульным фронце ўсіх паняволеных народаў Эўропы і Азіі — зарука нашага вызваленьня!

Фармуйце ўзброеныя паўстанцкія атрады! Зьнішчайце крывавае НКВД! Зьнішчайце здраднікаў свайго народу — бальшавіцкіх прыслужнікаў! Прымайце ў свае ўзброеныя фармацыі байцоў Чырвонай арміі, якіх сілай гоняць ваяваць за інтарэсы імпэрыялістычнага бальшавізму.

**Беларускія паўстанцы!** Уваходзьце ў кантакт з Паўстанцкімі Арміямі ўсіх паняволеных народаў! Рыхтуйцеся да Нацыянальна-Вызвольнай Рэвалюцыі ў СССР, зьбірайце сілы для барацьбы за Самастойную Беларускую Дзяржаву!

Сьмерць гітляроўска-сталінскім імпэрыялістам!
Далоў бальшавіцкі рэжым!
Няхай жыве Самастойная Беларусь!
Няхай жывуць Самастойныя Дзяржавы ўсіх паняволеных народаў!

**РЭВАЛЮЦЫЙНЫ КАМІТЭТ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ**

**Беларуская Сэкцыя.**

Ліпень 1944 г.

*Захоўваецца ў ГДА СБУ Ўкраіны, ф. 13, спр. 376, т. 42; удаступнена:*
*http://avr.org.ua/index.php/viewDoc/5469/*
*http://avr.org.ua/index.php/viewDoc/5811/*

**Дакумэнт № 7.** Гумарыстычная публікацыя ў часопісе “Український перець” ад 1945 году. “Віншаваньне” беларускіх калгасьнікаў савецкаму дыктатару Іосіфу Сталіну.




**Навагоднія віншаваньні кату народаў Ёську Сталіну**

З нагоды новага — 1945 — году Ё. Сталін атрымаў вельмі шмат навагодніх віншаваньняў і тэлеграмаў. Некаторыя зь іх друкуем на гэтым месцы:

“Дарагі Ёська!

Мы, убогія беларускія калгасьнікі, з нагоды новага — 1945 — году вырашылі скласьці табе такое віншаваньне: каб у гэтым годзе на нашай беларускай зямлі вырасьлі такія добрыя каноплі, як ніколі дагэтуль; каб з тых канопель мы здабылі 100 мільёнаў пудоў пражы; каб з той пражы нашы матузяры* сплялі даўгую і таўшчэзную вяроўку і каб цябе на гэтай вяроўцы ў гэтым жа годзе павесілі на найвышэйшай вежы Крамля.

Беларускія калгасьнікі”.

*“Український перець”, 1945, № 3. Сакавік. С. 12. Падпольнае выданьне ўкраінскіх паўстанцаў. Удаступнена: http://avr.org.ua/index.php/viewDoc/10751/*

*Рамесьнікі, якія вырабляюць вяроўкі. — “БР”.

**Дакумэнт № 8.** Тэкст **“Задачы арганізацыі [АУН] на бліжэйшыя гады”**. 1949 год. Забраны ў забітага 20 лістапада 1949 г. у Ровенскай вобласьці УССР сябра краявога праваду АУН на Паўночна-заходніх украінскіх землях Рыгора Семянюка (“Мручко”). Фрагменты перадрукоўваюцца ў перакладзе на беларускую мову з рускамоўнага варыянта дакумэнта, выкананага ў лютым 1950-га ў МГБ УССР.

ЗАДАЧЫ АРГАНІЗАЦЫІ НА БЛІЖЭЙШЫЯ ГАДЫ

а/ Памнажаць свае ўнутраныя сілы.
б/ Пранікаць і ствараць арганізацыі на ўсходніх украінскіх землях.
в/ Пранікаць і пашыраць наш уплыў у Беларусі.

/.../

Да пункта в/

На тэрыторыі Беларусі наша праца павінна ісьці па наступных накірунках:

1. Распаўсюджваць ідэі і зьвесткі аб нашай барацьбе сярод усяго насельніцтва Беларусі.

2. Абуджаць і падштурхоўваць да антыбальшавіцкай барацьбы разам з Украінай і іншымі паняволенымі народамі.

3. Імкнуцца ўстанавіць, праверыць і ўтрымаць сувязь з сярэднімі зьвёнамі беларускага падпольля.

4. Там, дзе такіх няма, знаходзіць адпаведных людзей і арганізоўваць падпольныя кружкі пад беларускай нацыянальнай назвай, на аснове беларускага патрыятызму і адразу ж лаяльна настройваць да ўжо існуючых падпольных зьвёнаў, каб не падумалі, што мы ствараем нейкую фракцыю.

5. Украінцаў, якія жывуць на тэрыторыі Беларусі, калі маюцца падыходзячыя і каштоўныя людзі, уцягваць у АУН.

6. Дакладна падкрэсьліваць, што мы за самастойную і неза-

лежную Беларускую дзяржаву. Пытаньне пра мяжу вырашым на аснове плебісцыту насельніцтва ў памежнай паласе.

7. Імкнемся знайсьці такіх людзей, якія маглі б пасьпяхова перакладаць нашыя выданьні на беларускую мову.

8. Адтуль, калі ёсьць такія людзі, імкнуцца распаўсюджваць зьвесткі пра нас, нашу літаратуру ў Літве, Латвіі, Эстоніі і зьбіраць матэрыялы аб іх барацьбе і палітыцы ў гэтых краінах.

Перасылаць больш цікавыя выпіскі з прэсы на рускай мове з гэтых краін.

9. Пры ўсёй гэтай працы неабходна быць выключна асьцярожным, каб не патрапіць на чужую агентуру, і ўсё рабіць са згоды і ў адпаведнасьці з інструкцыямі вышэйшых інстанцый.

*Захоўваецца ў ГДА СБУ Ўкраіны, ф. 13, спр. 372, т. 11; удаступнена:http://avr.org.ua/index.php/viewDoc/11200/*

**Дакумэнт № 9.** Зварот Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў **"Да беларускага народу!"**, 1950 г. На ўкраінскай мове, надрукаваны ў форме брашуры на 8 бачынах, ілюстраваны. Месца выданьня (Кіеў — Харкаў) — відавочна, непраўдзівае, пададзенае ў мэтах кансьпірацыі. Насамрэч брашура была надрукаваная на Валыні. Вядомыя некалькі выданьняў.



Воля народам і людині!
За вільні національні держави поневолених народів!
Поневолені народи СССР єднайтеся у боротьбі проти большевицьких гнобителів та експлуататорів!

ДО
БІЛОРУСЬКОГО НАРОДУ

Видання Організації Українських Націоналістів
Київ 1950 Харків

усі! Вже багато сторіч Ваш народ поневіряється
двигаючи ярмо різних окупантів. Незчисленних
вдали окупанти Білоруському Народові. Найбіль-
спустошення нанесли і наносять Вашому народові
ько-большевицькі імперіялісти.
арештованих, розстріляних, запроторених на за-
руських патріотів, замучених голодом і важкою
лян і робітників; розстріляні сотні білорусь-
ізанів, переданих польськими окупантами перед
большевикам; загнання в колгоспне ярмо бі-
селян, жорстока експлуатація робітників; без-
усифікація білоруської мови, культури, побуту;
ція білоруської історії; грабунок багатств біло-
илі; вдавлювання поліційним терором свобідної
оду — ось ще далеко не всі „блага", що їх при-
риносить для Білоруського Народу варварська
аршого брата", тобто російських імперіялістів.
фізичне і матеріяльне винищування білорусько-
ського та інших народів СССР російсько-больше-
ріялістів в останні часи ще більше посилили.
чі такої небезпеки наші народи, як і всі поне-
вою народи, можуть шукати порятунку тільки
у революційної національно-визволь-
тьби.
и таку боротьбу веде вже понад 20 років Орга-
аїнських Націоналістів (ОУН) під керівництвом
ндера, а від 1942 р. також й Українська Пов-
ія (УПА), очолена генералом Тарасом Ч прин-
нашою визвольною боротьбою керує підпіль-
ський уряд і парламент — Українська Головна
Рада (УГВР)
м елементом нашої політичної платформи кличе
: „Воля народам! Воля людині!". От-
емося не тільки за здобуття і побудову Укра-
остійної Держави, але рівночасно і за побудову
російсько-большевицької імперії самостійних на-

— 2 —

Свабода народам і чалавеку!
За свабодныя нацыянальныя дзяржавы паняволеных народаў!
Паняволеныя народы СССР яднайцеся ў барацьбе супраць
бальшавіцкіх прыгнятальнікаў і эксплуататараў!

## ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ

Выданьне Арганізацыі Ўкраінскіх Нацыяналістаў
Кіеў — Харкаў, 1950

**Беларусы!** Ужо шмат стагодзьдзяў Ваш народ знаходзіцца ў няволі, рухаючы ярмо розных акупантаў. Незьлічоныя ахвяры прынесьлі акупанты Беларускаму Народу. Найбольшыя аднак спусташэньні нанесьлі і наносяць Вашаму народу расейска-бальшавіцкія імпэрыялісты.

Тысячы арыштаваных, расстраляных, асуджаных на высылку беларускіх патрыётаў, замораных голадам і цяжкаю працаю сялян ды працаўнікоў; расстраляныя сотні беларускіх палітвязьняў, перададзеных польскімі акупантамі перад 1939 годам бальшавікам; загнаньне ў калгаснае ярмо беларускіх сялян, жорсткая эксплуатацыя працаўнікоў; бязьлітасная русіфікацыя беларускай мовы, культуры, побыту; фальсіфікацыя беларускай гісторыі; рабунак багацьцяў беларускай зямлі; зацісканьне паліцыйным тэрорам свабоднай думкі народу — гэта яшчэ ня ўсе “блага”, што прыносіла і прыносіць для Беларускага Народу варварская “апека” “старэйшага брата”, а менавіта расейскіх імпэрыялістаў.

Духоўнае, фізычнае і матэрыяльнае вынішчэньне беларускага, украінскага ды іншых народаў СССР расейска-бальшавіцкія імпэрыялісты апошнім часам яшчэ больш узмацнілі.

У абліччы такой небясьпекі нашыя народы, як і ўсе паняволеныя Масквой народы, могуць шукаць ратунку толькі **на шляху рэвалюцыйнай нацыянальна-вызвольнай барацьбы.**

Ва Ўкраіне такую барацьбу вядзе ўжо больш за 20 гадоў Арганізацыя Ўкраінскіх Нацыяналістаў (АУН) пад кіраўніцтвам Сьцяпана Бандэры, а ад 1942 г. таксама і Ўкраінская Паўстанцкая Армія (УПА), якую ачольвае генэрал Тарас Чупрынка. Усёй нашай вы-

звольнай барацьбой кіруе падпольны ўкраінскі ўрад і парлямэнт — Украінская Галоўная Вызвольная Рада (УГВР).

Асноўным элемэнтам нашай палітычнай плятформы зьяўляецца кліч: “Свабода народам! Свабода чалавеку!”. Таму мы змагаемся ня толькі за здабыцьцё і пабудову Ўкраінскай Самастойнай Дзяржавы, але адначасова і за пабудову на руінах расейска-бальшавіцкай імпэрыі самастойных нацыянальных дзяржаваў усіх народаў, паняволеных Масквою, у тым ліку і Беларускага Народу. Таксама прызнаем права на самастойнае дзяржаўнае жыцьцё і за расейскім народам, але толькі на расейскіх этнаграфічных землях. Усялякую вылазку расейцаў з мэтай разгортваньня “апекі”, г. зн. паняволеньня іншых народаў, будзем самым рашучым чынам ліквідаваць.

Мы непахісна перакананыя ў тым, што толькі ўласная нацыянальная дзяржава кожнага народу дасьць яму магчымасьць і гарантыі свабодна разьвіваць свае духовыя сілы, сваю нацыянальную культуру, сваю народную гаспадарку, а як наступства гэтага — пастаянна падымаць на вышэйшы ўзровень жыцьцёвую ступень і матэрыяльны дабрабыт народу. Доказаў на гэта гісторыя дала і дае безьліч.

Мы таксама перакананыя і ў тым, што шмат стагодзьдзяў паняволеньня Масквой народаў было абумоўленае тым, што гэтыя народы не выступалі на барацьбу супраць Масквы сумесна адзіным фронтам. Улічыўшы гэты досьвед, мы ад самага пачатку існаваньня АУН прапагандавалі і прапагандуем ідэю супольнага фронту народаў у барацьбе супраць расейскіх імпэрыялістаў за сваё нацыянальнае і сацыяльнае вызваленьне. Для рэалізацыі гэтай ідэі наш рух рабіў усе магчымыя захады.

Гэтая ідэя набыла рэальныя формы толькі ў барацьбе супраць нямецкіх і бальшавіцкіх імпэрыялістаў. У 1943 г. былі створаныя пры УПА на Валыні і Палесьсі паўстанцкія аддзелы шматлікіх паняволеных народаў. Усе мы разам змагаліся **за новы лад на Ўсходзе Эўропы і ў падбальшавіцкай Азіі, за волю народаў і чалавека.** У лістападзе 1943 г. адбылася на тэрыторыі дзеяньняў УПА I Канфэрэнцыя Паняволеных Народаў, якая заклала падмурак пад утварэньне Антыбальшавіцкага Блёку Народаў (АБН). Арганізацыйнае афармленьне АБН-у цалкам завершанае на эміграцыі ў 1946 г. замежнымі палітычнымі прадстаўніцтвамі амаль усіх паняволеных Масквой народаў. У АБН за мяжой уваходзіць таксама замежнае прадстаўніцтва Беларускага Народу, якое праводзіць акцыю сярод усіх народаў за справу вызваленьня Беларускага

Народу, за пабудову Беларускай Самастойнай Дзяржавы.

АБН праводзіць антыбальшавіцкую прапаганду і дыпляматычную дзейнасьць ад імя паняволеных Масквой народаў на тэрыторыі заходніх дзяржаваў, сярод эмігранцкіх серадовішчаў і сярод усіх народаў сьвету.

Напрыклад, 3 красавіка 1949 г. адбылася масавая пратэстная маніфэстацыя ў г. Баерн (Баварыя), арганізаваная кіраўніцтвам АБН, як пратэст супраць вынішчэньня бальшавікамі ў канцлягерах народаў СССР. З прамовамі выступалі прадстаўнікі беларускага, украінскага, летувіскага і іншых народаў.

10 красавіка 1949 г. адбылася ў Мюнхэне (Нямеччына) вялікая пратэстная дэманстрацыя, арганізаваная кіраўніцтвам АБН як пратэст супраць паняволеньня і зьнішчэньня бальшавікамі беларускага, украінскага і ўсіх народаў СССР. У дэманстрацыі ўзяло ўдзел больш за 10 тысяч чалавек розных народаў, у тым ліку і прадстаўнікі Беларускага Народу. Падобныя пратэстныя дэманстрацыі паняволеных Масквой народаў адбыліся ў Францыі, Англіі, Бельгіі ды іншых краінах, дзе знаходзяцца эмігранты.

Але на эміграцыі не вырашыцца будучыня нашых народаў. Гэтая будучыня мусіць вырашыцца ў заўзятай барацьбе супраць акупантаў толькі на тэрыторыі кожнага паняволенага народу. Дзейнасьць нашых прадстаўніцтваў на эміграцыі можа толькі ў пэўнай ступені стварыць спрыяльныя абставіны для дасягненьня перамогі над агульным ворагам. Таму трэба ўмацоўваць дружбу і супрацоўніцтва паняволеных народаў, іх незалежніцкіх падпольных арганізацый, разгортваць супольна вызвольную барацьбу тут, пад бальшавіцкай акупацыяй. **Трэба ствараць і ўмацоўваць адзіны антыбальшавіцкі фронт найперш народаў непасрэдна паняволеных бальшавікамі, — фронт ад Балтыйскага мора аж па Ціхі акіян.**

Ніхто не прынясе нам вызваленьня, калі толькі нашы народы супольнымі сіламі не здабудуць сабе яго самі. Усялякія зьнешнія абставіны (як тая ж вайна) могуць толькі аблегчыць нам у пэўных адносінах дасягненьне мэты нашых народаў уласнымі сіламі.

Нельга сёньня беларускаму, як і ўкраінскаму ды іншым паняволеным народам выпускаць з-пад увагі той факт, што ўжо сёньня на эміграцыі расейскія “адзінанедзялімцы” на чале з Керанскім, Далiным і ім падобнымі зубрамі расейскага імпэрыялізму рыхтуюцца заняць месца Сталіна ў выпадку вайны і разгрому бальшавізму. Яны рыхтуюць пляны новага паняволеньня ўсіх тых народаў, што загнаныя ў межы СССР. Яны сёньня яшчэ толькі эмігранты, а ўжо

кідаюцца з пенай на вуснах нават на найменшы акт змаганьня кожнага паняволенага Масквой народу да сваёй дзяржаўнай самастойнасьці. А што яшчэ думаць пра палітыку гэтых колаў да паняволеных народаў, калі б гэтыя “новыя” расейскія імпэрыялісты апынуліся пры ўладзе.

Усе паняволеныя Масквой народы, у тым ліку беларускі і ўкраінскі народы, павінныя згэтага зрабіць ясную выснову: чырвоныя, белыя ці рабыя расейскія імпэрыялісты — аднолькава сьмяротныя ворагі беларускага, украінскага і ўсіх народаў, паняволеных Масквой. Таму трэба ўсім нашым народам яшчэ больш замацаваць дружбу і супрацоўніцтва між сабой. Нам трэба супольна праводзіць усе акцыі на міжнароднай арэне, трэба супольна разгортваць барацьбу на акупаваных нашых землях, абменьвацца досьведам і рыхтаваць сілы да барацьбы супраць усялякіх расейскіх імпэрыялістаў.

**Беларусы!** Памятайце, што Ўкраінскі Народ і яго рэвалюцыйна-вызвольны рух — гэта самы верны Ваш сябра і саюзьнік у барацьбе за Самастойную Беларускую Дзяржаву. Мы, украінскія рэвалюцыянеры, разам з усім народам горача вітаем Вашу вызвольную барацьбу і радуемся кожнаму Вашаму посьпеху. Таксама дружна і радасна вітаем дзень Вашай Волі. Няхай жа дружба нашых народаў будзе вечнай.

**Беларуская інтэлігенцыя!** Уставай на чале барацьбы свайго шматпакутнага народу. Дастаткова няволі спазнаў Беларускі Народ. Вядзі ў бой за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленьне.

**Беларускія сяляне і рабочыя!** Расейска-бальшавіцкія імпэрыялісты зрабілі Вас нямымі рабамі на Вашай жа роднай зямлі. Уставайце на барацьбу за сваё вызваленьне: за зямлю, за належную працу і плату на заводах і шахтах, за волю Вашу і ўсяго Беларускага Народу!

**Беларускія рэвалюцыянеры!** Перасылаем Вам дружнае рэвалюцыйнае прывітаньне з нашага поля бою. Змагайцеся і далей заўзята супраць азьвярэлых расейскіх акупантаў. Разбудоўвайце і ўзмацняйце сваю падпольную арганізацыю! Устанаўлівайце сувязі праз вядомых Вам давераных людзей з нашымі структурамі на памежжы нашых тэрыторый! Перасылайце рознымі спосабамі свае лістоўкі, клічы, літаратуру ў гарады і вёскі Ўкраіны. Перасылайце сваю і нашу літаратуру ў Летуву, Латвію, Эстонію і ў іншыя т. зв. саюзныя рэспублікі! Узмацняйце супрацоўніцтва з украінскімі рэвалюцыянерамі і рэвалюцыянерамі прыбалтыйскіх народаў! Няхай умацоўваецца наш фронт!

САЛЮТ УСІМ ЗМАГАРАМ, ШТО ПАЛЯГЛІ Ў БАРАЦЬБЕ СУПРАЦЬ РАСЕЙСКА-БАЛЬШАВІЦКІХ АКУПАНТАЎ ЗА СВАБОДУ СВАІХ НАРОДАЎ!

НЯХАЙ ЖЫВУЦЬ БЕЛАРУСКАЯ І ЎКРАІНСКАЯ САМАСТОЙНЫЯ І НЕЗАЛЕЖНЫЯ ДЗЯРЖАВЫ!

НЯХАЙ ЖЫВУЦЬ САМАСТОЙНЫЯ НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ ДЗЯРЖАВЫ ЎСІХ ПАНЯВОЛЕНЫХ МАСКВОЮ НАРОДАЎ!

НЯХАЙ ЖЫВЕ АНТЫБАЛЬШАВІЦКІ БЛЁК НАРОДАЎ — ВЫЗВОЛЬНАЯ СІЛА ЎСІХ ПАНЯВОЛЕНЫХ МАСКВОЮ НАРОДАЎ!

НЯХАЙ ЖЫВЕ ВЫЗВОЛЬНАЯ БАРАЦЬБА БЕЛАРУСКАГА, УКРАІНСКАГА І ЎСІХ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ!

СЬМЕРЦЬ РАСЕЙСКА-БАЛЬШАВІЦКІМ ІМПЭРЫЯЛІСТАМ І ІХ АГЕНТАМ!

1950 год

**АРГАНІЗАЦЫЯ УКРАІНСКІХ НАЦЫЯНАЛІСТАЎ**

ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

Украінская Прэсавая Служба (УПС) пры Замежным Прадстаўніцтве Ўкраінскай Галоўнай Вызвольнай Рады паведамляе:

Антыбальшавіцкі Блёк Народаў (АБН) разгортвае ажыўленую дзейнасьць і вырас сёньня ўжо ў значную сілу. У АБН уваходзяць прадстаўнікі такіх народаў: беларусаў, украінцаў, эстонцаў, латышоў, летувісаў, славакаў, мадзяраў, сербаў, харватаў, славенцаў, албанцаў, румын, балгараў, данскіх казакаў, горцаў Каўказу, грузін, азэрбайджанцаў, туркестанцаў, ідэльуральцаў. Кіраўніком Цэнтральнага Камітэту АБН зьяўляецца Ярaслаў Стэцько. Кіраўніком Рады Народаў зьяўляецца Альфрэд Берзінш (колішні латвійскі

міністр), а яго заступнікам — Каюм-хан (прэзыдэнт Туркестанскага Аб’яднанага Камітэту). АБН выдае такія прэсавыя выпускі: “За свабоду народаў”, “Набат”, “Авангард” (ворган Фронту Моладзі АБН). АБН праводзіць работу сярод эміграцкіх масаў, сярод чырвонай арміі ў савецкіх зонах акупацыі Нямеччыны і Аўстрыі ды сярод чужынцаў. Цэнтральны Камітэт АБН таксама зьвяртаецца пры кожнай нагодзе з адпаведнымі мэмарандумамі. У м[есяцы] красавіку 1949 г. захадамі АБН-у адбыліся з нагоды адкрыцьця сэсіі ААН вялізныя дэманстрацыі паняволеных народаў ва ўсёй Заходняй Нямеччыне. Найбольшая дэманстрацыя была ў Мюнхэне. Народы пратэставалі супраць паняволеньня сваіх краін і ўціска751ньня правоў чалавека.

1950 год

*З друкарні АУН імя Д. Клячкіўскага — Кліма Савура.*

*Захоўваецца ў ГДА СБУ Ўкраіны, ф. 13, спр. 376, т. 42; udaступнена: http://avr.org.ua/index.php/viewDoc/5472/*
*Варыянты брашуры:*
*http://avr.org.ua/index.php/viewDoc/8608/*
*http://avr.org.ua/index.php/viewDoc/5330/*
*Варыянт у форме ўлёткі:*
*http://avr.org.ua/index.php/viewDoc/5470/*

***

**Дакумэнт № 10.** Улётка ўкраінскіх паўстанцаў, якая складаецца з чатырох адозваў — адной да літоўцаў, латышоў і эстонцаў і трох — да беларусаў. На рускай мове, цыклёстыль, бяз даты. Тэкст адозвы “Беларусы!” ідэнтычны тэксту ўлёткі, зьмешчанай вышэй (гл. дакумэнт № 3). Улётка была падрыхтаваная АУН да рэйда атрада ўкраінскіх паўстанцаў у БССР у 1950 годзе.

Свабода народам і чалавеку!

**ЛІТОЎЦЫ, ЛАТЫШЫ, ЭСТОНЦЫ!**

Палымяна вітаем Вашу гераічную барацьбу за сваё вызваленьне супраць руска-бальшавіцкіх акупантаў! Ва Ўкраіне таксама вядзецца зацятая вызвольная антыбальшавіцкая барацьба.

Умацоўвайце сувязі з украінскім вызвольным рухам!

Згуртаваным фронтам разгорнем наступ супраць агульнага акупанта!

Няхай жыве Антыбальшавіцкі Блёк Народаў!

Адгукніцеся такім самым чынам на наш заклік!

**УКРАІНСКІЯ ПАЎСТАНЦЫ**

Свабода народам і чалавеку!

БЕЛАРУСЫ!

Падымайцеся да барацьбы супраць руска-бальшавіцкіх імпэрыялістаў за сваё нацыянальнае і сацыяльнае вызваленьне, за пабудову самастойнай Беларускай Дзяржавы, кіраўніком і гаспадаром якой будзе беларускі народ!

Сьмерць руска-бальшавіцкім імпэрыялістам — прыгнятальнікам беларускага і іншых народаў!

**УКРАІНСКІЯ ПАЎСТАНЦЫ**

Свабода народам і чалавеку!

БЕЛАРУСЫ!

Памятайце, што ўкраінскі народ, Украінская Самастойная Дзяржава — гэта самы адданы Ваш саюзьнік у барацьбе з рускім і ўсялякімі іншымі імпэрыялістамі. Умацоўвайце сувязі з украінскім вызвольным рухам, з Украінай!

Няхай жыве Антыбальшавіцкі Блёк Народаў!

Няхай жыве самастойная Беларуская Нацыянальная Дзяржава!

**УКРАІНСКІЯ ПАЎСТАНЦЫ**

Свабода народам і чалавеку!

**БЕЛАРУСЫ — СЯЛЯНЕ, РАБОЧЫЯ, ІНТЭЛІГЕНТЫ!**

Ведайце, што толькі ў сваёй незалежнай нацыянальнай дзяржаве Вы зможаце стаць свабоднымі людзьмі, Вы зможаце зажыць заможным жыцьцём. Усе падымайцеся да барацьбы за дасягненьне і пабудову самастойнай Беларускай Дзяржавы!

Няхай жыве супрацоўніцтва свабодных беларускага і ўкраінскага народаў!

Сьмерць Сталіну і яго партыі — панявольнікам і эксплуататарам беларускага народу!

**УКРАІНСКІЯ ПАЎСТАНЦЫ**

*Захоўваецца ў ГДА СБУ Ўкраіны, ф. 13, спр. 376, т. 42; удаступнена: http://avr.org.ua/index.php/viewDoc/5383/*

# НЕВЯДОМЫ ТАРАС БУЛЬБА-БАРАВЕЦ

*Тарас Бульба-Боровець. Документи. Статті. Листи. — Київ: ПП Сергійчук М. І., 2011. — 816 с.*




Цікавасьць да асобы дзеяча ўкраінскага нацыянальна-вызвольнага руху Тараса Бараўца (1908 — 1981; мянушкі “Тарас Бульба”, “Байда”, “Каненка” ды інш.) ў апошняе дзесяцігодзьдзе толькі павялічваецца. Чым больш дасьледчыкі даведваюцца пра яго асобу, дзейнасьць, тым з большай сымпатыяй адносяцца да партызанскага атамана. А вось у дачыненьні бандэраўскай УПА (а дакладней — бандэраўскай АУН зь яе Службай бясьпекі) назіраецца адваротная тэндэнцыя.

Нічога дзіўнага ў гэтым няма — друкуецца ўсё больш і больш дакумэнтаў, найперш з архіваў СБУ Ўкраіны, якія падштурхоўваюць да перагляду ранейшых поглядаў. Сапраўднай сенсацыяй стала кніга, укладзеная прафэсарам Уладзімерам Сергійчуком. У ёй зьмешчаныя ня толькі раней невядомыя дакумэнты з архіўных збораў СБУ, але і з дзяржаўных, грамадзкіх ды прыватных архіваў Канады. У зборніку дакумэнтаў зьмешчаныя загады, адозвы, справаздачы, лісты, публіцыстыка, фотаздымкі Т. Бараўца, пратаколы допытаў удзельнікаў Палескай Сечы УПА / УНРА, сьведкаў дзейнасьці атамана, разнастайныя агентурныя паведамленьні, даведкі, пастановы аб вышуку і яго спыненьні.

Матэрыялу столькі, што можна толькі па гэтай кнізе пісаць дэталёвую біяграфію Бульбы-Бараўца, альбо сцэнар для мастацкага ці дакумэнтальнага фільма. Перад намі паўстае асоба таленавітага, шчырага і адданага ўкраінскай ідэі патрыёта. Пасьлядоўнік атамана Сымона Пятлюры, Тарас Баравец застаўся верны ідэалам Украінскай Народнай Рэспублікі да сваіх апошніх дзён. Ён адстойваў сваю тэзу, што паўстанцкае войска, паўстанцкая арганізацыя не мусіць кіравацца нейкай партыяй, а толькі камандаваньнем, прызначаным урадам УНР.

Партыям Тарас Баравец прапаноўваў аб’яднаць свае высілкі дзеля дабра Ўкраіны, каардынаваць дзеяньні, спыніць варажнечу і

братазабойчую вайну. І калі з АУН Мельніка, з меншымі партыямі і арганізацыямі атаману ўдавалася паразумецца, наладзіць плённае супрацоўніцтва, дык з бандэраўскай АУН насьпеў канфлікт. Бандэраўцы дзейнічалі нахабна, жорстка, "агнём і мячом" падначальвалі свайму кіраўніцтву ўсе "чужыя" партызанскія атрады. Пазьней яны апраўдвалі свае злачынствы неабходнасьцю "барацьбы з атаманіяй", якая, загубіла калісьці УНР. Тарас Бульба-Баравец, панёсшы страты ад нападаў бандэраўцаў (сярод забітых была і яго жонка), ня стаў распальваць "малую вайну", не адказваў крывёю на пралітую кроў. Яго праціўнікі палічылі гэта слабасьцю, праз гады гэтае рашэньне бачыцца мудрасьцю.

Асоба ўкраінскага атамана нас цікавіць найперш, як саюзьніка беларускага вызвольнага руху. Пра кантакты з беларускімі дзеячамі Тараса Бульбы-Бараўца дагэтуль было вядома найперш зь яго ўспамінаў. У зборніку дакумэнтаў можна знайсьці новыя згадкі на гэтую тэму. Пры гэтым там ёсьць зьвесткі ня толькі пра супрацоўніцтва з Беларускай самаабаронай і яе камандзірамі (Міхалам Вітушкам, Усеваладам Родзькам) падчас палескай аперацыі ў жніўні-верасьні 1941-га, але і пра пазьнейшыя кантакты.

Былыя ўдзельнікі беларускага нацыянальнага партызанскага руху, якія пасьля вайны апынуліся на эміграцыі, крыўдавалі на Бульбу-Бараўца, які ў сваіх мэмуарах не згадаў пра іх "Беларускую народную партызанку". Яны ж (Юрый Стасевіч, Васіль Вір, атаман Якуб Харэўскі) на бачынах таронцкай газэты "Беларускі голас" пісалі пра тое, што супрацоўніцтва з бульбаўцамі было і падчас нямецкай акупацыі, і ў паваенныя гады. Дык вось, знайшлася згадка Бульбы-Бараўца пра гэтыя кантакты! Паводле яго сьцьверджаньня ад 1946 году, яшчэ ў канцы 1941 году яго Палеская Сеч УПА **"заключыла братэрства зброі са слаўнаю беларускаю нацыянальнаю партызанкаю"** (б. 494). Супрацоўніцтва гэтае працягвалася да восені 1942 году, калі беларускае Палесьсе апанавалі савецкія партызаны. Украінскі атаман пісаў у лістападзе 1943-га ў справаздачы прэзідэнту УНР: "...беларусы цалкам паддаліся іх [савецкіх партызанаў] уплывам. А таму нашыя адносіны з беларусамі пачынаюць разломвацца" (б. 218).

Бульба-Баравец зноў пачаў супрацоўнічаць з беларусамі ў пачатку 1945 году, калі ён стаў камандзірам "Групы Б Украінскай Нацыянальнай Арміі". Ён зноў сустракаўся з Усеваладам Родзькам, камандзірам беларускага спэцыяльнага батальёну "Дальвіц". У справаздачы на імя прэзыдэнта УНР ад 26 чэрвеня 1945 г. Тарас Бульба-Баравец згадвае акрамя Родзькі Гелду і [Станіслава] Стан-

кевіча. Ён сьцьвярджае, што беларусы прынялі яго плян, пра які дагэтуль не было вядома. Пасьля перакідкі ўкраінскіх і беларускіх дывэрсантаў у савецкі тыл, Баравец спадзяваўся разгарнуць антысавецкі рух, стварыўшы групы "Поўнач" (Беларусь, Латвія і паўночная Ўкраіна) і "Поўдзень" (поўдзень Украіны і Каўказ). Прычым, штаб мусіў знаходзіцца на "Кубанска-Каўказскай мяжы", бо плянавалася трымаць сувязь з замежжам праз Закаўказьзе (б. 273). Аднак гэты праект нават не пачаў рэалізоўвацца і застаўся на паперы.

У паваенны час савецкія спэцслужбы вельмі старанна зьбіралі зьвесткі пра ўдзельнікаў і прыхільнікаў бульбаўскага руху. Гэта было ня толькі жаданьне пакараць былых "ворагаў савецкай улады", але і спроба ліквідаваць патэнцыйных удзельнікаў антысавецкага падпольля. Дагэтуль прынята лічыць, што пасьля арышту немцамі Тараса Бульбы-Бараўца ў канцы 1943 году яго УНРА спыніла існаваньне пад ударамі бандэраўскай УПА. Са зборніка дакумэнтаў вынікае, што гэта ня так.

Многія арыштаваныя, а таксама агентура НКГБ/МГБ паведамлялі, што Т. Бульба-Баравец перад сыходам загадаў сваім байцам закансьпіравацца, нелегалам — легалізавацца, уладкоўвацца пад савецкай уладай і чакаць новых інструкцый. І многія гэты загад выконвалі. Толькі частка людзей засталася на месцы, нямала бульбаўцаў пайшло служыць у Чырвоную Армію, альбо выехалі ў іншыя рэгіёны Ўкраіны, але працягвалі трымаць сувязь з бульбаўскай сеткай.

З дакумэнтаў, апублікаваных прафэсарам Сергійчуком, вынікае, што пасьля заканчэньня Другой сусьветнай вайны не было буйных бульбаўскіх партызанскіх атрадаў. Паколькі большасьць людзей змаглі легалізавацца (альбо і былі ад пачатку "легальнымі") ці хаваліся ў населеных пунктах, у лясах знаходзіліся толькі невялікія партызанскія групы. Напрыклад, вясной-летам 1948 году МГБ разьбіла на поўначы Дзеражанскага раёну Ровенскай вобласьці лясную групу УНРА, якой камандаваў Павал Дзедух. У ёй налічвалася 9 чалавек. Група трымала сувязь з бульбаўскім падпольлем, а менавіта — з "Камітэтам 7-й Паўночнай групы УНРА" (б. 354-355).

МГБ вельмі хацела знайсьці бульбаўскую друкарню, якая дзейнічала яшчэ з часоў нямецкай акупацыі ды працягвала выпускаць антысавецкія выданьні пасьля вайны. Аднак падчас арыштаў падпольшчыкаў у 1947-1948 гадах адказныя за друкарню Трыфан Дзедух (адказваў за контрвыведку ў згаданым вышэй "Камітэце") і

Лявон Багній засталіся на волі. Друкарню шукалі і ў пачатку 1950-х. У лістападзе 1952-га праводзілася цэлая спецаперацыя, якая не дала выніку. Пошукі працягваліся і ў верасьні 1953 году (б. 356, 357, 393, 394, 396, 435-438). Пра далейшы лёс бульбаўскай друкарні, якая знаходзілася ў закансьпіраваным схроне, зьвестак няма.

На жаль, у кнігу не ўвайшлі дакумэнты МГБ пра каналы сувязі бульбаўцаў з Тарасам Бульбай-Бараўцом, які пасьля Другой сусьветнай вайны жыў спачатку ў Заходняй Нямеччыне, а пасьля ў ЗША, Канадзе. Таксама няма матэрыялаў пра сувязі УНРА з паваенным беларускім антысавецкім падпольлем і партызанскім рухам. Як вядома, частка бульбаўцаў у 1943-1944 гг. выйшлі зь лесу, прайшлі падрыхтоўку і далучыліся да “Чорнага Ката”, да яго групы “Беларусь-Поўдзень”. Большасьць зь іх загінулі да канца 1940-х гадоў, некалькі дзясяткаў чалавек прабіліся на Захад. У зборніку няма і дакумэнтаў пра сувязь бульбаўцаў з заходнімі выведкамі, пра закінутых з Захаду выведнікаў і дывэрсантаў. Ёсьць толькі адна згадка, што ў 1948-м МГБ не выключала сувязь выкрытай бульбаўскай падпольнай структуры “з разьведвальнымі ворганамі англа-амэрыканскай выведкі” (б. 355).

Затое прысутнічае дакумэнт, складзены ў 1953 годзе па матэрыялах замежнай агентуры МГБ СССР, пра паездку Бульбы-Бараўца ў ЗША. Атаман у Вашынгтоне, нібыта, вёў перамовы “аб арганізацыі паўстанцкай дзейнасьці на Ўкраіне” з дырэктарам ЦРУ Аленам Далесам (б. 424). Вышук Бараўца КГБ СССР спыніў толькі ў 1969 годзе (б. 461).

Прафэсар Уладзімер Сергійчук адзначае, што “невядома, дзе шукаць дакумэнтальныя сьведчаньні пра яго (Бульбы-Бараўца — СЁ) знаходжаньне на эміграцыі” (б. 4). Сапраўды, відавочныя “белыя плямы”. Напрыклад, у зборніку дакумэнтаў няма згадак пра супрацоўніцтва ў першай палове 1950-х гадоў Украінскай Нацыянальнай Гвардыі Тараса Бульбы-Бараўца і Беларускага Вызвольнага Руху Людвіка Галубовіча (Зарэчнага). Нам жа вядомыя нават дакумэнты на гэтую тэму.

Яшчэ раз падкрэсьлім: кніга поўная сюжэтаў для самых разнастайных творчых праектаў. У Тараса Бараўца, як аказалася, сябрам і настаўнікам яшчэ ў другой палове 1930-х быў беларус Афанасій Кузьміч Крамер. Ад 1936 году Баравец жыў у вёсцы Карпілаўка Ракітнаўскага раёну. Ён часта бываў у Крамера, які быў мясцовым лесьнікам. Паколькі Тарас Баравец займаўся самаадукацыяй, ён зацікавіўся бібліятэкай беларуса ды браў чытаць кнігі. Верагодна, так Баравец пазнаёміўся і з беларускай літаратурай.

У ліпені 1944-га НКГБ Ровенскай вобласьці даведалася ад свайго агента пра паходы Тараса Бараўца “ў бібліятэку Крамера”. На той час Афанасій Крамер, нібыта, быў жывы і працаваў фельчарам у Ракітнаўскай медамбулаторыі (б. 239, 240). У наступны раз агент згадаў прозьвішча Крамера ў жніўні 1945-га:

“Куды падзеўся БУЛЬБА, і пра яго, што-небудзь ведаюць КРАМЕР Афанасій...” (б. 282). Далей ішоў сьпіс асобаў, але прозьвішча беларуса ў ім стаяла першым. Ці быў ён арыштаваны, невядома. Аднак у зборніку дакумэнтаў няма пратаколу яго допыту.

**Сяргей Ёрш**

# ЯК АЛЕГ РАМАНЬКО АСКАНДАЛІЎСЯ

*Романько О. Белорусские коллаборационисты. Сотрудничество с оккупантами на территории Белоруссии. 1941 — 1945. — Москва: ЗАО Издательство Центрполиграф, 2013. — 479 с.*




Алег Раманько — украінскі навуковец з Сімфэропаля. Калісьці ён зацікавіўся тэмай калябарацыі ў Беларусі падчас Другой сусьветнай вайны. Ды пабачыў, што тыя нешматлікія беларускія дасьледчыкі, якія займаюцца гэтай тэмай, досыць пасыўныя. І Раманько пачаў пісаць артыкулы, кнігі, абараніў у 2010-м у Харкаве доктарскую дысэртацыю.

Многія публікацыі прысьвечаныя як беларускай калябарацыі ўвогуле, так і асобным яе праявам, такім арганізацыям/фармацыям, як БСА, БКА, БЦР. У апошнія гады Алег Раманько шмат публікаваўся ў расейскіх і ўкраінскіх навуковых гістарычных часопісах, выступаў на міжнародных гістарычных канфэрэнцыях. Карацей, стварыў сабе імідж “галоўнага

спэцыяліста” па беларускай калябарацыі. Насамрэч, ён такім не зьяўляецца. Яго нават нельга параўнаць з тым жа Аляксеем Літвіном, Кузьмой Казаком, Эмануілам Ёфэ, альбо з Юрыем Грыбоўскім. Іх публікацыі грунтоўныя, абапіраюцца на ўвесь спэктар даступных крыніц (выняткам зьяўляецца хіба толькі “сырая” апошняя кніга Грыбоўскага, якую досыць жорстка крытыкаваў “БР”), у Раманько яны вельмі часта павярхоўныя, поўныя недарэчнасьцяў.

Апошняя кніга Алега Раманько — не выключэньне. Праўда, афармленая яна як сур’ёзнае дасьледаваньне, з табліцамі, картамі, вялікай бібліяграфіяй. Але пасьля прачытаньня бачыш, што гэта толькі камуфляж. Аўтар з Украіны прапануе чытачам нейкі “эрзац”, да таго ж нярэдка ўводзіць іх у зман.

У кнізе аўтар зьмяшчае нарыс гісторыі беларускага нацыянальнага руху. Паводле яго версіі, *“белорусское национальное движение относилось (да и сейчас относится) к числу наиболее неразвитых как в идейном, так и в организационном плане”*. (б. 36)

Раманько хуценька праходзіцца па Каліноўскім. Аказваецца, яго *“листовки... никакого успеха... достичь не могли”*. (б. 37) Легендарная віленская газэта “Наша ніва” *“никакого влияния... не оказывала”*. (б. 40) І ўвогуле, паводле ўкраінскага гісторыка, вызвольныя паўстаньні, Каліноўскі, Багушэвіч — гэта ўсё *“мифы”* і *“польские попытки посеять смуту в умах белорусского населения”*. (б. 38) А ў 1915 годзе ў беларускага нацыянальнага руху адбылася *“смена польских покровителей на немецких”,* піша Раманько. (б. 40) І незалежнасьць 25 сакавіка 1918-га беларускія дзеячы абвесьцілі *“с разрешения немецких властей”.* (б. 44) Дарэчы, адзін з асноўных экспертаў па “беларускім пытаньні”, якога Алег Раманько шмат цытуе ў сваіх кнігах — гэта расейскі эмігранцкі гісторык Карынкевіч. Ну што ж тут зробіш, іншых “экспертаў” ён проста “не знайшоў”.

Пры ўважлівым чытаньні кнігі можна заўважыць, што спасылкі не адпавядаюць тэксту. Пішучы розную лухту пра БНР, Раманько спасылаецца на “Мадэрную гісторыю” Юрыя Туронка, але гэтай кнігі, ён, відаць, не чытаў — спасылкі фантастычныя. (б. 45) Як і ў папярэдняй кнізе*, гісторык піша пра Слуцкае паўстаньне 1920 году, як пра “популярный миф белорусских националистов”. (б. 45) Спасылаецца на публікацыі ў газэце “Бацькаўшчына”, на два нумары ад 1954-га. Аднак аказваецца, што насамрэч гэта нумары

*Романько О. Коричневые тени в Полесье. Белоруссия 1941 — 1945. — Москва: “Вече”, 2008.

газэты ад 1952-га і 1955 гадоў! А тое, што ён цытуе адтуль, цытатай назваць цяжка, хутчэй нейкі пераказ. (б. 46)

Далей доктар гістарычных навук піша наступную лухту: *"И не было никакого Жаврида* [падчас Слуцкага паўстаньня]. *Вернее, он был, но не там. Судя по документам, после окончания Гражданской войны в Вильнюсе действительно проживал беженец из Слуцка, некто П. Жаврод".* (б. 47)

Аказваецца, А. Раманько працаваў з дакумэнтамі па Слуцкім паўстаньні! Ну-ну. Далей ён ужо маніць, калі сьцьвярджае, што ў міжваенным беларускім друку *"никаких упоминаний о Слуцком восстании... вообще не было"*. (б. 48) Зьвяртайцеся, спадар Раманько, знойдзем для вас дзясяткі згадак.

Вось такі "экскурс у беларускую гісторыю" робіць дасьледчык з гораду Сімфэрополь. Нам і раней было вядома, як ён складае сваю вялізную "бібліяграфію" (тэлефанаваў распаўсюдніку кніг у Беларусь і пытаўся, колькі бачын у той ці іншай кнізе) і адвольна растаўляе спасылкі, часам проста выпісваючы іх з беларускіх кніжак ды няўдала, не туды, куды трэба. Прыкладаў безьліч. А. Раманько піша пра асноўныя палажэньні праграмы Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі і спасылаецца на даведнік "Беларускі нацыяналізм". Але там такой інфармацыі няма! Паводле ўкраінскага гісторыка, артыкул Ю. Туронка пра Ф. Акінчыца зьявіўся ў часопісе "Беларускі Рэзыстанс" (б. 55) А насамрэч, публікацыя была ў часопісе "Беларускі гістарычны агляд". Памылка гэтая ўвайшла і ў бібліяграфію. (б. 374) Ды яшчэ пазначана, што публікацыя ў "БР" была ў 2003 годзе, калі часопіса яшчэ не было...

Дарэчы, зазірнем у "Сьпіс выкарыстаных крыніц і літаратуры". (б. 351-382) Раманько запісвае туды ўсё, што знаходзіць у інтэрнэце ў публікацыях беларускіх гісторыкаў па тэме. Слаба верыцца, што ён гартаў такое рэдкае эміграцыйнае выданьне, як "Беларуская воля" канца 1940-х, ці таронцкі "Беларускі голас" 1960-х. Тое самае і з "Бюлетэнем БНП", які, Раманько, нібыта, чытаў. Бо напісаў, што ён выдаваўся ў Нямеччыне ў 1942-1944 гг. (б. 361) Як вядома, першыя два нумары выйшлі ў другой палове 1942 году ў Беларусі.

А. Раманько згадвае брашуру "Генэрал вызвольнага фронту", аўтарам якой пазначае С. Ярша. (б. 351) Калі ён бачыў яе, то ведаў бы, што аўтарам пазначаны Ян Каваль.

Алег Раманько, пішучы пра пазыцыю Р. Астроўскага напярэдадні нямецка-савецкай вайны, амаль цалкам перапісаў з кнігі Ю. Туронка кавалак тэксту. Многія сказы ідэнтычныя! Але пры гэтым

ён спасылку ставіць не на Туронка, а на нейкага замежнага аўтара! (б. 63-64) Параўнаць тэкст можа кожны жадаючы, у “Мадэрнай гісторыі” гл. б. 537.

У кнізе згадваецца, што Міхась Ганько пасьля вайны прабраўся ў Беларусь і партызаніў. Спасылка ідзе на газэту “Голас камбатанта”. (б. 305) Не было там гэтага, сп. Раманько, гавару гэта, як выдавец і рэдактар згаданага выданьня.

Аўтар кнігі піша пра дэсанты “Дальвіца”. І тут выдумкі. Аказваецца, група Жыхара *“в декабре 1944 года была десантирована в районе местечка Постов”*. (б. 274) Тыя, хто крыху абазнаны ў гэтай тэме, ведае, што ніякай дэсантнай групы Аўгена Жыхара не было, да канца вайны ён быў у Нямеччыне і Чэхіі. А самае сумнае, што, пішучы выдумкі пра Жыхара, Раманько спасылаецца на навуковыя публікацыі Н. Рыбак і А. Хацкевіча, а ў іх нічога падобнага няма!

Падобныя “казусы” знаходзім і далей. Піша доктар гістарычных навук пра тое, што Вітушка стварыў “магутную партызанскую арганізацыю” — “Чорны Кот” ці “Беларуская Вызвольная Армія”. (б. 274) І спасылаецца на кнігу Ігара Валахановіча, дзе ён пра гэта не пісаў і ня мог напісаць! Раманько далей піша пра БВА, яе структуру і спасылаецца ўжо на ўспаміны Галяка. (б. 275) Сп. Раманько, у кнізе Л. Галяка нічога пра гэта няма! Далей А. Раманько “падстаўляе” Яўгена Сямашку, калі спасылаецца на яго кнігу і піша пра акцыі “Чорнага Ката”. (б. 275) Зноў жа, там нічога няма пра гэта.

Досыць гэтых фактаў, каб пабачыць несумленнасьць гісторыка з Сімфэропаля, які досыць арыгінальна працуе з крыніцамі, хаатычна “раскідвае” па тэксьце спасылкі, перакручвае факты, у некаторых выпадках не грэбуе плагіятам.

Верагодна, калі кніга Алега Раманько ўжо была гатовая, ён знайшоў у інтэрнэце нашую кнігу “Дэсант у няпэўнасць”.* Наўрад ці ўважліва прачытаў, але не прамінуў, каб не абліць брудам: і *“мифотворчество”*, і, нібыта, траціна бібліяграфіі — гэта спасылкі на мае ж працы, і архіўныя крыніцы *“практически не использует”*. (б. 279) Бедны спадар Раманько ня ведае, што ў нашай працы былі выкарыстаныя ўсе даступныя архіўныя крыніцы (на жаль, да крымінальных справаў дэсантнікаў доступ абмежаваны) і ўведзеныя ў навуковы ўжытак новыя дакумэнты. Ён піша, што значная частка кнігі прысьвечаная ўдзелу дэсантнікаў у паваенным супраціве. Чарговая мана. Толькі 3 бачыны з больш чым 300! Не адзначана

---

*Ёрш С. Дэсант у няпэўнасць. Беларускі парашутны батальён “Дальвіц”. 1944-1945 гг. — Мінск, 2012. — 311 б.

галоўная яе каштоўнасьць — інтэрвію з былымі байцамі “Дальвіца”, біяграмы значнай часткі дэсантнікаў, фотаматэрыялы, частка зь якіх надрукаваная ўпершыню.

Можна меркаваць, што пакрыўдзіўся гісторык з Сімфэропаля з-за таго, што пра яго было напісана ў кнізе “Дэсант у няпэўнасць”: “Шэраг [замежных] аўтараў, як А. Раманько, некрытычна выкарыстоўваюць асобныя публікацыі беларускіх даследчыкаў, якія знаходзяць пераважна ў інтэрнэце, робяць памылкі пры перакладзе беларускамоўных тэкстаў, не абцяжарваюць сябе пошукам архіўных дакументаў у Расіі. Адпаведна, каштоўнасць іх працаў невялікая. Гэта датычыць і вялікага тэксту Раманька, прысвечанага “Дальвіцу”.*

І на гэты раз сьцьвярджаем, што і новая “праца” Алега Раманько ня мае вялікай каштоўнасьці. Больш таго, некаторыя выказваньні аўтара абражаюць беларускую нацыянальную годнасьць. Гэта ўжо зразумелі беларускія дасьледчыкі, асабліва тыя, хто стаў “ахвярай” арыгінальных метадаў гісторыка з Сімфэропаля. Зразумеюць гэта і гісторыкі ды выдаўцы ў Расеі, ды і ва Ўкраіне таксама. Што да беларускай калябарацыі, дык спадзяемся, што айчынныя гісторыкі ў бліжэйшы час знойдуць сілы і рэсурсы, каб надрукаваць навуковыя і папулярныя версіі сваіх дасьледаваньняў, у тым ліку і на рускай мове.

**Сяргей Ёрш**

*Дэсант у няпэўнасць, б. 18.

# ЭМАНУІЛ ЁФЭ: БЕЛАРУСКІХ НАЦЫЯНАЛІСТЫЧНЫХ ПАРТЫЗАНАЎ БЫЛО 3-5 ТЫСЯЧ ЧАЛАВЕК

Напярэдадні Дня Перамогі доктар гістарычных навук Эмануіл Ёфэ ў інтэрвію Радыё Свабода выказаўся пра тэмы, якія дагэтуль забароненыя ў Беларусі. Між іншым, ён згадаў пра беларускі нацыянальны партызанскі рух, які існаваў падчас нямецкай акупацыі 1941-1944 гадоў.*

Эмануіл Ёфэ: **“Мала пішацца пра беларускіх нацыяналістычных партызан.** Гэта ня польская “Армія Краёва”, не ўкраінскія АУН—УПА, не савецкія партызаны, якія падпарадкоўваліся Маскве. **Гэта беларускія нацыяналістычныя партызаны, якіх было няшмат — 3-5 тысяч, але яны былі.** Усенароднай партызанскай вайны, фактычна, не было, бо партызанскім рухам кіравалі органы НКВД — НКДБ і ваенныя саветы франтоў. Гэта вельмі многім непрыемна, а таму імкнуцца гэтыя факты замаўчаць”.

*Абакунчык Г. Пра беларускіх нацыянальных партызанаў і дзяцей нямецкіх салдат // Радыё Свабода, 2013, 8 траўня; http://www.svaboda.org/content/article/24980491.html*

---

*Афіцыйна яго існаваньне дагэтуль не прызнаецца. Як вядома, гэтыя партызанскія атрады не падначальваліся савецкаму кіраўніцтву і змагаліся за незалежнасьць Беларусі. Нямала іх было зьнішчана не нацыстамі, а савецкімі партызанамі і разнастайнымі спэцгрупамі. “БР” неаднойчы вяртаўся да гэтай тэмы. Найбольш матэрыялаў пра беларускі нацыянальны партызанскі рух гл. у № 2(11) ад 2011 году.

*[Ядвігін Ш.]*

# НА АБАРОНУ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ



Гэтыя ўспаміны пра "вызвольны палескі паход Булак-Балаховіча" друкаваліся ў віленскай беларускай газэце "Еднасьць" на працягу жніўня-лістапада 1921 году.* Каштоўнасьць іх у тым, што напісаныя ўспаміны па "гарачых сьлядах" удзельнікам тых падзеяў. Прычым гэта быў актыўны дзяяч "Беларускага палітычнага камітэту", які ствараў цывільную ўладу на вызваленай тэрыторыі, займаўся агітацыяй і прапагандай. Відавочна, што тэкст пісаўся паводле дзёньнікавых запісаў і дакумэнтаў, якія захаваліся ў гэтага чалавека і якія ім перадрукоўваюцца. І гэта робіць публікацыю яшчэ больш каштоўнай для дасьледчыкаў.

І ўсё ж, хто быў аўтарам успамінаў? На наш погляд, гэта вядомы беларускі пісьменьнік Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.**). Да такой высновы можна прыйсьці, аналізуючы тэкст, напісаны, відавочна, літаратарам. Нельга не зьвярнуць увагі і на тое, як апісвае аўтар эпізод з выданьнем газэты "Зьвястун", рэдактарам якой якраз і быў А. Лявіцкі. Да таго ж, вядома, што Ядвігін Ш. у 1921 годзе працаваў над успамінамі. Яны ў тым жа годзе выйшлі ў Вільні, у кнізе (а, як плянавалася, гэта была толькі першая частка) распавядаецца пра падзеі маладосьці пісьменьніка. Ну і, вядома, на карысьць нашай версіі гаворыць подпіс пад адной з частак успамінаў у "Еднасьці": "J. Sz". ("Я. Ш.").***

Першыя часткі ўспамінаў "На абарону Бацькаўшчыны" былі

---

*Na abaronu Baćkauszczyny // Jednaść (Вільня), 1921, № 17, 28 жніўня; № 18, 6 верасьня; № 19, 21 верасьня; № 20, 28 верасьня; № 23, 21 кастрычніка; № 24, 28 кастрычніка; № 26, 11 лістапада.

**Антон Лявіцкі (1869 — 1922) — беларускі пісьменьнік, драматург, публіцыст. Працаваў у рэдакцыі газэты "Наша ніва" ды ў іншых выданьнях. Публікаваў свае творы пад псеўданімам "Ядвігін Ш.".

***Jednaść, 1921, 21 кастрычніка, № 23.

падпісаныя крыптанімам “А. К.”, аднак у 19-м нумары рэдакцыя паведамляла: “У прошлых №№ памылкова былі пастаўлены літары аўтара А. К., — павінна быць — Ват-ка”.* Аднак у 23-м нумары публікацыя ўжо падпісваецца “Я. Ш.”, а ў наступных частках — зноў “Ват-ка”.

На наш погляд, наўрад ці ва ўспамінаў былі некалькі аўтараў (хаця хтосьці і мог дапамагаць А. Лявіцкаму аднаўляць нейкія дэталі ці знаходзіць дакумэнты) — гэта найхутчэй хібы рэдактара выданьня. Магчыма, крыптанімы мяняў сам Ядвігін Ш., які ў той час цяжка хварэў ды стараўся не нарабіць сваёй публікацыяй праблемаў сям’і, якая засталася на другім баку мяжы — ў савецкай Беларусі.

Дагэтуль дзейнасьць Антона Лявіцкага, як ідэоляга “Зялёнага Дуба”, удзельніка палескага паходу войска Булак-Балаховіча, маладасьледаваная. Вось што піша Ўладзімер Содаль:

*“Жыць спакойна не было як. Лявіцкі думае, разважае, што рабіць, да каго прыхінуцца, да каго далучыцца, да каго прыбіцца. А тут аб’яўляецца генерал Булак-Балаховіч з сваім войскам, бярэцца вызваліць Беларусь ад усіх ворагаў, і пісьменнік Ядвігін Ш., для якога воля, незалежнасць Беларусі сталі мрояй з юнацкіх гадоў, далучаецца да паходу апальнага генерала. Ён ідзе з ім у так званы вызваленчы паход — пешы марш з войскам Булак-Балаховіча на поўдзень Беларусі пад бел-чырвона-белым сцягам. Быў у Пінску, Лунінцы, супрацоўнічаў з газетай “Зьвястун”, выдаванай пры войску Булак-Балаховіча. Але неўзабаве зняможаны, расчараваны сяк-так дабіраецца да Карпілаўкі. Трохі акрыяўшы, развітваецца з сям’ёй, сядзібай, бярэ з сабою некаторыя рукапісы і едзе ў Закапана на курорт для сухотнікаў. З восені 1920 года ён ужо ў Вільні... Ягоная родная Карпілаўка засталася па той бок мяжы, за Саветамі. Дый і здароўе з кожным днём горшала. У 1921 годзе ён прычакаў яшчэ кніжачку сваіх успамінаў, а чацьвёртага лютага 1922 года лёг у віленскую літоўскую клініку, дзе 23 гэтага ж месяца і сканаў”.***

Вайсковая акцыя генэрал-маёра Станіслава Булак-Балаховіча

---

*Jednaść, 1921, 21 верасьня, № 19.

**Содаль У. Карпілаўка. Краязнаўчы нарыс. — Мінск: Пейто, 2001, б. 43-44.

лістапада 1920 году апошнім часам прыцягвае ўсё большую ўвагу дасьледчыкаў. Аднак грунтоўных публікацый яшчэ мала, гісторыкі выкарыстоўваюць найперш польскія крыніцы, а дакумэнты з архіваў былых савецкіх спэцслужбаў застаюцца маладаступнымі. Адзначым вартую ўвагі публікацыю беларускага дасьледчыка з Беластока Алега Латышонка.* Ён, між іншым піша і пра А. Лявіцкага: *“Ідэйнай працай сярод беларускіх жаўнераў займаўся Беларускі палітычны камітэт, а перш за ўсё яго сябра Антон Лявіцкі, вядомы як пісьменьнік пад літаратурным псеўданімам Ядвігін Ш. Лявіцкі выдаваў у лагеры Булак-Балаховіча беларускую газету “Зьвястун”.*** Аднак Латышонак не карыстаўся ўспамінамі, якія былі апублікаваныя ў “Еднасьці”.

Што да асобы Станіслава Булак-Балаховіча, то адносіны да яго былі і застаюцца вельмі неадназначнымі. Прыгадваем, як восеньню 1992-га на беларускім радыё прафэсар Анатоль Грыцкевіч распавядаў пра Слуцкае паўстаньне, прыгадаў і пра паход Булак-Балаховіча на Мазыр, ацаніўшы гэты чын пазытыўна. У эфір датэлефанавалася жанчына, якая эмацыйна распавяла пра сваіх сваякоў, якія загінулі ад “бандытаў-балахоўцаў”. І, як нам падалося, вельмі зьбянтэжыла навукоўца.



***Генэрал-маёр Станіслаў Булак-Балаховіч, 1920 год. Фота — sammler.ru***

Многія і сёньня працягваюць шукаць у нашай гісторыі чыстых і сьветлых герояў. Аднак такіх заўсёды вельмі мала — адзінкі. Значна болей “балахоўцаў” — яны і патрыёты, і за Беларусь ваявалі, але адначасна нарабілі такіх “зігзагаў” у сваёй дзейнасьці, што і патлумачыць гэта цяжка. Такое ўражаньне, што не вельмі клапаціліся некаторыя дзеячы пра тое, у якім сьвятле яны будуць выглядаць перад сваімі нашчадкамі...

Палескі паход войска генэрал-маёра Станіслава Булак-Балаховіча застанецца ў беларускай гісторыі, як важная і адначасова

*Латышонак А. Штурм Рэчыцы войскамі генерала Станіслава Булак-Балаховіча ў лістападзе 1920 году // Дзеяслоў, 2006, № 4 (23), ліпень-жнівень, б. 293-301.
**Тамсама, б. 295.

неадназначная падзея. Як адна са спробаў адваяваць у чужынцаў беларускую зямлю і аднавіць дзяржаўную незалежнасьць.

***

## ПЛЯН ТАКІ: ПЕРАЙСЬЦІ ГРАНІЦУ І — ПАД БЕЛАРУСКІМ ШТАНДАРАМ — АЧЫСЬЦІЦЬ АД БАЛЬШАВІКОЎ БЕЛАРУСЬ*

Пазнаньшчына... Памор’е... Торунь — горад... Восень 1920 году...

Даліпан не памятаю, на каторым ужо паверху, але ў “выжэйшым обчестве” маленькая, цесная канурачка, але — як гэта там скрозь вядзецца — з пярынамі.

Сядзім мы ў дваёчку: я і мой сябра — менчук К-віч, з каторым тут — на Памор’і — пазнаёміліся.

Каб ня тоя, што мучыла нас “ностальгія” — нуда, жаль — па родным краю, — нуда, жаль па сваіх, якім прышлося астацца там — у бальшавікоў, то жыць было-б нішто.

Праўда, Паморцы глядзелі на нас — бежанцаў — вельмі прыхільна і нат’ спагадалі нам. Але на душы было адно:

— У гасьцях добра, а ў хаці яшчэ лепш.

Аднаго дня ў нядзелю, шэраю гадзінкаю сядзім мы з К-вічам і ўкладываем пляны, як гэта мы будзем варочацца да хаты.

Ён верыў ў гэта; я — не. Гутарым — сьпіраемся.

Раптам улетае ў нашую каморачку п[ан] Алексюк.

Трэба і сапраўды быць Алексюком, каб адшукаць такую норку, у якой мы сядзелі.

— Збірайцеся, едзем! — гукануў ён да мяне.

— Куды? Чаго? — зьдзіўляны пытаюся.

— Збірайцеся: на фронт трэба ехаць — Бацькаўшчыну бараніць!..

— Там патрэбны будуць адозвы, газэты, — дадаў п. Алексюк, добра ведаючы, чым найлепш мяне заахвоціць.

Газэта? — ласая для мяне рэч — гатоў, — адказываю, а што да абароны...

---

*Падзагалоўкі да асобных частак успамінаў — “БР”.

— Ну, ня тут аб гэтым гаварыць, — скоса глянуўшы на майго сябрука, кажэ п. Алексюк, — складывайцеся хутчэй, — праз дзьве гадзіны чэкаю вас у сябе на кватэры — там і паталкуем. Справа на столькі важная, момант на столькі адказны, што сьпірацца, думаю, доўга ня будзем, тым больш — што на гэта німа часу: сягоньня ноччу трэба безумоўна выехаць. Вось мой адрэс — чакаю, — закончыў ён і як [с]прытна ускачыў, так [с]прытна шчэз.


***Павал Аляксюк***

Як стаяў я пасярод пакойчыку, так і застаўся на гэтым мейсцы, толькі рукамі развёў, а слоў — і знайсьці не магу...

Мысьлі блытаюцца: абарона Бацькаўшчыны... фронт... адозвы... газэта...

К-віч нешта гавора да мяне; чую, але нічога не разумею — маўчу, а пасьля раптам — як крыкну:

— Хутчэй, браток, хутчэй памагай пакавацца!

Шчыра і з жалям развітаўшыся са сваім сябруком — К-вічам і куды раней — як гэта было назначана — апынуўся я на кватэры п. Алексюка.

І сапраўды — гутарка паміж нас была кароткая.

Ясна было: гэнэрал Булак-Балаховіч, аб гэройстве каторага ў змаганьні з бальшавікамі так часта павядамляў у сваіх тэлеграмах польскі штаб, цяпер — пры замірэньні палякаў з бальшавікамі — быў вельмі не здаволяны тэй лініяй, на каторай затрымаліся палякі.

Балаховіч задумаў сам — са сваімі аддзеламі, у каторых найбольш было беларусоў, перайсьці граніцу і — пад беларускім штандарам — ачысьціць ад бальшавікоў Беларусь і аб’явіць яе вольнаю і незалежнаю дзяржавай.

Удасца гэта — ці не — хто мог згадаць?..

Хто мог згадаць, што з немцамі будзе гэткі канец? На вайне — як у картах.

Як-ні-як, а гэта было нешта больш рэальнае, чымся сядзець у якіх бы там ні было хоць і беларускіх арганізацыях, але дзе ўся работа і пачыналася, і канчалася толькі гарачымі прамовамі і доўгімі рэзалюцыямі...

Ня было чаго варажыць: ехаць трэба было.

А гадзіне 4-й ночы заехаў па нас, раней наняты, звошчык і стаў

стукаць у дзьверы — будзіць. Але будзіць нас і ня трэба было, бо які там мог быць сон! У адзін момант сабраліся, селі і скрануліся.

Цемра была страшэнная, ды яшчэ з вечара сыпануў дожджык, а цяпер паціснуў мароз. Ехаць было надта дрэнна: конь сьлізгаўся на ўсе бакі і чуць згоджываўся, зважаючы на пугу, ісьці слабенькім трушком.

А тут яшчэ звошчык уздумаў заежджаць па якуюсь паненку, каторую так сама абецаўся забраць на вакзал.

— Спознімся на цягнік, — асьцерагаем мы яго.

— Ня першы раз еду — лепш ведаю, калі трэбэ выежджаць, — ганорна адказаў звошчык.

Ну што-ж, калі так — забіраймо хоць і паненку.

Пад’ехалі, забралі і скрануліся дальш. Чым болей паціскае пад дзень мароз, тым больш сьлізгаецца конь. Урэшці узьехалі на мост, перакінуты праз Віслу; цягнецца ён з вярсту*. Праз мост па закону тутэйшаму можна ехаць толькі крокам. Конь, відаць, добра знаў гэты закон, бо чуць крataўся, а паміма гэтага так сьлізгаўся, што ў скорасьці і саўсім стаў.

Звошчык злез, узяў каня за ўздзечку і павёў у руках. Гэта крыху памагло, але не надоўга. Наежджаем на звошчыкаў, якіе так сама стаяць на мосьце; пасажыраў сваіх павысаджывалі і яны выправіліся пехатою, бо дальш такі ўжо быў лёд, што ехаць было немагчыма. Затрымаўся і наш звошчык і дальш ехаць адмовіўся. Ніякія абецанкі, просьбы, нат’ і пагрозы, што ў нас вельмі важныя ваенныя справы — не памаглі: прышлося і нам вылезьці.

Што было рабіць? Назад варочацца — ня было ніякага толку: а ну — цягнік спозьніцца і мы здужаем дайсьці. Найгоршая справа была ў тым, што дарогі добра ня ведалі, а ў каго-ж ноччу разпытаешся?

Падрадзілася за правадніка — як мяйсцовая жыхарка — нашая панначка. Добра. З маленькім чамаданчыкам у руках падрыпала яна наперад. З намі была справа горшая: у п. Алексюка была карзіна і то цяжкаватая. Але разважаць ня было калі: учарэпіліся за яе ў двох: ён — за адно вуха, я — за другое, а свой скарб я ўзяў у другую руку і гэтак выправіліся.

Якая гэта была падарожа — хіба дагадацца ня трудна: конь на чатырох нагах, падкованы — і то адмовіўся, а мы што?

Каб нас тады мог хто небудзь здалёк бачыць, напэўна падумаў бы, што або п’яные, або гульню нейкую выдумалі: што не

*Руская адзінка вымярэньня адлегласьці, роўная 1066,8 метра. — БР.

пасьлізнецца каторы — цягне разам з карзінай і сябра свайго, а той, як мага ўпіраецца; сьмяхота ды і толькі... Але нам было не да сьмеху, тым больш, што прыкмецілі, як нашая правадырка пачала вадзіць нас у лукаткі — відаць сама зьбілася з дарогі. Фігуркі яе ня відаць, але чуем як ляскаюць па лёдзе яе абцасікі і коўзаемся, ёрзаем у той бок.

А ў вакол ціша і цемра. Сабраліся параіцца, у які бок брацца; калі глянем: з правай стараны, але ўжо ззаду нас міргацяць нейкіе — быццам ліхтарні — аганькі. Мы і кінуліся на іх сьвятло.

Пярэлазім платы, драты, здабываем уселякія перашкоды, абы толькі не страціць з вока аганькоў.

Урэшці дабраліся; бачым — вакзал. Дзівіла толькі нас, чаму ніякіх галасоў ня чутно? Відаць цягнік даўно ўжо адыйшоў і нікога там німа.

Ледзь адшукалі мы нейкага чалавека, ад каторага даведаліся, што мы зайшлі саўсім з другога боку вакзала, куды нікога ня пушчаюць, дзеля гэтага тут такая ціша, а цягнік і ня думаў ня толькі адыходзіць, але і прыходзіць: позьніцца ён ажно на чатыры гадзіны.

Цяпер другая была бяда; на вакзале столькі набілася народу, што ня то гдзе легчы, але і сесьці ня было дзе. Праз усе чатыры гадзіны прыходзілася шпацыраваць, пазёўваючы з нуды.

П. Алексюку пашэнціла: спаткаўся ён тут з сваім знаёмым п. Я. Пілсудскім*, родным братам Начальніка Польскай Дзяржавы і гэта скараціла крыху час.



***Ян Пілсудзкі. Фота — pl.wikipedia.org***

Але за тоя, калі людзі ўбіліся ў наляцеўшы цягнік, то ён, каб хоць крыху нагнаць спозьняны час, так шпарка імчаўся, што ня мінула і шасьці гадзін, як мы апынуліся ўжо ў Варшаве.

*Ян Пілсудзкі (1876 — 1950), юрыст, польскі дзяржаўны дзеяч. У 1920 годзе працаваў у Міністэрстве працы і грамадзкай апекі ў Варшаве, але ў канцы году перабраўся ў Вільню, дзе стаў працаваць судзьдзёй. У верасьні 1939-га быў арыштаваны савецкімі спэцслужбамі ў Вільні. Вызвалены летам 1941 году пасьля заключэньня савецка-польскай дамовы, выехаў у Вялікабрытанію, дзе і памёр.

***

# БЕЛАРУСКІ ПАЛІТЫЧНЫ КАМІТЭТ

Варшава!

Што сталася-б з табой, Варшава, каб не сталёвыя грудзі дзяцей тваіх? Што сталася-б з табой, калі б уварваліся сюды дзікія ўсходнія орды? Нат' падумаць страшна... Страшна ня дзеля рабунку, матэрыяльных страт, разстрэлаў, а страшна дзеля зьдзеку, зьневагі, страшна само сьвятатацтво дзікасьці проці культуры!..

Едзем, мінаем вуліцу за вуліцай; куды ня кінеш вокам — вялізарныя, як вароты — вокны, за бліскучымі шыбамі каторых — горы, цэлыя горы якіх толькі выдумаць можна тавараў. Паліцы гнуцца ад featurezнай яды, ад чыкуляды*, ад мануфактуры; паліцы гнуцца ад срыбра, золата, каменьняў дарагіх!..

Але ось і той готэль, дзе месьціцца Беларускі Палітычны Камітэт.

Узьбіраемся па усходах, што раз выжэй і выжэй, зварачваем на нейкі доўгі калідор, знаходзім надпіс на дзьвярох: “Беларускі Палітычны Камітэт”. Заходзім у першы, другі, трэцьці пакой — усюду народу паўнюсенька.

Гоман, спрэчкі, нарады...

Скрыпяць пёркі, ляскаюць пішучыя машынкі, стукаюць печаткі...

Работа сьпешная, неадкладная, гарачая...

На чале Беларускага Палітычнага Камітэту стаялі: В. Адамовіч (старшыня Камітэту) — тварэц і атаман разпаўсюджанай паўстанчай арміі па ўсей Беларусі пад назвай **“Зялёнадубцы”**.

Галоўнымі членамі Беларускага Палітычнага Камітэту былі два, знаные ў шырокіх кругах грамадзянства, беларускія дзеячы: П. Алексюк і Я. Сенкевіч.

Пад той час вядомым ўжо стала, што калі Балаховіч, як беларус, ня знойдзе для сябе апоры на беларускіе кругі, — армія яго сальецца з ахвотніцкай арміяй Б. Савінкава і нацыянальная беларуская справа можа патануць у расейскім моры.

П. Алексюк стаў весьці перагаворы з Б. Савінкавым, пасьля каторых склікаў сабраньне і зрабіў свой дэтальны даклад.

З дакладу гэтага выясьнілася, што перагаворы з Савінкавым не далі канкрэтных рэзультатаў.

Ужо гэта адно ставіло Беларускі Палітычны Камітэт у палажэ-

---

*Шакаладу. — БР.

ньне цяжкае, амаль ня грознае, і вельмі адказнае.

Б. Савінкаў — знаны тэррорыст, стары палітычны расейскі дзеяч — меў бязумоўна прыхільные для сябе і сваіх палітычных поглядаў пэўныя кругі грамадзянства.

С. Булак-Балаховіч толькі за гэтую вайну шпарка высунуўся наперад, дзякуючы сваім ура[д]жоным ваенным здольнасьцям, і — як адважны, можна сказаць, рызыкоўны ваяка і спрытны арганізатар-партызан, — ярка заблішчэў. Яго падтрымоўвалі ваенные кругі, слухалі і паважалі маладога гэнэрала-атамана.

Ён — як Беларус — праз увесь час стараўся ўсімі сіламі сьцягнуць у атрады сваей арміі найбольш жаўнераў беларусаў. Групуючы каля себе сваіх землякоў, Балаховічу ўдалося давесьці у сваіх некаторых аддзелах да 80 прац. беларусаў, гатовых ісьці за ім хоць у ваду, хоць — у агонь.

Гэтае палажэньне — трэба было выкарыстаць.

Трэба было, выдзяліўшы спагадные для беларускай справы часьці, усей сілай рынуцца наперад, зьніштожыць бальшавікоў-камуністаў і захапіўшы хоць частку, пакуль што, тэрыторыі Беларусі, аб’явіць яе **вольнай і незалежнай** і, апіраючыся на народ, залажыць моцны фундамэнт пад сваю Бацькаўшчыну — Беларусь.

Пэўна ж знойдуцца людзі, які за гэта будуць кідаць у нас каменьнямі і абліваць памыямі, але не пара была на гэта зважаць: трэба было ісьці і рабіць сваю работу.

Такі быў праект П. Алексюка. Доўга яго разбіралі, разважалі і ўрэшці надыйшла гістарычная хвіліна: галасоўка... ...**Праект быў прыняты аднаголасна**.

“Alias jacta est!”.*

1920-га году кастрычніка 12-га дня Беларускі Палітычны Камітэт уручыў С. Балаховічу паперу такога зьместу:

“Будучы глыбока пераконанымі, што армія пана Гэнэрала, у складзе каторай такі значны лік беларусаў, сапраўды прынясе нашаму краю праўдзіваю свабоду і магчымасьць будаваньня сваей незалежнай дзержавы, прыступаем да супрацоўніцтва з панам, моцна веручы, што нашая прысутнасьць прыдасьць гарту беларускаму жаўнеру, змагаючамуся за істнаваньне сваей бацькаўшчыны, а народу беларускаму, на землях каторага будзе адбывацца гэтае змаганьне, прынясем абарону ў завірухах ваенных, а так сама прыйдзем з помачай у стварэньні нямінучых формаў адміністрацыйнага жыцьця”.

*Лёс кінуты! (лат.)

Калі да гэтага часу ў памешканьні Беларускага Палітычнага Камітэту кіпело як вар, то цяпер работа удвойчылася — гарэла яна.

У гэты ж самы дзень зроблена была пастанова, паводлюг якой супрацоўнічка Беларускага Палітычнага Камітэту Е. Алексюк* і я павінны былі як найхутчэй выежджаць у Пінск, каб там — да прыезду Камітэту і яго штабу — разгледзіцца, прырыхтавацца.

Цягнік са штабам Балаховіча і некаторымі вайсковымі часьцямі, як мы даведаліся, меўся выйсьці з Варшавы а гадз. 10-ай вечарам. Варажыць і адкладываць ня было калі, дый нельга было: мы ўжо былі зьвязаны з ваеншчынай і яе дысцыплінай.

Вечарам — загадзя перад адходам цягніка, мы былі ўжо на вакзалі, але ня лёгка было адшукаць патрэбны нам цягнік: аб ім мала хто ведаў.

Ну, але неяк жа разшукалі: стаяў ён далёка ад самага вакзалу, на нейкіх блытаных рэльсамі запасовых лініях. Цемра там была страшэнная; цягнік — бязконца даўгі і німа ведама куды нам уткнуцца. Чуць знайшлі мы камэнданта, пытаемся. Ён, глянуўшы на нашые дакумэнты падарожы, зрабіў нам “пад казырок” і сказаў, каб мы адшукалі штабны вагон пад такім то нумэрам і займалі там сабе мейсцы.

Ня лёгка гэта нам прыйшлося, але калі ўрэшці дабраліся мы туды, то нас вельмі зьдзівіла, што ў штабным вагоне ня было ні аднэй жывой душы, хоць рэчы, пакункі — лежалі.

Вагон быў трэцьцяй клясы даўнейшага расейскага складу: у адзін бок даўгія лавы, у другі — кароценькія, як на аднаго чалавека; у гарэ — паліцы для спаньня. Разьмясьціўшы свае клумкі, занялі мы вольныя мейсцы, — сядзім і чакаем.

Мінае гадзіна, мінае другая — увакол ціха, ніякіх адзнакаў, каб цягнік думаў скрануцца.

Час ад часу перабегалі праз наш вагон нейкія афіцэры. На запытаньне нашае, калі ж урэшці мы паедзем, — усе яны аднолькава адказывалі:

— Штаб паехаў яшчэ раз развітывацца з Варшавай; вернецца — тады і паедзем.

Але вярнуўся і штаб, — вярнуўся з шумам, гоманам, сьмехам,

---

*Верагодна, маецца на ўвазе сястра Паўла Аляксюка Аўгіньня, дыпкур’ер БНР, беларуская дзеячка ў Горадні. Гл. Шупа С. Невядомая БНР: Аўгіньня Алексючанка // Радыё Свабода, 2003, 16 студзеня; http://www.svaboda.org/content/article/24846762.html — БР.

жартамі, — вагон зразу баццам ажыў, але не кратаўся.

Седзячы ў адным вагоні, само сабой, прыйшлося то з тым, то з другім загаварыць, пазнаёміцца. Час плыў крышку шпарчэй, весялей.

Шэрае, хмурае небо пачало ўжо вырысовывацца з цемры, калі першы раз лязгнулі ланцугі, а колы, неяк жаласьліва скрыгануўшы, зрушыліся паволі, бытцам падкрадываючыся да каго, з мейсца.

Доўга мы соўгаліся з лініі на лінію, то ўзад, то ўперад, покуль выблыталіся з гэтай густой жалезнай сеткі рэльсаў і выкаціліся за горад...

Але праз доўгі яшчэ час на сьвітаючым гарызонці адзначаліся высокіе, чорные як бы нечым грозные фабрычные коміны; праз доўгі яшчэ час міналі мы падмястовыя, прыгожыя, багатыя сялібкі.

Ужо добра развіднела, калі перад намі адкрылася, разаслалася даль, праўдзіва вясковая даль.

Нейкі дзіўны, неспадзеваны настрой абхапіў усіх нас: сьціхлі жарты, змоўклі сьмехі. Кожны бытцам з вялікай патрэбы пільна ўглядаўся ў вакно ні то з павагай, ні то з вялікай сумнотай, як бы адгадаць хацеў, чым абдаруе яго недалёкая будучына...

Цягнік наш, бытцам пачуўшы прастор і волю, разварухаўся: гудзеў, сьвісьцеў і урэзаючыся ў што раз новые і новые вобразы натуры шпарка імчаўся наперад.

Узыходзіло сонцэ. Нейкая немач агортывала нас усіх. Ад’езд, апошнія ўражэньні, бязсонная мінулая ноч — усё гэта разам злажылося, а захоплівала апацыя: здавалося — ўсё ўжо сказана, усё ўжо зроблена — цяпер толькі сапачыць крышку...

Паўкладаліся. Цягнік хутка мінаў станцыю за станцыяй і толькі час ад часу — мейсцамі затрымоўваўся даўжэй, каб захапіць для сябе харчоў, — захапіць дзьве дзіўныя, спрэчныя паміж сабой стравы: агню і вады...

Мінуло ўжэ поўдня, калі на нейкай там станцыі прыйшлося нам затрымацца і то на даўжэйшы час — нат цягнік наш загналі на старану — на запасовую лінію.

Людзі хутка прывыкаюць да суму, і да грохату жалезнай дарогі і пад гэтую музыку смачна спаць. Раптоўная ціша, неспадзеваны спакой — будзяць людзей. Так сталося цяпер і з намі. Усе сталі кратацца, падыймацца, заглядаць у вокны, бытцам дзівіліся, куды яны трапілі.

Прынесьлі ўсім палуднаваць. Так — усім, бо і мы двое залічаны былі на харчы штабовай кухні.

Заварушылося, загудзела ў нашым вагоне: кінуліся мыцца, кожны даставаў запасы рожных закусак, набытых яшчэ ў Варшаве, павылазілі ўрэшцi высокія, тонкія і прысадзістыя, тоўстыя бутэлькі, зазьвінелі келішкі і неўспадзеўкі — бытцам нейкая багінька вясёласьці пырхнула ў гэты наш вагон і пачала ўсіх забаўляць, сьмяшыць, з усяго кпінкаваць, усіх ласкатаць...

Рогат, шчыры, вясёлы рогат выбіваўся праз атчыняныя вокны вагону... Час сходзіў незначна. Штабовые афіцэры — людзі ўсё з выжэйшай адукацыяй — мелі і ўмелі што разказаць, было што паслухаць. Ехала і жонка аднаго паўкоўніка, якая прыняла на сябе тут клапоты гаспадыні.

Тут быў і сваяк гэнэрала Балаховіча — беларус з Навагрудчыны. Скончыў ён тры факультэты: матэматыку, тэхнолёгію і “пуцейскага” інжэнера, і цяпер нарэкаў, што вайна перашкодзіла яму дальш вучыцца.

***

## МАРЫЛІ: ТРЭБА ЯК НАЙХУТЧЭЙ ЗАХАПІЦЬ СЭРЦА БЕЛАРУСІ — МЕНСК, ВЫЗВАЛІЦЬ СВАІХ ЛЮДЗЕЙ

Матэматыкі найчасьцей бываюць нейкіе задуманые, сур’ёзные, маўчлівые, але навагрудчанін усяму гэтаму пярэчыў, пярэчыў нат беларускай псыхалёгіі: нізенькі, кругленькі па беларуску — ёмка зложаны, жвавы, шустры, як з рукава праз увесь час сыпаў рожнымі анэкдотамі, а сьмех, проста па дзіцячаму шчыры сьмех яго — зьвінеў, зьвінеў безконца.

Гэта быў, як мы пасьля даведаліся, кандыдат на пасаду заведуючага усімі чыгункамі, поштай і тэлеграфам.

Быў тут і чыноўнік пры штабе, з каторым калі разгаварыліся, то паказалося што гэта стары беларускі працаўнік з Вітэбшчыні, арганізатар беларускіх мітынгаў, дзеяч пры выбарах на беларускіе зьезды і г. д. Знаў ён шмат беларускіх дзеячоў асабіста, аб іншых — чуў і ведаў іх працу.

Даведаўшыся хто мы такіе, ён зразу нам заявіў, што гатоў перайсьці ў Палітычны Беларускі Камітэт, бо праца ў нацыянальным напрамку яму болей знаная і блізкая, чым ваеншчына.

Так яно пасьля і сталося: працавалі разам.

Калі мы выбіраліся з Варшавы, нас напужалі, што апынімся мы ў нейкай галоднай старане, дык перад выяздам накупілі мы

сабе харчоў на дарогу і зрабілі добры запас хлеба. Тым часам, чым дальш ад’ежджалі мы ў глыб ад сталіцы, тым багацейшыe былі станцыйныe буфэты: сталы былі заваляны хлебам, булкамі, парасяцінай, гусяцінай, целяцінай у рожных формах і шмат іншымі прысмакамі. І ўсё, куды дзешавей, чым у Варшаве. А хоць мы і мелі сваю кухню пры цягніку, ласавалі і з буфэтаў.

Надыйшла і другая ноч, васеньняя, моцна цемная ноч. Як ня дзіўна, а цемра гэтая прыкоўвае, цягне да сябе вочы чалавека. Ня відаць нічога, а глядзеў бы і глядзеў бы...

Раптоўна, на нейкай закрутцы цягніка, у вокны вагону ўдарыў крывава-залаты водбляск далёкага пажару. Усе зацікавіліся, некаторыe, каб лепш прыгледзіцца, повыходзілі з вагону. Цягнік кіраваўся як раз у бок пажару. Здалёк была ўжо відаць доўгая, як вокам сьцягнуць доўгая, бліскучая істужка агнёвых языкоў. Гэта ня мог быць пажар якога колячы двара, вёскі ці нат мястэчка, — так мог гарэць толькі вялізарны горад; мы добра ведалі, што тут такога німа, дык скуль жа такі агонь? Але праз нейкі час, калі мы бліжэй пад’ехалі, — справа выясьнілася: гэта гарэло поле — так поле гарэло...

За час вайны нечапаныe плугам абшары зарасьлі высокімі травамі, дзікімі бадылямі, але ня было каму і да іх дакрануцца. Чакалі яны чалавечай рукі — чакалі, але ня прычакалі і... самі засохлі, паўміралі. Цяпер нікому непатрэбную ўжо гэтую суш — падпалілі: на попелішчы яго к налецьцю — калі ня узрасьце колас, то закрасуе маладзенькая, зялёненькая травіца...

Доўга, доўга ўглядаліся мы ў гэты грозны, але дзіўна прыгожы жывы малюнак. Зноў нейкая сумнота агарнула наш вагон...

На заўтра [да]браліся мы пад Пінск.

Ужо пачынаючы ад Баранавіч дарога тут жудасная: руіна і пустэча. Што ні станцыя — разбіта яна, разваляна. Абапал рэйкаў — на адкосах, канавах, рэчках — валяюцца цэлыя горы паломаных, павыкручываных у розныя бакі ўжо заржавеўшыя нейкія вялізарныя бляхі, катлы, трубы, коміны... тут і чугун і жалезо, і сталь — усё разам зблыталося, скруцілося паміж сабой; цяпер ужо трудна нат’ разпазнаць, што гэта такое было, як трудна разпазнаць моцна пакалечанага нябошчыка...

Будынкаў, вёсак — ня відаць — шчэзьлі яны, а ўсёй памяткі — кучка высокіх, апаляных, засохшых, з кары аблезшых ужо дрэў; пад імі так самакучка зялёных, высокіх, але дзікіх бадылёў, якіе узрастаюць толькі на старых магільніках.

Жудасна... Жудасна, а ад вакна вагону — не адойдзеш; жудас-

на — а вачыма шукаеш бытцам жадаючы яшчэ больш жудасных вобразаў...

Цягнік што раз звальняў ход свой, бо тут на балотах, канавах і рэчках густа спатыкаюцца масты і масточкі; усе яны за час вайны зруйнованы, паўзрываны, а цяпер толькі насьпех — да часу — падладжаны, дык язда па іх адбываецца вельмі асьцярожна і памалу.

— Пінск відаць, Пінск! — крыкнуў на ўвесь вагон адзін з афіцэраў, стоячы каля вакна.

Усе усхватываліся са сваіх мейсцаў, кідаліся да вокнаў і ўгледаліся, бытцам і сапраўды меліся там угледзіць нешта дзіўнае, надта цікаўнае, чаго ў жыцьці сваім не бачылі.

А тымчасам Пінск, як самае звычайнае нашае павятовае мястэчка — разпаўзлося сабе па гладкай, як дошка, роўнай даліне і вабіць вока нічым асаблівым не магло.

Заспакоіўшы сваю першую цікаўнасьць, сталі ўсе зьбіраць і укладаць свае клумкі.

Цягнік, калыхаючыся, памалу падпоўз, мінаючы спаляны садок, да станцыі і стрымаўся. Людзі усьцешыліся, што дабраліся да мейсца, пачалі выскаківаць з вагонаў, тузгаючыся са сваімі рэчамі.

Але раптоўна спаткала ўсіх вялікая неспадзеўка: камэндант цягніка аблетаў усю лінію каля цягніка і аддаваў прыказ, каб рэчаў з вагону не выносіць і самім далёка не адыходзіць.

Што ж гэта такое? Што сталося? Добрая ці благая гэта навіна?

Заварушылося скрось як у мурашніку: лёталі з вагону да вагону, разпытваліся, збіраліся ў кучкі, то крычалі, то шэпталіся, размахіваючы рукамі, але адразу ніхто нічога пэўнага сказаць ня мог. Ледзь праз нейкія поўгадзіны даляцелі першыя весткі і то — само сабой — у наш — як штабны — вагон.

Але весткі гэтыя былі блытаныя, няпэўныя, а што яшчэ горш — не аднолькавые. Адны казалі, што паездзем дальш на Гомаль, іншые зноў упэўнялі, што паехаць-то паедзем, але не на Гомаль, а на Міньск. Пачаліся дагадкі, спрэчкі і кожны, разумеецца, цягнуў у свой бок.

Гомельчане даказывалі, што сам розум дыктуе брацца толькі на Гомаль: там правае нашае скрыдло абапрэцца на паўстанчые аддзелы атамана Іскры, падтрымаем Украінцаў, ім тады лягчэй будзе разцягнуць дальш на поўдня — ўніз свой фронт, а гэта падмацуе Врангля, бо ўвесь наступ можа зьліцца ў адну лінію, у адзін даўгі фронт.

Менчукі гэткай фантазыі і слухаць не хацелі, а выводзілі сваю стратэгію.

— “Што нам Врангель? — казалі яны, — калі ён сапраўды шчыра ідзе з народам, то народ яго і падтрымае, калі — не, — то ўсё роўна будзе яму такі канец, як і Дэнікіну і лучнасьць з Вранглям можа тады толькі нам пашкодзіць, дыскрэдытаваць. Дый на Гомаль німа чаго пхнуцца: украінцы даўно абвесьцілі яго сваім горадам, дык не цяпер пара выклікаць нейкія там неяснасьці і спрэчкі. Гэта справа будучыны і з украінцамі мы-беларусы напэўна зталкуемся без звадкі. Нам трэба як найхутчэй захапіць сэрцо Беларусі — Менск, вызваліць сваіх людзей, за каторымі пайшоў бы народ, а тады будзе ясна, як і кудою дальш кіравацца, каб асвабадзіць ад бальшавікоў сваю Бацькаўшчыну, і аб’явіць яе незалежнай.

Спрэчкі аб спосабах стратэгіі цягнуліся праз увесь дзень: узрывалі масты, адрэзалі дарогі бальшавіком, захоплівалі вузлавыя станцыі, бралі гарады і г. д...

Надыйшла і ноч, а мы ўсё яшчэ ваявалі...

І шчасьлівы быў той, каторы ў гэту ноч хоць прысьніў тую пуцявіну, па якой яму так жадалося ісьці...

На раніцу зноў неспадзеўка: прыказ выбірацца з вагонаў і размешчацца ў Пінску.

Усе ружовыя надзеі і Менчукоў, і Гомельцаў развеяліся як туман...

Разсыпаліся “рэквізаваць” памешканьні.

Нам двом адвялі на разе адзін усяго пакойчык у старой удавы-жыдоўкі, некалі багатыркі — цяпер абяднеўшай да званьня; пры ёй была ядыная дачка, скончыўшая гімназію і досыць сымпатычная і разумная дзяўчына.

З пачатку глядзелі яны на нас скоса, але ў скорасьці пазнаёміліся бліжэй і можна сказаць — здружыліся. Адна была бяда: пакой наш, як і ўсё памешканьне нашых гаспадароў — не апаліваліся і мы настаяшча* мерзлі, адагрэваючыся толькі самаварамі. Але нас прынадзеялі, што хутка штаб раздабудзе дроў і з намі падзеліцца і апрача таго знойдзецца адпаведная кватэра для Беларускага Палітычнага Камітэту.

Дзень йшоў за днём. Войска прыбывало. Трэба адзначыць, што тады палякі стараліся як мага выпхнуць з сваей тэрыторыі Балахоўцаў і Савінкаўцаў, бо гэта пярэшкаджала іх мірным, пад той час перагаворам, а мо былі і іншыя думкі...

*Па-сапраўднаму. — БР.

Пінск — з пачатку узтрывожаны нашым наездам — у хуткім часе пераканаўся, што ня толькі баяцца ня было чаго, а нат’ цешыцца мог: завёўся парадак, паадчыняліся крамы і — дзешавей, ці даражэй — а дастаць было можна ўсяго.



*Генэрал-маёр Булак-Балаховіч, 1920 год. Фота — sammler.ru*

Тут — у Пінску — першы раз убачыў я гэнэрала Балаховіча.

Некаторага дня пайшоў я ў штаб дапытацца аб справах. Гляджу: шмат селян стаіць каля штабнага гмаху. Пытаюся:

— Чаго вы, браткі, чакаеце?

— Да “Бацькі” маем справы, а ён зараз маніцца прыйсьці, — адказываюць яны.

Я перайшоў на другі бок вуліцы і прысеў на ганачку пустога дому.

Ня мінула дзесяць мінут, як паказаўся гэнэрал. Сярэдняга ўзросту, сярэдняга складу з крывой сабляй пры боку, ён адразу затрымаўся каля селян і стаў кожнага разпытваць. Селяне акружылі яго і гутарылі як з добрым сваім знаёмым.

Дзіўнае ўражэньне робіць Балаховіч: здаецца нічога асаблівага німа, а глядзеў бы на яго і глядзеў; прыковываюць да сябе яго вочы: коляр іх бытцам зменяецца, а калі і засьмяецца, то вочы застаюцца сур’ёзнымі.

Частку селян гэнэрал павёў за сабою ў штаб, частку адпусьціў, аддаючы нейкія прыказы свайму ад’ютанту.

Не пайшоў я сягоньня ў штаб, а вярнуўся з дзіўным, незразумелым для сябе настроям у свой пакойчык...

У гэты ж дзень паказаліся і “нашые” — з Палітычнага Беларускага Камітэту.

Частка іх прыехала цягнікам, частка — самаходам.

“Самаходцы” моцна прамерзьлі і моцна выгаладаліся, але прывезьлі з сабою зайца, які трапіўшы ў ночы пад сьвятло самаходу не дагадаўся зыйсьці з дарогі, а пёр пад сьвятлом — покуль не змарыўся і не папаў пад колы самаходу...

Адагрэўшыся пры самавары, зараз жа ўзяліся за работу. Па-



***Жаўнеры Булак-Балаховіча. Фота — batko-bulak.livejournal.com***

мешканьне для камітэту адвялі нам вялікае і досыць выгаднае.

Праца закіпела: зноў заскрыпелі пёркі, зноў застукалі печаткі.

***

## ГЕНЭРАЛ БАЛАХОВІЧ ЧЫТАЕ СВАЕ БЕЛАРУСКІЯ ВЕРШЫ

Вестка аб збройным выступе гэнэрала Балаховіча і аб стварэньні Беларускага Палітычнага Камітэту шыбка разляцелася па ўсей Беларусі. Шмат валасьцёў выдало свае адозвы, вітаючы гэтую працу.

Ясна было: увесь беларускі народ прызнаваў Балаховіча, як свайго кіраўніка нацыянальнага руху, здатнага асвабадзіць Беларусь.

Гродзенскі Беларускі Народны Камітэт, прэдстаўляючы сабой палітычную беларускую думку Гродзеншчыны ў надзвычайным сваім паседжаньні 24-га кастрычніка зрабіў пастанову, у якой зазываючы ўвесь беларускі народ аб’еднацца пад штандарам незалежнасьці, ганючы невялічкія гурткі, якія ў мэтах асабістых хацелі б утрымаць штучную ўладу ў сваіх руках, “шлець гарачае прывітаньне Народнаму Атаману Беларускаму Булак-Балаховічу, Беларускаму Палітычнаму Камітэту і жадае, каб распачатая імі праца ў цяжкіе дні для Бацькаўшчыны давела да пабеды дарагую

армію Беларускую над самазванцамі бальшавікамі”.

Камітэт прырэкае ўсей моцай свайго аўтарытэту падтрымаць гэты выступ.

Але былі выступы і іншага зьместу. Людзі адарваные ад свайго народу, ад рэальнай працы, людзі, займаючыя фантастычныя пасады беларускіх міністраў, баючыся выпусьціць з сваіх рук міністэрскія партфэлі, занялі варожае становішчо і проці Балаховіча, і проці Беларускага Палітычнага Камітэту і стараліся іх дыскрыдытаваць.

Так, Горадзенскае “Беларускае Слова” ў № 31-ым ад 9-га лістападу 1920 г. падае перадрук з “Kur. Polsk.” весткі Беларускага Урадоваго прэсбюро аб акцыі гэнэрала Балаховіча:

“Ня маючы нічога супольнага з успомнянай акцыяй, ні беларускае грамадзянство, а ні таксама нацыянальныя беларускія арганізацыі жаднай адпаведнасьці на сабе ня прыймаюць”.

Гэтая ж самая газэта ў № 38 ад 17-га лістапада піша:

“Кракаўская газэта “Čas”, абгаварываючы тэлеграмы Балаховіча і Савінкава да Пілсудзкага, а таксама адозву Балаховіча да “Народнай Ахвотніцкай Арміі” і адозву Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, знаходзячы ў гэтых адозвах дзьве палітычныя праграмы, піша:

“Згодна з аднэй з гэтых праграмаў, на якой грунтуецца Беларуская Рада, мяйсцовыя сілы, просячы гэнэрала Балаховіча і яго ахвотніцкую армію аб дапамозе, высоўваюць ідэю “вольнай”, ці як сказана ў другім мейсцы — “незалежнай” Беларусі, якая мае быць Рэспублікай Народнай, дэмакратычнай і г. д., не зьвязанай ні з Расеяй, ні з Польшчаю, а толькі аб’еднанай з абедзьвіма гэтымі дзержавамі “братэрскімі зьвязамі”. “Братэрства” гэта трэба разумець, як племянное радство, а не які небудзь фэдэрацыйны зьвязак, бо аб адначасовай фэдэрацыі і з Расеяй, і з Польшчай ня можа быць і гутаркі.

Гэтак гаворыць адозва, за якую, бытцам, стаяць мяйсцовыя сілы, — што трэба разумець з некаторым абмежаваньнем, прыймаючы пад увагу малую сьвядомасьць і адсутнасьць палітычнай ініцыятывы ў беларускага селяніна.

Як бы гэта ня было, але мы зьяўляемся сьведкамі таго, што з беларускіх лясоў, балот і азёраў паўстае новы палітычны, сэпаратны рух. Беларусы, нават і праваслаўные, — а тут гаворыцца толькі аб праваслаўнай частцы Беларусі — адвеку рожніліся звычаямі, мовай і псыхалёгіяй ад вялікарусаў”.

У разрэз з глыбокім аналізам беларускага руху кракаўскай

газэтай “Čas”, беларуская віленская газэта “Наша Ніва” ў № 4 ад лістападу 16-га 1920 г. займаецца передрукам аб Балаховічу з жыдоўскіх газэт — “Najer Hajnt”, дабаўляючы свае ўласныя ўвагі:

“Хаця за “будаваньне Беларусі” Балаховіч узяўся саматугам у паразуменьні з галавой расейскага палітычнага камітэту — Савінкавым, і ад беларусаў ніякага загаду ня меў, усёж нам, беларусам, вельмі сумна чытаць гэткія весткі аб адным з сыноў нашага народу (справа ідзе аб жыдоўскіх пагромах, у якіх “Najer Hajnt” вінаваціць Балаховіча. Рэд.). “Будаваньне Беларусі” справа лішне вялікая і для нас сьвятая, каб мы маглі спакойна глядзець, як наш чысты, дагэтуль, штандар пляміцца ў руках Балаховіча крывёй бязвінных людзей”...

А справа з жыдоўскімі пагромамі была тады ось якая:

Німа чаго таіць, што ў бальшавіцкіх арганізацыях, а асабліва ў аддзеле шпіёнства, жыдоўскае грамадзянства вельмі рашуча старалася і памагала арыштоўваць мейсцовых жыхароў — хрысьціян, якіх заганялі — бытцам за контррэвалюцыю — ў бальшавіцкія турмы.


Цана асобн. нумару 3 маркі
на правінцыі 3½ мар.
БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА
Палітычная, літэратурная і экономічная газэта.
№ 56. Горадня, Серада 8 сьнежня 1920 г. Год выданьня I

Калі гэн. Балаховіч займаў мястэчкі, а яго войска асвабаджало “палітычных праступнікаў” з турмы, тые — зразумела рэч — помстваліся на знаных сабе сем’ях, якія былі прычынай іх арэшту і зьдзеку. Але сам Балаховіч пры помачы свайго штабу і войска заўсёды вёў энэргічную барацьбу з такімі самасудамі.

Яшчэ пару слоў варта успомніць і аб гродзенскай газэце “Беларускае Слова”, з якой зрабілі мы тут перадрукі.

Рэдактарам гэтай газэты самапраўна падпісывалі выдаўцы газэты В. Адамовіча. Адамовіч і сапраўды сперша быў рэдактарам, але калі рабілі гэтые перадрукі, тады ён ужо парваў уселякія зносіны з гэтай газэтай і быў, і лічыўся пры штабе Беларускага Палітычнага Камітэту на фронце.

А на фронце пад гэты час дзеялося саўсім нешта іншае, чым думалі і гадалі “дзеячы і рэдактары” беларускіе, седзячы ў сваіх норах і трымаючыся за свае партфэлі.

На фронце кіпела.

Надыйшла хвіліна, калі гэн. Балаховіч пастанавіў перайсьці граніцу, штучна зробленую, і рынуцца на бальшавікоў, абвешчаючы

Беларусь незалежнай дзяржавай.

Не то, што цікаўная, але вельмі паважная была хвіля.

Вагон трэццяй клясы. У маленькім заканурачку, які даўней — пры царскім урадзе — займаў кандуктар цягніка, размесьціліся і Балаховіч, і Савінкаў. Сярэдзіну вагону займалі прэдстаўнікі Беларускага Палітычнага Камітэту. Аддзел вагону быў абшырны, але абстаўляны саўсім інакшым складам, чым гэта звычайна робіцца: лавы толькі па бакох, а па сярэдзіне вялізарны стол, заваляны стратэгічнымі, цэннымі мапамі. Быў і трэцьці аддзел у гэтым самым вагоне, прызначаны для бліжэйшых штабных гэнэрала Балаховіча.

Ноч. Цёмная беларуская, позна — васеньняя ноч... Людзі прамерзлі, прагаладаліся. Назначылі вячэру. У сярэднім аддзелі вагону пазьнімалі са стала мапы, а заставілі яго па загаду Балаховіча кансэрвамі, хлебам і іншымі прысмакамі для галодных. Сабраліся ўсе з трох аддзелаў вагону, але падмацаваўшыся штабныя афіцэры выйшлі, а засталіся толькі гэн. Балаховіч, Савінкаў і прэдстаўнікі Беларускага Палітычнага Камітэту.



***Ст. Булак-Балаховіч, 1920 год. Фота — sammler.ru***

Ішла нарада: стратэгічная нарада, аб якой яшчэ не час гаварыць. Беларусь з Меншчынай — і дальш — па Дзьвіну, частку Днепра і Прыпяць...

Здавалася, будзе наша Беларусь **вольная і незалежная**...

Бралася ўжо пад дзень, калі скончылася нарада, але разыходзіцца ніхто ня думаў. Пачалася гутарка прыватная — успаміны аб беларускім руху як даўнейшым, так і ў пазьнейшыя часы. Гаварылі ўсе, толькі па беларуску, але Савінкаў мала і адзываўся, пільна, зьдзіўлянымі вачыма ўглядаючыся, прыслухоўваўся да магутнага нацыянальнага настрою прысутных...

“Ці паляк ты, ці ты рускі —
Мёд піць будзеш беларускі
Толькі з нашай добрай волі —
Як сусед у гасьцёх,

А з наездам — дык ніколі —
Хіба на нашых касьцёх”...

Запаляна дэклямаваў свае вершы гэнэрал Балаховіч.

А Савінкаў моўчкі сядзеў і ківаў у тахт галавою. І толькі — калі пасьля паказалі яму мапу Беларусі прафэсара Карскага, якога нельга западозрыць у вялікай прыхільнасьці да незалежнасьці Беларусі, Савінкаў, углядаючыся ў гэтую мапу, адазваўся:

*“У вас аппетиты ничего себе”.*

На гэта яму адказалі, што ніхто і ня думае з беларусаў гвалтам цягнуць да сябе, прымерам, абмаскаляных Смаленчанаў, ці Вязямцаў, але нельга згодзіцца і на іншы гвалт, — каб долю Беларусі рэшаў хто іншы, апрача самых беларусаў.

Як ні памалу сунуўся цягнік, але ўрэшце дакаціўся ён да бальшавіцкай граніцы.

Ужо віднела. Марозная раніца кінула на зямлю і лес белы шоран.

Гэнэрал, клікнуўшы сваіх ад’ютантаў, аддаваў кароткіе прыказы. Гэты чалавек, бытцам перарадзіўся: голас яго зьвінеў моцна і востра.

Аддзел кавалерыі, выгрузіўшыся з вагонаў, пад струнку выстраіўся ту жа каля жалезнадарожнай лініі. З боку стаялі самаходы.

Гэнэрал выйшаў з вагону. Ляснулі і бліснулі ў чыстай, віднеючай раніцы шаблі. Прывітаў іх гэнэрал, зноў кароткі прыказ і... махнуў рукой. Яшчэ раз зазьвінелі шаблі і з вялікім імпэтам забразгалі падковы па шырокай дарозе. Сьледам за імі — ў першым самаходзе — ехаў Балаховіч, у другім — Савінкаў.

Беларускі Палітычны Камітэт пад гэты час меў перад сабою вялікія, цяжкія і адпаведныя заданьні: прыходзілося тварыць грамадзянскую ўладу на тэрыторыі Беларусі, асвабоджанай ад бальшавікоў Балаховічам.

Так узварушыўся, так ускалыхнуўся ўвесь той вокруг, праз каторы праходзіў г[энэрал] Балаховіч, што Беларускаму Палітычнаму Камітэту трэба было вялікай натугі, каб утрымаць парадак у грамадзянскіх справах.

Пасыпаліся заявы ад земстваў, вучыцялёў, каапэратываў, валасьцёў і іншых грамадзянскіх установаў, што ўсе яны прызнаюць г[энэрала] Балаховіча, як правадыра беларускага руху і маюць надзею, што ён шчыра жадае “вольнай і незалежнай Беларусі”, а

Беларускі Палітычны Камітэт гатовы падтрымаць усе, прызнаючы яго за часовую, патрэбную і карыстную ўладу.



*Жаўнеры Булак-Балаховіча. Фота — batko-bulak.livejournal.com*

***

## “ГОРАЧА ВІТАЕМ ВАС, ДАРАГІ БАЦЬКА БУЛАК-БАЛАХОВІЧ, І ЖАДАЕМ ВАМ ПОЎНАЙ УДАЧЫ...”

Гэткія спагадныя праявы беларускага грамадзянства з аднаго боку, выязд Б. Савінкава ў сьлед Балаховіча на фронт — з другога, — выклікалі пастанову Беларускага Палітычнага Камітэту неадкладна сьпешацца на частку ўжо асвабаджонай тэрыторыі Беларусі, побач ісьці з галоўным штабам ахвотніцкай арміі і ўзяўшы ў цьвёрдыя рукі кіраўніцтва, выковываць з мяйсцовых сьвядомых сіл беларускіх — асьветную ўладу грамадзянскую і нацыянальныя беларускія арганізацыі.

Асобны вагон быў прырыхтаваны праз некалькі гадзін. Цяпер ужо стукалі не машынкі і печаткі, а сякеры і малаткі: пакаваліся і забіваліся ў яшчыкі дакумэнты, кнігі, важныя паперы і іншыя рэчы.

Самаход-грузавік у сьлед забіраў і адвозіў на станцыю, там — пад дазорам штатных Камітэту — пакі складаліся ў вагон. Як толькі рэчы былі перавезяны, пераехаў у вагон і ўвесь штат служачых Камітэту.

Праз нейкі час штандар беларускі яшчэ шумеў над памешканьнем Камітэту, дзе засталіся апошнімі — члены яго.

Але ось, завурчэў, засоп самаход Беларускага Палітычнага Камітэту, і ажно скрыгануў — так раптоўна стрымаўся перад пад'ездам памешканьня... Недзе зноў сьпешна застукаў малаток, а ад гэтых удараў бел-чырвона-белы сьцяг захістаўся, схіліўся і... шчэз... Зноў стук малатка і праз хвіліну і над аўтамабілям зноў завіс беларускі штандар. Члены Камітэту сьпешна занялі свае мейсцы. Самаход зноў завурчэў, зноў засоп, а пасьля ціха пакаціўся на станцыю. Там ужо чакалі прыбыцьця самаходу, пасьпеўшы за такі кароткі час прыгожа прыбраць увесь вагон нацыянальнымі невялікімі сьцягамі і беларускімі адзнакамі.

У апошні момант, калі члены Беларускага Камітэту ўжо садзіліся ў вагон, — яшчэ прыходзілася прынімаць рожныя заявы ад мяйсцовых і акалічных жыхароў.

Але ось і самаход паважна заняў сваё мейсца на празначанай яму плятформе, якая прычэплена была з заду вагону.

Сьвісткі, яркія сьвісткі чыстым далёкім рэхам разсыпаліся па роўным далінам сумнай Піншчыны... разсыпаіся і... змоўклі. А паравоз, востра дмухануўшы некалькі разоў парай, стаў бухаць клубамі чорнага, густа-зьбітага дыму. Яшчэ хвіліна і — бытцам ляніва, неахвотна колы скрануліся з мейсца.

У вагоне Беларускага Палітычнага Камітэту гудзело, як у вульлі пчолаў. На адпачынак часу ня было: трэба было перагледзіць апошнія паперы, прырыхтаваць распараджэньні, пастановы, прыказы.

Адзін з апошніх дакумэнтаў — была рэзалюцыя Пінскіх беларусаў:

"Прэдстаўнікі земства, каапэратывы, вучыцельства і жыхароў Піншчыны горача вітаюць Вялікага правадыра — асвабадзіцеля роднай Беларусі — бацьку Булак-Балаховіча і выказываюць гатоўнасьць падтрымліваць пачатую ім вялікую справу.

Сабраўшыяся вітаюць шчыра працу Беларускага Палітычнага Камітэту і выказываюць яму поўнае даверые".

(Шмат подпісаў).

На скорую руку ў вагоне наладзілі нешта кшталтам канцэлярыі. За стол заселі сэкрэтар Камітэту і яго памошнік.

Цягнік каціўся саўсім памаленьку.

П. Аляксюк, каторы надта ня любіць сам пісаць, ходзе шпаркімі, крыху нэрвовымі крокамі з канца ў канец вагону і дыктуе-дыктуе... Голас яго яркі, стыль ляканічны, ясны. Паведамленьне ідзе за паведамленьнем, пастанова — за пастановай, прыказ — за прыказам.

Паміж іншымі пастановамі тут зрадзілася пастанова і аб друкованым слове:

“Перасіліваючы якія ня былі б перашкоды і трудноты, — неадкладна арганізаваць рэдакцыю і друкарню для выдавецтва газэты, агітацыйных адозваў і брашураў.

Пастанову сягоньня-ж перадаць пад распіску ...-у для выпаўненьня заданьня[н]я”.

— Німа што сказаць: удружыў, умазаў п. Аляксюк ...-ага раздумываю, седзячы ў кутку вагону і ўгледаючыся праз вакно ў незнаную даль.

Дый большасьць нашага штату, якія ня былі заняты работай, пільна адзін праз другога ціснуліся да вокнаў. Нічога цікаўнага, разумеецца, там покуль што ня было, але ў хуткім часе гэтае “цікаўнае” спадзяваліся ўгледзіць: вольную зямліцу — Вольнай Беларусі.

Раз за разам стрымліваючыся, бо чыгуначная лінія шмат у якіх мяйсцох была зруйнована і толькі насьпех крыху падпраўляна, цягнік асьцярожна падкачываўся да граніцы, дый урэшці саўсім стаў: дарогу перарэзала глыбокая і шырокая рэчка, праз якую даўнейшы мост так быў парваны, пакерашаваны, што здавалася здалёк — быццам вісяць нейкія вялізарныя, моцна парваныя анучыны і фантастычныя шнуры.

Каб папасьці ў “Сваю Хату”, прыходзілася, робячы значны наклад, дальш перабірацца хто на падводах, хто — на самаходзе.

Жыхары, якія круціліся то ў зад, то ў перад і па дарогах, і каля рэчкі сталі цяпер гуртам зьбірацца каля нашага вагону і цікаўназьдзіўлёнымі вачыма ўзіраліся на яго.

Як толькі даведаліся ў чым тут справа, — некалькі маладзейшых хлопцаў кінуліся ў блізкае — вярсты 1,5 мястэчка, і мы не агледзіліся, як падвода за падводай пад’ежджалі як найбліжэй да нашага вагону.

Паказалося што ўсе тутэйшыя жыхары ня толькі дасканальна

зналі мэту Балаховіча, але некаторыя — усьпелі ўжо яго пабачыць і пагаварыць з "бацькам".

Зналі так сама і чакалі прыезду членаў Беларускага Палітычнага Камітэту, каб ім уручыць пастанову сваіх сходаў і параіцца, што дальш рабіць, чаго трымацца, чым памагчы, каб хутчэй вызваліць з пад бальшавікоў сваю Бацькаўшчыну.

Трэба ведаць, што пад той час шмат было асабліва маладзежы, якая ўцекла і крылася* тут ад бальшавікоў. Цяпер яны зваліся ў ахвотнікі, але каб толькі папасьці ў "сваё" войско.

Грамада нашых новых знаёмых кінулася ў вагон, разхватала нашыя рэчы і разлажыла іх на фурманкі.

Яшчэ момант і абоз скрануўся.

Але паехалі ня ўсе разам: адна фурманка з двума, закутанымі ў нейкія паласатыя пасьцілкі, седакамі зьвярнула ў старану ад тракту — на пуцявінку і — не зважаючы на карэньні і груду хутка скрылася ў зарасьняку.

Куды? Чаго? — Каму трэба было — той ведаў — куды і чаго, а каму ня трэба — той таксама ведаў, што ўсё роўна не дапытаецца — і... маўчаў.

Дарога была цяжкая — настаяшчая беларуская дарога, ды яшчэ ў Піншчыне: то глыбокі пясок, то груда замёрзлага балота, — дык езда была няспорная.

У Кажан-Гарадку — першым мястэчку, якое было па дарозе — прыйшлося затрымацца: жыхары мяйсцовые зьвярнуліся з просьбай да Беларускага Палітычнага Камітэту празначыць членаў сваіх для прысутнасьці на тутэйшым сходзе, на якім і састаўлена была пастанова такога зьместу.

"1920 г. 4-га лістападу, Кажан-Гарадок.

Сход сьвядомых беларусаў.

Прысутнымі былі: 1) Стахоўскі-Стаховец Мікалай, 2) Мацкевіч Грыгор, 3) Войцехоўскі Павел, 4) Дамашэвіч Грыгор, 5) Стаховіч Дзьмітро, 6) Стаховіч Максім, 7) Малафейчык Васіль, 8) Старшыня Бел. Палітычн. Камітэту Вячэслаў Адамовіч, 9) Начальнік Канцэляры і Бел. Паліт. Кам. Бэкіш Язэп, 10) Афіцэр для даручэньняў пры Бел. Пал. Каміт. Машчынскі.

Вынясены пастановы:

1) Арганізаваць па валасьцёх і мястэчках Беларускіе Нацы-

*Хавалася — БР.

янальные Камітэты для пашырэньня сярод жыхароў нацыянальнай сьвядомасьці і руху і падтрыманьня абароны Бацькаўшчыны ад камуністаў-бальшавікоў.

2) Усе арганізаваныя Камітэты павінны працаваць пад дырэктывам Беларускага Палітычнага Камітэту пры арміі гэнэрала Булак-Балаховіча, які пайшоў з сваім слаўным войскам і беларускімі партызанамі вызваляць нашую родную старонку ад ворагаў.

3) Камітэты павінны напраўляць усіх дабравольцаў у Бел. Паліт. Камітэт, які назначае іх у Беларускія часьці.

4) Прасіць Бел. Палітычны Камітэт аб адкрыцьці беларускіх школ у Кажан-Гарадэцкай, Плотніцкай і Столінскай* валасьцях.

5) Прасіць Стахоўскага-Стахоўца асабіста перадаць Бацьку Булак-Балаховічу ніжэй напісаную рэвалюцыю:

Мы беларусы-хлебаробы Кажан-Гарадэцкай, Плотніцкай і Столінскай воласьцяў, горача вітаем Вас, дарагі Бацька Булак-Балаховіч, і жадаем Вам поўнай удачы ў вялікай справе асвабаджэньня нас і нашай Бацькаўшчыны з пад бальшавіцкага ярма.

Так сама просім далажыць усіх стараньняў, каб нас, адарваных Рыжскім прэлімітарным мірам, далучыць да роднага нашага краю — Беларусі і бараніць нас ад усіх тых, хто на наш край пасягае.

З свайго боку абецаем уселякую дапамогу — чым толькі зможым.

**Хай жыве незалежная Беларусь!**

**Хай жыве наш правадыр Бацька Булак Балаховіч!**

Прэстаўнік Плотніцкай воласьці: Мікалай Стахоўскі.

Прэдстаўнікі Кажан-Гарадэцкай воласьці: Вайцехоўскі, Мацкевіч Грыгор, Дамашэвіч Грыгор, Стаховец Дзьмітро, Стаховец М., Малафейчык".

Гэткія і падобныя сходы і пастановы адбываліся на ўсей дарозе, дзе прыходзілася праежджаць Беларускаму Палітычнаму Камітэту і гэта, само сабой, стрымоўвала язду.

Апрача таго, шмат воласьцяў — як Давід-Гарадзейская, Альшанская і інш. — пасылалі свае дэлегацыі на фронт — асабіста перагаварыць аб вызваленьні Беларусі з Бацькам Булак-Балаховічам.

Мінула некалькі дзён. Конны кур'ер нагнаўшы на папасе ў нейкай вёсцы абоз Бел. Паліт. Каміт., і хутка саскочыўшы з каня,

*У арыгінале тут і далей — "Сталінскай" — БР.

адвязаў туга нечым набіты мех і ўбег у хату, дзе пасілкаваліся члены Камітэту. Разьвязаўшы мех, кур'ер страсануў яго: адтуль пасыпаліся, павязаныя пачкамі, беларускія друкаваныя адозвы і выглянуў на сьвет першы нумар "Зьвястуна".

Зьдзіўленьне і радасьць — былі агульныя.

Цяпер толькі ўсе дагадаліся і ўспомнілі тую фурманку, якая скруціла з тракту на пуцявінку...

Быў і ліст ад Рэдакцыі:

"Вітаючы Беларускі Палітычны Камітэт з першым нумарам "Зьвястуна", паведамляем: маемо паперу, шрыфт, машыны, фарбу і рабочых, але варункі працы вельмі цяжкіе — уся друкарня месьціцца ў халоднай будыніне, дык наборшчыкам пальцы мёрзнуць пры рабоце, а друкуючы — застывае фарба, дзеля гэтага адбіткі выходзяць бледныя. Іншага адпаведнага памешканьня пад друкарню няма. Але дармо: неяк будзем даваць раду. Кур'ера (хлопец пэўны) доўга не трымайце і прышліце праз яго ўвесь матэр'ял, які патрэбны для друку — зробім усё, што трэба".

"Зьвястун" выйшаў друкаваны гражданкай; адрэс рэдакцыі быў глухі: "мейсца пастою штабу Арміі; выдавецтва — Беларускага Палітычнага Камітэту".

"Зьвястун" у першым сваім нумары коратка, але ясна выказаў сваю праграму:

**1) Незалежная Вольная Беларусь.**

**2) Беларуская Армія на чале з Булак-Балаховічам.**

**3) Беларускі Ўстаноўчы Сойм.**

"Зьвястуна" — ня то што расхоплівалі, а проста вырывалі адзін у другога з рук — як па мястэчках і вёсках, так і сярод войска.

***

## ТУРАЎ — ПЕРШЫ ГОРАД УЖО ВОЛЬНАЙ БЕЛАРУСІ

Адозва, якую першай цяпер прывезьлі, была даслоўна ось такая:

**"Да Жыхароў Беларусі.**

Да Вас, жыхары, змучанай, зьніштожанай Беларусі зьвяртаемся:

**Ідзе** і хутка ў Вас будзе наш **Бацька** гэнэрал **Булак-Балаховіч** з Народнай Ахвотніцкай Арміяй, пасля паўстаўшымі беларускімі хлебаробамі і партызанамі Зялёнадубцамі.

**Ідзе** ён з вялікай, моцнай сілай, каб уратаваць Вас ад бальшавіцкай няволі і зьдзеку, ад камісарскіх гвалтаў, ад заразы камунізму і ад крывавага тэрору.

**Ідзе**, каб хутчэй даць Вам тую зямлю, якую да гэтага часу бальшавікі давалі толькі на паперы, а сапраўды заводзяць "Савецкія хазяйствы", дзе Вас — гаспадароў — рабілі парабкамі, над каторымі панавала і прыганяла шайка прыблудаў-камуністаў.

**Ідзе**, каб зрабіць Вас гаспадарамі у сваей хаце, каб даць магчымасьць працаваць для сябе, а не на карысьць гультаёў-камуністаў і камісараў, набіваючых Вашым потам і кроўю свае кішэні.

**Ідзе**, каб зрабіць Беларусь Незалежным Гаспадарствам.

Ось дзеля чаго ідзе да Вас наш дарагі бацька.

Дык сустрэкайце ж яго ўсе беларусы — як збаўцу, як роднага бацьку — з хлебам-соляй. Памагайце яму, хто чым зможа. Рабіце сходы ў вёсках, сельскіх вобшчэствах і валасьцёх; састаўляйце прыгаворы, самі ганіце ад сябе бальшавікоў і камуністаў, адымайце ад іх стрэльбы, амуніцыю, снаражэньне і нясіце ўсё з сабой да Бацькі. Рабіце гэта хутчэй, не адкладаючы, покуль ёсьць час, бо прыйдзе вясна — трэба будзе працаваць на полі.

Хто мае моц трымаць у руках вінтоўку, — той нехай сам ідзе ў Беларускае войска бяз уселякай прынукі, ведаючы, што чым болей будзе аружнай сілы, тым хутчэй можна будзе прагнаць з нашай зямелькі шкодных ворагаў, тым хутчэй настане парадак і свая народная ўласьць.

Дык ось што:

**Хто** лічыць сябе Беларусам і жадае шчасьця сваей матцы Незалежнай Беларусі,

**Хто** хоча спакойнай працы і лепшага жыцьця,

**Хто** проці гвалтаў над спакойнымі жыхарамі, проці крывавага тэрору, зьдзеку, "чрэзвычайкаў" і камісараў, хто проці грабежства чужога дабра —

**Усе** тые, не трацячы ні аднэй хвіліны, павінны сьпешацца да Бацькі. Праца знойдзецца для кожнага чалавека.

Не бядуйце і ня бойцеся і тыя, якія служылі ў бальшавіцкіх камісарыятах і ў чырвонай арміі: нехай і яны ўсе сьмела ідуць да Бацькі — ніякай кары ня будзе, калі самі па сваей ахвоце заявяцца і здадуць, у каго засталося, аружжа.

Хай жа па ўсей Беларусі прагрыміць наш кліч!

Хай прачнуцца людзі і ўсёй грамадай, разам з Народнай Ахвотніцкай Арміяй і партызанамі — ідуць пад правадырствам Бацькі Булак-Балаховіча на апошні крывавы бой з ворагамі — бальшаві-

камі-камуністамі.

**Хай жывець Незалежная Беларусь!**

**Хай жывуць Народная Ахвотніцкая Армія, Партызаны — хлебаробы і Зялёнадубцы!**

**Хай жыве наш дарагі правадыр — Бацька Булак-Балаховіч!”**

Прыхадзілася пісаць адозвы і ў расейскай мове, якія праз сваіх агэнтаў пасылаліся далёка за фронт і разкідываліся паміж краснаармейцаў.

Але газэты і адозвы — гэта адно, а распараджэньні, пастановы і прыказы ад імяні Беларускага Палітычнага Камітэту — саўсім што другое: для большага аўторытэту іх — трэба было неадменна афіцыяльна і публічна прыняць тую грамадзянскую ўладу ад імяні якой выходзілі пастановы. Гэта мог зрабіць толькі галоўнакамандуючы ўсімі збройнымі сіламі і Народны Беларускі атаман гэнэрал Булак-Балаховіч.

Прысьпяшыць гэты акт Беларускі Палітычны Камітэт уважаў патрэбным яшчэ і дзеля таго, што сталі даходзіць весткі аб нездаваленьні сярод вышэйшых штабовых кругоў, куды заселі пераважна даўнейшыя царскіе афіцэры маскалі, або яшчэ горш — рэнэгаты маскаляфілы — нездаваленьні тым чыстым (мо’ нат’ крыху шавіністычным) нацыянальным беларускім рухам, які выклікаў Беларускі Палітычны Камітэт і тым напрамкам, таксама беларуска-нацыянальным, які ярка выкрысталізоўваўся ў гэн. Балаховіча.

А што канешна як найхутчэй трэба было адмежавацца чыста беларускім —асабліва вайсковым — аддзелам ад агульнай масы Народнай Ахвотніцкай Арміі — гэта было ясна: у склад агульнай Народнай Арміі усьцяж наплывалі ахвотнікі. Гэта былі людзі найбольш прыпадкова загнаныя сюды то з глыбокай Расеі, як Яраслаўцы, Тульскія, Казанскія, Тамбоўскія і г. д., то з далёкага Сыбіру, то з Каўказу і інш.

Гэта былі тыпы найчасьцей здэмаралізаваныя, нездатныя да ніякай спакойнай, сыстэматычнай працы і цяпер яны выбралі сабе ваяцтва толькі як выгадную і даходную прафэсію.

З гэткімі жаўнерамі (ці нат’ афіцэрамі) чужынцамі, налётчыкамі — беларусам было не па дарозе — паміж імі нічога супольнага ня было і быць не магло. Сама нат’ псыхалёгія гэтых людзёў страшэнна розьнілася, не кажучы ўжо аб тым, што мэты наступу на бальшавікоў у кожнага былі саўсім іншыя.

Беларусы ішлі асвабаджаць сваю Бацькаўшчыну ад чужынцаў




камісараў з іх прыслужнікамі-камуністамі і заняць свае мейсцы у сваей роднай хаце; чужынцы-налётчыкі пільнавалі і карысталіся мамэнтам, каб як колячы ўварвацца першымі ў сяло, мястэчка, ці яшчэ лепш — горад, дзе можна было б пажывіцца чужым дабром. Для іх — пагромы, пажары, руйнаваньне нашага краю — саўсім не абходзілі, не аблелі...

Ні сам Балаховіч, разумеецца, прыймаў у войска ахвотнікаў, а штаб, у якім да беларускай справы было больш варажасьці, чым прыхільнасьці, дык трудна нат' напэўна вырашыць, ці прыйманьне так непажаданых, шкодных для ўсяе справы элемэнтаў, якімі былі налётчыкі, была толькі нядбальствам, ці злой воляй.

Скарэй за ўсё, што было там — у штабе — адно і другое. А рэзультат быў адзін: правакацыя беларускай справы.

Інакш лічыць, мягчэй назваць — ня прыходзіцца: беларуская тэрыторыя, беларускі галоўнакамандуючы, — беларускі палітычны камітэт і сумныя выпадкі пагромаў і грабежства.

Гэта не важна, што такіх выпадкаў было ня многа, як не важна, што такіх галаварэзаў разстрэльвалі тут-жа на мейсцы, а парадак, спакой і закон хутка ўвадзіліся на асвабаджоных ад бальшавікоў абшарах, але факт-фактам: вырадкі былі, а гэтага было досыць тым, каму гэта было на руку, — каб з камара зрабіць вала: раздзьмухаць іскрачку ў попялішчы, а тады крычаць на ўвесь сьвет праз радыё: "всем, всем, всем!" — глядзіце, што робіцца на Беларусі, глядзіце, што там даказывае Булак-Балаховіч.

Якую ролю ў ва ўсей гэтай справе іграў Б. Савінкаў, — рашуча

сказаць нельга: пэўна ж — пагромаў не арганізоўваў, але пры звычайнай кіпучай яго энэргіі — у гэтых выпадках прыкмечалася быццам нейкая пассыўнасьць, інэртнасьць.

На жаль, прыходзіцца адзначыць, што некаторыя і беларускія групы з усіх сіл раздзьмухівалі тую-ж іскрачку на тым жа пепелішчы.

Мо’ справядлівей было б назваць ня групамі, а разкіданымі адзінкамі, якія цяпер падалі сабе рукі, каб супольнымі сіламі бараніць супольныя інтарэсы. Яны варожа сталі да ўсяго, што пагражала іх надгніўшым, але выгодным міністэрскім крэслам і туга набітым платанічна-папяровымі рэзалюцыямі  партфэлям.

Словам — націснуты былі ўсе спрунжыны, каб як найбольш зашкодзіць таму вялікаму рэальнаму заданьню ў справе беларускай, якое намецілі сабе і Булак-Балаховіч і Беларускі Палітычны Камітэт. Але ворагам гэтай ідэі ўдалася іхняя работа толькі ў далі ад фронту; а тут — на мейсцы — на частцы ўжо асвабаджонай Беларусі — дзеялася саўсім што іншае, і беларускі народ з усей сілай свайго размаху прымкнуў да супольнай працы над адбудовай сваей Бацькаўшчыны.

Дык і дзівіцца німа чаго, што калі надыйшоў дзень аб’яўленьня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі і перадачы ўлады грамадзянскай г[энэралам] Балаховічам у рукі Беларускага Палітычнага Камітэту, — дзень гэты стаўся вялікім гістарычным, нацыянальным сьвяткаваньням.

Тураў са сваімі старасьвецкімі, гістарычнымі мурамі, як першы горад ужо Вольнай Беларусі празначаны быў для гэтага сьвяткаваньня.

***

## ГЕНЭРАЛ СТАНІСЛАЎ БУЛАК-БАЛАХОВІЧ: НЯХАЙ ЖЫВЕ НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ!

7-га лістапада 1920 г. з самай раніцы, як жывыя, даўгія, рожнакалёрныя істужкі — вялізарнымі вузакамі сунуліся з рожных старон натоўпы народу на Тураў.

У вуліцах гораду істужкі гэтыя часова разрываліся, крыху блыталіся, але кіраўнікі сьветкаваньня сягоньняшняга дня спатыкалі іх, парадкавалі, заводзілі на пляц і разстаўлялі там групамі паводлуг раней прыгатаванага пляну: дэлегацыі як ад хрысьціян, так і ад жыдоў займалі адну старану пляцу, царкоўныя — з харугвямі і хо-

рамі — працэсіі займалі асобныя мейсцы — бліжэй, спэцыяльна збудаванага на сягоняшні дзень, аўтару.

Сталі надыходзіць і вайсковыя часьці, паміж каторымі чыста беларускія аддзелы выстройваліся ў пярэдніх радох.

Пад той час былі ўжо сфармованы: 1-шы Беларускі Менскі Полк стральцоў, Магілёўскі Полк, Вітэбскі Полк, 1 батальён у Астроўскім Палку і Эскадр[он] Кавалерыі.

А гадзіне дзесятай з крэстным ходам, харугвямі і хорамі надыйшло мяйсцовае духавенства. Стала зьбірацца і начальства: Б. Савінкаў са штабам расейскай арміі, прадстаўнікі англійскай палітычнай і ваеннай місіі, Беларускі палітычны Камітэт са сваім штатам, а ўрэшце зьявіўся і гэнэрал Булак-Балаховіч са сваім штабам.

Пачалося малебства, у канцы якога духоўнік праваслаўны магутным голасам прапеў: **“Незалежнай Беларускай Народнай Рэспубліцы — Многія Леты!”** “Мно-о-гі-я Леты, Мно-о-гі-я Ле-е-ты!” — падхапілі царкоўныя хоры, падхапіла гэтыя словы і войска, падхапіў і ўвесь прысутны тут Народ!

Пялі — як хто мог, як хто ўмеў, а ад гэтага магутнага акорду народнага — здавалася — грымеў увесь Тураў, а рэха, як і думкі прысутных тут Беларусаў каціліся безканечна далёка...

Хай бы хоць на адзін гэты мамэнт апынуліся тут цяпер тыя беларускія чыноўнікі — міністры і іх служкі, якія — седзячы на мягкіх крэслах цёплых памяшканьняў Вільні, Горадні і заграніцы — выкпівалі і аблівалі памыямі ў сваіх канцэлярскіх рэзалюцыях і часопісах жывую рэальную працу Беларускую, а пэўна-ж, што іх жорсткасьць і самалюбства растаялі б ад агульнага народнага энтузіязму: пэўна-ж — загарэліся б і іх вочы, забілася-б — шчыра забілася-б і іх беларускае сэрца, а з грудзёў — ня пытаючы ўжо чыноўніка — вырваліся б тыя ж самыя словы, ад якіх цяпер грымеў Тураў.

А мо б каторы ўкрадкам і няпрошаную сьлязінку я вока змахнуў, як не адзін з прысутных тут у гэтую вялікую гістарычную хвіліну — нязначна змахіваў іх...

Так: гэта ня была камэдыя, гэта ня была заўчасу задуманая авантура — гэта быў шчыры ідэйны парыў, абвеены глыбокай любоўю да свае замучанае Бацькаўшчыны...

Пасьля малебства праваслаўнага духавенства, мяйсцовы рабін з дэлегацыямі жыдоўскімі адправілі свае малебства, у канцы якога таксама прапялі малітвы за “Вольную Беларускую Народную Рэспубліку”.

На пляцы сьціхла.

Беларускі Народны Штандар захістаўся ў руках г[энэрала] Балаховіча. Ён сваім быстрым, цьвёрдым крокам, падышоўшы да сяброў Беларускага Палітычнага Камітэту, падняў яго высока ў гару і раптоўна апусьціўшы моцна і глыбока ўбіў — убіў Беларускі Штандар у Беларускую Вольную Зямлю.

А на пляцы была такая цішыня, што чутно было, як быццам ёкнула гэтая зямля...

“Я — сын гэтай няшчаснай зямлі, — пачуліся на ўвесь пляц словы Балаховіча. — Урачыста прысягаю, што не палажу аружжа, пакуль не асвабаджу радзімага краю ад узурпатараў. Прысягайце і вы са мной, што пад гэтым дарагім для нас Штандарам Народным — пабядзім, або памрэм! Няхай жыве Незалежная Беларусь!”

Яшчэ хвіліна цішыні, а пасьля — як бы раптоўна прарваўшыйся вялізарныя хвалі пакаціліся па ўсім Тураўскім пляцы:

“Няхай жыве Незалежная Беларусь! Няхай жыве Незалежная Беларусь!!”...

Тымчасам ад імені Беларускага Палітычнага Камітэту П. Аляксюк прыняў з рук Балаховіча Беларускі Народны Штандар — як эмблему грамадзянскай улады ў Вольнай Беларусі і перадаў Яго старшыні Камітэту.

У гэты момант паднесьлі Беларускі сьцяг, празначаны Менскаму палку. П. Аляксюк, узяўшы яго ў рукі, прамовіў да г[энэрала] Балаховіча:

“Магутны Сын Беларускі! Камандуючы Народнай Арміяй! Сягоньня — сьветлы дзень у гісторыі Беларускага Народу — дзень, у які Ты, Вялікі сын нашай зямлі, кроў з крыві, косьць з косьці нашага народу, зысьціў* мары нашых дзядоў.

Гэта Ты, Наш Сын, сьмела і горда падняў штандар незалежнасьці над радзімым краем. Сягоньне на свабоднай зямлі Беларускай Рэспублікі развяваюць нашыя штандары. У гэты гістарычны дзень Беларускі Палітычны Камітэт даручае скромны дзяржаўны сьцяг Табе, Магутны Сын Беларусі, з просьбай аддаць яго Першаму Менскаму Беларускаму Стралковаму Палку, які пад Тваім правадырствам здабывае крывёй родную зямлю.

Магутны Сын Беларускі! Ідзі сьмела ўперад, удрузі беларускія штандары над гарыстым Смаленскам, нізінамі Вітэбска і бурным Дняпром Магілёўскім... ідзі за Табой і з Табой увесь беларускі

*Ажыцьцявіў. — БР.

сялянскі народ, бо Ты яго сын. Ты — сапраўды дасі яму зямлю і волю. Як адзін чалавек — уся Беларусь паўстане на Твой зоў. Мары пакаленьняў — сталі явам... Беларусь уваскрэсла... Беларусь жыве... сымвал гэтага жыцьця перадаю ў Твае магутныя, Сын Беларусі, рукі...

Г[энэрал] Балаховіч, прыймаючы з рук П. Алексюка палкавы сьцяг, у сваіх словах подкрэсьліў, што ён, — як родны сын Беларускай зямлі — прыняў на сябе заданьне асвабадзіць яе ад чужынцаў-наезднікаў. Ён шчасьліў будзе бачыць сваю Родзіну — Незалежным Гаспадарствам і цьвёрда верыць, што гэта ў хуткім часе збудзецца.

Камандзер Менскага палка палк. Стрыжэўскі, прыняўшы з рук г[энэрала] Балаховіча нацыянальны палкавы сьцяг, сказаў, што Менчукі гатовы моцна ўдарыць на ворагаў, каб хутчэй вызваліць родную зямельку ад бальшавікоў. Родны штандар, як сьвятыню, будуць бараніць і не пазволяць, каб чужынцы гаспадарылі ў роднай Незалежнай Беларусі.

Пасьля яшчэ іншых рожных прамоваў выступіў палкавы сьвяшчэньнік Абрамовіч і сказаў:

“Сягоньня сабраліся мы на зямлі нашай роднай Беларусі, каб выпрасіць благаслаўленьне Бога для вялікага заданьня — асвабаджэньня сваей Родзіны ад іга бальшавіцкага.

Хрыстос сказаў: “дзе два, або сабраньне ў імя Маё — там і Я сярод іх”. Нас сабралася для малітвы ня два, ня тры, а тысячы.

З нашай малітвай нясуцца да Бога стогны няшчасных ахвяр, яшчэ ня вызваленых.

Смела ідзіце ўперад з Богам пад правадырствам нашага дарагога Бацькі Булак-Балаховіча — там вас — сваіх дарагіх асвабадзіцеляў — чакаюць і дачакацца ня могуць”.

Прамовы скончыліся. Паміж войска — нязначны рух... Але вось ударыла, загрымела вайсковая музыка, ад якое спачатку быццам толькі скалыхнуліся палкі, а пасьля — стройныя рады іх спранжыстым, шпаркім крокам сталі прахадзіць цэрамоніяльным маршам перад сваім начальствам, на чале каторага стаяў Балаховіч.

Гэнэрал быццам перарадзіўся: твар яго гарэў, вочы — сур’ёзныя, нат’ строгія — здавалася пранізывалі кожнага жаўнера і толькі — як бы саўсім незалежныя ад усяго твару — час ад часу здаволена ўсьмяхаліся.

Яркім голасам вітаў гэнэрал усе прахадзіўшыя часьці беларускага войска...

Сябры англійскай місіі былі вельмі зацікаўлены і зьдзіўлены




ўсімі парадкамі сягонешнега дня, вялікімі нацыянальнымі праявамі ўсіх прысутных і стройнасьцю і дысцыплінай маладога беларускага войска. Яны раз за разам ляскалі сваімі фатаграфнымі апаратамі, паясьняючы, што гэтыя адбіткі пойдуць у англійскія журналы, якія зараз-жа прышлюць сюды — на фронт.

Зьдзіўлены былі ня толькі англійцы — зьдзіўляны былі ўсе так неспадзявана ўдалым днём беларускага сьвята.

Гэты дзень назаўсёды застанецца вялікім, гістарычным, ніколі незабытым днём — для нашай дарагой Бацькаўшчыны — Беларусі!*

*На гэтым заканчваюцца ўспаміны пра палескі паход. Як вядома, неўзабаве войскі Булак-Балаховіча пацярпелі паражэньне ў баях з пераважаючымі сіламі Чырвонай Арміі ды вымушаныя былі прарывацца на захад, на тэрыторыю Беларусі, якую кантралявалі польскія войскі. — БР.

# ЯК НІЛ ГІЛЕВІЧ У 1964-М СУСТРАКАЎСЯ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ З БЕЛАРУСКІМ ПАРТЫЗАНАМ

"Белая пляма" гісторыі беларускага паваеннага антыбальшавіцкага Супраціву — гэта лёсы былых партызанаў і падпольшчыкаў, якія не былі выкрытыя ды засталіся жыць за "жалезнай заслонай" — у Беларусі, Летуве, Польшчы. Некаторыя зь іх трымалі паміж сабой сувязь, кантактавалі з асобнымі беларускімі дзеячамі з "легальных". Існавалі каналы сувязі і з Захадам, адкуль перапраўлялася беларуская эміграцыйная літаратура, карэспандэнцыя.

Успаміны Ніла Гілевіча пра наведваньне Беласточчыны ў 1964 годзе надзвычай каштоўныя. Ён занатаваў для гісторыі эмацыйную гутарку з беларускім партызанам, а дакладней — маналог. Цікавая і роля беларускага дзеяча Кастуся Майсені. Пра яго магчымае дачыненьне да беларускай канспірацыйнай сеткі было вядома і раней. Цяпер жа маем чарговае пацьверджаньне.

Летам наступнага 1964 году я, разам з дацэнтам філфаку лінгвістам Паўлам Шубам, паехаў па камандзіроўцы БДУ ў Беласток — чытаць лекцыі па беларускай літаратуры на настаўніцкіх курсах. Скарысталі магчымасьць (расклад дазволіў) пабыць адзін дзень і ў Варшаве, і адзін дзень у Гданьску, на экскурсіі ў "воўчым логаве" Гітлера пад Кентшынам. А мне ўдалося — больш вольнага чаму аказалася — пабыць і ў Кракаве на Вавелі, і ў Пароніна (ну, а як жа: хата, у якой жыў Ленін!). А яшчэ адзін студэнт звазіў мяне на сваім двухколавым матацыкле (першы раз у жыцьці ехаў у касцы) на мяжу з Беларусьсю, дзе за парослай кустоўем выгібастай рэчкай — родная вёска Кастуся Каліноўскага, і такая ж самая ў сьпелых, яшчэ ня кошаных травах лугавіна, зусім такая ж самая зямля, але — там Беларусь, а тут, дзе я стаю — Польшча. Чаму? Чаму, калі і тут — наўсьцяж — жывуць беларусы, і такія ж беларускія вёскі, хаты і агароды, і ўсё такое ж самае беларускае, толькі ў мове (спыняліся, загаворвалі) ўжо праскокваюць польскія слоўцы ці на польскі лад моўленыя нашы. Чаму, калі 20 гадоў назад гэтай мяжы тут не было — была нашмат далей на захад?.. Той жа студэнт тады ж звазіў мяне і ў старажытны Супрасьль, да рэштак муроў знакамітага кляштара, у якім быў створаны вядомы ўсяму культурнаму сьвету помнік усходнеславянскай мовы "Супрасльскі летапіс", часьціну якога пазьней (у 1966) я разглядаў у Любляне ў

галоўнай бібліятэцы Славеніі (яна і Універсітэцкая і Дзяржаўная). Я прысеў на нейкі абломак сьцяны (ці мураванай агароджы?), доўга глядзеў на руіны, парослыя бур'яном, на запусьценьне вокала іх, і маўчаў. Пра нішто ў маладога чалавека не пытаў, усё было зразумела. І было гэтак жа сумна і горка, як бывала шмат-шмат разоў і на іншых руінах нашых нацыянальных сьвятыняў — і разбураных часам, і зьнішчаных ворагамі беларушчыны, і паваленых нашай абыякавасьцю (ого, якая яна ёсьць сіла!), як і на зруйнаваных, здратаваных і апаскуджаных магілах нашых вялікіх прашчураў. Пра што думаў? Пра тое, што ў сьнежні 1944-га рабы, сухарукі, плюгавы садыст і параноік Сосо Джугашвілі аддаў палякам нашую Беласточчыну, ён жа ў кастрычніку 1940-га аддаў жамойтам наш Віленскі край... А захад Смаленшчыны, а захад Браншчыны!.. Тыя тужлівыя думкі ўжо не будуць пакідаць мяне ніколі, ні на адзін дзень, і аднойчы, праз шмат гадоў, прагаворацца радкамі верша: “Перад картай Радзімы” (1993):

На абрыс Радзімы глянуў зноў —
І ўцямрэла неба грамавое!
Людзі! Колькі ёсьць праклённых слоў
У сьвятой і вечнай нашай мове —
Я прашу вас: па апошні ўздых,
Аж пакуль не прыме дол сьмяротны,—
Праклінайце! Праклінайце тых,
Хто абрэзаў калісь край наш родны!

На курсах у Беластоку вучылася тым летам настаўніца Насьця Майсеня, муж якой Кастусь Майсеня быў вядомым актывістам беларускага культурнага руху на Беласточчыне. Жылі яны ў мястэчку Гайнаўка. (Як мне было непрыемна там і чытаць і чуць Гайнувка — Hajnovka! Думалася, вось так і Навагарадак перакроілі калісьці, даўным-даўно, у Навагрудак, а Гародню-Горадзен — у Гродно, а Берасьце — у Бжэсьце-Брэст, а Каралеўшчыну — у Крулеўшчызну і г. д. і г. д. і г. д. Божа, колькі ж такога спакон веку нашага на нашай жа Зямлі палякі перакруцілі на свой лад, і мы да гэтага часу не адкруцілі назад, да гэтага часу карыстаемся і тым самым працуем на чужую гісторыю — на гісторыю колішніх каланізатараў!). Дарэчы, Насьця Майсеня, на маю просьбу, запісала некалькі дзесяткаў народных беларускіх песень Беласточчны, якія і цяпер захоўваюцца ў маім архіве. Дык вось Майсені на адзін з выхадных запрасілі мяне ў Гайнаўку, да сябе ў госьці, начаваў з суботы на нядзелю ў іх, у прасторным драўляным доме, а назаўтра паехалі

ў адну з недалёкіх вёсак на "фэст", дзе было процьма народу і панаваў дух беларушчыны ў выразнай праваслаўнай акрасе (той куток — спрэс праваслаўны). Зьезьдзілі да партызанскіх магілаў у Белавежскай пушчы — на адкрыцьцё помніка. А затым невялікай кампаніяй атайбаваліся на высокім абрывістым беразе надзіва хуткаплыннай Нараўкі. Вядома ж, з бутэлькамі і закускай. І тут мне давялося перажыць вельмі драматычны момант, які пасьля кожны раз успамінаў, цяжка хмурнеючы і з болем у сэрцы. Пасьля якой там чаркі (а я ў сьпёку ужываць зельле не магу, таму быў цьвярозы) **адзін з мясцовых актывістаў, мужчына гадоў сарака з тыповым вясковым абліччам, адвёў мяне ад ужо гаманлівага кружка сяброў метраў на дзесяць убок, наблізіўся тварам да самага твару мне і няголасна запытаў: "Вы ведаеце, што яны тут з намі рабілі і робяць, ці ня ведаеце? Я тут партызаніў, змагаўся за Беларусь, а яны нас выбівалі, растрэльвалі нашы сем'і, і тады пад немцамі і пасьля — у сорак пятым і сорак шостым, цэлыя вёскі выпальвалі... Вы гэта ведаеце ці не?"** — павышаў ён, гэтак гаворачы, голас. Затым — губы яго заторгаліся, крывіліся, з воч пацяклі сьлёзы, ён моцна схапіў мяне загрудкі — абедзьвюма рукамі за борцікі расшпіленай кашулі, аж я спужаўся, што яна зараз трэсьне, і трасучы мяне, п'яным голасам закрычаў: **"Нашто вы нас тут пакінулі, га? Чаму вы нас ім прадалі, га? Вы ведаеце, што яны з намі, беларусамі робяць, га?.."**. Вызваліўшыся з яго рук, я пачаў яму нешта тлумачыць, гаварыць пра Сталіна, пра геапалітыку, і ён трохі супакоіўся, дастаў хусьцінку, выцер вочы і сказаў: "Ладна, хадземце вып'ем...".

Гэтакіх шчырых сьлёз тут — сьлёз гнеўнае крыўды, абурэньня, зьняможанасьці і адчаю — я не чакаў. Ды і ня ведаў я, што тут і пад немцамі і пасьля вызваленьня вытваралі "акаўцы" і якая гвалтоўная паланізацыя ідзе цяпер. А што мы, савецкія беларусы, ведалі ўвогуле — апрача таго, што было ў савецкіх падручніках, у савецкай прэсе, у савецкім эфіры? Што мы ведалі? І вось — гатыя страшныя п'яныя мужчынскія сьлёзы. І гэты — на ўсё жыцьцё запалы мне ў душу — нясьцерпна-балючы крык: "Нашто вы нас тут пакінулі, га?.. Чаму вы нас ім прадалі?..".

Мы — іх — прадалі... Ну, выходзіць, так. Калі "мы" — гэта ўсе жыхары Беларусі, усе грамадзяне БССР, дык мы ўсе і вінаватыя, бо ніхто ж, ніводзін з нас не заступіўся — тады, у сьнежні 1944-га, ніхто не запратэставаў, нават і не піснуў. Ну, а каб хтосьці і піснуў, і выказаў пратэст? Што — Сталін пачуў бы і пайшоў насустрач? Пашкадаваў бы Беларусь і пакіраваўся пачуцьцём справядлівась-

ці? Сьмешна падумаць. Так што — прадалі Беласточчыну ня мы. Як і Віленшчыну. Хто прадаў і чаму, — вядома, у нас, у беларусаў, творцы нашай гісторыі не пыталіся. Нашая ж віна ў тым, што мы кепска ўсё гэта ўсьведамляем і мала гэтай праўдай пранікаемся. У 1922 годзе Якуб Колас яшчэ пратэставаў адкрыта ў друку: “Нас — падзялілі. Хто? Чужаніцы! Цёмных дарог махляры”. Праз шэсьць гадоў Алесь Дудар выказаў гэты ж пратэст ужо кансьпіратыўна — пусьціў па руках верш “Пасеклі край наш папалам”. Коласу — сышло, бо дыктатура яшчэ была не дарэшты азьвярэўшы, а Дудар паплаціўся — на тры гады быў высланы з Беларусі (пазьней — расстраляны). Пасьля 1937-га адзінае права ўсіх насельнікаў краіны было — маўчаць, ну і даносіць на тых, хто “піснуў”. Але адны маўчалі, цямрэючы ад разуменьня трагедыі, якая спасьцігла Бацькаўшчыну, а другія — па прычыне поўнага неразуменьня свайго становішча, свайго беларускага лёсу, і такіх — нацыянальна “паралізаваных”, замбаваных — была, на вялікі жаль, бальшыня, можна сказаць, пагалоўная маса.

**Уважлівы і разумны Кастусь Майсеня, у размовах з якім я быў даверліва шчырым, канешна ж, адчуў, што мне баліць, і зразумеў, чаго мне і такім, як я, у БССР нестае — дасьведчанасьці, неабходнай літаратуры. Думаю, з гэткіх меркаваньняў ён падарыў мне на ад’езд адну выдадзеную на Захадзе беларускую кнігу, якую я вёз дадому ў поўным сэнсе слова запазухай (асабліва паршыва пачуваўся на граніцы). Толькі праз 30 гадоў гэты твор будзе выдадзены і ў нас — спакойна, без трымценьня і ажыятажу. Кніга называецца “Цячэ з-пад Сьвятой гары Нёман”, аўтар — Юрка Віцьбіч.**

*Ніл Гілевіч. Між роспаччу і надзеяй. Абрыс пройдзенага шляху ў сьвятле адной мары // Дзеяслоў, 2006, № 4(23), ліпень-жнівень, б. 197-199.*

*Міхал Ганько**

# ДЛЯ ЦЯБЕ, МОЙ НАРОД!

Браты мае, арлы-сокалы!

Нас кліча магутны голас Крывічанскага народу.

Нас кліча слаўная мінуўшчына нашае Бацькаўшчыны.

Нас кліча нашая вольная і шчасьлівая будучыня.

Чуеце Вы гэты кліч нашага народу, голас нашае крыві?

Ён кажа нам: “Я — твой народ, ты з мяне нарадзіўся і жывеш тым, што ад мяне пазычыў. Што-ж ты мне за гэты дар дасі?”

Мы адкажам усе, як адзін:

Народзе мой беларускі! Для Цябе я жыву, для Цябе працую і за Цябе змагаюся, бо Ты мне даражэй за ўсё, што я знаю на сьвеце. Я магу жыць толькі ў вялікай сям’і свайго народу і без яго я гіну, як рыба, выкінутая на бераг рэчкі. Я адзін — нічога, але мой народ — усё. Я сьмяротны, але мой народ павінен жыць вечна. Маё жыцьцё кароткае, але мой народ жывець і павінен жыць тысячагодзьдзі. Тая кроў, што плыве сяньня ў маіх жылах, цякла калісьці ў жылах маіх прадзедаў, натхняючы іх на вялікія чыны, і будзе некалі цячы ў жылах маіх праўнукаў, якім я перадам у спадчыне слаўны сьцяг працы і змаганьня за мой народ і край. Я зьяўляюся аднэй маленькаю кропляю ў вялікім няспынным патоку крывіцкіх пакаленьняў і ня дам перарвацца ягонаму імкліваму руху наперад.



Народзе мой! Я быў-бы няшчаснай, годнай жалю і пагарды істотай, калі-б ня меў за мэту майго жыцьця Тваё жыцьцё, Тваю славу і гонар. Я жыву дзеля таго, каб кажны свой дзень і кажную гадзіну ахвяраваць для Цябе, каб кажны мой крок і кажны мой чын прыносіў Табе ня ганьбу і сорам, а гонар і славу.

---

*Артыкул кіраўніка Саюзу беларускай моладзі Міхала Ганька падпісаны псеўданімам “В. Аганёк”.

Беларусь, мая Бацькаўшчына! Люблю я Цябе каханьнем палкім і моцным, як ніхто не кахае свае роднае маці. Калі-б я мог радзіцца і паміраць паводля свайго жаданьня, дык я не хацеў-бы нічога больш, як толькі, каб магчы сем разоў памерці за Тваё вызваленьне і восьмы раз нарадзіцца ізноў беларусам, каб дапамагаць у адбудове Тваіх вызваленых прастораў.

Бяры-ж мяне на сваю службу, Бацькаўшчына, загадвай мне, мой народзе! Для Цябе я аддамся ўвесь. Табе ахвярую ўсё маё маладое сэрца, для Цябе я напружу мае сталёвыя грудзі. Сокалам узьляту ўвысь ходацца з цёмнымі хмарамі, разганяць іх магутнымі крыламі майго духу і кідаць на Твае зялёныя нівы-загоны залатыя касьнікі зыркага сонца праўды. Волатам выйду я разварочваць высокія скалы-каменьне, каб не загароджвалі яны Табе дарогі ў вольны прастор, да шчасьця і волі. Ільвом буду бараніць Цябе ад лютых і прагавітых ворагаў і перш сам лягу трупам, чымся дам ягонай назе зганьбіць Твае сьвятыя парогі. Буду сьвечкай гарэць праз усё сваё жыцьцё на аўтары сьвятое службы Твае.

Для Цябе, мой народ!

*Жыве Беларусь! (Менск), 1943, № 1, ліпень, б. 9.*

*Сяргей Пясэцкі*

# ЗАБЫТЫЯ ГЭРОІ

Юрка Моніч — адзін з самых вядомых камандзіраў беларускіх антыбальшавіцкіх партызанаў ва Ўсходняй Беларусі.* Ён ваяваў каля пяці гадоў, вызначаўся адвагай, быў здольным атаманам атрада “зялёных”. Моніч трымаў сувязь з беларускімі палітычнымі і вайсковымі цэнтрамі, якія змагаліся за незалежную Беларускую Народную Рэспубліку. Тым не менш, дагэтуль не спыняюцца спробы прадставіць яго як звычайнага бандыта, без палітычных мэтаў і ідэалёгіі. А спробы ўшанаваньня беларускімі патрыётамі яго памяці сустракаюць супраціў з боку ўладаў.

У гэтай кніжцы “БР” мы перадрукоўваем фрагмэнты з аповесьці вядомага польскага пісьменьніка беларускага паходжаньня Сяргея Пясэцкага** “Ніхто ня дасьць нам збаўленьня”.*** Упершыню на беларускай мове яны друкаваліся ў мюнхэнскай газэце “Бацькаўшчына” ў 1953-м.**** Ужо ў часы незалежнай Беларусі гэтую публікацыю перадрукаваў менскі часопіс “Спадчына”.***** Падзеі, якія апісвае Пясэцкі, адбываюцца на Барысаўшчыне вясной 1919 года.

Аддзел Моніча ўжо другі месяц выкручваўся ад сьцігаючых яго бальшавіцкіх аддзелаў. Некалькі разоў быў у акружэньні, але шчасьліва вырываўся, пакідаючы за сабой трупы.

---

*Юрка Моніч (1890 — 1924) — камандзір беларускага антыбальшавіцкага партызанскага атрада ў раёне Барысава, Крупак, Лепеля, Воршы. З сялянскай сям’і. Настаўнік паводле адукацыі. Удзельнік Першай сусьветнай вайны, якую скончыў падпаручнікам. Ад 1919-га — у атрадзе Лукаша Сяменіка, а пасьля дзейнічаў самастойна, трымаў сувязь з арганізацыяй “Зялёны дуб”. Удзельнік Слуцкага Збройнага Чыну. Загінуў у перастрэлцы з аддзелам ГПУ, які праводзіў карную акцыю пасьля нападу атрада Моніча на цягнік “Бэрлін — Масква”.

**Сяргей Пясэцкі (1901 — 1964) — ўраджэнец Ляхавічаў. Яго бацька — паляк, маці — беларуска. У 1918-1919 гадах Пясэцкі ваяваў у складзе беларускай партызанкі супраць бальшавікоў, з восені 1919-га — ў складзе польскага войска. Пасьля заканчэньня вайны — кантрабандыст на польска-савецкай мяжы, агент польскай выведкі. За крымінальнае злачынства асуджаны ў Польшчы на 15 гадоў зьняволеньня. За кратамі напісаў знакаміты раман “Каханак Вялікай Мядзьведзіцы”, які дапамог яму датэрмінова выйсьці на волю. Падчас Другой сусьветнай вайны — удзельнік польскай Арміі Краёвай на Віленшчыне. Па вайне нелегальна перабраўся на Захад, памёр у Лёндане.

***Piasecki S. Nikt nie da nam zbawienia. — Rzym: Institut Literacki, 1947.

****Пясэцкі С. Забытыя гэроі // Бацькаўшчына, 1953, 22 лютага, № 7-8 (138-139), б. 4.

*****Пясэцкі С. Ніхто ня дасьць нам збаўленьня (Урывак з аповесьці) // Спадчына, 2000, № 1 (138), б. 208-222.




Гэта была “фурманкавая вайна”. Бальшавікі забіралі сялян у абозы, якія поўныя ўзброеных людзей езьдзілі па дарогах і вёсках, сьцігаючы “белых бандытаў” і контррэвалюцыянэраў. Гэтак у той час называлі ўсіх, хто, уцякаючы ад бальшавікоў, пайшоў у лес, каб ўратаваць жыцьцё і вольнасьць.

Партызанцкія аддзелы складаліся з дэзэртыраў чырвонай арміі, сялян з вакалічных вёсак, а таксама мяшчан і работнікаў з гарадоў. Інтэлігентаў было ў іх ня шмат.

Апошнія гінулі, як авечкі, пад бальшавіцкім нажом, бо былі няздольныя пакінуць горад і пайсьці на вольнае, дзікае, хоць і небясьпечнае жыцьцё. Сіла гэтых аддзелаў была ў тым, што яны дасканала ведалі ваколіцы, мелі за сабой прыхільнасьць мясцовага жыхарства, а таксама магчымасьць шыбкага зьмяняньня месца. Бальшавікі-ж, абцяжараныя абозамі й вялікай колькасьцю зброі, валакліся тыднямі па ўскраінах лясоў, у якіх лявіравалі партызаны.

Некаторыя аддзелы ўтрымоўвалі паміж сабой сувязь, каб у выпадку патрэбы магчы сабраць большыя сілы. У бальшыні гэта былі невялікія групы ад 20-50 чалавек, але былі й большыя адзінкі.

Тады праславіліся мянушкі беларускіх партызанцкіх правадыроў “Крука” і “Дзяргача”, праўдзівых прозьвішчаў каторых не падам. Моніч утрымоўваў зь імі сувязь, але трымаўся асобна. Зашмат быў сьмелы й любіў свабоду, каб падлягаць некаторым уплывам і агранічэньням. Перакідваў свой аддзел з павету ў павет, сьлізгаўся па граніцах губэрняў і гуляў у шахматы ізь **Сьмерцю**. Людзей меў пэўных, выбраных з сотак іншых, і дзеля гэтага ягоны аддзел, які налічваў каля 50 чалавек, тварыў цесную сяброўскую грамаду, гатовую на ўсё. Азброеныя былі лёгка, але добра. Толькі некаторая частка мела кавалерыйскія вінтоўкі, рэшта-ж была азброена пісталетамі й гранатамі. На ўсю партыю быў толькі адзін кулямёт. Харчоў насілі з сабой мала. Мелі ўдоваль грошаў з бальшавіцкіх касаў і ўстановаў і ў меру патрэбы закуплівалі харчаваньне ў вёсках, ніколі не абцяжарваючыся запасамі.

У апошнім тыдні іх аддзел быў абкружаны пераважаючымі сіламі. Ззаду мелі непраходныя балоты, а з бакоў і зпераду

— моцныя бальшавіцкія аддзелы. У акружэньне папалі ўночы, а зарыентаваліся аб гэтым толькі на наступны дзень. Па кароткай нарадзе пастанавілі, што наступнай ночы неабходна прарвацца, бо назаўтра можна было чакаць атакі моцных аддзелаў ворага. Моніч меў 47 чалавек. Пакінуў на варце 10, а рэшту звольніў на адпачынак.

— Кладзецеся, хлопцы, спаць, бо вечарам будзе гарачая работа і вялікая дарога.

Сам-жа з двума сябрамі пайшоў агледзіць ваколіцы. Балоты ззаду тварылі лук. Абшар перад імі — цяціву гэтага лука... Былі абстраляныя бальшавікамі, загараджваючымі выхад. Адказалі некалькімі стрэламі й вярнуліся да сваіх. Тут азнаёміліся на штабовай карце з ваколіцай і вызначылі кірунак маршу.

Пастанавілі ўдарыць перад поўначчу ў сярэдзіну цяцівы і прабірацца ў ляжачыя за некалькі кілямэтраў лясы, якія цягнуліся ў кірунку Барысава.

Моніч спаў зусім коратка. Прачнуўся пад вечар і зьмяніў вартавых, узмацняючы іх адпачыўшымі людзьмі. Рэшту загнаў да працы. Загадаў зь левага боку цяцівы скласьці ў адзін рад сем кучаў дрэва на вогнішчы. Вечарам іх запалілі. Сабраўся хор, які пачаў сьпяваць беларускія й расейскія песьні.

Надыйшла ціхая летняя ноч. Моніч загадаў партызанам узяцца за вячэру, не ашчаджаючы харчоў. Пасьля сабраў усіх, навет і вартавых, і прамовіў:

— Сябры! Мы акружаныя. Але выхад маем вось дзе! — Ён паказаў на свой пісталет. — За паўгадзіны ў дарогу! Усе маюць разуцца й прыгатаваць зброю. Чатырох чалавек застанецца пры вогнішчах на кароткі час. Сьпяваць і гаманіць як мага мацней. Калі займем пазыцыі, то яны прылучацца да нас. Гранатамі пралажым дарогу. Ня першы-ж раз!.. Трымацца разам!

Вогнішчы гарэлі што раз ясьней. Чырвона-жоўтыя воблескі агню адбіваліся на вяршалінах дрэваў. Досыць добры малады голас сьпяваў з пачуцьцём:

Пойдзем, браткі, у лес зялёны!
Зямлянку выкапаем там,
Ноч-маці будзе нам аслонай,
Лес-бацька дасьць свабоду нам!..

Некалькі галасоў прылучылася да апошняй строфкі, а песьня горда й сьмела паплыла над зямлёй, па якой баязьліва поўзалі

іх ворагі. Калі скончылі, нехта пачаў граць на вусным гармоніку. А тымчасам 43 азброеных хлапцоў, басанож пасоўвалася наперад. Моніч ішоў на чале аддзелу зь пісталетамі ў абедзьвюх руках. Ішлі асьцярожна, бяз шораху, — так як некаторыя з выведнікаў, а мала хто з кантрабандыстаў пры пераходзе мяжы.

Моніч адчуваў, што яны ўжо знаходзяцца недалёка ад бальшавіцкай лініі. Пачуў навет прыглушаныя галасы. Нешта забразгацела недалёка ад яго. Спыніўся. Пасьля ціха пайшоў уздоўж шэрагу. Гаварыў шопатам кажнаму:

— Сядай і абувайся!

Калі шэраг скончыўся, пайшоў сьпешна ў бок вогнішчаў, адкуль даляталі гукі гармоніка.

— Хлопцы, хутка за мной!

Песьня замоўкла. Сьпяшаліся да сяброў. Моніч загадаў ім таксама сесьці і абуцца. Сам таксама сеў каля іх і за хвіліну быў ужо гатовы. Цяпер пайшлі паволі... Людзей меў пэўных. Прайшоў зь імі шмат цяжкіх сытуацыяў.

Вогнішчы гарэлі далей... Гранаты важыліся ў далонях. Пасоўваліся малой калёнай па чатырох чалавек у радзе. Моніч і яго найбліжэйшыя сябры ў ліку каля 10 крыху разыйшліся ўшыркі і разам кінулі гранаты... А па выбухах кінуліся ўперад. На бягу стралялі час ад часу, калі заўважылі сярод цемры людзкія цені. Моніч некалькі разоў пераскочыў праз ляжачых на зямлі людзей: забітых, раненых, ці папросту тых, што ад страху туліліся да зямлі.

Даволі хутка прабеглі каля 200 мэтраў. Пасьля пярэднія зьменшылі тэмп. Празь якіх 300 мэтраў затрымаліся. Прылучылася рэшта. Ззаду не стралялі. Толькі недзе збоку нэрвова гаўкаў кулямёт і раздаваліся паадзіночныя вінтовачныя выстралы. У суседняй вёсцы таксама стралялі. Пэўна там раскватаравалася начальства карнай экспэдыцыі.

Моніч падазваў аднаго партызана, які добра ведаў ваколіцу, і сказаў:

— Павядзеш на Куляшова. Ці добра ведаеш дарогу?

— Яшчэ як! Нацянькі дойдзем.

Моніч умысна ськіваваў аддзел у бок Куляшова, каб змыліць праўдзівы кірунак маршу. Хацеў пакінуць у гэтай вёсцы “сьлед”. Ведаў, што там ёсьць “волисполком” і дзеля аховы яго там расскватаравана некалькі дзясяткаў жаўнераў. Па гадзінным маршы прайшлі каля 5 кілямэтраў і ўвайшлі ў Куляшова. Вуліцы вёскі былі пустыя. Затрымаліся. Адбылася кароткая нарада і аддзел рушыў далей па вуліцы.

У палавіне вёскі на лаўцы перад волисполкомом сядзеў чырвонаармеец. Гэта была варта перад установай. Моніч і яшчэ двух партызанаў ішлі наперадзе. Пясок вясковай дарогі глушыў іхныя крокі. Вартавы спасьцярог* іх толькі тады, калі яны затрымаліся перад ім. Зьнялі зь яго вінтоўку і далі панюхаць дула.

— Адно толькі слова і дастанеш** у лоб! Вядзі да камаданта аддзелу!

Некалькі хвілінаў пазьней павыцягвалі з логаваў усю ахову волисполкома.

Забралі ад іх зброю і амуніцыю. Захапілі таксама харчы і вялікі мядзяны чайнік.

— Хто зьяўляецца начальнікам аховы? — спытаўся Моніч людзей, што трэсьліся із страху і якія ў ваднэй толькі бялізьне стаялі з паднятымі ўгару рукамі. Усе маўчалі. Але гэта лёгка ўстаноўлена.

Моніч загадаў начальніку весьці іх да старшыні волисполкома. Зайшлі туды і зрабілі “парадак”.

Загадалі аддаць зброю, акты волисполкома і пячаткі. Зрабілі павярхоўную рэвізыю і забралі каля пуда цукру і шмат махоркі.

Наступна Моніч зьвярнуўся да старшыні і, паказваючы на начальніка аховы, коратка загадаў:

— Валі яго ў морду!

Старшыня зьбянтэжана азірнуўся.

— Ну, хутчэй! — Моніч падняў угару пісталет.

Старшыня ўдарыў падахвіцэра.

— Ня так! Бі лепш!

Старшыня ўдарыў мацней.

—А цяпер ты яго!

Падахвіцэр так махнуў у зубы “цывільную ўладу”, што тая аж села.

— Цяпер ты яго!

Расправа была скончаная. Моніч увайшоў у валасьць і закруціў ручку палявога тэлефону, што вісеў на сьцяне. Палучыўся зь вёскай, каля якой яны праходзілі некалькі гадзінаў таму. Загадаў неадкладна паклікаць начальніка — у важнай справе. За хвіліну гаварыў:

—Даношу, што аддзел Моніча напаў на Куляшова, абяззброіў жаўнераў, забраў харчаваньне і пасярэдна* пабіў морды начальніку

*Заўважыў. — БР.

**Атрымаеш. — БР.

ахова і старшыні волисполкома.

—Хто гавора?..

—Я... Моніч... У собскай асобе...

Прыбліжыў дула пісталету да тэлефону і выстраліў каля самай трубкі.

— Гэта мой подпіс і паквітаваньне за зарэквізаваныя рэчы.

Сарваўшы тэлефон із сьцяны, зь сілай бразнуў яго аб падлогу. Выйшаў, не сьпяшаючыся, з воласьці і сабраў хлапцоў. Сьціравалі-ся далей на поўнач.

***

Прайшоўшы зь кілямэтар дарогай, партызаны зьвярнулі на вузкую мяжу, а адтуль — на скошаную сенажаць і, не пакідаючы сьлядоў, як цені, запалі ў лес.

*Асабіста. — БР.

# ЯК АТАМАНЫ ДЗЯРГАЧ І ХМАРА ПРАДАВАЛІ ЛАТЫШАМ КВІТАНЦЫЮ ЗА 500 ДОЛАРАЎ

"БР" неаднойчы распавядаў пра авантуры беларускага атамана, кіраўніка "Зялёнага Дуба" Вячаслава Адамовіча (Дзяргача).* У пошуках сродкаў для антыбальшавіцкай барацьбы, а пасьля і для ўласнага выжываньня, ён рызыкоўна выбіваў ці спрабаваў выбіць грошы ў палякаў, расейцаў, летувісаў, немцаў і нават бальшавікоў... Ня менш авантурнай выглядае і асоба Вячаслава Разумовіча (Хмары), атамана беларускіх антыпольскіх партызанаў у пачатку 1920-х гадоў.** Часам яны спрабавалі рэалізаваць нейкія пляны сумесна. Адна з гісторый адносіцца да вясны 1926 году.

5 лютага 1926 году ў цягніку Масква — Рыга на латвійскай тэрыторыі адбылася перастрэлка. У выніку загінуў савецкі дыпкур'ер Тэадор Нэттэ, другі — Ёган Махмасталь — быў цяжка паранены. Былі застрэленыя і налётчыкі — браты Антон і Браніслаў Габрыловічы (24-х і 19-ці гадоў). Іх называюць "палякамі з Літвы", але найхутчэй яны — беларусы (займаліся кантрабандай і спэкуляцыяй). У савецкія часы быў зьняты фільм пра гэтую трагічную гісторыю. Неаднойчы яго даводзілася глядзець, але нават думкі не ўзьнікала, што беларусы маглі быць замешаныя ў "справу Нэттэ"...

Расьследуючы напад у цягніку, латвійская паліцыя не здолела выйсьці на сьлед замоўцы. Аднак у сакавіку 1926-га з Данцыга ў Рыгу прыйшло нечаканае паведамленьне. 8 сакавіка да Кальцэнаўса, консула Латвіі ў вольным горадзе, прыйшлі двое, якія прадставіліся начальнікам "Саюза беларускіх стралкоў" Вячасла-

---

*Гл., напрыклад, наступную публікацыю: Райле О. Як атаман Дзяргач ашукаў нямецкую выведку // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 1 (8), б. 128-130.

**На наш погляд, на авантуры згаданых асобаў штурхалі ня столькі асаблівасьці іх натуры, колькі сапраўды цяжкае матэрыяльнае становішча. Беларускія антыбальшавікі, апынуўшыся на чужыне, ня здолелі стварыць моцную фінансавую базу свайго руху. У выніку, яны не змаглі захаваць незалежнасьць, мусілі "прадаваць" свае магчымасьці на савецкай тэрыторыі і людзкія рэсурсы. Таму і ўзьнікла такая мэтамарфоза, як супрацоўніцтва "Зялёнага Дуба" з расейскім манархічным "Брацтвам Рускай Праўды" (хаця, прызнаем, што ў гэтай супрацы былі і больш глыбокія прычыны).

вам Разумовічам (Хмарай) і атаманам беларускіх партызанскіх атрадаў “Зялёны дуб” Вячаславам Адамовічам (Дзяргачом).


vesti.lv

Далей цытуем публікацыю ў латвійскай прэсе: “Беларусы заявілі, што налёт на дыпкур’ераў арганізаваў II аддзел Генштабу польскага войска. Для гэтага Віленская экспазітура II аддзела Генштабу № 1 адкамандзіравала ў мястэчка Лужыкі (насамрэч, Лужкі — “БР”) Дзісенскага павету паручыка Лянгэ, дзе той сумесна з паручыкам Герцагам перадаў братам Габрыловічам адпаведныя інструкцыі, грошы і зброю. Сума ўзнагароджаньня складала 200 даляраў, прычым паручык Лянгэ ўручыў аднаму з братоў пусты блянк для распіскі, не пазначыўшы ў ім канкрэтнай сумы, каб той распісаўся, падаў яму грошы са словамі “Прашу пералічыць”, а сам у гэты час хуценька ўпісаў у блянк з подпісам Габрыловіча лічбу “150”. Габрыловіч, аднак, праявіў жывасьць розуму, чаго паручык у ім не разгледзеў: ён заявіў, што да ўмоўленай сумы не хапае 50 даляраў. Некаторы час яны спрачаліся, выкінулі старую квітанцыю, пасьля чаго Лянгэ даплаціў 50 даляраў.

Пасьля ўсю гэтую справу добра адзначылі, прычым у працэсе выпіўкі за сталом апынуўся выведнік беларускіх партызанаў пад псэўданімам Ленскі. Ленскі здолеў ня толькі выведаць у братоў Габрыловічаў сутнасьць іх заданьня, але і незаўважна падабраць са сьметніка квітанцыю на 150 даляраў, якую беларусы і паклалі перад агаломшаным Кальцэнаўсам, запатрабаваўшы за яе 500 даляраў. Консул, пагандляваўшыся, атрымаў-такі квітанцыю і пераслаў яе ў Латвію дырэктару адміністрацыйна-юрыдычнага дэпартамента МЗС”.*

Аднак латвійскія сьледчыя ня мелі магчымасьці праверыць гэтую версію. Не выключалася, што Адамовіч і Разумовіч маглі

---

*Гайворонский К. Нераскрытое дело Нетте. Польский след — реальная ниточка или провокация? // Вести сегодня, 2013, 11 лютага; http://vesti.lv/culture/theme/history/74566-neraskrytoe-delo-nette-polskij-sled--realnaja-nitochka-ili-provokacija.html

падсунуць латышам фальшыўку. У выніку, было вырашана афіцыйна "аформіць" версію пра напад з мэтай рабаўніцтва, бяз ніякай палітыкі. Аднак гэтая справа дагэтуль не дае пакою дасьледчыкам, якія спрабуюць дакапацца да ісьціны: знайсьці сапраўдных замоўцаў нападу на савецкіх дыпкурэраў.

**Васіль Сушко**

# СТАНІСЛАЎ БУЛАК-БАЛАХОВІЧ БЫЎ ПРЫЯЦЕЛЕМ... ЧЭКІСТА ЯКАВА ПЕТЭРСА

На Пскоўшчыне ў друкаваных і інтэрнэт-выданьнях часта пішуць пра Станіслава Булак-Балаховіча (1883 — 1940), які са сваім атрадам дзейнічаў у тых мясьцінах падчас грамадзянскай вайны. Пскоўскія дасьледчыкі знаходзяць у архівах цікавыя гісторыі, зьвязаныя з балахоўцамі і іх камандзірам. Нас зацікавіла згадка ў адной з публікацый пра "прыяцельскія адносіны" Булак-Балаховіча "з вядомым чэкістам, старшынём Рэўтрыбунала і намесьнікам старшыні ВЧК Якавам Петэрсам [1886 — 1938]".* Вясной-восеньню 1918-га Станіслаў Нікадзімавіч камандаваў на Пскоўшчыне 1-м Лужскім партызанскім конным палком, "легалізаваным" бальшавіцкімі ўладамі. Жорстка падаўляў антысавецкія выступленьні сялян. Дзейнасьцю Булак-Балаховіча цікавіўся сам Л. Троцкі, народны камісар па вайсковых справах. Сяброўства з Петэрсам толькі дапамагала "ўмацаваньню аўтарытэта Булак-Балаховіча сярод вярхушкі петраградскіх бальшавікоў". Таксама яно стала своеасаблівай "індульгенцыяй" для яго, калі паўставала пытаньне пра рабункі і зьверствы яго байцоў.**

Таямніцай застаецца, калі і пры якіх абставінах Ст. Булак-Балаховіч пазнаёміўся з латышом Якавам Петэрсам. Да лютаўскай рэвалюцыі апошні жыў на эміграцыі. Магчыма, яны сустракаліся ў Петраградзе ў 1917-м (летам "партызанскі камандзір" там лячыўся), але найхутчэй — у 1918 годзе, калі Булак-Балаховіч пайшоў на службу да бальшавікоў.

---

*Егоров И. Красный балаховец // Псковский край; http://krai-pskovsky.ru/krasnyj-balaxovec/

**Тамсама.

Да белагвардзейцаў свой атрад Ст. Булак-Балаховіч павёў у лістападзе 1918-га. Прычым высьвятляецца, што перад пераходам ён выпіваў з... Петэрсам і апошні, нібыта, нічога не падазраваў. 28 лютага 1919 года балахоўцы зьдзейсьнілі налёт на Гдоў, дзе ў іх рукі трапіла багатая здабыча. З гэтага горада Булак-Балаховіч па тэлефоне паразмаўляў з тым самым Якавам Петэрсам.* Відаць, гэта была іх апошняя размова.

**В. С.**

*Симонова Т. Я — зеленый генерал // http://edapskov.narod.ru/pskov/bb.htm

# ПРА АТРАД СЛУЦКІХ ПАЎСТАНЦАЎ ІВАНА БОГДАНА

Як вядома, пасьля паразы Слуцкага збройнага чыну лістапада-сьнежня 1920 году, у сваіх родных месцах засталіся партызанскія групы і атрады, якія працягвалі змагацца супраць бальшавікоў. Да іх на працягу 1921-га далучыліся случчакі, якія вярталіся "з польскага боку". Колькі было іх на Случчыне, дакладна невядома. Зачыненыя архівы КДБ не дазваляюць дасьледаваць гэтую тэму, прасачыць лёсы ўдзельнікаў Супраціву.

Гісторык **Ніна Стужынская** адшукала ў Дзяржаўным архіве Мінскай вобласьці, дакумэнты, якія адкрываюць імёны групы ўдзельнікаў Слуцкага паўстаньня, а пасьля — партызанаў: братоў **Івана і Мітрафана Богданаў** (з вёскі Рачкавічы), **Пятра Еўстрада і Міхася Бірыча**.*

Летам 1921 году яны партызанілі ў раёне Вызны (цяперашняя Чырвоная Слабада), мелі базу каля засьценка Апаміны. Мясцовыя жыхары забясьпечвалі іх харчаваньнем. Пасьля даносу старшыні мясцовага сельсавету, бальшавікі схапілі Міхася Бірыча, а ў верасьні 1921-га — Пятра Еўстрада. Была рэпрэсаваная сям'я Івана Богдана, але яго самога і брата не схапілі. Яны яшчэ нейкі час партызанілі ў родных мясьцінах, а што было далей — невядома. Верагодна, да канца 1921 году партызаны Івана Богдана сышлі на польскі бок мяжы.



ПОСТАНОВЛЕНИЕ.-

1921 года ~~сентября~~ октября 5 дня. Я уполномоченный ПОО № 4 ОСИПОВ рассмотрев материал в шпионаже и бандитизме Петра ЕВСТРАДЫ Прасковьи БИРИЧ, ДУБОВИКА Василия, Тимофея БИРИЧ, КАЗАК Николая и заявление преддеревни Рачковичи, что Петр Евстрада был в бандах в I Бел. бригаде и агентом контр-разведки. Участвовал в налетах с БИРИЧ Михаилом. Прасковья БИРИЧ это все знала и помогала им в этом. Дубовик Василий по сие время снабжает бандитов Ивана и Митрофана БОГДАН продуктами. Жена Митрофана БОГДАН Мария БОГДАН определенно имеет с ним связь и ведет контр-революционную агитацию. Бецер ЯНКЕЛЬ выдал массу подпольных документов. Есть предположение не выданы поддельные безсрочный отпуск ЕВСТРАДЕ Петру приславшему 2 заявления БИРИЧА Михаила, который повесился, указывает, что Евстрада был в бандах, а также БИРИЧ Тимофей шпион и кнему часто приходят шпионы имеет оружие, произведенным обыском оружие не обнаружено у Тимофея БИРИЧ. Из рапорта т. ШВАРЦА водно, что Евстрадпредупрежден след. тов. Якубович что Бирич подал на Евстрада заявление в меморандуме от 26/УШ видно, что ДУБОВИК Василий и жена Богдана Митрофана говорили, что им надо зайти к какому-то следователю, живущему на колонии так требует тот следователь т. Якубович. Дело с личностями ЕВСТРАДЫ, Петра БИРИЧ, Прасковьи, Тимофея БИРИЧ, ДУБОВИКА Василия КАЗАК Николая передать в следчасть для открытаго следствия.

УПОЛНОМОЧЕННЫЙ

УТВЕРЖДАЮ: НАЧПОГРАНОСОБОТДЕЛЕНИЯ № 4

nn.by

*"Он был деятелем при Белорусской оккупации, издавал приказы о мобилизации населения для изгнания большевиков из Белоруссии…"*, — пісаў даношчык пра былога войта Івана Богдана. Гэтага сказу дастаткова, каб зразумець, што ж тады адбывалася ў Беларусі і якой уладай была для беларусаў "саўдэпія".

*Стужынская Н. Роля даносчыка ў гісторыі: справа атрада Івана Богдана // Наша ніва, 2012, 28 лістапада, № 44.

# МЯЖА НА ЗАМКУ…

## АРХІЎНАЯ ПРАЎДА, ЦІ ГАТОВЫЯ МЫ ЯЕ ЎСПРЫНЯЦЬ...

Другая сусьветная вайна скончылася, але на тэрыторыі Заходняй Беларусі працягвалася грамадзянская вайна, расфарбаваная ў нацыянальныя (беларускія, польскія, украінскія, летувіскія) колеры, у канечным выніку мэта якой была адна — барацьба з Савецкай уладай і ўсім, што зь ёй зьвязана...

Памежныя войскі, хоць па сутнасьці не зьяўляліся карнымі органамі, былі ў зоне сваёй адказнасьці ўцягнутыя ва ўзброеную барацьбу з антысавецкімі партызанамі. Вось некаторыя архіўныя зьвесткі пра ўзброеныя сутыкненьні ў навакольлі Горадні з удзелам памежнікаў, рассакрэчаныя яшчэ ў савецкія часы.

***



неизвестная война

ГРАНИЦА НА ЗАМКЕ...

Архивная правда, готовы ли мы ее воспринять...

Вторая мировая война закончилась, но на территории Западной Белоруссии продолжалась гражданская война, раскрашенная в национальные (белорусские, польские, украинские, литовские) цвета, в конечном итоге цель которой была одна - борьба с Советской властью и всем, что с ней связано...

Погранвойска, хоть по сути не являлись карательными органами, были в зоне своей ответственности втянуты в вооруженную борьбу с антисоветскими партизанами.

Вот некоторые архивные сведения о вооруженных столкновениях в окрестностях Гродно с участием пограничников, рассекреченные еще в советские времена.

...24 траўня ў тыле ўчастка бандытамі быў забіты капітан Аляксандраў і яфрэйтар Макагоненка. У вёс. Баленты (Баліненты — І. Т.) забіты дэпутат сельсавета. У в. Забрычаны (Забрэчаны) забіты мясцовы жыхар, сын якога служыць у шэрагах Чырвонай Арміі. 25 траўня ў в. Капланаўцы забіты загадчык базай *Райзаготскот*…

25 траўня 1945 году.
Нам. начальніка аддзела штабу
памежных войскаў Беларускай акругі
падпалкоўнік **Галавін**

***

...6 лютага ў раёне в. Кельбаскі (Калбаскі — І. Т.) бандгрупай АК забітыя 2 упаўнаважаных Гродзенскай вобласьці. 24 траўня на хутары Плянты бандай забітыя нам[есьнік] каманданта капітан Аляксандраў і чырвонаармеец, які знаходзіўся зь ім...

17 жніўня 1945 году
Начальнік памежных войскаў
Беларускай акругі генэрал-маёр **Антонаў**
Начальнік штабу
Палкоўнік **Маёраў**

***

У 8 гад[зін] 00 хвіл[ін] 19 верасьня 1945 году школьнікі в. М... П. Г. і Т. Н., абодва ва ўзросьце 10 гадоў, сустрэлі 4 невядомых, якія пыталіся, дзе праходзіць мяжа. П. і Т., выхаваныя ў духу адданасьці нашай Радзіме і сумленнага выкананьня свайго абавязку, як маладыя патрыёты, адказалі: “Мяжа праходзіць далёка” і паказалі ў накірунку заставы. Самыя ж вызначылі парушальнікаў... Прынятымі мерамі невядомыя былі своечасова затрыманыя і дастаўленыя на заставу.

“З даведкі Упр[аўленьня] памеж[ных] войскаў
Беларускай акругі. 22 верасьня 1945 году”

***

...Насельніцтва памежнай паласы прыхільна адносілася да Савецкай улады і яе мерапрыемстваў. Так, 100% жыхароў Сапоцкінскага, Гродзенскага, Берасьцейскага і Дамачоўскага памеж[ных] раёнаў, якія маюць права голасу, галасавалі за кандыдатаў блока камуністаў і беспартыйных. Аднак, варожыя дзеяньні бандаў у памежнай паласе працягваліся…

Так, у ноч на 19 студзеня ў в. Стругі невялікай бандгрупай было разгромленае памяшканьне выбарчага ўчастку…

17 сакавіка бандытамі быў забіты начальнік Гродзенскага Р[аённага] А[ддзела] МВД Кузьняцоў і два аперупаўнаважаных міліцыі. 27 красавіка ўзброеная банда зьдзейсьніла напад на сельсавет в. Гожа. У ноч на 3 чэрвеня ў в. Прывалка забітыя старшыня сельсавета і 7 чал[авек] актывістаў...

18 студзеня член БС [брыгады садзейнічаньня памежнікам] Т. Л., ідучы ў г. Гродна, сустрэла дваіх невядомых, якія ішлі ў бок мяжы і падаліся ёй падазронымі... яна вярнулася ў вёску і паведаміла пра невядомых на заставу. У выніку прынятых мераў невядомыя былі затрыманыя...

21 траўня ў дом Д. В. П. увайшлі двое невядомых, папрасілі хлеба і вады. Д. дала ім паесьці і паведаміла сакратару сельсавета П. М. А., які сабраў групу актывістаў сельсавета, накіраваўся ў в[ёску] С., але невядомых там ужо не аказалася… Невядомыя,

якія аказаліся парушальнікамі мяжы, былі затрыманыя і перададзеныя памежнікам.

Люты 1947 году
Начальнік памежных войскаў
Беларускай акругі
Генэрал-маёр **Антонаў**
Начальнік штабу палкоўнік **Малый**

***

…У тыле ўчастку дзейнічае банда "Бурба" ў складзе 12 чал[авек], якая сфармавалася ў 1945 г. з рэшткаў 3 плютона 7 кампаніі АК. Банда базуецца на тэрыторыі Літоўскай ССР. Да сьнежня банда неаднаразова зьдзяйсьняла рабункі і тэрарыстычныя акты.

25 студзеня 1948 г.
Начальнік памежных войскаў
Беларускай акругі
генэрал-маёр **Антонаў**
Начальнік штабу
палкоўнік **Малый**

***

5 лютага 1948 г. у 16 гад[зінаў] 40 хвіл[інаў] на ўчастку ў раёне 3,5 км на паўднёвы ўсход в. Калеты (7 км ад мяжы) неўстаноўленай бандгрупай была абстраляная аўтамашына Сапоцкінскага раённага выканаўчага камітэту дэпутатаў працоўных, якая ехала з в. Калеты ў в. Чортэк.

У выніку абстрэлу забіты старшыня Сапоцкінскага Райвыканкаму дэпутата Вярхоўнага Савету БССР Сяўко Павал Антонавіч і лёгка паранены другі сакратар райкама партыі Кавалёў і ляснічы Барысаў.

Сіламі памежнікаў памежнага атрада праводзіцца апэрацыя па вышуку і ліквідацыі бандгрупы.

6 лютага 1948 году
Генэрал-лейтэнант **Пятроў**

***

...Гэтымі бандгрупамі ў 1948 г. забіта і паранена 31 чал[авек] савецкіх і партыйных работнікаў, вайскоўцаў і вясковага актыву, абрабавана 15 вясковых крамаў...

Калектывізацыя і ўзмацненьне барацьбы з кулацтвам выклікалі абвастрэньне антысавецкіх праяваў з боку кулацтва. Побач

з сабатажам урадавых заданьняў, кулакі сталі забіваць з-за вугла прадстаўнікоў савецкай улады ў вёсцы.

22 студзеня 1949 году
Начальнік памеж[ных] войскаў
Беларускай акругі
Генэрал-маёр **Антонаў**
Начальнік штабу
палкоўнік **Малый**

***

...Жыхар в. Сіневічы ў кастрычніку 1947 г. паведаміў у штаб памеж[най] камэндатуры аб месцазнаходжаньні аднаго з актыўных бандытаў... апошні ў момант затрыманьня спрабаваў аказаць супраціўленьне і быў забіты...


венно, что политическая полиция вербует агентуру в среде, которая ее интересует, т.е. в рядах борцов с режимом.

Связной латвийского подполья, арестованный в д.Поречье с помощью бригады содействия. Его судебное дело хранится в музее Резистанса в Риге.

Биржа информации 07.01.99 №1 (

У жніўні 1947 г. члены БС В. Ф. і Л. Ч. ...знайшлі аднаго невядомага... прапанавалі яму схавацца ў лесе, а з надыходам цемнаты пераправіць яго праз мяжу... Высланым нарадам невядомы быў затрыманы і дастаўлены ў камэндатуру...

3 лютага 1949 г. выявіў высокую пільнасьць актывіст В. І. П. Знаходзячыся па службовых справах у в. Капанікі, т[аварыш] В. у адным доме западозрыў аднаго невядомага і затрымаў яго... узброіў апошніх паляўнічымі стрэльбамі, праінструктаваў аб парадку канваіраваньня і паслаў іх разам з затрыманым у камэндатуру...

травень 1949

***

Прыведзеныя вышэй дакумэнты — зусім даступны для гісторыка матэрыял. Аўтару публікацыі давялося толькі схаваць прыведзеныя ў дакумэнтах прозьвішчы за ініцыяламі, скараціць некаторыя тэксты... Прычына гэтаму — зьмена адносінаў значнай часткі насельніцтва Гродзенскага раёну (а менавіта з тэрыторыяй раёну зьвязаная падборка) да свайго мінулага. Цяжка было б,

напрыклад, пераварыць цяперашняму студэнту аднаго з Варшаўскіх вну, актыўнаму члену Саюза палякаў, факт, што актывіст БС, схаваны пад ініцыяламі — яго нябожчык-дзед. З іншага боку — забітыя ў выніку памежных апэрацый мясцовыя жыхары, члены супраціўленьня найчасьцей пахаваныя ў брацкіх магілах, бязыменна. Трупы ў такіх магілах распраналі дагала і перасыпалі негашанай вапнай, і цяперашнія сваякі нічога ня ведаюць пра тое, дзе гэтыя магілы. Адно з вядомых аўтару падобных варварскіх пахаваньняў раскапанае ў раёне Румлёўскага моста.

Увогуле мэтай публікацыі дакумэнтаў, цікавых людзям любых палітычных перакананьняў, было нагадаць нам усім, што, як і ва ўсіх посткамуністычных краінах, калі-небудзь і ў Беларусі будзе прымацца закон аб люстрацыі, г. зн. закон, які дазваляе кожнаму грамадзяніну азнаёміцца з матэрыяламі палітычнага вышуку адносна сваёй персоны. Законы такога кшталту прынятыя, альбо прымаюцца ў Літве, Польшчы, Нямеччыне, Чэхіі, Славакіі... Узьнікаюць праблемы. Натуральна, што палітычная паліцыя вярбуе агентуру ў серадовішчы, якое яе цікавіць, г. зн. у шэрагах змагароў з рэжымам.

Доступ грамадзяніна да такіх дакумэнтаў законы і праекты законаў згаданых краінаў абмяжоўваюць у той ці іншай ступені. Паводле дасьледаваньняў, праведзеных інстытутам Гувэра Стэнфардзкага ўнівэрсытэту, першапачатковую цікавасьць да праблемы “хто быў стукачом”, пасьля прыняцьця закону грамадзяне даволі хутка страчваюць, паколькі ім можа аказацца і муж, і самае дарагое”першае каханьне”, брат, сястра і т. п.

На прасторах СНД знаходзіцца безьліч архіваў і, напрыклад, калі ў Беларусі будзе будзе прыняты “мяккі” закон пра люстрацыю, то гэта зусім не азначае, што ён стрымае цікаўнасьць грамадзян. Напрыклад, цяпер у Кіеве можна абсалютна легальна зрабіць копію сьпісаў згаданых вышэй членаў Брыгад садзейнічаньня памежнікам па ўсёй памеж[най] паласе Беларусі. У прыбалтыйскіх краінах здолелі “вылічыць” палітычных правакатараў і без вывезеных архіваў КГБ. “Апрычнікі” рабілі зачыненыя справаздачы для ЦК КПСС, якія (не па ўсёй тэрыторыі) Расея рана ці позна вымушаная будзе адчыніць, зрэшты як і цэнтральныя архівы ГБ (у той ці іншай ступені). У жніўні 1991 году па ўсіх аблупраўленьнях КГБ Беларусі былі зьнішчаныя некаторыя дакумэнты, некаторыя засталіся.

Калі пераход да дэмакратыі ў нашай краіне будзе хуткім, то зьнішчыць усё да канца не ўдасца. Гэта значыць узьнікне праблема, якую аўтар намеціў у сваёй публікацыі.

**І. Т.**

*Биржа информации (Гродна), 1999, 7 студзеня, № 1(46).*

# ЗА ЎХІЛЕНЬНЕ АД СЛУЖБЫ Ў САВЕЦКІМ ВОЙСКУ Ў 1950-Я БЕЛАРУСА З МЁРШЧЫНЫ АДПРАВІЛІ НА ЎРАНАВЫЯ РУДНІКІ

Пра вандроўку распавядаюць удзельнікі краязнаўчага гуртка "Арганаўты мінулага". На хутары Вята яны сустрэліся з **Антонам Данатавічам Анашкам.**

Гаспадар прыняў нас гасцінна, пачаставаў мёдам і малаком, па-майстэрску сыграў нам на магдаліне "Польку". Раней, калі вёскі былі вялікія, напрыклад у вёсцы Вяце ў мінулым стагоддзі жыло 255 чалавек (цяпер іх засталося вельмі мала — вёскі Беларусі паступова вымiраюць), ён хадзіў на святы ў вясковы клуб і граў на мандаліне, пад такую музыку моладзь танчыла вельмі ахвотна. "Хоць гэта было даўно, але рукі не забыліся", — гаворыць ён нам.

Затым Антон Данатавіч расказаў нам пра свой трагічны лёс, пра які не расказваў раней, быўшым у яго гурткоўцам. У 50-я гады XX ст. становішча людзей было вельмі ненадзейным, у гэты пасляваенны час савецкая ўлада была хісткай, хадзілі чуткі, што ЗША збіраецца ісці вайной на СССР. І вось надышоў час ісці ў войска нашаму знаёмаму, Антону Анашка і яшчэ двум хлопцам з бліжэйшых вёсак. Да савецкай улады тады даверу было мала, таму яны не вельмі хацелі ісці служыць ёй. Аднойчы да хлопцаў прыйшоў знаёмы з вёскі і "падбіў" на страшэнную ў той час справу — не ісці ў войска, паабяцаў схаваць, і яны з-за сваёй нявопытнасці паддаліся на правакацыю. Праз некаторы час іх арыштавалі і адправілі ў сібірскія лагеры. Толькі тады выявілася, хто быў той знаёмы з вёскі. Агент савецкай улады за тое, што ён "збіў" са сцежкі лёсу трох маладых хлопцаў, у якіх яшчэ ўсё жыццё наперадзе, атрымаў вялікія грошы. Але здабытае такім шляхам не ідзе на карысць, усё жыццё правакатара пераследваў злы рок.

Цяжка было Антону Данатавічу. Выжыць яму дапамог толькі выпадак. Аднойчы зняволеных з лагера, у якім быў і наш хлопец, з Вяты павялі на распрацоўку ўранавых руд, але Антон Данатавіч якраз у гэты час захварэў і не выйшаў на працы. За адмову ад прац яго адправілі ў спецлагер — гэта і выратавала яму жыццё, многія людзі, якія працавалі на распрацоўцы ўранавых руд, памерлі ад радыяцыі.

Пасля лагераў Антон Данатавіч вярнуўся на свой родны хутар. Пачынаць жыццё спачатку было нялёгка, але ён вытрымаў і гэта. Вось які цяжкі выдаўся ў чалавека лёс, для апісання якога спатрэбілася б не адна кніга.

*Краязнаўчы паход у наваколле вёскі Пруднікі // Мёрская даўніна. Выданне Рады музеяў УА “Міёрская ДАСШ №3”, 2011, № 4, красавік;http://www.otd-miory.vitebsk.by/ddt.files/mdb4.doc*

# СЫН КАМБАТАНЦКАГА ПАЛКА




24 траўня [2013-га] мы маглі б адсвяткаваць юбілейны дзень нараджэння нашага сябра і аднадумца Змітра Кісяля, аднак адно, што мы можам зрабіць — гэта пайсці на гарадзенскія могілкі, што на праспекце Касманаўтаў, каб запаліць на месцы ягонага пахавання знічы ды ўскласці кветкі. Зміцер Кісель раптоўна памёр 30 верасня 2005 года і цяжка паверыць, што з таго трагічнага дня прайшло ўжо амаль 8 гадоў.

Нарадзіўся ён у Гародні ў сям'і беларускіх патрыётаў, якія сур'ёзна пацярпелі ў час сталінскага генацыду, яго бацькі былі вязнямі савецкіх канцлагераў. Дзіма з дзяцінства атрымаў адпаведнае беларускае выхаванне. У дзяцей ведамых беларускіх дзеячаў з ідэалагічнай спадкаемнасцю не так проста. Многія з іх настолькі далёкія да беларускіх спраў, што нават не толькі бацькам сорамна. Зміцер у гэтым сэнсе цалкам спраўдзіў спадзевы сама блізкіх людзей. Ён вельмі любіў сваіх бацькоў, хоць з іншага боку іх гераічнае мінулае накладала на яго пэўны комплекс сваёй меншай вартасці. Дзіму вельмі любілі таксама сябры яго бацькоў — вязні савецкіх канлагераў. Ён быў гэткім сынам "гулагаўскага" камбатанцкага палку. Пра яго з вялікай цеплынёй гаварылі многія беларускія ветэраны.

Кісель у школьныя гады займаўся спортам, потым вучыўся і скончыў гістарычны факультэт Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэту імя Янкі Купалы. Зміцер Кісель быў у ліку таго дзесятку людзей, што пачыналі ў Гародні ў сярэдзіне 1980-ых адраджэнне беларушчыны. І гэта факт, як кажуць, гістарычны. Можна прыгадаць яго чынны ўдзел у выпуску легендарнай газеты "Рэанімова", заснаванні ў Гародні Беларускага Народнага Фронту, адраджэнні Грамады, журналісцкую працу ў "Пагоні" і беластоцкай "Ніве", удзел у выбарчых кампаніях, шматлікія палітычныя акцыі і грамадскія справы, у ліку якіх найперш аднаўленне магілы Віктара Каліноўскага ў Свіслачы, вяртанне памяці пра Ларысу Геніюш. Пры тым сам Зміцер рэдка выходзіў на першы план. А яшчэ Кісель адным

з першых наладжваў сяброўскія стасункі паміж беларусамі Беласточчыны і сумежнай Гарадзеншчыны.

Усе заваёвы беларускага руху трымаліся і трымаюцца на летуценніках і рамантыках. Такія людзі аддаюць без шкадавання ўсе сілы нацыянальнаму Адраджэнню! Яны папросту не могуць жыць інакш, ашчаджаць сябе “на заўтра”. І многія літаральна “згараюць”. Прыблізна так здарылася і са Змітром Кісялём. Ён, нягледзячы на свой асабісты надлом (які быў, на маю думку, найперш вынікам нашай агульнанацыянальнай грамадскай бяды), застаўся верным справе Беларускага Адраджэння, за якое шчыра хварэў душой. Не губляў сваіх поглядаў і пазіцый, сімвалічна, што свой апошні публіцыстычны артыкул пісаў пра бел-чырвона-белы сцяг…

**Уладзімір Хільмановіч**

*Перадрукоўваецца паводле наступнай публікацыі: Хільмановіч Ул. Сын камбатанцкага палка (да 50-ых угодкаў з дня нараджэння Зміцера Кісяля) // 20.05.2013; http://harodniaspring.org/be/news/3893*

# СЬВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

## АНТОН САБАЛЕЎСКІ

**(1926 — 2012)**



Беларускі патрыёт, адзін з лідараў беларускай дыяспары ў Маскве. Паходзіў з Глыбокага. Меў рангу палкоўніка савецкага войска.

## ВІКТАР МАРКАВЕЦ

**(1947 — 2013)**

Вядомы беларускі мастак, удзельнік беларускай незалежніцкай кансьпірацыі ў 1970-1980-х гадах.



Фота Дзяніса Раманюка

## КАСТУСЬ ХАРАШЭВІЧ

**(1927 — 2013)**

Вядомы беларускі мастак, сябра Саюзу беларускай моладзі ў 1943-1944 гг., у друку ў апошнія дзесяцігодзьдзі заклікаў рэабілітаваць арганізацыю.



Рэгіянальная газета

## ВІКТАР ІВАШКЕВІЧ

## (1959 — 2013)

Вядомы дзеяч беларускага нацыянальнага руху, удзельнік канспірацыі ў 1980-я гады.



## МІХАЛ ШАРАМЕТ



nn.by

Беларускі патрыёт, актыўны ўдзельнік беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. Трагічна загінуў у красавіку 2013 году. Меў 31 год.

## МІХАСЬ БАЯРОЎСКІ

## (1924 — 2013)

Беларускі дзеяч у Вялікабрытаніі, сябра баявой вайсковай арганізацыі “Беларускі вызвольны рух”.




*На здымку 1952 году М. Баяроўскі стаіць крайні справа сярод беларускіх дзеячоў.*

## РАГНЕДА АЛЯХНОВІЧ

## (1931 — 2013)


nn.by

Беларуская патрыётка, дачка старшыні Рады БНР Вінцэнта Жук-Грышкевіча.

# НІКАН МІКУЛІЧ




7 лютага 2013 году ў Менску на 92-м годзе жыцьця памёр баец беларускага спэцыяльнага батальёну "Дальвіц".

Ён нарадзіўся 6 студзеня 1922 году ў вёсцы Круплі ў цяперашнім Іўеўскім раёне. Бацька — Канстанцін Іванавіч Мікуліч — у Першую сусьветную вайну ваяваў у складзе рускай арміі, быў вайсковым фэльчарам, а ў міжваенны час працаваў на сваёй гаспадарцы. Сям'я была вялікая — восем дзяцей.

Нікан вучыўся ў Бакштах, спачатку ў польскай школе, а пасьля ў савецкай (у 1939-1941 гадах). Беларускай адукацыі ня меў. Расказваў, што "заўзятым беларусам" быў яго брат — **Уладзімер Мікуліч**. Падчас вайны ён, падафіцэр польскага войска, удзельнічаў у беларускім вайсковым руху, а ў паваенны час жыў пад іншым прозьвішчам у Польшчы. Савецкія спэцслужбы яго так і не знайшлі. Найбольш на братоў Мікулічаў паўплываў іх дзядзька, брат маці Тацьцяны Мікуліч **Цімафей Вееўнік.** Ён загінуў пасьля вайны ў савецкай турме.

Падчас нямецкай акупацыі Нікан жыў з сям'ёй у Круплях. Вясной 1944-га Уладзімер, які служыў у Лідзе, дапамог ім усім пераехаць у Вільню — баяліся, што ўсіх пастраляюць савецкія партызаны.

Летам 1944 году Нікан Мікуліч патрапіў у школу нямецкай разьведкі, у так званы “беларускі спэцыяльны батальён “Дальвіц” ва Усходняй Прусіі. Ён расказваў, што завэрбавала яго туды нейкая жанчына, прозьвішча якой не памятаў ці не хацеў назваць. Мікуліч патрапіў у групу Родзькі, якая зь Вільні выехала ў Вількавішкі, а адтуль — у Дальвіц.

Нікан быў у спэцбатальёне камандасаў ад самага пачатку яго існаваньня і да канца вайны. Яго памяць захавала шмат цікавых фактаў, ён нават прыгадваў некалькі радкоў з песьні пра батальён, якую вясной 1945-га напісаў паэт-дэсантнік **Язэп Пабяржын**:

*“Сьнягі ў горах таюць, сонца прыгравае*
*Спэцбатальён “Дальвіц” там адпачывае...”.*

У траўні 1945-га, пасьля роспуску аддзела, Мікуліч спрабаваў перайсьці да амэрыканцаў, але выпадкова сустрэты ўкраінскі вайсковец папярэдзіў, што яны выдаюць усіх саветам. Тады ён на ровары паехаў у Польшчу. З рознымі прыгодамі дабраўся туды, уладкаваўся, вучыўся і працаваў бухгалтарам у горадзе Інаўроцлаў. Прозьвішча не мяняў. А яго шукалі савецкія спэцслужбы. Знаёмы беларускі камандас **Юрый Сянькоўскі,** які ўцякаў з Польшчы на Захад, пакінуў яму некалькі адрасоў беларусаў. Сказаў, што калі будзе патрэба, дапамогуць, бо “добра ўладкаваліся”. Нікан гэтым скарыстаўся. Напісаў лісты да дваіх чалавек. Адзін працаваў “сакратаром раёна”, а другі — адміністратарам маёнтка. Першы адказаў, а на другі ліст ён адказу не даслаў. “Па ім мяне і знайшлі. А каб не пісаў, і сёньня там быў бы”, — гаварыў Нікан Мікуліч.

У ліпені 1948-га Нікана Мікуліча затрымала група апэратыўнікаў, якая складалася з палякаў і рускіх. Маёр контрразьведкі, рускі, сказаў: *“Здравствуй, Микулич!”...*

Спачатку трымалі ў Польшчы, у Лігніцы, дзе ў савецкіх спэцслужбаў быў апэратыўны пункт. У лютым 1949-га прывезьлі на месяц у Берасьце, пасьля былі Арол, Масква, Вологда і, нарэшце, Варкута, дзе адразу адправілі ў шахту.

Ён быў асуджаны на 25 гадоў зьняволеньня і 5 гадоў “паражэньня ў правах”. У выніку, адсядзеў, а дакладней — адпрацаваў на Варкуце 7 гадоў. У 1956-м ужо быў вызвалены, але застаўся працаваць на шахце. Ажаніўся. У 1972 годзе выйшаў на пенсію, яны з жонкай памянялі кватэру — на Украіну. Там, у Днепрапятроўскай вобласьці, пражылі 18 гадоў.

У пачатку 1990-х Нікан Мікуліч вярнуўся ў Беларусь, у свае родныя мясьціны. Беларусь стала незалежнай, а гэта ж была мара Мікуліча і яго сяброў у спэцбатальёне. Пасьля сьмерці жонкі Нікан Мікуліч жыў у дачкі ў Менску. Быў у добрым настроі, чытаў, сьпяваў

беларускія песьні. На ягоным стале ляжала “Новая зямля” Якуба Коласа і гістарычны часопіс “Беларускі Рэзыстанс”.

Мы пасьпелі запісаць інтэрвію з Мікулічам, якое апублікуем у наступных нумарах “БР”.

Сьветлая памяць!

# КАСТУСЬ ХАРАШЭВІЧ

Увечары 11 ліпеня 2013 году на сваім лецішчы ў вёсцы Гарадок Маладзечанскага раёну на 86-м годзе жыцьця адыйшоў у лепшы сьвет вядомы беларускі мастак-жывапісец, сябра Беларускага саюзу мастакоў і мастацкай суполкі “Пагоня” Кастусь Іванавіч Харашэвіч.

Ён нарадзіўся 6 ліпеня 1927-га ў вёсцы Літва, што на Маладзечаншчыне. Навучаўся за часамі нямецкай акупацыі ў маладзечанскай гандлёва-адміністрацыйнай школе пад кіраўніцтвам Барыса Кіта. Там, са слоў самога мастака, ён атрымаў “нацыянальна-патрыятычнае выхаваньне, што дазваляла ў далейшым жыцьці адчуваць сябе паўнацэнным грамадзянінам роднай Беларусі”. Кастусь Харашэвіч зьяўляўся сябрам Саюзу беларускай моладзі, у друку ў апошнія дзесяцігодзьдзі заклікаў рэабілітаваць гэтую арганізацыю. У 1958 годзе скончыў Мінскае мастацкае вучылішча. Разам з мастачкай Ядвігай Раздзялоўскай заснаваў студыю выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў Маладзечне. Зь яе выйшла нямала таленавітых мастакоў.

З пачатку 2000-х Харашэвіч працаваў над сэрыяй партрэтаў дзеячоў беларускай гісторыі і культуры, такіх як Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Вацлаў Ластоўскі, Барыс Кіт, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Браніслаў Тарашкевіч, Павел Валошын, Пятро Мятла, Мікола Ермаловіч ды інш. У 2004 годзе выйшла кніга ўспамінаў Кастуся Іванавіча “Зведанае і перажытае”.

Творы Харашэвіча захоўваюцца ў музэях і прыватных калекцыях Беларусі, Польшчы, Нямеччыны, Вялікабрытаніі, ЗША, Канады і Ізраіля. З 2011 году ў філіяле Дзяржаўнага літаратурнага музэю імя Янкі Купалы ў Яхімоўшчыне адчыненая персанальная галерэя мастака.

Сьветлая памяць!

**Андрэй Барткевіч**

# ЗНАЙШЛІ МАГІЛУ БЕЛАРУСКАГА ПАРТЫЗАНСКАГА КАМАНДЗІРА


arche.by

У жніўні 2013-га сябры “Беларускай Нацыянальнай Памяці” нарэшце адшукалі магілу “палявога камандзіра” Цімафея Хведашчэні (1893 — 1977). Ён пахаваны на Паўночных могілках Варшавы.

Хведашчэня быў адным з самых вядомых камандзіраў беларускага антыбальшавіцкага партызанскага руху пачатку 1920-х гадоў. Пачынаў ён ваяваць у складзе атрада Лукаша Сяменіка на Барысаўшчыне, паўдзельнічаў у палескім паходзе войска Ст. Булак-Балаховіча, у Слуцкім паўстаньні, у дзейнасьці “Зялёнага Дуба”. Служыў у польскім войску. Пасьля вайны быў рэпрэсаваны.



# АЛЕСЯ БАЖКО ЎЖО НЯМА


ЛіМ-часапіс

Назаўжды застанецца

17 красавіка пасля працяглай хваробы на 95-м годзе жыцця памёр вядомы пісьменнік, заслужаны работнік культуры БССР, удзельнік Вялікай Айчыннай

17 красавіка 2013-га ў Менску памёр пісьменьнік Алесь Бажко.* Ён вядомы кнігамі, мастацкімі творамі, у якіх выкрывалася “варожая дзейнасьць” беларускай палітычнай эміграцыі, заходнебеларускага “кулацтва”, “бандытаў”. Сам заходнік (з Карэліцкага раёну), Бажко аддана служыў савецкай уладзе, яе прапагандысцкай машыне. Таксама ён падазраецца ў садзеяньні савецкім ворганам дзяржбясьпекі ў выкрыцьці ў 1947 годзе канспірацыйнай арганізацыі “Саюз вызваленьня Беларусі”. У апошнія гады пра Алеся Бажко нічога не было чуваць. Нават у выдадзенай чаргінцоўскім пісьменьніцкім саюзам кнізе яго твораў не было пазначана: жывы

ён ці не.** Адзначым, што апошні сябра СВБ, таксама франтавік, перажыў Бажко. Гэта ён у 1990-х у Наваградку ледзьве ня зьбіў пісьменьніка за колішні данос, пасьля якога МГБ разграміў арганізацыю. Тады Бажко давялося ўцякаць.

*Літаратура і мастацтва, 2013, 26 красавіка, № 17 (4715), б. 2.
**Алесь Бажко ні жывы, ні мёртвы // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 1(11), б. 190.

# ПОМНІК МІХАЛУ ВАЛОВІЧУ І БЕЛАРУСКІМ ПАЎСТАНЦАМ

У пачатку жніўня на могілках у вёсцы Парэчча Слонімскага раёну з’явіўся памятны знак у гонар паўстанцкага камандзіра, ураджэнца гэтых мясьцінаў Міхала Валовіча, і яго байцоў.



svaboda.org

Ён удзельнічаў у вызвольным паўстаньні 1831-га, пасьля яго паражэньня эміграваў, жыў у Парыжы. А пасьля, як і Янка Філістовіч у сярэдзіне XX стагодзьдзя, вярнуўся на Бацькаўшчыну, каб змагацца. Валовіч стварыў з мясцовых сялянаў партызанскі атрад, які, аднак, хутка быў разьбіты рускімі войскамі. “Палявога камандзіра” пакаралі сьмерцю ў Гродне. Паводле легенды, яго цела выкупіла маці і тайна пахавала ў Парэччы. Сімвалічную магілу Міхала Валовіча зрабілі ў 2000-х слонімскія актывісты пры актыўным удзеле ўраджэнца Парэчча Аляксандра Талерчыка з Горадні. Менавіта ён і стаў фундатарам усталяваньня памятнага знаку з прозьвішчамі ўсіх паўстанцаў.

# ЗЬЯВІЎСЯ ДАКУМЭНТАЛЬНЫ ФІЛЬМ ПРА “ДАЛЬВІЦ”

*“Праклятыя і забытыя” (2013), дакумэнтальны фільм, у 2-х частках (ч.1 — 33.35; ч. 2 — 29.34). Рэжысёр — Антон Цялежнікаў.*




*Прэм’ера на тэлеканале “Белсат” — 28 верасня, 5 кастрычніка 2013 г.*

Насуперак некаторым публікацыям/рэцэнзіям адзначым, што фільм не пра Беларускую Незалежніцкую Партыю, а пра дэсантны батальён “Дальвіц”. Пакідае ён неадназначныя ўражаньні. Трэба аддаць належнае аўтару, які ня стаў абмяжоўвацца апублікаванымі крыніцамі, а сам пайшоў у архівы ў пошуку новых дакумэнтаў, запісаў успаміны сьведкаў, здымаў месцы дысьлякацыі. Зь іншага боку, пасьля прагляду, няма цэльнага ўяўленьня пра фармацыю, яе дзейнасьць, а галоўнае — людзей, якія там былі. У некаторых гледачоў застаецца нямала пытаньняў.

На наш погляд, ня вельмі ўдала склалася мазаіка з усяго таго, што сабраў рэжысёр. А гісторыя Аўгена Жыхара вартая асобнага фільма. Тым ня менш, спроба цікавая і, магчыма, падштурхне да зацікаўленьня тэмай іншых творцаў ды з часам зьявяцца іншыя варыянты бачаньня той безумоўна трагічнай (не гераічнай) гісторыі.

# КАЛЯ БЕЛАРУСКА-ЛЕТУВІСКАЙ МЯЖЫ ЗЬЯВІЎСЯ ПОМНІК ГЕРОЯМ ПАЎСТАНЬНЯ 1863 ГОДУ

Усталяваньне таемна адбылося восеньню 2013-га на Гарадзеншчыне і месцазнаходжаньне помніка адразу не паведамлялася.



belaruspartisan.org

# ПЯРСЬЦЁНАК БЕЛАРУСКАГА ПАРТЫЗАНА

Пра ўдзельніка беларускага антысавецкага партызанскага руху, які жыў у Канадзе, я даведаўся ў сярэдзіне 1990-х ад беластоцкіх беларусаў. **В. Х.** пісаў мне 4 лістапада 1996 году: *“Сапраўды* [пасьля Другой сусьветнай вайны на Беласточчыне] *дзейнічалі* [беларускія] *дывэрсыйныя групы, некаторыя яшчэ сярод жывых, адзін чалавек, як казаў мой сябра, жыве яшчэ ў Канадзе”*. У лісьце ад 25 лістапада 1996 г. ён дадаваў, што пра былога дывэрсанта (ці дывэрсантаў) у Канадзе яго сябра даведаўся, калі быў у ЗША. На жаль, больш падрабязна гэтую гісторыю тады высьветліць не ўдалося.

Нвядома, гэтага ці іншага дзеда знайшоў у пачатку 2000-х




дасьледчык з Нью-Ёрка Лявон Юрэвіч.

*“Трэба адзначыць, што багата хто з эмігрантаў па-ранейшаму баіцца расказаць пра сябе, пра свой гістарычны досьвед,* — піша **Лявон Юрэвіч**. — *Гэтак, вясною 2004 году 81-гадовы беларус у Канадзе казаў мне, што ягонага досьведу хапіла б не на адзін сцэнар для Галівуду, але што яшчэ ня час для аповеду”*.*

Тады, у 2004-м, Юрэвіч пісаў мне наступнае:

“[Дзед] *надта баіцца ўсяго, мне свой персьцёнак з Пагоняю падарыў, процьму добрых словаў нагаварыў пра мае кнігі, а вось*

*каб распавесьці — нешта збаяўся”.***

Прыемна было пабачыць той самы пярсьцёнак у падборцы здымкаў, падрыхтаванай у сакавіку 2012-га Натальляй Гардзіенка.*** Там пра яго сказана даволі сьціпла: “Беларускі пярсцёнак. 1990-я гг.”. І ўсё.

Як даведаўся, дзед памёр у 2009 годзе. І нават калі ён ня быў тым дывэрсантам, удзельнікам беларускага партызанскага руху, яго ўсё роўна можна назваць партызанам, беларускім партызанам, які вырашыў да канца захаваць свае таямніцы.

**Сяргей Ёрш**

*Юрэвіч Л. Мэмуары на эміграцыі: Крыніцазнаўчае дасьледаваньне. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 2005, б. 34.
** Электронны ліст Лявона Юрэвіча (ЗША) да аўтара ад 6 кастрычніка 2004 г.
*** Сімволіка БНР на медалях, значках і іншым // http://hardzin.livejournal.com/15836.html

